Рэдактар
кандыдат філалагічных навук
А. А. КРЫВІЦКІ

**Юрчанка Г. Ф.**

Ю 83 Слова за слова (Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны). Мн., «Навука і тэхніка», 1977.

272 с. У перапл.

Кніга з'яўляецца трэцяй часткай збору дыялектнай фразеалогіі. Яго першыя часткі — «І коціцца і валіцца» (1972) і «І сячэ і паліць» (1974). Матэрыял сабран на Мсціслаўшчыне — на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак. Усяго ў кнізе 1525 рэестравых артыкулаў на літары Р — Я. Варыянтаў і сінанімічных адзінак каля 5150. У канцы змешчан слоўнік дыялектных слоў з ілюстрацыйных прыкладаў. Разлічана на лінгвістаў, настаўнікаў, пісьменнікаў, журналістаў, лектараў.

Ю $\frac{70105—069}{М316—77}$ 59—77 4с(Бел)

*Светлай памяці бацькі*
*Фёдара Дзянісавіча*
*прысвячаецца*

# ПРАДМОВА

Кніга з'яўляецца працягам слоўніка дыялектнай фразеалогіі Мсціслаўшчыны. Яго першыя часткі выйшлі з друку пад назвамі «І коціцца іваліцца» (1972) і «І сячэ і паліць» (1974).

**Слова за слова**... Так гавораць на Мсціслаўшчыне (ды і ў іншых месцах) пра тое, як пачынаецца размова. *Слова за слова і разгаварыліся, спярва так, а тады і пазнакоміліся. Слова за слова, а тады гляджу на яго: а няхай цябе,— ета ж Купрэеў унук! Слова за слова, з малага перайшлі ў большае, а после і ў бальшое зайшло.* Адначасова гэты выраз вельмі дакладна перадае і структурную своеасаблівасць фразеалагізма як моўнай адзінкі. Шчыльна заходзяць у ім «слова за слова», моцна зрастаюцца і зліваюцца яны адно з другім, ператвараючыся ў кароткія, але выразныя і змястоўныя ўвасабленні паняццяў, ёмістыя, дакладныя характарыстыкі прадметаў і з'яў. Слова за слова... Так нараджаюцца фразеалагізмы, таму і вынесен гэты трапны народны выраз у загаловак.

У гэтай кнізе спосаб апрацоўкі фразеалагізмаў і іх падача засталіся тыя ж, што і раней. Пры дзеяслоўным загалоўным фразеалагізме падаюцца ўсе дэрыватыўныя ўтварэнні. У адным артыкуле прыводзяцца блізкія па значэнню фразеалагізмы і іх варыянты. Пры падачы блізказначных адзінак робяцца адсылкі да іншых форм. Адсылкі даюцца таксама і на першыя часткі слоўніка. Рэестравыя фразеалагізмы падаюцца ў літаратурным запісу, а ілюстрацыйныя прыклады прыводзяцца ў спрошчанай транскрыпцыі.

Значнае месца ў кнізе займаюць параўнальныя звароты. Аднак у слоўнік уключаны такія з іх, якія маюць толькі знешняе падабенства да звычайных параўнальных канструкцый і значэнне якіх не выводзіцца з параўнання

абазначаемых імі прадметаў: *Як аблупленага (ведаць); Як аб сценку гарохам; Як бычок на вяроўке; Як вокам змаргнуць; Як дзень пацяраўшы; Як з разца; Як мёду напіцца; Як на нітачке бажок; Як на мокрага цялёнка.* Тыя ўстойлівыя звароты, у якіх параўнальныя адносіны маюць прамы сэнс: *як баран (дурны), як снег (белы), як сажа (чорны), як воск (жоўты),*— не ўключаны.

Усе варыянты і адсылкі выдзелены графічна. Выдзяляецца графічна выбухное г: **г**. Захавана ранейшая сістэма памет з нязначнымі ўдакладненнямі.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*Абмеж.* — абмежавана; *абраж.* — абражальнае; *адабр.*— адабрэнне; *адз.*— адзіночны лік; *адзінк.*— адзінкава; *аднакр.*— аднакратнасць; *ас.*— асоба; *асудж.* — асуджальнае; *буд.*— будучы час; *гл.*— глядзіце; *груб.*— грубае; *гумар.*— гумарыстычнае; *ж.*— жаночы род; *жарт.*— жартоўнае; *зак.*— закончанае трыванне; *законч.*— закончанасць; *запаз.*— запазычанае; *звыч.*— звычайна; *здзекл.*— здзеклівае; *зняважл.*—зняважлівае; *іран.*— іранічнае; *канц.*— канцылярскае; *кніжн.*— кніжнае; *кніжн.-канц.*— кніжна-канцылярскае; *л.*— лік; *м.*— мужчынскі род; *мн.*— множны лік; *множн.*— множнасць; *н.*— ніякі род; *-н.*— небудзь; *наз.*— назоўнікавае ўтварэнне; *неадабр.*— неадабральнае; *незак.*— незакончанае трыванне; *нездав.*— нездавальненне; *непаўн.*— непаўната дзеяння; *параўн.*— параўнайце; *пачын.*— пачынальнасць; *перан.*— пераноснае значэнне; *пр.*— прошлы час; *прам.*— прамое значэнне; *працягл.*— працягласць; *працягл.-фінальн.*— працягла-фінальнае значэнне; *прыкр.*— з прыкрасцю; *прым.*— прыметнік; *прысл.*— прыслоўе; *пяшч.*— пяшчотнасць; *рапт.*— раптоўнасць; *рэдкаўж.*— рэдкаўжывальнае; *узвыш.*— узвышанае; *узмацн.*— узмацняльнасць; *узмацн.-множн.*— узмацняльна-множнае; *узмацн.-працягл.*— узмацняльна-працяглае; *урачыст.*— урачыстае; *уст.*— устарэлае; *цяп.*— цяперашні час; *ч.*— час; *часц.*— часцей; *шматкр.-няпоўн.*— шматкратна-няпоўнае.

**Рабая скула,** *неадабр. Невядома што; нішто.* Ніхай во ядуць, што пыста́ўліна, ря́быя ску́лы яны ждуць. Рябыя скулы ты ўжо, маліц, хочыш, большы нічога. Схадзіў, пулучыў рябыю скулу, ня дужа тама што вы́хыдзіш.

**Рабыя ачкі купляць** (надзяваць), *неадабр., рэдкаўж. Рабіцца бессаромным; рабіць бессаромна.* Табе дык ба саўсім стыдна ря́быя ачкі́ купляць. Нечыга рябыя ачкі ныдзіва́ць, табе зь людзямі кажный дзень сустрюкацца. *Зак.* **Рабыя ачкі купіць** (надзець). Ніхай усе будуць відзіць, як браў, усё дно рябыя ачкі купіць, аттоіцца. Ну ніхай ба ўжо якея небыты былі ні былі, а рябыя ачкі надзець я ні надзеў ба.

**Рабыя ачкі пазычаць**, *неадабр., рэдкаўж. Праяўляць бессаромнасць.* Ну чаго ж ён пашоў, ізьвесна чаго — рябыя ачкі пызыча́ць пашоў. *Зак.* **Рабыя ачкі пазычыць.** Етый под'ізьдзінь і рябыя ачкі пазы́чыць ні пысьцісьня́іцца, у яго на ўсё совісьці можыць хваці́ць.

**Рабыя вочы купляць,** *неадабр. Рабіцца бессаромным; рабіць бессаромна.* Ні нада рябыя вочы купляць, як ты ў вочы чылавеку будзіш глядзець. *Зак.* **Рабыя вочы купіць.** Ні хвалі дужа, ато піріхва́ліш, твой сват даўно рябыя вочы купіў. *Узмацн.-множн.* **Рабыя вочы пакупляць.** Што ім хто, кылі рябыя вочы пукуплялі, саўсім ссыба́чыліся.

**Рабыя вочы пазычаць,** *неадабр. Праяўляць бессаромнасць.* Ці ні сыбраўся і ты рябыя вочы пызычаць, што табе ўсё дзяці́ныя нада. *Зак.* **Рабыя вочы пазычыць.** Як веціp чылавек, раз па совісьці зьдзелыіць, а другей раз і рябыя вочы пазы́чыць ні пысьцісьня́іцца.

**Радзі бога.** *Калі ласка.* Радзі бога, кінь ты мяне ў

спакоі, ня рьві ты маё серца. Пірістань радзі бога етыя ду́рікі, ежылі думыіш жыць як сім'янін.

**Радзімец** (прыпадак) **не бярэць** (не хватаець), *іран.; адз., мн.; цяп., пр. Пра нядрэннае становішча, умовы жыцця.* Тваіх сватоў радзіміц ні бярець, яны жыць умеюць. Чаго там абіжа́цца дужа, іх радзімцы ні разу ні хвыта́лі. Сколька жыў пад Лешчынкыю, пріпа́дык ні браў, усяго ўсякыга у яго з горла лезла, а ён усё ўмеў прітварі́цца, зыніха́іць. Ні плач дужа, пріпадкі цябе ні хвытаюць. *Зак.* **Радзімец** (прыпадак) **не возьмець** (не схваціць, не хваціць, не ўхваціць), *буд., пр.* Пыдзяржы́, пыдзяржы, радзіміц ня возьміць. Вот ідзіш, і радзіміц ні схваціў. Ету зьвяры́цу радзіміц ні хваціць, іна дзесіць пудоў пывылакець. Ні ўзяў ба пріпадык, есьлі б і лі скыта пыстыяў. Пріпадык ні схваціць, калі прагоніш быразёнку бульбы, лыхыда́н тэй пыдажджэць. Пріпадкі ні хвацілі, што памог. Радзіміц ні ўхва́ціць, кылі дзень с пряснýшкымі пірібʼіцёся. Ні ўхваціў ба пріпадык і бульбу дзень пырыва́ць.

**Радзімец** (прыпадак) **сядзіць** *(у кім), асудж., часам адабр.; адз., мн.; цяп., пр. Пра надзвычайны спрыт.* Ці ні радзіміц у ім сядзіць пысьпіва́ць усю́дых. Радзіміц у іх сядзіць, у етых ма́льцых, вун куды дыбра́ліся. Знаць, радзімцы сідзяць у вас з вашыю жа́днысьцю. Во ў кім радзімцы сядзелі — у Антону, чаго ён толька ні вытвыря́ў. Не, баба, у табе пряма пріпадык сядзіць, усё ты і нясеш, і вылакеш, і хвыта́іш. Верна, пріпадкі ў ім сядзелі, што ён усюдых етык спруўля́ўся.

**Радзімец** (прыпадак) **хватаець,** *груб.; адз., мн.; цяп., пр. Пра крык, лаянку.* Нечыга ж радзіміц хвытаў, нехта ні ўла́дзіў. Чаго іх радзімцы хвытаюць, рыскріча́ліся як резыныя. Пріпадык хвытаіць увесь дзень, усё гыр, гыр, ні за тоя, дык зу другоя, попыду на іх німа. *Параўн.* Радзімец не бярэць.

**Радзіцца пад шчасліваю зоркаю** (звяздою). *Быць шчаслівым у жыцці.* Ніхай сабе німудру́шка, відна, радзіўся пыч шчасьлі́выю зорькыю, яму увы ўсякім дзелі тыла́ніць. А ўсігда, мае ку́мычкі, так буваіць, хто родзіцца пыч шчасьлівыю зьвяздою, тэй у жызьні красу́іцца.

**Радзіцца ў сарочкі** (рубашкі). *Мець шанцаванне.* Ета нада було ў сарочкі радзі́цца, каб вы́круціцца зь еткія

піріпа́лкі. Такую вайну прайціць ніўрядзі́мым — нада ў сарочкі радзіцца.

**Рад не абходзіцца** *(без каго), цяп., пр. Пра назойлівасць, умешванне без патрэбы.* Біз вас ряд нійдзе ні апходзіцца, усюдых вы ўлезіця раншы ўремя. Бісь цябе ні ў адным дзелі ряд ні апхадзі́ўся. **Рад абходзіцца.** Ня думыю, што ряд бяс тых гэрчыкыў апходзіцца. А разьві бісь Пітрыка ряд апхадзі́ўся калі-небудзь? *Зак.* **Рад не абайшоўся,** *пр., буд.* І ўчора бізь яго ряд ні абыйшоўся, зыяві́ўся: вот ён я. Я знаю, што бязь іх ряд ні абойдзіцца, яны ўсігда первыя ны такоя дзела. **Рад абайшоўся.** Вот відзіш, і бісь цябе ряд абыйшоўся. Ого, глядзі, біс Кузьмы тут ряд абойдзіцца, ён первый пріляціць.

**Рады няма,** *цяп., пр., буд. Пра немагчымасць знайсці выйсце.* Я й так зь імі, і етык, а рады німа. Узноў рызбалелыся ныга, луману́ла — рады німа. Пы днаму яны нічога, дзеці як дзеці, а ўмесьці зь імі ж рады ні було. Січас табун ходзіць, а выб'юць вы́гын, рады ня будзіць, ня ўдзержыш. *Параўн.* Д а в а ц ь  р а д ы.

**Разажваць і ў рот укласць** (пакласць, улажыць, палажыць). *Дэталёва і грунтоўна растлумачыць.* Сам троху думый, ато ты хочыш, каб табе ўсё рызыжва́лі і ў рот уклалі. Рызажві і ў рот пыкладзі, дык і тады ці рызьбярецца. Ну, кажыцца ж, рызыжвалі і ў рот улажылі, дык не ж, усё пірікруціў шы́вырыт-навы́вырыт, ці так сушчэп'я будзіць дзіржацца. Прівык ужо, каб яму рызыжвалі і ў рот пылажылі. *Незак., адзінк.* **Жваць і ў рот класць** (лажыць). Усё вам нада жваць і ў рот класьць, каб самім падумыць ды рызыбрацца, дык не. Жвіця яму і ў рот лажыця увы ўсякый мелычы, у самым пустом дзелі. *Узмацн.* **Паразажваць і ў рот паўкладываць.** Ці яшчэ і вам нада пырызыжваць і ў рот пыўкла́дывыць, ці вы самі ні пынімаіця, што к чаму.

**Разарэніе галавы.** *Вялікія клопаты.* Ета ж мне рузуренія гылавы́ с пацьцёлкым: як яго збыць. Рузуренія гылавы ета крыша, нада брацца: дождж во пашоў — усё ў хаці атпла́віла.

**Разбівацца ў блін** (ляпёшку, доску). *Прыкладаць вялікія намаганні.* Анька усігда была тыкая, у доску, бувала, рызьбіва́лыся, а дыстывала кусок хлеба. Ахота мне дужа рызьбівацца ў ляпёшку, каб ім було хырашо. Не-

чыга мне рызьбівацца ў доску длі каго-то. *Зак.* **Разбіцца** (разабіцца) **ў блін** (ляпёшку, доску). Раз пыбішча́ў, у блін рызаб'ецца, ну споўніць абішча́ньня. Гываріла, рызаб'юся ў ляпёшку, а дзяцей у людзі пывываджу́. Ты хуць у доску разьбіся, яго гылыва ні па чом ні баліць. Длі сваіх у блін рызабіцца гатоў. Нада рызабіцца ў доску, ну г зіме ў халу́піну ўлезьць. *Узмацн.* **Паразбівацца** (паразбіцца) **ў блін** (ляпёшку, доску). Пына́сывы ў блін пырызьбіва́юцца, ну свайго даб'юцца. Яны былі ў ляпёшку пырызьбіваліся. Мы пырызьбіваімся ў доску, каб яны толька ні гурювалі. У блін пырызаб'юцца, а дойдуць свайго, што рішылі. Каб знаі пра ета, у ляпёшку пыразьбіліся б, а ні ўпусьцілі б. Пыбішчаюць, то ў доску пырызаб'юцца, каб споўніць. *Працягл.-фінальн.* **Наразбівацца ў блін** (ляпёшку, доску). Так ужо нырызьбіваўся ў блін,— два словы там скызаў нейкіх. Стыхванок нырызьбіваіцца ў ляпёшку, ат яго дажджэсься чаго добрыга. Як толька прішоў, гываріў, рызаб'ецца, а лесу дыстаніць, дык во, нырызьбіваўся ў доску: лес гніець, а ён п'яный кыча́іцца.

**Разбівацца ў ладку,** *адзінк. Прыкладаць вялікія намаганні.* А нам нечыга рызьбівацца ў ладку зы чые-то аньціресы. *Зак.* **Разбіцца ў ладку.** Калі што заду́мыў, рызаб'ецца ў ладку, а вы́пыўніць, с са́мыга ма́лку ён такей.

**Разбіваць серца,** *кніжн. Даводзіць да поўнага краху надзей, спадзяванняў.* Ты луччы скажы, хто табе толька ні рызьбіва́ў серца, там, відна, ат яго і асколкі ці аста́ліся. *Зак.* **Разбіць** (разабіць) **серца.** Разьбіў ёй серца Коля зь Лешчынкі, і іна ходзіць цяперя як сыма ні свыя. Хто ж табе рызабіў серца, што табе і сьвет ня міл і людзі ня любы.

**Разбіць лёд,** *рэдкаўж. Дабіцца ўзаемаразумення, даверу.* Сва́цьця, спасіба ёй, схадзіла, путулкува́ла, дык троху разьбіла лёд, ато ж яны дайжа ні рызгыва́рівылі. *Незак., адзінк.* **Разбіваць лёд.** Нада ж рызьбіваць лёд, сколька ж такоя можыць цягнуцца. *Гл.* Л а м а ц ь л ё д.

**Разводзіць анцімонію,** *неадабр.; адз., мн. Доўга і нудна гаварыць пустое, пустасловіць.* Прішоў, на стол налёгся і дывай рызвадзіць аньцімонію. Я па голысу чую, што Вольга разводзіць аньцімоніі. *Зак.* **Развесць анцімонію.** Разьвёў аньцімоніі на цэлый дзень, ці нам уремя ёсьць

сядзець зь ім. *Узмацн.-множн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **анцімоніі.** Баня сты́ніць, а яны пырызвадзі́лі аньцімоніі,— сідзяць пыць сьцяною. Січас увапру́цца, узноў пырызьвядуць аньцімоніі. *Працягл.-фінальн.* **Наразвадзіць** (даразвадзіць) **анцімонію.** Нырызвадзіў ба ён тут аньцімонію, каб я была. Дырызвадзіў аньцімонію, пашоў сагнуўшы гылаву.

**Развадзіць бабы,** *прыкр. Балбатаць, пустасловіць.* Усякій раз разводзіць бабы́, хужы горькія редзькі ныдаела. *Зак.* **Развесць бабы.** Як рызьвядзець бабы́ зь яго лухтою, вушы вянуць. *Узмацн.-множн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **бабы.** Садзіся, слухый, яны січас пыразводзюць бабы. Ну, чаго я сядзела: прішлі, пырызьвялі бабы, ні пагоніш жа с хаты. *Працягл.-фінальн.* **Наразвадзіць бабы.** Ці помніш, як ты нырызвадзіў бабы лі Домніных, а тады ляцеў ні гліда́ючыся.

**Развадзіць куламесу,** *неадабр. Рабіць беспарадак.* Пірістаньця рызвадзіць куламесу, тут і біз вас чорт нагу паломіць. *Зак.* **Развесць куламесу.** Сам разьвёў куламесу, а цяперя другея нывадзі́ за ім пырядык. Ухлы́нулі тубуном, рызьвялі куламесу. *Узмацн.-множн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **куламесу**. Што вы тута дзелылі, такую куламесу пырызвадзілі! Іх упусьці толька, столька куламесу пырызьвядуць, што век толку ні даб'есься. *Працягл.-фінальн.* **Наразвадзіць** (даразвадзіць) **куламесу.** Я б яго нырызвадзіў куламесу, я б яго зыставіў прібраць. Дыразводзіця вы мне куламесу, я ўніма́ць умею.

**Развадзіць лясы** (балясы), *неадабр., рэдкаўж. Марнатравіць час у пустых размовах.* Нечыга рызвадзі́ць ля́сы, бырахцець, вун сколька работы аста́лыся. Відзіла я, сідзяць ны кла́дкых, быля́сы разводзюць. *Зак.* **Развесць лясы** (балясы). Як рызьвядуць лясы, гатовы да поўнычы сядзець, хуць рызгыня́й. Мне тут нечыга дзелыць, рызьвялі былясы, я пашоў. *Узмацн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **лясы** (балясы). Лясы пырызвадзілі, к раньню худзь ба рызыйшліся. Як пыразводзюць былясы, работы ня жджы. Нойдуць у хату, узноў пырызьвядуць лясы,— во ныдаелі, дык ныдаелі, хуць гоным гані. Вуна яны былясы пырызьвялі свае, каб пра што путноя — пру пустату́ ізыкі чэшуць. *Гл.* Л я с ы т а ч ы ц ь.

**Развадзіць рукамі** (рукі). *Паказваць вышэйшую сту-*

*пень здзіўлення, разгубленасці, бездапаможнасці.* Мы стаім ды толька разводзім рукамі, а што мы можым зьдзелыць. Я скызала, каб унімаў троху, а ён толька рукі разводзіць. *Зак.* **Развесць рукамі** (рукі). Як бря́кнуў пры Міновыга, мы і рукамі рызьвялі. Што ж вы рызьвялі рукі, пымыгаць скарей нада. *Узмацн.-множн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **рукамі** (рукі). Усе кругом пырызвадзілі рукамі, куды кінуцца, за што схваціцца. Пырызвадзілі рукі, ні знаюць, у якей бок бежч. Етыя ўсігда так: пырызьвядуць рукамі і стыяць разінуўшы рот. Сколька було людзей і ўсе пырызьвялі рукі. *Працягл.-фінальн.* **Наразвадзіць** (даразвадзіць) **рукамі.** Вы тута ныразводзіця рукамі, што позна станіць дзелыць што-небудзь. Ну, нырызвадзілі рукі, укусіця цяперь самі сябе. А так дыразводзіця рукамі, што некылі будзіць ехыць.

**Развадзіць сырасць,** *гумар., рэдкаўж. Плакаць.* Вуна йна, твыя Каця, сядзіць у вуглу, сы́рысьць разводзіць. *Зак.* **Развесць сырасць.** Ні тыкая ўжо быльшая біда, а вы рызьвялі сырысьць нямерныю. *Узмацн.-множн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **сырасць.** Ну во, вы ўзноў сырысьць пырызвадзілі. Я чуствыю, што яны скора яшчэ пырызьвядуць сырысьць, усё абі́джынымі ходзюць, на́хрыпу іх ні люблю.

**Развадзіць тары-бары** [растабары], *неадабр. Балбатаць.* Вун яны разводзюць тары-ба́ры зы ба́нію. Доўга тут рызвадзіў тары-ба́ры рыстыба́ры. *Зак.* **Развесць тары-бары** [растабары]. Як рызьвядзець тары-бары, трудна яго пірябіць. Рызьвялі тары-бары рыстыбары, за поўныч дуры́ліся. *Узмацн.-множн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **тары-бары** [растабары]. Тары-бары як пырызвадзі́лі, хут ты було уціка́й. Ці я ні знаю, што вы тута ўзноў пыразводзіця тары-бары рыстыбары. Сыйшліся, пырызьвялі тары-бары, ныдаелі. Пырызьвялі тары-бары рыстыбары, пакуля Сярьгей ні путуріў ат падвокыньня. *Працягл.-фінальн.* **Наразвадзіць** (даразвадзіць) **тары-бары** [растабары]. Січас ён у мяне ныразводзіць тары-бары. Дыразводзіця тары-бары, што каровы кытану́ць у клевір. Дырызвадзі́ў тары-бары рыстыбары свае, сьціх?

**Развадзіць турусы,** *запаз., рэдкаўж. Балбатаць.* Вот каб толька рызвадзіць туру́сы, большы яму нічога ні нада. *Зак.* **Развесць турусы.** Як разьвёў турусы, айдзе ён быў, ды што відзіў,— слухыць ні піряслухыць. *Узмацн.-*

*множн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **турусы**. Пріежджыя тэя са сьвету пырызвадзілі турусы. Пырызьвялі турусы, дык што ім — ні хряп'я ні нада, ні пра ношычку травы ня думыюць. *Працягл.-фінальн.* **Наразвадзіць** (даразвадзіць) **турусы.** Так во ныразводзюць турусы, што пайду, а яны ніхай балбочуць. У мяне б дырызвадзілі турусы, я чы́кыцца б ні стала.

**Развадзіць шуры-муры,** *неадабр. Цешыцца каханнем.* Яны ўжо ці ня трецьцій год шуры-му́ры разводзюць. *Зак.* **Развесць шуры-муры.** Ба́цькі харошыга на іх німа, ато б рызьвялі шуры-муры, уня́ліся б. *Узмацн.-множн.* **Паразвадзіць** (паразвесць) **шуры-муры.** Ого, як пырызвадзі́лі шуры-муры! Такея шуры-муры пырызьвялі, ты йшчэ ні знаіш, што там тварі́лі. *Працягл.-фінальн.* **Наразвадзіць** (даразвадзіць) **шуры-муры.** Ныразводзіць шуры-муры, як з брю́хым прівылачэцца к маткі. Дыразводзіш шурымуры, як укусі́ць нечыга бу́дзіць.

**Развязываць галаву.** *Вызваляць духоўна.* Рызьвя́зывый ты сабе гылаву зь естыю хеўрыю, будзіш ты хуць душою свабодзін. *Зак.* **Развязаць галаву.** Едзь, па-мойму, едзь, якоя ня будзіць жыло, дык хуць гылаву рызьвяжыш, свабодна ўздыхнеш. *Узмацн.-множн.* **Паразвязываць голавы** (галовы). Пакуля мы пырызьвя́зывылі голывы, думылі, закруцімся саўсім. Чуць пырызьвязывылі галовы са ўсім тлу́мым.

**Развязываць крылле.** *Адчуваць упэўненасць.* Пітрачонкі рызьвязывыюць крыльля, ета іх зразу дзядзька зату́кыў-залю́кыў. *Зак.* **Развязаць крылле.** Глянь-ка, як Арьхіпыў рызьвізаў крыльля, яму цяперіцька сам чорт ні брат. *Узмацн.-множн.* **Паразвязываць** (паразвязаць) **крылле.** Яны пырызьвязывылі крыльля, вісока ўзьнялі́ся. Пырызьвя́жуць крыльля — яны тута дурі́цца ні ста́нуць, хаты пыпыста́вюць і атойдуць.

**Развязываць рукі.** *Даваць, атрымліваць поўную свабоду; вызваляць.* Табе нада зь ячменім скарей рызьвязывыць рукі, а ты другую пятлю ны сябе чыпля́іш. *Зак.* **Развязаць рукі.** Ныдаелі, пакуля рызьвізалі мне рукі. Я рызьвізаў сабе рукі, і думыць я ні пра кога ні хачу. *Узмацн.-множн.* **Паразвязываць** (паразвязаць) **рукі.** Мы ўжо скора пырызьвязывыім сабе рукі, тады і пра Воршу можна будзіць думыць. Мы толька во рукі пырызьвяжым, тады ў нас іна́чы пойдзіць.

**Развязываць свет,** *рэдкаўж. Даваць поўную свабоду.* Арцём ім рызьвязыіць сьвет, ато ж хадзілі як ніпрікáінныя. *Зак.* **Развязаць свет.** Зьехыў, дык хуць рызьвізаў ёй сьвет, такоя жыло, як було ў яе раншы, і сыбаку ні пыжыláіш.

**Развязываць язык.** 1. *Пачынаць гаварыць; рабіцца балбатлівым.* Доўга муўчаў, толька пасьледнія ўремя стаў рызьвязывыць язык. 2. *Прымушаць гаварыць.* Дайка я схаджу, я ўмею яму рызьвязывыць язык. *Зак.* **Развязаць язык.** 1. Як рызьвя́жыць язык, дык ты яго ні піряслу́хыіш. 2. Нічога, у горыд возьмуць, там рызьвяжуць язык. *Узмацн.-множн.* **Паразвязываць** (паразвязаць) **языкі.** 1. Твае дык ужо лі́шня пырызьвязывылі ізыкі́, каб цішэй, дык ба нядренна. Выпілі, пырызьвізалі ізыкі, сталі як ма́сьлініыя. 2. Мы к ім с патходым, ла́скыю, дык так пырызьвя́зывылі ім ізыкі. Пырызьвізаў вам дзядзька ізыкі?

**Раз-два і** (дый) **апчоўся,** *запаз. Пра невялікую колькасць.* Раз-два і апчоўся, гаворіць, не ш чыга тут выбірaць. Мы думылі і праўда тых гурбузоў нізьвесна скольска, а іх раз-два дый апчоўся.

**Раз-два і** (дый) **гатова.** *Пра хуткасць выканання.* Цішка доўга ня думыў, раз-два і гатова, цірізь нядзелю жонка ў ха́ці. Раз-два дый гатова, ліпа ляжы́іць.

**Раз-два і** (дый) **у дамках.** *Пра шпаркае ўзвышэнне, апярэджанне.* Яму ні прівука́ць: раз-два і ў да́мкых. Мацьвей умеіць жыць, відзіш: раз-два дый у дамкых.

**Раздзелываць пад арэх.** *Моцна лаяць, бэсціць; моцна біць, строга караць.* Ганна свайго за нешта разьдзелыыіць пыд арех. Успомні-ка, як цябе лідыгышча́ні разьдзелывылі пыд арех. *Зак.* **Раздзелаць пад арэх.** Устреціла лі Мархвы і так ужо разьдзелыла яго пыд арех пры ўсіх. Быў зушубуцеў, дык яго разьдзелылі пыд арех, пашоў сь сініка́мі. *Узмацн.-множн.* **Параздзелываць** (параздзелаць) **пад арэх.** Толька пупаду́цца на вочы, я іх пыразьдзелывыю пыд арех, будуць ім і ксьці́ны, і мураві́ны, усё ўспомню. Хто іх загроз баіцца, іх ба так пыразьдзелылі пыд арех, толька дзіві́ліся б, ніхай ба ты́кнулісь.

**Раздуваць вугалле,** *асудж., рэдкаўж. Правакаваць пры поўнай безнадзейнасці.* Толька зыяві́лыся ны дзяреўню, пышла рузду́ва́ць вуга́льля: я тоя чула, мне ета кы-

за́лі, тэй разьеўся, етый шчыха́іць,— язык як у су́чкі хвост. *Зак.* **Раздуць вугалле.** Можа, ты ўсьлед за цётычкыю хочыш раздуць вугальля?

**Раздуваць жар,** *асудж., рэдкаўж. Праваkаваць.* Усё ён ірдзіўся, руздуваў жар, ды ні пы яго выйшла. *Зак.* **Раздуць жар.** Тэй наброд раздуў жар, ён сьпіцыя́льна: ніяк ня можыць угумува́цца за летышнію кукурузку.

**Разжымаць губы** (зубы), *звыч. іран. Гаварыць, выказвацца.* Нечыга наду́ўся, сядзіць і ні рыжжыма́іць губы. Айдзе я дужа зубы рыжжыма́ю, ціхінька пысяджу́ збоку, паслухыю ды нызад пыплятýся. *Зак.* **Разжаць губы** (зубы). К канцу рыжжаў губы, ато ўсё сядзеў як аршын прыглыціўшы. Як увіджу я іх кодла, мне ня хочыцца дайжа зубы рыжжаць. *Узмацн.-множн.* **Паразжымаць губы** (зубы). Чуць ула́шчыліся, пырыжжыма́лі губы, ато ж думылі, і ні зыгаворюць. Во бу́дзіць бяды́, кылі яны ды ні пырыжжымаюць зубы. *Працягл.-фінальн.* **Наразжымаць губы** (зубы). Урадзілыся халера, ня дужа нырыжжыма́іць губы. Такей мамы́ря нырыжжымаіць зубы, ты паспробуй слова ат яго пачуць.

**Раз за разам.** *Зноў і зноў.* Як узяўся вылачыць свае яблыкі ў Крічыў раз зы ра́зым, раз зы разым. Жывот хвытаіць раз зы разым, кычаюся другей дзень.

**Раз [і] наўсягда.** *На ўвесь час.* Мы пыгаворім, дык яны раз ныўсігда́ забудуць у сад дарогу. Кінь ты ета Зылачэва раз і ныўсігда, ці толька сьвет, што ў вакне.

**Разліўное** (разліванае) **мора.** *Вельмі многа* (звыч. пра вадкасць). І гарелкі нукупля́лі, і він усякіх нывязьлі́ — рызьліўноя моря ўсяго було. Нынясьлі́, ныста́вілі — рызьліва́ныя моря, пі, еж — ні хачу.

**Разлятацца па ветру.** *Марнатравіцца.* У іх жа було і як жыць і за што жыць, дык усё на́ўя рызьліта́іцца па ветру, ніхто ні за чым ні глядзіць. *Зак.* **Разляцецца па ветру.** Што чаго сьпірва́ спра́вілі, цяперя рызьляцелыся па ветру,— так, ім у жызьні саўсім ні зыдалося. *Узмацн.* **Паразляцецца па ветру.** Усё було, нягож ні було, дык жа пырызьляцелыся па ветру. *Гл.* Л я ц е ц ь у т р у б у.

**Разменівацца на** (па) **мелачы,** *адз., мн. Займацца дробязным, рабіць справу, не вартую ўвагі.* Чаго яму разьменівыцца на мелычы? Стыдна разьменівыцца ны

мілыча́х. Па мелычы разьменівыцца ён ні захочыць. *Зак.* **Размяняцца на** (па) **мелачы.** Рызьміня́ўся на мелычы ны такой, як яму толька у вочы людзя́м гля́нуць. Мы нізашто б ні маглі падумыць, што Андряёнык рызьміня́іцца па мелычы. *Узмацн.* **Паразменівацца на** (па) **мелачы.** Людзі ўжо яны такея, што пыразьменівыюцца на мелычы ны ўсякый. Пыразьменівыліся пы мілычах і ў вус ня дуюць.

**Раз плюнуць.** *Зусім проста, лёгка.* Дужа па́міткій хлапчына, яму любэй сьцішок выўчыць — раз плюнуць. Раншы мне і ў Рослыў було атвярнуцца раз плюнуць, а цяперя саўсім апа́ла на ногі. Яму тріпануць любую лухту — раз плюнуць, ты яго тырхані́ хуць у бок.

**Раз-пораз** (па разу). *Шмат разоў падрад.* Раншы і пыя́вы яго ня чутна було, а тута раз-порыз бегыіць: дзеўка дужа прішлася пу душэ. Раз пы разу цэлыя лета прілітаў — любува́ўся усё.

**Раз у раз.** *Заўсёды аднолькава.* Ты ўжо хочыш, каб табе ўсігда раз у раз пулуча́лыся. Раз у раз ні пріходзіцца.

**Разяваць зяпу,** *груб. Гучна крычаць, лаяцца.* Чаго ён узноў рызіва́іць зя́пу, чаго зь яго трябу́шша мала? Ні знаю, калі йна пірістаніць рызівацъ зяпу. *Зак.* **Разявіць** (разінуць) **зяпу.** Рызявіў зяпу, што лес тряшчы́ць. Калі яшчэ і другей зяпу разініць, ніхто іх ні пірікрічыць. *Узмацн.-множн.* **Паразяваць** (паразявіць, паразінуць) **зяпы.** Пырызівалі зяпы, як пуні, хуць скаціну зычыняй. Ты ня чуў, як яны у Лібісых пырызявілі зяпы. Луччы ня трогыцца ш чырцямі, узноў зяпы пыразінуць. Як хваціліся, як пыразі́нулі зяпы,— што зь іх там толька тварі́лыся! *Гл.* Г о р л а р а з я в а ц ь.

**Разявіўшы** (разінуўшы) **рот.** 1. *У здзіўленні.* Стыяла збоку рот рызя́віўшы, мы яе ві́дзілі. Ну што ты любуісься разінуўшы рот, ня відзіў цялёнка ці што. 2. *Безуважна.* Ці можна ж так ехыць рызявіўшы рот пы кына́вых, уваб'еш кыня і ня вы́цігніш. Ішоў разінуўшы рот, пакуля у яму бух.

**Ракою ліцца.** *Горка, няўцешна плакаць.* Каторый дзень рякою ільлецца, і ніхто ня можыць угывcovрiць, успакоіць. *Зак.* **Ракою заліцца.** Як пачула пра Колю, рякою зылілáся: а як жа я адна ўзгаду́ю драбнотычык сва-

іх. *Пачын.* **Ракою паліцца.** Я й сыма знаю, што пальлецца рякою, як скажыш ета. *Гл.* Л і ц ц а  с л я з а м і.

**Рана ці позна.** *Калі-небудзь, але абавязкова.* Рана ці позна, а я свайго даб'юся. Рана ці позна дажджэцца свайго часу, выскычыць пірялома і ны яго.

**Расінкі** (расіначкі) **ў роце не было,** *пр., рэдка буд. Пра стан, калі яшчэ нічога не еў і не піў.* У яго другея су́дкі расі́нкі ў році ні було, як ён толька цягніць. Ай-яяй, паехыў, ну як жа ён паехыў, у яго ж расінычкі ў році ні було. Ніхай расінкі ў році ня будзіць, усё роўна пыбягі́ць, так улігáіць зы работыю.

**Раскінуць вумом** (розумам, галавою). *Абдумаць сур'ёзна, старанна.* А ты раськінь вумом, што тут длі чаго було сказына. Нада розумым сьпірва раськінуць, а тады пычынаць дзелыць. Раськінуў ба гылавою, дык ба сам увідзіў, ды чаго яны дывяду́ць. *Незак., рэдкаўж.* **Раскідываць** (раскідаць) **вумом** (розумам, галавою). Пупадзець пріту́га, дык сам раськідывый вумом, мы зы цябе да веку думыць ня будзім. Каб трошку раськідывыў розумым, то ныт табою б ніхто і ні сьміяўся. А ты гылавою раськідывый, чаго йта цябе пыд'ідáюць, а другіх ні пыд'ідаюць. Вумом ты рыськідаць ня ўмеіш, во што. Ці ты ні знаіш, як іна розумым рыськідáіць,— усігда як веціp. Да, многа яны рыськідáлі гылавою, многа ат іх толку відзілі.

**Раскінуць мазкамі,** *гумар., іран. Абдумаць сур'ёзна, старанна.* Відзіш, як раські́нуў мызкáмі, Бялкова у яго саўсім у другім баку стала. Ты ж раськінь мызкамі, разьві ж ігліца у прямым зарезі будзіць дзіржацца. *Незак., рэдкаўж.* **Раскідываць** (раскідаць) **мазкамі.** Я пыняў, як ён наўчыўся раськідывыць мызкамі. Раськідывый, раськідывый мызкамі, табе сымаму нада на сьвеці жыць. Можа, ўчора й рыськідаў мызкамі, а сяньня яны ў цябе ні вару́шуцца. *Гл.* Ш а в а л і ц ь  м а з к а м і.

**Раскрываць** (адкрываць, расчыняць, адчыняць, разяваць) **рот.** 1. *Пачынаць гаварыць.* Чула я, што ўсякыю трілю́ду нясець, толька ні хацела ўжо рот рыскрывáць. Калі ж я там рот аткрывала, я ж муўчáла ўсё ўремічка. Нечыга яму рот рышчыня́ць, ніхай луччы ня пікніць. Ідзі схадзі, пысядзі, паслухый, а толька ў рызгаворы дужа ня лезь, луччы і рот аччыняць ні нада. Чаго мне тама бу-

ло рот рызіва́ць, тама і бізь мяне ныгыварілі. 2. *Дзівіцца; траціць увагу, ратазейнічаць.* Што там дужа аньціресныга, чаго ён там рот рыскрываіць. Аткрываіць рот, пакуля ў грязь па ву́шы ўлезіць. Яшчэ рышчыняй рот, ні пыляцеў тыршма́ носым, дык пыляціш. Хваціць аччыняць рот, глядзі, куды едзіш. Рот дужа ні рызівай, тута нільзя рызівоніць. *Зак.* **Раскрыць** (адкрыць, расчыніць, адчыніць, разінуць, разявіць) **рот.** 1. Толька я хацеў раскрыць рот, яны ны мяне са ўсіх бакоў зашы́кылі: маўчы, а ну вас, дужа мне аньціресна зьвя́зывыцца ш чырцямі. Што ты мне ні даеш аткрыць рот, ці я табе жонка, а ежылі я зь естым ні сыгла́сна саўсім. Айдзе ж ба я там рот рышчыніў, калі галдзёж с усіх бакоў. Ты толька дай Саўку рот аччыніць, ня скора суні́міш, будзіш слухыць — ні піряслухыіш яго трілю́ды. Ня то слова скызаць, рот разінуць ні далі. 2. Нешта раскрыў там рот, стыяў, вушамі хлопыў. Рот, выранёнык, аткрыіць і будзіць глядзець. Чаго ты там ня відзіў, рышчыні́ў рот, двору йдзі. Другей раз аччы́ніш рот, дык ны калёсых ні сяні́ны ні аста́ніцца. Разініць рот і йдзець, ні глядзіць, куды і чаго. Узноў рот рызявіў, толька му́хым уліта́ць. *Узмацн.-множн.* **Параскрываць** (параскрыць, паадкрываць, паадкрыць, парасчыняць, парасчыніць, паадчыняць, паадчыніць, паразінуць, паразяваць, паразявіць) **раты.** *Здзівіцца, страціць увагу.* Усе пырыскрыва́юць раты і дзі́вюцца, а другея ны калёсых ша́рюць,— во як дзелылі. Ён лухту нясець, а тэя пыраскрылі раты, слухыюць. Я знаю: пойдзіця, пыткрываіця раты, будзіця як рызівоны сядзець. Мы і раты паткрылі, як стаў прістыўля́ць усякыя. Ета ны вас було глядзець сьмешна, як вы пырышчынялі раты. Во рысказывыў, дык рысказывыў, хто толька быў, усе пырышчынілі раты. Чаго вы раты пыччынялі, трілюды яго мала слухылі? Ці ета первый раз, яны ўсігда пыразінуць раты і любуюцца. Пырызівалі раты як грычыня́ты, нічога ня смы́сьлюць. *Працягл.-фінальн.* **Нараскрываць** (наадкрываць, нарасчыняць, наадчыняць, наразяваць) **рот.** *Надзівіцца, даратазейнічаць.* Нырыскрыва́іш рот, аста́нісься біз мацеріі, во будзіць табе пла́цьця. Ныткрываў рот, дырызівоніўся, бегый пу кустах, лазь, ішчы таго цялёнка. Ты й сяньня так нырышчыня́іш рот, як учора було. Адзін ныччыняў рот, і другей тоя самыя цірізь мінуту палучыць. Ты нырызіваш у мяне рот, я цябе атвучу, як ні глядзець зы скаці́ныю.

**Раскрываць** (выкладаць, выкладываць) **козыры** (карты). *Выяўляць планы, намеры, пачынаць дзейнічаць адкрыта.* Ён ні сыбразіў нічога, яму нільзя було рыскрываць козырі. Каму яны рыскрываюць карты, тріпачу таму? Такому чылавеку ні нада выклыдаць козырі. Лісіцыю падлезіць к Аніську, тэй і выклыдаіць ім карты. Козырі выкладывыць яго дужа ні зыставіш. *Зак.* **Раскрыць** (выкласць, вылажыць) **козыры** (карты). Сам раскрыў усе козырі, а тады дзівіцца, аткуля ім ета із́весна. Нада було проста раскрыць іх карты. К яму нада толька умела пыдыйціць, ён січас выклыдзіць козырі. Як жа яны табе ўсе карты выклылі, як ты сумеў пыткаціцца? Я сьмела вылыжу свае козырі, і табе нечыга будзіць скызаць. Не, як ты ні пыткачывыйся, Максім табе карты ня вылыжыць. *Узмацн.* **Параскрываць** (параскрыць, павыкладаць, павыкладываць, павыкласць, павылажыць) **козыры** (карты). Ён ужо даўно пырыскрываў козырі, ні січас. Яны быйстра вашы карты пырыскрываюць, ні зыдывайціся дужа. Вы ж самі пыраскрылі козырі, хто вас прасіў аб етым. Еткія хітряцы ня дужа пыраскрыюць карты, ні надзейся. Яны спужаліся і пывыклыдалі ўсе козырі зразу. Антону яны пывыклыдаюць карты, тэй дужа хырашо зь імі ўмеіць. Пріехылі і тэй жа мамент пывыкладывылі козырі: мы будзім тоя і тоя дзелыць. Нечыга абіжацца, кылі самі пывыкладывылі карты. Павылыжылі козырі як прыстачкі якея, нашто було так гываріць. Вы й самі знаць ня будзіця, як павылыжыця карты, вы ні знаіця, ны каго нырваліся. *Гл.* Паказываць козыры.

**Распаліць агонь,** *рэдкаўж. Справакаваць пэўныя ўчынкі, каб на іх пераключыць увагу.* Нарошня ўсё було ўстроіна, нарошня рыспалілі агонь, каб пад етый шумок самім выпутыцца. *Незак., адзінк.* **Распаліваць агонь.** Нешта другей раз задумылі, рыспалівыюць агонь зь летышнію бульбыю, ны праўленьня зыяву пыдалі.

**Распасціраць зяпу.** *Нахабна крычаць, лаяцца.* Хто йта етык зяпу рыспысьціраіць узноў, ці ні пріежджыя тэя? *Зак.* **Распасцерць зяпу.** Як рыспасьцёр зяпу, дык айдзе ты ўніміш, ён даўно прівык горлым браць. *Узмацн.-множн.* **Параспасціраць** (параспасцерць) **зяпы.** Чужоя ім і ні брыдзіць, а зы сваё ого як пырыспысьціраюць зяпы. Пірід брігадзірым як пырыспасьцёрлі зяпы,— дужа

яны там піріработыліся. *Працягл.-фінальн.* **Дараспасціраць зяпу.** Стыхван твой дыryспысьціраў зяпу, уняўся, маўчыць і голысу ня чутна. *Парайн.* Горла рваць; Разявацьзяпу.

**Распінаць горла** (глотку), *груб., рэдкаўж. Крычаць, лаяцца.* Нечыга рысьпіна́ць горла, сам ца́ца уго іка́я. Учора ён тут ш час рысьпінаў глотку, думыў, горлым усё ўзяць можна.

**Распраўляць крылле.** *Набірацца моцы.* Вам нада скорей руспруўля́ць кры́льля, вы ўжо можыця зыработыць ладна. *Зак.* **Расправіць крылле.** Яны зы пасьледнія ўремя рыспра́вілі крыльля, ня то што бацька іх усё зумухры́шкыю хадзіў. *Узмацн.-множн.* **Параспраўляць** (парасправіць) **крылле.** Вы пыглідзіцё на іх, як яны крыльля пуруспруўляюць. Прі новым стыршыне усе пырысправі- лі крыльля, хырашо павёў дзела. *Працягл.-фінальн.* **Нараспраўляць крылле.** Нуруспруўляюць такея шлэпырі крыльля, у іх усё міма рук пойдзіць.

**Распускаць зенкі,** *груб., рэдкаўж. Пільна ўглядацца.* Чаго ты руспуска́іш зенкі, ці ты знаіш, якім пыцьмаком я ішла біз дарогі. *Зак.* **Распусціць зенкі.** Қылі ён распу́сьціць зенкі, дык я січас піряд ім пісаць стану,—нягож.

**Распускаць крывілы** (крынджалы), *груб., рэдкаўж. Шпарка няўклюднаісці.* Віджу, пы правулку руспускаіць кріві́лы, я прістоіў лі варот: ніхай ляціць. Пастой трошку з намі, ні руспускай крінджа́лы. *Зак.* **Распусціць крывілы** (крынджалы). Қуды яго пынясло, крівілы руспусьціў. Ого, якей дыбітнэй, распу́сьціць крінджалы, сьвет вы́літыіць.

**Распускаць кузню,** *здзекл., рэдкаўж. Прагна есці.* Час як ац стыла́, а ўжо узноў руспускаіць кузьню. *Зак.* **Распусціць кузню.** Ны работу пы́пля, а кузьню як распусьціць, пыдываць ні спра́вісься.

**Распускаць мымры** (мурзы), *зняважл., рэдкаўж. Беспрычынна плакаць.* Пацскрёбыш твой і за шчэпычку руспускаіць мы́мрі. Қылі просісься — ладна, а чаго му́рзы руспуска́ць? *Зак.* **Распусціць мымры** (мурзы). Ні туды жушмень кінула, мымрі руспусьціў. Ны кацю́ху зыбыраніла іціць, нешта ка́рхыіць, сядзіць, мурзы руспусьціў.

**Распускаць па ветру,** *неадабр. Траціць упустую.* Як

яму ні жалка столька дыбра́ руспускаць па ветру, ды такога дыбра. *Зак.* **Распусціць па ветру.** Ужо ўсё руспусьцілі па ветру, пыччысту́ю, нічога ні ста́лыся. *Узмацн.* **Параспускаць** (параспусціць) **па ветру.** У людзей жа дык ета було б усё адно кы днаму, а тута пуруспускалі па ветру, німа нічога. Ну што, пуруспусьцілі, што було, па ветру, сідзяць як сьвятэя. *Працягл.-фінальн.* **Нараспускаць** (дараспускаць) **па ветру.** Глядзі́ця, нуруспускаіця па ветру, яшчэ прі́дзіцца г дзядзьку іціць прасі́ць. У цябе ж ба сена було зываліцца, каб ты хацеў, а так дуруспуска́ў па ветру, што ны адзін хвост ні хваці́ла, жы́ціль. *Гл.* Пускаць на вецер.

**Распускаць рукі.** *Дазваляць сабе празмерныя вольнасці ў абыходжанні.* Руспуска́ць рукі ты дужа ця́місься і ўчыць цябе нісколька ні нада. *Зак.* **Распусціць рукі.** Ох, руспусьціў рукі, некыму табе іх пыкыраці́ць троху. *Узмацн.* **Параспускаць** (параспусціць) **рукі.** Не, хлопцы, дужа вы пуруспускалі рукі, усіка́ць вам іх нада. Пуруспусьцілі рукі, глядзі што кохтычку сы сьпіны́ зьдзяру́ць. *Працягл.-фінальн.* **Нараспускаць** (дараспускаць) **рукі.** Па мордзі як заеду,— во нуруспуска́іш рукі. Дуруспускаў рукі, успакоіўся — даўно так нада було.

**Распускаць слёзы,** *рэдкаўж. Плакаць знарок, каб выклікаць спагаду.* Пірістань руспуска́ць сьлёзы, ім ужо ня верюць, яны ў цябе цякуць як пы зыка́зу. *Зак.* **Распусціць слёзы.** Усігда сьлёзы распу́сьціць,— там яе абідзілі, там ні так скызалі, ажно глядзець гадка. *Гл.* Пускаць слёзы.

**Распускаць хвост,** *іран. Задавацца.* Тэя гады ціряшчур руспускаў хвост, уні́му ні було адз зыдыва́ньня. *Зак.* **Распусціць хвост.** Прікута́льный шпар вы́дзіўбыў, дык руспусьціў хвост. *Узмацн.-множн.* **Параспускаць** (параспусціць) **хвасты.** Абжылі́ся, усяго ў іх хвытаіць, пуруспускалі хвасты большы некуды. Каб ім такея прібылі, паготыю б пуруспусьцілі хвасты.

**Распускаць язык,** *асудж. Лаяцца, дапускаць празмерныя вольнасці ў выказваннях.* Ціряшчур сільна язык руспуска́іш. Дужа ні руспускай язык, ато ўняць можна. *Зак.* **Распусціць язык.** Руспусьціла язык хужы некуды, во каб хто найшоўся усеч. *Узмацн.-множн.* **Параспускаць** (параспусціць) **языкі.** Вы паслухыйця толька, як яны

ізыкі пуруспускалі. Пуруспусьцілі ізыкі хужы і ні прідумыіш. *Працягл.-фінальн.* **Нараспускаць** (дараспускаць) **язык.** Нуруспускаіць язык, што пу зубах заслу́жыць. Ты глядзі, дзяву́ля, ета табе ні з маткыю, у мяне скора дуруспускаіш язык.

**Рассесца на шыі,** *неадабр. Пачаць жыць за чый-н. кошт.* Ён ужо як пан расьсеўся на шыі ў старых, думыіць, усігда яго карміць будуць. *Гл.* С а д з і ц ц а в я р х о м.

**Расстаўляць па мястах,** *рэдкаўж. Надаваць яснасць, пэўнасць.* Тут, я віджу, доўга яму прі́дзіцца рысстыўля́ць пы міста́х. *Зак.* **Расставіць па мястах.** Ні знаю, калі і камуу удасца тута рысставіць усё пы містах. *Гл.* С т а в і ц ь н а м е с т а.

**Расстаўляць** (распускаць, падвешываць, натапырываць) **вушы,** *іран. Прыслухоўвацца, уважліва слухаць.* Знаць, трошку нідачу́іць, а було аньціресна, дык усё рысстыўляў вушы, хацеў пацслу́хыць. Я знаю, доўга тут будзіць пы́пліцца і вушы руспускаць, каб чаго ні прупусьці́іць. А ты чаго падвешывыіш вушы, што табе нада, хто цябе прасіў сюда? Збоку ўсё нытапы́рівыла вушы, ды було дылікува́та, гылаву выцягывыла. *Зак.* **Расставіць** (распусціць, падвесіць) **вушы.** Айдзе пра хлопцыў гаворюць, яны січас там, рысставюць вушы — во хаці́ ты зь іх толку, як пыдрастуць. І сяўні́цы твае сталі, руспусьцілі вушы, відна, дужа аньціресныя нешта балдзі́ць. Айдзе ікая тріл́юда, і ён там вушы падвесіць, будзіць бітых два часы стыяць. *Узмацн.* **Парасставіць** (парасстаўляць, параспускаць, параспусціць, пападвешываць, пападвесіць) **вушы.** Пырысставілі вушы, думыюць, січас нівісь што пачуюць. Канешня, чаго ж яны пырысстыўлялі вушы: ці ні скажым мы чаго-небудзь пры Мікіцёнкыў. Ажно мне й то нялоўка було там тарчэць, а яны пуруспускалі вушы — гывары́ця. Ці вы ішчэ мала яго тріл́юд наслухыліся, што й тута пуруспусьцілі вушы. Кылы Зыхара ны бярьвеньні пыпадвешывылі вушы,— во айдзе твае Косьцік з Высілём, лухту ніпыцьсіва́ную слухыюць. Пыпадвесюць вушы і сідзяць, а тады усё чысьцінька таму тырадэю атнясу́ць. *Гл.* Н а с т а ў л я ц ь в у ш ы.

**Рассыпаліся крупы,** *жарт., рэдкаўж. Пра сварку.* Нешта ў Ганны сь Пітраком кру́пы рассы́пыліся, учора лі хаты було ні прайціць — так резыліся. *Гл.* Р а с с ы п а ц ь к р у п ы.

**Рассыпацца** [дробным] **макам,** *неадабр. Паддобрывацца з выключнай ліслівасцю і абыходлівасцю.* Я рыссыпа́цца ма́кым піряд імі ня буду, ніхай ня думыюць. У яго пылажэньні ні хыця́ будзіш дробным макым рыссыпацца. *Зак.* **Рассыпацца** [дробным] **макам.** Лідка тольска зыйшла, ён і рассы́пыўся макым. А чаго ж ты сам рассыпыўся дробным макым піряд імі? *Узмацн.-множн.* **Парассыпацца** (парассыпацца) [дробным] **макам.** Пірід Антонывымі пырыссыпа́ліся макым, ні знаюць, ны якой наге стаць. Січас дробным макым пырыссыпа́юцца, ніхай толька увойдзіць. А каб жа ты відзіў толька, як тэя пырассы́пыліся дробным макым пірідзь зяцім. *Працягл.-фінальн.* **Нарассыпацца** [дробным] **макам.** Ну й нырыссыпа́лыся макым пиріц стыршыною, пакуль ублыгытваріла як-то. Дужа многа дробным макым нырыссыпаліся, ходзюць ужо і клянуць, дружба ўрозь.

**Рассыпацца** [дробным (мелкім)] **бесам** (чортам), *іран. Празмерна дагаджаць.* Ён дужа любіць рыссыпа́цца бесым пірід нычальствым. Там стыршына нешта стыяў, дык абоя рыссыпаліся чортым. Пірістаньця рыссыпацца дробным бесым піряд етымі чырцямі. Мы пашлі, а йна ўсё там ішчэ рыссыпалыся мелкім бесым. Ажно вы́сіўрілі, так рыссыпаліся дробным чортым, дужа хацелі дыгадзі́ць. Толька ўстрецюць Лявона, і пашлі рыссыпацца мелкім чортым. *Зак.* **Рассыпацца** [дробным (мелкім)] **бесам** (чортам). Во была жывая указэя, як Ільля пиріц Сашкым рассы́пыўся бесым. Як уві́дзіць ста́рыга і рассы́пліцца чортым, ажно рыстаець. Як прідзіць, зразу рассыпіцца дробным бесым. Я думыю, чаго б ён так рассыпыўся мелкім бесым пірід Мыланкыю,— ажно во чаго. Прідуць, ныгаворюць, так ужо рассыплюцца дробным чортым, што, кажыцца, луччы прія́циліў ні було. Узноў рассы́пыліся мелкім чортым, аж глядзець ня хочыцца. *Абмеж.* **Парассыпацца** [дробным (мелкім)] **бесам** (чортам). Таго пырыссыпа́ўся бесым, што трухну́ў ладна. Сьпірва пырыссыпаіцца чортым, а тады ўсьлед набрешыць ладна. Було ці ні було чаго, а дробным бесым пырыссыпаліся. Марка тады пырыссыпаўся мелкім бесым. Быў пырыссыпаўся дробным чортым, а тады апяць зы сваё ўзяўся. Прі́дзіцца і табе мелкім чортым пырыссыпацца, тваё пылажэнія а́хыўскыя. *Працягл.-фінальн.* **Нарассыпацца** [дробным (мелкім)] **бесам** (чортам). Штонебудзь утваріць, а тады ўжо нырыссыпаіцца бесым. Ны-

рыссыпаўся чортым, усё быяўся, што ны яго атнясу́ць пабітыя капёшкі. Вот табе на, што пулучылі, нырыссыпаліся дробным бесым. І натрёсься, і мелкім бесым нырыссыпаўся, хваціць зь яго. Браточкыві нырыссыпаліся дробным чортым лі стыршыні́хі і ўсё ныпрасна. Ну й што, кылі ён нырыссыпаўся мелкім чортым, ета ж ні пымагло.

**Рассыпаць крупы,** *гумар., рэдкаўж. Сварыцца.* Нашто нам рыссыпа́ць крупы, у нас усігда мірна і ціха. *Зак.* **Рассыпаць крупы.** Нешта вы рассы́пылі крупы, што-то яно ні ладзіцца у вашый жызьні ніскалька.

**Растапырываць** (тапырыць) **губы** (грыбы), *неадабр. Моцна крыўдзіцца.* Што ні ў лад, чаго рыстапы́ріш губы? Увесь вечыр учора рыстапырівыў грібы. Ты ўмеіш тапы́ріць губы, цябе ўчыць ні нада. Ні так ёй нешта скызалі, тапыріць грібы. *Зак.* **Растапырыць губы** (грыбы). Я скызала, каб скот глядзеў як нада, а ён губы рыстапыріў. Рыстапыріла грібы і на сьвет ні глядзіць, такея-то абіды. *Узмацн.-множн.* **Парастапырываць** (парастапырыць) **губы** (грыбы). Пырыстапырівылі губы, што куды там пытхадзіць. А мне дужа важна, кылі вы грібы пырыстапы́рівылі. Як губы пырыстапырюць, тады зь імі толку ні знайдзіш. Я ўжо чуствыю, што січас пырыстапырюць грібы.

**Растрасаць жыр** (сала), *гумар. Худнець.* Некуды ўжо большы жырнець, некуды, кыўнярі́ ня сходзюцца, нада рыстріса́ць жыр. Рыстрісай-ка сала, ато сь цябе яго хуць крой. *Зак.* **Растрэсць жыр** (сала). Ніхай пакі́дыіцца троху ў бакі, дык рыстрясець жыр. Рыстрісла́ сала, пышчыгульнела, ато была заседзілыся. *Узмацн.* **Парастрасаць** (парастрэсць) **жыр** (сала). Ага, пырістрісалі жыр, хуць ну людзей пахожы сталі. Айдзе яны пырістрісаюць сала, вылежыюцца дзень прі дні. Нешта ня дужа пырыстрясьлі жыр, паехылі як сьлімяньнё і вярнуліся такея. За лета с касою ды с тыпаром троху пырыстрясьлі сала.

**Расхлёбывацца ў кашы.** *Разбірацца ў вельмі складанай і заблытанай справе.* Каторый дзень рівізія сядзіць, у іхній кашы расхлёбывыіцца. Яны надзелылі, а вы цяперя расхлёбывыйціся ў кашы. *Зак.* **Расхлябацца ў кашы.** Ні знаю, ці рысхлібаіцца хто ў той кашы калі-небудзь. *Гл.* К а ш у р а с х л ё б ы в а ц ь.

**Раўняць з зямлёю.** *Руйнаваць, поўнасцю разбураць.* Каго ты, каго зьбіра́ісься рыўня́ць зь зямлёю, хто табе етык у пячонкі ўеўся? *Зак.* **Зраўняць з зямлёю.** Сколька дзірявень только во ў акру́гі зруўня́лі немцы зь зямлёю, як ацступалі, ня кінулі ні кыла́ ні двыра. *Узмацн.* **Пазраўняць з зямлёю.** Айдзе дужа бальшыя баі былі, тама многія дзяреўні зь зямлёю пузруўня́лі. *Працягл.-фінальн.* **Нараўняць з зямлёю.** Нуруўняіш ты зь зямлёю і з вадою нуруўняіш, руўня́льнік еткій найшоўся.

**Рашацца** (арашацца) **жызні.** *Гінуць.* Быў-быў, а цяперь саўсім зывяршы́ў: п'ець, г другім бегыіць, у дваре ні начуіць, ёй стала хуць жызьні рішайся. Ну, жызьні ўжо арішацца ат такога чылавека я б ні стала. *Зак.* **Рашыцца** (арашыцца) **жызні.** Ты б і хацеў, каб я жызьні рішылыся. З вамі год пажыць, дык арішысься жызьні. *Узмацн.* **Парашацца жызні.** Ну плоха було, канешня, трудна, дык ці нам жа жызьні пырішацца нада було.

**Рашаць** (арашаць) **жызні.** *Забіваць, знішчаць (чалавека).* Жызьні рішаць такіх нелюдзіў нада, ці можна ім пы зямле хадзіць. Ну на, мяне арішай жызьні, храбрец,— што, каленкі зытрясьлі́ся. *Зак.* **Рашыць** (арашыць) **жызні.** Ці ні зьбіра́ісься ты кума жызьні рішыць? Во, ён арішыць жызьні, так, ізыком трепліцца. *Узмацн.* **Парашаць жызні.** Сколька кругом нас пырішалі хвашысты жызьні, во мідзькыўскіх хлопцыў, у Шумянічых, зы Вяхрою. *Працягл.-фінальн.* **Нарашаць жызні.** Ну-у, іна, ты знаіш, сколька нырішала жызьні, ці ня чэцьвіра ўжо біз галоў ходзюць.

**Рваць духі.** 1. *Вельмі надакучаць, назаляць.* Як дзень ныста́ніць, так і рвуць духі, спакою німа нісколька. 2. *груб. Моцна крычаць.* Чаго ён тама духі рьвець, хто яму што ні ўла́дзіў? *Зак.* **Парваць духі.** 1. Нягож ні пырвалі духі, усё і крічаць, і гылыгыля́ць, ажно ў гылаве тряшчыць ат іхныга кріку. 2. Глядзі, духі парьвець, рысься́дзіцца ад гырла́ньня ац свайго. *Узмацн.* **Нарваць духі.** 1. Як нарьвець духі дзіцёнык, так хочыцца худзь ба ны мінутку прілежч. 2. У дзяреўні нырвалі духі, а тады ішчэ ў бірізьняку́ дыбавілі.

**Робры** (косці) **часаць.** *Лупцаваць дзягаю, дубцом.* Я сы сваімі дужа ні ня́нчылыся, рёбры чысала. Сколька табе чысалі косьці, большы ныўряд каму ці пупыда́ла.

*Непаўн.* **Робры** (косці) **пачасаць.** Рёбры як пачэшуць, ты й пыспыкайнеіш. Дужа хочыць, каб косьці пычысалі, пряма просіцца. *Узмацн.* **Робры** (косці) **начасаць.** Ты думыіш, мала яму рёбры нычыса́лі? — хва́ціць зь яго. Абаім нычысалі косьці, прізнацца стыдна. *Законч.* **Робры** (косці) **адчасаць.** Злавілі аднаго і аччыса́лі рёбры, ніхай пачу́хыіцца. Як аччэшуць косьці пару разоў, сь цябе й дуры пывыска́кывыюць.

**Робры** (косці) **чэшуцца** (свярбяць), *цяп., пр. Пра свавольства, якое можа пацягнуць за сабой фізічнае пакаранне.* Ці ты ня ві́дзіш, што ў яго другей дзень рёбры чэшуцца, хыдаром ходзіць. Рёбры дужа чыса́ліся, дык успакоілі. Есьлі рёбры будуць сьвярьбець ціряшчу́р, злазь у сад к Андрею. Я знаю, чаго косьці ў іх чэшуцца, лупку даўно відзілі. Сьвірьбяць у вас, ма́льцы, косьці, ой, сьвірьбяць, некыму пычысаць іх. У цябе ж цэлый дзень косьці сьвярьбелі — ремня дужа хацелыся. *Пачын.* **Робры** (косці) **зачасаліся** (засвярбелі), *пр., буд.* Я дык і сам ні знаю, аччаго ў цябе так рёбры зычысаліся. Ён лупкі доўга ня помніць, толька на вуліцу — узноў рёбры зачэшуцца. Ці ні зысьвярьбелі і ў цябе рёбры посьлі Івана? Успакойціся, есьлі косьці зычысаліся, я пыскрябу. Косьці зысьвярьбелі, іна́чы чаго ж ім уталону ніякыга німа.

**Рогі збіваць** (абламліваць, зразаць, спіліваць, скручываць). *Сунімаць строга, патрабавальна.* Айдзе ты сам быў, на што ты раншы глядзеў, чаго ты змалку ні зьбіваў рогі? Яму даўно пыра зьбіваць рогі, дужа яны пырасьлі на ём. Абла́млівый рогі, пакуля ішчэ троху сыўлыда́іш, а да́лі — болі, пы гылыва́х пойдуць. Нада було раншы рогі зрізаць, а цяперь ці войкый, ці ня войкый — ні паможыш. Есьлі ня будзіш рогі сьпілівыць, пакуль ішчэ можна, сыма пазьней ні раз навы́ісься. Я рогі скручывыць буду, цярьпець ні стану. *Зак.* **Рогі збіць** (зрэзаць, спіліць, скруціць). Няўжэлі нікога ні на́йдзіцца рогі яму зьбіць? Даўно гырячы́лу нада зьбіць рогі, нечыга ну дура́чыньня любувацца. Тута ён вірядуіць, а паедзіць у шахты — рогі там зрежуць мігым. Хлопцы пыдрасьлі, і Баріс пыцішэў, рогі зрезылі. Мы кылі возьмімся, сьпі́лім рогі, дужа малі́ць ды прасіць ні станім. Як скруцюць рогі Антону, і Пуўлючок адумыіцца, возьміцца за розум. *Узмацн.* **Рогі пазбіваць** (пазразаць, пазрэзаць, паспіліваць, паскруціць, паскручываць). Усё вазіліся ды нян-

чыліся, а ім даўно нада було рогі пызьбіва́ць. Пысаб'юць вам рогі, дыжджыцёся, ня будзіця век пы гылывах хадзіць. Пызрізалі рогі тым шка́рідым, цішэй у дзяреўні стала. Во каб і астальным рогі так пызрізалі, дужа хырашо було б. Ні найдзіцца крепкыя рука рогі ім пазрезыць. Нада було б пасьпі́лівыць рогі, толька трогыцца з гадысьцю ніпріятна. Не, кылі ім ні пускруці́ць рогі, ні знаю, што будзіць, пойдуць паверьх дзяреўні. Ай, ты даўно абішчаў ім рогі паскручывыць, а яны як тварілі, так і твыряць.

**Рогі на спіне** (за спіною), *іран., рэдкаўж. Пра капрызнасць, непадступнасць.* Ні знаю, аччаго ў іх рогі ны сьпіне, дужа зыда́ч многа стала. У Тыцяны ўсігда рогі былі зы сьпіною, ні разу цаны сабе ні знала. *Гл.* К л а с ц ь  р о г і  н а  с п і н у.

**Рогі растуць,** *неадабр. Пра балаўство, непаслушэнства, распуснасць.* У твайго Стыхва́нькі ужо січас рогі растуць, а што зь яго гады ціріз два бу́дзіць. *Зак.* **Рогі параслі** (выраслі), *пр., буд.* Так пырасьлі рогі, што большы цярьпець некуды. Як пырастуць рогі, трудна ўнімаць станіць. Што рогі вы́рысьлі, ета праўда, во зьбіць іх ніхто ні на́йдзіцца.

**Родам і плодам.** *Імем усіх родных.* Што там у іх прызашло, я ні знаю, толька Марья родым і плодым клянецца, што вінуваты яны.

**Рожкі ды ножкі,** *гумар. Зусім нічога.* Раз Івыняты пыбылі́, там аста́ліся рожкі ды ножкі. Якей курёнык быў, якей пырасёнык быў, якей пуд хлеба,— усё пыдмялі́ пыччысту́ю, рожкі ды ножкі ёй кінулі. Пашоў, найшоў рожкі ды ножкі, канешня ж, Піліпіняты ні прымільгаюць.

**Розуму набірацца.** *Рабіцца больш сталым, разважлівым, вопытным.* Кылі адз Зыхарёнка розуму ныбіра́іцца, дык бу́дзіць чылавекым, што ўвесь сьвет станіць сьміяцца. *Зак.* **Розуму набрацца.** Дужа многа ты розуму ныбра́ўся ац ста́ршыга. Раз ні ныбраўся розуму змалку, то цяперь труднува́та уклыдаць: удзядзеў ладна. *Узмацн.* **Розуму панабірацца** (панабрацца). Яны розуму пыныбіраліся, толька ні таго, што нада. Відзіш, сколька розуму пыныбіраліся: любога кругом апста́вюць. Ну дурноя пыныбраліся розуму, нягож на што лю́дзкыя.

**Розуму не прыставіць.** *Не разумець, не знаходзіць*

*выйсця.* Розуму ні прістаўлю, нашто ім було выдумывыць такоя. Ні приставім розуму, хто вілёны мог узяць, мы іх толька піріпіліць сыбраліся.

**Розуму** (розумам) **трогацца.** *Вар'яцець, прам., перан.; паступаць безразважна, неабдумана.* Увідзілі, што розумым трогыіцца, схвацілі скарей ды ў Мугулеў. Яй-богу, мушчына, ты розуму трогыісься, ці можна ж такоя прі дзіцях гываріць. Ня трогыйся розумым, ідзі двору, кылі ты ўсякыю лухту слухыіш. *Зак.* **Розуму** (розумам) **тронуцца.** У яе ж ны вычах сына зыстрялілі немцы, дык і розуму тронулыся. Ты ўжо саўсім розуму тронуўся, большы пры цябе нічога ні скажыш. Не ўжо, вы, відна, розумым тронуліся, кылі такоя вытвыряіця. *Узмацн.* **Розуму** (розумам) **патрогацца.** Кылі ўжо вы розуму ні патрогыіціся, ні знаю, што з вас будзіць з гарелкыю зь естыю. Ні хачу я пра тых радзімцыў і тулкуваць, яны саўсім розумым патрогыліся.

**Розуму шукаць** (іскаць, пытаць, пытацца, спрашываць), *неадабр. Высвятляць бясспрэчнае, відавочнае, безумоўнае.* Надумыўся розуму іскаць сы сваёю сакою у дажджы, ці ў цябе ўремя ні було ныкасіць летым. Чаго ты розуму ішчыш як маліинькій. Нечыга розуму пытаць, чаго ў мяне твае ціпляты будуць,— у зяця вун пыпытай. Ходзіць пы дзяреўні, розуму пытаіцца. Што ён цяперіцька розуму спрашывыіць, тэя грошы даўно рызыйшліся.

**Росць уніз,** *жарт. Старэць.* Што мне пра дзевык слухыць, кылі я ўніз расту. Табе ішчэ рана росьць уніз.

**Росць у роце.** *Быць вельмі нясмачным.* Што йта зы бліны, яны ў році растуць. Ета Максіма раз угышчалі бабкыю, гаворіць, я ем, а йна расьцець у році. Ем, а яно пычынаіць у році росьць.

**Ротам і носам.** *З празмернай спешкай, стараннем.* Хвыталі сена ротым і носым, каб як у капёшкі ськідыць. Ротым і носым бяріціся за бульбу, вот-вот марозы ударюць.

**Рот да вушэй.** *Пра выяўленне на твары выключнага задавальнення.* Бягіць наўстречу, рот ду вушэй і ажно таіць. Во радысьці: рот ду вушэй, сіяіць увесь.

**Рот затыкаць,** *груб. Прымушаць маўчаць.* Во, рот зытыкаць будзіць, зытыканьнік такей. Ты мне рот ні зыты-

кай, я што думыю, то й скажу. *Зак.* **Рот заткнуць.** Думылі мне рот заткнуць, ды ні пулучылыся, як іх тая шмы́гля дукува́ла. *Множн.* **Раты пазатыкаць** (пазаткнуць). Як пычалі́ пры іх гываріць пра тую пряміцу, мігым раты пызытыкалі. Яны ўсім гатовы раты пызытыкаць, самі б толька рызіва́ліся. Нам пызаткнуць раты вы ня думыйця, ні ўдасца. *Гл.* З а т ы к а ц ь г о р л а.

**Рот не зачыняецца,** *неадабр.; цяп., пр. Пра празмерную балбатлівасць.* У Проські рот ні разу ні зычыня́іцца ні ны мінуту, нійдзе ні пымаўчыць. Вун успомні-ка, ікая Машка была, у яе ўсё рот ні зычыняўся. **Рот зачыняецца,** *цяп., пр.* А ці ў твае нявесткі рот калі зычыняіцца? Ня дужа рот зычыняўся у абеіх.

**Рот не зачыняць,** *неадабр. Балбатаць, быць балбатлівым.* Нійдзе рот ні зычыняіць, усё ўремя балбочыць як зывыдна́я. Кажыцца, як і сьпіць, рот ні зычыняіць.

**Роўным шчотам.** 1. *Зусім, абсалютна, дакладна.* У етый мех лезіць роўным шчотым чатыры с пылаві́ныю пу́ды. Цімку роўным шчотым нічога ні значыць што хочыш утварі́ць. Я знаю пра ета роўным шчотым столька, сколька ты. 2. *Усяго толькі.* Ты роўным шчотым зы пыпіра́шку служыш, первый куды пашлюць.

**Рубаха-парань.** *Просты, бескарысны, кампанейскі чалавек.* Зьмітрок быў рубаха-парінь, ён, бувала, у любой кымпаніі свой.

**Рубіць** (сеч) **з пляча.** *Гаварыць або прымаць рашэнні прама, адкрыта, не лічачыся ні з кім і не зважаючы ні на што.* Антон ні на кога ні глядзеў, рубіў с пліча любому-кажныму, яму ўсе былі роўныя. Уга́рістый быў мушчына, усім пыдряд сек с пліча. *Зак.* **Атрубіць** (адсеч) **з пляча.** Атрубі́ла с пліча і стаіць: на́ во, ці смашна сымаму́ слухыць. Ён дужа ні пысьцісьняіцца і стыршыне аць-сякець с пліча. *Аднакр.* **Рубануць** (секануць) **з пляча.** Як рубанець с пліча, усе за голывы хвытаюцца. Ні падумыўшы сікану́лі с пліча, ніхай ба ета пастройчына пыстыяла.

**Рукамі і нагамі.** *Усімі наяўнымі сродкамі* (заступацца, абараняць). Рукамі і ныгамі усе зы яе сталі: ні дадзім Машку ў абіду. Чаго ж яшчэ Аксюта рукамі і ныгамі зы яе зуступаіцца?

**Рукамі не дастаць,** *жарт., рэдкаўж. Не атрымаць прамога доступу.* Івана цяперя рукамі ні дыстаць, у зіцях у первыга выраці́лы. Яго, брат, рукамі ні дыстаніш, ён стаў шышка дый шышка.

**Рука набіта.** *Пра наяўнасць навыкаў, вопыту.* Харошыя мысьцяры́ аса́джывылі вокны, ого, як у іх рука набіта. Яму ні нада ні ву́рывінь, нічога, у яго крепка рука набіта. *Гл.* Н а б і в а ц ь р у к у.

**Рука не дрогнець** (не задрыжыць), *буд., пр. Пра рашучасць пры выкананні жорсткага ўчынку, прысуду.* Ён жа быў тыкая злаўредзіна, што захочыць — зьдзелыіць і рука ня дрогніць. Я б такому гылаву аткруціў ба і рука б ня дрогнула. Хочыш, смылянець уноччы, у яго і рука ні зыдрыжы́ць. **Рука дрогнець** (задрыжыць), *буд., пр.* А па-твойму, у Мікілая ны такоя дзела рука б дрогнула? Німа, наверна, на сьвеці такея га́дысьці, ны якую ў яго зыдрыжыць рука.

**Рука не паднімаецца** (не падымаецца), *цяп., пр. Пра стан нерашучасці пры неабходнасці выканання жорсткага ўчынку, прысуду.* Як такога пырасёнка порціць, у мяне рука ні пыднімаіцца. Я знаю, што прі́дзіцца і бярёзкі сеч, дык жа рука ні пыдымаіцца. У нас ува ўсіх рука ні пыдымалыся ны сад. **Рука паднімаецца** (падымаецца). Як у цябе рука пыднімаіцца тварі́ць такоя? У яго на ўсё рука пыдымаіцца. *Зак.* **Рука не паднімецца** (не падымецца), *буд., пр.* Як ты ні ўвіряй, а ў мяне рука ні падніміцца ны чылавека,— ну любога. Пыстыялі мы, пыстыялі, ні ў кога рука ні пыднілася. Не ўжо, еткыю цёлычку резыць у мяне рука ні падыміцца, ні ўгыварівый дайжа. **Рука паднімецца** (падымецца), *буд., пр.* Ета зьверь, а ні чылавек: у каго ж ба рука пыднілася стріляць пу людзя́х. Ну ты во стой, ну як жа ў каго рука падыміцца што зьдзелыць.

**Рука ў руку** (воб руку). *Разам, у згодзе, пры поўным узаемаразуменні і ўзаемадзеянні.* Раншы ў іх було тэй туды, тэй туды, а цяперь усё ўремя рука ў руку. Іх хлопцы ўсігда і ўсюдых былі рука воб руку. Нада дзействывыць рука воб руку.

**Рукі адказываюцца,** *рэдкаўж.; цяп., пр. Пра поўную немагчымасць дзейнічаць.* Ізьвесна, чаго ў цябе рукі атказыюцца, ны вічарінку пыра сыбірацца. У яго рукі

усігда атказывыліся ат усякія работы. *Зак.* **Рукі адказаліся,** *пр., буд.* Рукі аткызаліся ат еткыга дзела, раз яно упусту́ю. Папробый зь імі пыработый, і ў цябе рукі атка-жуцца.

**Рукі апускаюцца** (атваліваюцца, ападаюць, павісаюць), *цяп., пр. Пра знікненне жадання, ахвоты рабіць.* Як падумыю пра етый піряезд, рукі апускаюцца, ні за што ні магу ўзяцца. Пыгляджу́: хіньню ідзець дабро, рукі ат усяго атваліюцца. Дзелылыся тут ні так, як нада, таго і рукі атва́лівыліся. Ня відзіш — ну ня відзіш, а ўвідзіш — і ў цябе рукі пычану́ць апыдаць. А твае рукі чаго пывіса́юць? — тваім рукам, кажыцца, нечыга пывісаць. Сколька разоў пывісалі рукі, а посьлі ўзноў неік бяресься. *Зак.* **Рукі апусціліся** (атваліліся, апалі, павіслі, звіслі), *пр., буд.* Рукі ў нас апусьці́ліся, як скызалі пры такей случый. А есьлі рукі апу́сьцюцца, дык, думыіш, луччы станіць? Ай, што тут возьмісься дзелыць, кылі рукі атваліліся, ні пры якыю ныпра́ву я ня думыю. Пулучыла пісьмо, рукі апа́лі, айдзе што ў гылаву пойдзіць. Пачулі мы такоя нішча́сьця, рукі павісьлі ува ўсіх, ні к чаму прітронуцца ня хочыцца. Наслухыісься грызьні́ етыя, рукі павіснуць, самі ніхай дзелыюць. Рукі, гаворіць, зьвісьлі, нашто яно што ёй. *Узмацн.* **Рукі паапускаліся** (паапусціліся, паатваліваліся, паатваліліся, паападалі, пазвісалі, пазвіслі), *пр., буд.* Рукі пыапуска́ліся саўсім, ні к чаму мы і ні прітронуліся. Ну як жа рукі ні пупуска́юцца, кылі дзелыіш-дзелыіш, а ён ня пішыць нічагенічка. Мы сталі, рукі пыапусьціліся і самі ні знаім, за што брацца. Увы ўсякыга рукі пыатва́лівыліся б на іх месьці. Вы толька зірніця на еткыю работу, дык рукі пытвалівыюцца. Ні таго рукі пытваліліся, што цяжола, а таго, што учы́тыіць ніправільна. Пыапыдалі нашы рукі, ня то дзелыць, а й глядзець у тэй бок ня хочыцца. Другей раз рукі пыапыдаюць, што саўсім ня возьмісься ні за што. Што дзелыць, куды кінуцца, рукі пызьвіса́лі, сталі і ні зь места. Відзім, што ляжыць біз рячэй, у нас рукі пазьвісьлі тама.

**Рукі атняліся,** *рэдкаўж. Пра страту жадання, ахвоты рабіць.* У любога б рукі атняліся, хто б ня ўвідзіў такую пустую работу.

**Рукі атняло** (атабрала), *пр., буд. Пра страту жадання, ахвоты.* Дык што, есьлі ўзя́ліся ахотна, як Мыланка

скызала такоя, у нас рукі атняло. Зыкалён, што ў яго ні ў якой бядзе рукі ні атніміць. І ні хачу, і ня буду нічога трогыць, у мяне рукі атыбра́ла, як глянуў на іхнію жысьць.

**Рукі гараць,** *цяп., пр. Пра надзвычайнае жаданне зрабіць.* Қылі рукі гыря́ць, зьдзержу німа ім, ідзі ды дровы пыськіпа́й. У цябе даўно рукі гарелі на ета дзела.

**Рукі зачапіць.** *Знайсці занятак.* Трошку хадзіў дарожнікым, а посьлі рукі зычапіў на мельніцы, гады два буўта́ўся. Қалі ўжо рукі зычапіць німа за што, ета ня жызьня тыкая. *Незак., адзінк.* **Рукі чапляць.** Ні за што ня хочыць рукі чыпляць, так, біньдзюга́іцца.

**Рукі звязаны.** *Пра адсутнасць магчымасці дзейнічаць па свайму жаданню.* Яму некуды кінуцца, у яго цяпера етымі палю́гымі рукі зьвязыны. *Гл.* В я з а ц ь р у к і.

**Рукі кароткі.** *Пра адсутнасць улады, права, моцы.* Нату́рыю сьвет ба загрёб, ды рукі кароткі. Рукі ў цябе кароткі зьдзелыць што-небудзь Саўчонку, а быразьні́ць пустоя нечыга.

**Рукі накласць** (налажыць). *Скончыць жыццё самагубствам.* Луччы рукі нылажы́ць, чымся зьвязывыцца с такімі. Сямейка дык сямейка, пыжывеш — рукі ныкласьць захочыш. І самі ні прідумыім, вума ні прікладзём, чаго іна рукі тады нылажыла. *Незак., рэдкаўж.* **Рукі накладаць** (накладываць). Тру́дна — ня трудна, а ня будзіш жа рукі ныклыдаць. Прішлося — хуць рукі з горя ныклыдай. Усяк буваіць, і дужа цяжола буваіць, дык ні ыкла́дывыць жа будзіць рукі. *Гл.* Н а к л а с ц ь н а с я б е р у к і.

**Рукі не атваляцца** *(у каго), буд., пр. Нічога не здарыцца (з кім).* А ты вазьмі дый зьдзелый, раз табе скызалі, рукі ні атвалюцца. Қаб і бульбу рызыгна́ў, рукі ні атваліліся б. *Узмацн.* **Рукі не паатваліваюцца** (не паатваляцца) *(у каго), буд., пр.* Ну і што, есьлі буракі вы́кыпыіця, рукі ні пытва́ліюцца. І рукі ў вас ні пытвалівыліся, і самі вы цэлы, і дровы упыря́ччыны,— во і ўсё хырашо. Вот відзіця, цэлы-здаровы, рукі ні пытваліліся.

**Рукі не бяруць,** *цяп., буд. Пра поўную адсутнасць ахвоты, жадання, поўную апатыю да спраў.* Я рышчысьля́ю, ні нада будзіць етый гарод, ці прі́дзіцца папользывыц-

ца,— дык і рукі ні бяруць палоць. Ехыць зьбіраўся, аттаго рукі ні бралі дзелыць што. *Зак.* **Рукі не возьмуць.** Я знаю, што ў цябе скора рукі ня возьмуць, дык дзелый скарей.

**Рукі не даходзяць,** *цяп., пр. Пра немагчымасць прыняцца за справу з-за няхваткі часу.* Ды я знаю, што там плутаніна большы некуды, а рызыбрацца рукі ні даходзюць. У вас усігда ні ды чаго рукі ні дыхадзілі. **Рукі даходзяць,** *цяп., пр.* А ці ў цябе рукі дыхадзілі ды ўсяго, як ты была на хвермі. *Зак.* **Рукі не дайшлі,** *пр., буд.* Скора атріманьцірыю, ета пакуля рукі ні дайшлі. Знаю, што нада брацца, ды рукі ніяк ня дойдуць. **Рукі дайшлі,** *пр., буд.* Калі ў цябе рукі дойдуць ды тае пунчыны, іна ж уся цякець як у решыта.

**Рукі не замачыць,** *адз., мн. Нічога не рабіць, не мець схільнасці да працы.* Ага, дажджэсься ат яе помычы, іна табе рукі ні замочыць за дзень. Век прыжылá — рук ні зымачыла, ён сам усігда ўсюдых і ў мушчынскыю, і ў бабскыю работу.

**Рукі не туды** (не ў тэй бок) **служаць** (глядзяць, павернуты), *неадабр.; цяп., пр. Пра няўменне, няздольнасць зрабіць як належыць.* За што ні бярецца, усігда ў яго рукі ні туды слýжуць. Глянь-ка, як ён пычынаіць калоць, рукі ні туды глідзяць. Айдзе ж яно будзіць пулучацца, кылі рукі ні туды павернуты. Калі ні браўся за што, усігда рукі ня ў тэй бок служылі. Во работыіць, у яго ж рукі ня ў тэй бок глідзяць. Можа табе нада ны каго другога пулюбувацца, ці ні ў твайго вун брáцца рукі ня ў тэй бок павернуты.

**Рукі-ногі атваліваюцца** (атнімаюцца). *Пра вялікую слабасць.* Ікая тута сіла, ікая змыга, рукі-ногі атвалівыюцца, зы травіну зычаплюся і валюся. Трі шагі ступлю і рукі-ногі атваліюцца, саджуся аддыхаць. Пряма ні знаю, што йта са мною: рукі-ногі атнімаюцца і ўсё. *Зак.* **Рукі-ногі атваліліся** (атняліся), *пр., буд.* Калі нічога, а другей раз рукі-ногі атвалюцца, сяджу, чуць дышý. Трошку пукулупáўся, рукі-ногі атнялíся, во і ўвесь работнік зь мяне. *Узмацн.* **Рукі-ногі паатваліваліся** (паатнімаліся), *пр., буд.* Так мы хвыталі, так сьпяшылі, што к канцу рукі-ногі пытвáлівыліся, чуць пыўскацíліся ны калёсы. Сколька таго жніва було, а рукі-ногі пытнімаліся, сядзім і бядуім, як двору валоцца.

**Рукі памыць,** *адзінк. Абрадавацца, зрабіць з ахвотай.* Кылі за ету кыравёнку даюць шэсьць сот, ніхай рукі памыіць і аддасьць.

**Рукі прычаляць.** *Знаходзіць занятак.* Работнік зь мяне ні ахці якей, ну трошку ж і я рукі прічыля́ў. *Зак.* **Рукі прычаліць.** Усё неік ідзець на звод, рукі прічалі́ць не к чыму. Як рукі прічэліш айдзе, і то луччы, чым нічога ня дзелыўшы. *Узмацн.* **Рукі папрычаліць.** Толька рукі пыпрічалілі, а работа — ікая там была работа.

**Рукі развязаліся,** *пр., буд. Пра атрыманне поўнай свабоды.* Як я рад, што рукі рызьвізаліся, і цяперя я ні ат кога ні завішу. Жду — ні даждуся, калі ў мяне рукі рызьвяжуцца. *Незак., рэдкаўж.* **Рукі развязываюцца.** У цябе рукі рызьвязывыюцца, пріедуць і зыбяруць мальгву́, а ў мяне клопытыў ды клопытыў. *Парайн.* Р а з в я з ы в а ц ь р у к і.

**Рукі** (руку) **не прасунуць** (не праціснуць). *Не ўшчаміцца, не ўладкавацца, не знайсці месца.* Чаго іх набілыся, што рукі ні прасунуць. Што, кылі мы паткну́ліся, тама рукі нійдзе ні праціснуць. Куды тут лезьць, кылі руку ні прасуніш нійдзе. Руку нійдзе ні працісьніш, людзей біткoм набіта.

**Рукі ў бокі.** *Ганарыста і задзірыста.* Ходзіць рукі ў бокі, ніхто яму ня ровін. А што яму, рукі ў бокі прагу́лііцца і ўсё. Рукі ў бокі і пашоў у скокі.

**Рукі ў брукі.** *Без працы, без заняткаў, без справы.* Пыха́джыіць рукі ў брюкі, што яму дзелыіцца. Рукі ў брюкі і пасьві́стывыіць, узяцца за што ні пріту́ркыіш.

**Рукі чэшуцца** (свярбяць), *цяп., пр., буд. Пра жаданне неадкладнага дзеяння.* Калі рукі чэшуцца, схадзі вун прібярі троху хворыст. Даўно рукі чысаліся на тэй асіньнічык. Каму ета рукі сьвярьбелі раськідывыць ета гайно, ліжа́ла ў кучы — ніхай ба ліжала. Есьлі рукі дужа будуць сьвярьбець, бульбы ныцігаіш. *Пачын.* **Рукі зачасаліся** (засвярбелі), *пр., буд.* Рукі зычысаліся ны рябінкі, што лі За́ліўкіныга аборка. Ніхай увідзіць такоя кольля, зразу рукі зысьвірьбяць. *Непаўн.* **Рукі пачасаліся** (пасвярбелі), *пр., буд.* Ніхай, рукі пачэшуцца і ася́дзіцца. Тыкая лашчы́на была, рукі ў Лаўріна пысьвярьбелі. *Законч.* **Рукі адчасаліся** (адсвярбелі). Большы ён нічога ня хочыць, рукі аччыса́ліся. Аცьсьвярьбелі рукі, большы і ні

зыка́іцца ні пра што. *Працягл.-фінальн.* **Рукі начасаліся** (дачасаліся), *пр., буд.* Сколька ў іх рукі нычыса́ліся, ты дажа ня можыш пріста́віць сабе. Пыдажджы, пыдажджы, дачэшуцца рукі, вот-вот уні́місься і замреш.

**Ручацца галавою.** *Брацъ на сябе поўную адказнасць.* Ручаюся гылавою: мы яго вы́відзім на чыстую ваду. Ручацца гылавою ні стану, ну цьвёрда помню, што сюды ключы клаў.

**Рыла** (морду) **заварачываць,** *груб. Адмаўляцца, выражаць нязгоду.* Што ні скажы, дык ры́ла зывыра́чыіць, глядзі, зарю́хыіць. Другога чаго не, а зывырачывыць рыла наўчыўся. Айдзе ён табе паслухыіць, морду зывырачыіць і ўсё. *Зак.* **Рыла** (морду) **завярнуць.** Гашка піряд ім макым рыссыпа́іцца, а ён рыла зывярнуў. Заверніць рыла, надмецца як індык і сядзіць. Кылі што ні па ём, зразу пызна́ім: морду заверніць як сыч. *Узмацн.-множн.* **Рылы** (морды) **пазаварачываць.** Ці ты ні знаіш, чаго яны етык рылы пызывыра́чывылі. Настолька красіва рылы пызывырачывылі, што крысівей ні прідумыіш. Пызывырачывылі морды, нашто я так на іх нявестку скызала. Стыяць, як нейкія куклы, морды пызывырачывылі. *Працягл.-фінальн.* **Рыла** (морду) **назаварачываць.** Нызывырачывыіш рыла, нызывырачывыіш, кармі яго і паі́, а ён будзіць рюхыць. Нызывырачыіць рыла, як крошкі ні палучыць, тады ніхай атвыра́чыіцца. Нызывырачыіць морду, што ны яго дайжа ніхто глядзець ні захочыць. *Гл.* Атварачываць нос; Атварачываць морду.

**Рыльца ў пушку** (пуху). *Пра таго, хто мае дачыненне да чаго-н. асуджальнага.* Сярьгей пыма́ўкывыіць, таго што ў сымаго ры́льца ў пушку́. У яго ўсігда рыльца ў пуху: ня ў тоя, дык у тоя зыма́жыць.

**Рыць калодзеж,** *жарт., рэдкаўж. Рыхтаваць непрыемнасці.* Гыварілі, што ты пат кума ры́іш калодзіж, ці праўда ета? *Зак.* **Вырыць калодзеж.** Ты б, можа, і вырыў ім калодзіж, ну ў цябе сыбразі́цільнысьці ні хваціць. *Параўн.* Рыць яму.

**Рыць носам,** *іран. Капрызіць, перабіраць.* Доўга будзіць рыць носым, ёй жыніха пыдыбраць нялёхка. *Пачын.* **Зарыць носам.** Я зразу чуствывыла, што зарыіць носым, дужа ўедныя, дыгадзіць трудна. *Непаўн.* **Парыць**

**носам.** Ніхай, парыіць носым дый асядзіцца, спакой на́йдзіць. *Узмацн.* **Нарыць носам.** Нары́лі носым, пакуля пыдыбралі сабе ды пары. *Законч.* **Атрыць носам.** Атрыла носым, цяперя і Сірьгяёнык харош, як ніхто большы глядзець ня хочыць. *Працягл.-фінальн.* **Дарыць носам.** Дарыіць носым, што ны яе ніхто ні зірнець і нікому нада ня будзіць.

**Рыць яму** (ямку, магілу). *Рыхтаваць пагібель.* Сват ім і рыіць яму, нягож хто. Пірістань рыць ямку чылавеку, сам у яе так ускочыш, што ні агледзісься. Ня рый ямку другому, сам у ёй ачынесься. Каторый год рыюць магілу Пітраку. *Зак.* **Вырыць яму** (ямку, магілу). Ты ўжо даўно вырыў цётычкі яму, глядзі толька сам ні ўскачы. Самі сабе вырылі яму. Сабе вырый ямку, любіў ба ты людзей тапіць. Ні гатоў людзям, можыш сабе вырыць магілу. *Працягл.-фінальн.* **Нарыць** (дарыць) **яму** (ямку, магілу). Нары́іця яму, такую пілю́лю самім пацсунуць, што тады ўвідзіця. Нарыюць ямку, самі пыглідзяць, што нарыюць. Вот і нарылі другім магілу, самі ні знаюць, як вы́брыцца сь пятлі. Буваіць і такоя, што дарыіць яму, так ускочыць, што ня выскрібіцца. Дарыіця ямку, самі якея-небудзь піряломы дыжджыцёся. Ну, дарылі магілу, ці вам ні гыварілі людзі, што так можыць пулучыцца. *Гл.* К а п а ц ь я м у.

**Рэдзьку рваць.** *Злосна сварыцца.* Ты кыла лугу ішоў, верна, чуў, каторыя там редзьку рвала, ці ні Іваныва большыя.

**Рэдзьку сеяць,** *рэдкаўж. Уносіць разлад.* Доўга сеілі редзьку пы дзяреўні, пакуля я сустрела ды ныстрамі́ла як нада. *Зак.* **Рэдзьку пасеяць.** Вот шмыкыдзя́ўка, усюдых няймецца ёй, ужо ў Тырасывых редзьку пасеіла.

**Рэзаным** (дурным) **матам.** *Нема, роспачным галасам, гучна.* Пыглядзі-ка выйдзі, чаго яны тама резыным ма́тым крічаць аж ырву́цца. Іду, чую: крічыць резыным матым, дай-ка, думыю, гляну, што там. Нечыга рызрывацца дурным матым.

**Рэзацца на нажах,** *неадабр. Пастаянна сварыцца, будучы ў варожых узаемаадносінах.* Як толька сойдуцца ўмесьці, так і пашлі резыцца ны ныжа́х. *Непаўн.* **Парэзацца на нажах.** Летыся лета яны парезыліся ны ныжах, пакуля разьехыліся. *Гл.* Н а н а ж а х.

**Рэзаць без нажа.** *Ставіць у безвыходнае становішча.* Аднымі дура́мі біз ныжа режуць, на вуліцу стыдна выйціць. *Зак.* **Зарэзаць без нажа.** Зарезыў, пряма біз ныжа зарезыў ты мяне і больша нічога. Біз ныжа ты мяне зарежыш, так дзелыўшы. *Законч.* **Прырэзаць** (дарэзаць) **без нажа.** Яны такея сталі акыя́нныя нейкія, біз ныжа прірежуць адною зьвя́гыю. Ня то пыспыгыда́юць, а дарежуць біз ныжа еткімі расходымі, гылышом астанісься, як стаіш, і больша нічога.

**Рэзаць вушы.** *Быць вельмі непрыемным для слыху.* Такея песьні любому режуць вушы. Табе дайжа яе голыс режыць вушы, а ці даўно ты улігáў за ёю. *Аднакр.* **Разануць вушы.** Ета ўсім різанула вушы, што йна збалдзіла ні падумыўшы. *Гл.* В у х а р э з а ц ь.

**Рэзаць на горкае яблыка,** *рэдкаўж. Бязлітасна лупцаваць.* Сколька разоў резыў яго бацька на горькыя яблыка, а дзень-два пройдзіць — і ўзноў зы сваё, ні ка́іцца, нейкыя пряма уредства у яго ўелыся. *Гл.* З б і в а ц ь н а г о р к а е я б л ы к а.

**Рэзаць па жывому.** *Вырашаць груба, неабдумана, у спешцы.* Нада, падумыць, размы́сьліць, што і як палу́чыцца, а резыць пы жывому — ета ня дзела. *Аднакр.* **Разануць па жывому.** Різанеш пы жывому ні падумыўшы, а посьлі будзіш жалець: нашто так дзелыў.

**Рэзаць** (сеч) **па вачах.** *Моцна сарамаціць.* Мішку ўсігда крепка резылі ў Добрым пы вычах, хвытала яму. Цётка ні сьцісьня́іцца, так режыць пы вычах, што ўраз сьціхаюць. *Аднакр.* **Разануць** (краянуць, секануць) **па вачах.** Так різанула Каця яго пы вычах, што храбрысьцьць уміг айдзе толька дзелыся. Нада було крыянуць хырашэнька пы вычах, кылі ён усякыю совісьць пыціряў. Як сіканула пы вычах бульбыю летышнію, зумурува́ўся.

**Рэшата бобу.** *Лухта, бязглуздзіца.* Ныгывáріў решыта бобу, што ат яго путноя пачуіш. Айт, рызговоры етыя — решыта бобу.

# С

**Сабака здохнець,** *жарт.; цяп., пр. Пра нечаканае, надзвычайнае.* Сыбака здохніць, калі яны рызагну́цца купіць ёй пріборы. Сыбака б здох, каб ты ды прымі-ну́ў вічарінку.

**Сабак не ксціць** (не хрысціць), *іран., рэдкаўж. Не ўступаць ні ў якія ўзаемаадносіны.* Мне з Максімым сыбак ня ксьціць, што я муўча́ць дылжна́. Я ні сь кім зь імі сыбак ні хрясьціў раншы і ні сыбіраюся цяперя. **Сабак ксціць** (хрысціць). А ці зь Зьмітраковымі сыбак ксьціць? Нягож, я з вамі сыбак хрясьціла, я дужа дылжна́ вам. *Гл.* Шчанят не ксціць.

**Сабак сцярэжч,** *асудж. Гультаявац; займацца пустой, нікчэмнай справай.* І тэй быў гультай, а етый усіх акаснýў: сьцярёг ба сыбак дзень прі дні і большы нічога. *Непайн.* **Сабак пасцярэжч.** Яно й відна, што тваё серца дужа пря́гніць сыбак пысьцярежч. *Гл.* Пасвіць сабак.

**Сабаку з'есць,** *гумар. Набыць вялікі вопыт.* Ліксандра на етым дзелі даўно сыбаку зьеў. Яны сыбаку зьелі ны каровых, а ты іх бяресься ўчыць. Тут ні аднаго сыбаку нада зьесць, пакуля да толку дойдзіш. *Гл.* З'есць зубы.

**Сабаччую шкуру надзяваць,** *асудж. Паступаць бессаромна.* Нечыга сыба́ччыю шкуру ныдзіваць, рышшчыта́йся зь людзя́мі па-лю́дзку. *Зак.* **Сабаччую шкуру надзець.** Сыбаччыю шкуру надзець нада, каб с такою кармлётыю глядзець плотнікым у вочы. *Узмацн.-множн.* **Сабаччыя шкуры панадзяваць.** Яны даўно сыбаччыя шкуры пыныдзіва́лі, совісьці ў іх ні на грош ні було й німа.

**Сабаччыя вочы** (ачкі) **купляць,** *груб., рэдкаўж. Рабіцца бессаромным, рабіць бессаромна.* Ні купляй сыбаччыя вочы, чылавекым будзь. Можа айдзе й гаворюць сыбаччыя ачкі купляць, я ў нас ня чула. *Зак.* **Сабаччыя вочы** (ачкі) **купіць.** Яму сыбаччыя вочы купіць нядоўга, зы гарелычкыю куды хочыш пыбягіць. Ці ты сабе сыбаччыя ачкі купіў, ці што с табою стала? *Гл.* Рабыя вочы купляць; Рабыя ачкі купляць.

**Сабаччыя вочы** (ачкі) **пазычаць,** *груб., рэдкаўж. Праяўляць бессаромнасць.* І ты ўжо сыбаччыя вочы пызыча́ць надумыўся? Ксеньня Івану крічала: «Ці ні хадзіў ты сыбаччыя ачкі пызычаць?» *Зак.* **Сабаччыя вочы** (ачкі) **пазычыць.** Ён такей: сяньня ні зыця́гніш, а ныза́ўтря сыбаччыя вочы пазы́чыць і сам пыбягіць. Схадзі яшчэ і ты сыбаччыя ачкі пазыч. *Гл.* Рабыя вочы пазычаць; Рабыя ачкі пазычаць.

**Сабе на ўме.** *Хітры, вытрыманы.* Пятрок — тэй бясь хітрысьці, што думыіць, то й скажыць, а етый усігда сабе на ўме. Яны ўсюдых сабе на ўме, лішніга ні тріпануць.

**Сабірацца** (збірацца) **на тэй свет.** *Быць безнадзейна слабым, хворым.* Сілы німа, здароўя німа, асталыся толька сыбірацца на тэй сьвет. Ні гывари ты, ішчэ рана зьбірацца на тэй сьвет, пажыць нада. *Зак.* **Сабрацца на тэй свет.** Сыбраўся Максім на тэй сьвет: і вочы зыпалі, і голыс зьмяніўся.

**Сабраць вума** (памяці), *неадабр. Апусціцца да ўзроўню таго, хто ніжэйшы па жыццёваму вопыту, узросту, разумовых здольнасцях.* Ат яго можна чаго хочыш ждаць, ён сыбярець вума і ны вічарінку з мальцымі пабежч. Во малютычка, у дваццыць гадоў сыбраў паміці дзяцей дражніць. *Гл.* Розуму нахадзіць.

**С аганьком.** *З захапленнем, з запалам.* Во сяньня вы работыіця с ыганьком. Узяліся с ыганьком, ды скора астылі.

**Сагінаць** (гнуць) **у таган рог,** *рэдкаўж. Поўнасцю падпарадкоўваць.* Яго доўга сыгінали ў тыган рог, а ён і цярьпеў усё. Усіх іх гнуў у тыган рог, сколька жылі ўмесьці. *Зак.* **Сагнуць у таган рог.** Аттаго сагнулі ў тыган рог, што гылавы ны плічах ня ймеў. *Гл.* Сагінаць у дугу.

**Сагінаць** (згінаць, гнуць) **галаву.** *Выяўляць пакору, прызнаючы вінаватасць.* Не, ні даждуцца, каб я пірід усякім чортым сыгінала гылаву. Ня дужа яны цяперя стануць зьгінаць гылаву сьвякровым. Ці ты ўсё яшчэ гнеш гылаву пірiць Цімохым? *Зак.* **Сагнуць галаву.** Такім вогірім хадзіў і етык скора сагнуў гылаву. *Узмацн.-множн.* **Пасагінаць** (пазгінаць, пагнуць, пасагнуць) **головы** (галовы). Чуствыюць сваю віну, пысыгінали голывы. Не, ні такея яны, каб пызьгінаць галовы. Пызьгінали голывы, ходзюць як цені якея. Я нізаштычка б ні паверіла, што яны могуць так пагнуць галовы. Вогірьства іхнія трошку ўнялося, пысагнулі голывы. *Гл.* Схіляць галаву.

**Сагінаць** (згінаць, скручываць) **у дугу** (у тры пагібелі, у баранній (казіный) рог). *Поўнасцю падпарадкоўваць.* Як пычали сыгінаць у дугу, ён відзіць — толку німа, ды ходу аттуля. Мяне ты ня думый і ні зьбірайся

сыгінаць у трі пагібілі. Ніхай ба хуць на сьценку лез ці як хочыць ірзаў, я б ні даў так сыгінаць сябе у быраньній рог. Сыгінаюць іх у казіный рог, круцюць як хочуць імі. Сколька зьгінаў у дугу, пакуля сымаго скруцілі, штс ня пікніць. Зьгінаў ён цябе у трі пагібілі, і нечыга табе дужа хырахоніцца. Зьгінаюць яго у быраньній рог і ніхай зьгінаюць, раз пыддаўся. Яны і ні такіх вогіріў зьгіналі ў казіный рог. Чаго ж ён церьпіць,— етык скручыюць у дугу. У той сям'е зразу пычануць скручывыць у трі пагібілі. Скручывыюць у быраньній рог чылавека, а ён і ні тряпечыцца. Што ён скажыць, айдзе ён пікніць, есьлі скручыюць у казіный рог. *Зак.* **Сагнуць** (скруціць) **у дугу** (у тры пагібелі, у баранній (казіный) рог). Тама етык прыгыць ня будзіць, як тута, тама яго сагнуць у дугу. Яны могуць любога сагнуць у трі пагібілі. Мыкарёнка ні так проста ім будзіць сагнуць у быраньній рог. Відзіш, і такога сагнулі у казіный рог, яны ета ўмеюць. Пупусьціся — і цябе у дугу скруцюць. Каб усяго нямножка пыддаўся, мігым ба скруцілі у трі пагібілі. Ніхай ні храбрісца ціряшчур, скруцюць і яго у быраньній рог. Каб пупаўся, так ба ты ня вырвыўся, скруцілі б цябе у казіный рог і агледзіцца б ні далі. *Узмацн.* **Пазгінаць** (паскручываць, паскруціць) **у дугу** (у тры пагібелі, у баранній (казіный) рог). Вы й самі ўвідзіця, як вас пызьгінаюць у дугу, езьдзіць ны вас будуць. Яны думылі, што і нас пызьгінаюць у трі пагібілі. Пызьгінаюць вас тама у быраньній рог, рота ні рашчыніця дайжа. Пызьгіналі іх у казіный рог, яны пікнуць ня могуць. Хвашысты рашшчытывылі, што зы якей месіц паскручыюць нас у дугу, ды самі скруціліся. Паскручывыюць іх у трі пагібілі, няскора яны вырвуцца с такіх лап. Ні на тых пупалі, паскручывыць у быраньній рог тута ні ўдасца. Рашчот быў прастэй: адных паскручыіця у казіный рог, а другея вам ні памеха. Паскруцюць у трі пагібілі, што будзіця хадзіць і аглідацца. Як ета такіх атлётыў пускруцілі у быраньній рог! Пускруціць вас у казіный рог — што раз плюнуць, вы зы паўлітра прыдасьцёся. *Гл.* Гнуць у дугу.

**С аглядкаю.** *Асцярожна.* Ён усігда ўсё дзелыіць с ыглядкыю. С ыглядкыю едзь, каб на тых чарцей, ны ліснікоў, ні ныпароцца.

**Сагнаць** (нагнаць) **бочку** (сорак бочак) **рыштантаў.** *Збэсціць.* Такой пупадзіся толька на вочы, іна згоніць ны

цябе бочку рышта́нтыў. Нышатыріўся як павук і сядзеў моўчкі, а Прося сыгнала ны яго сорык бочык рыштантыў, пёрла, што на́ рыт лезла. Ідзі, кылі хочыш, слухый яе ці сваріся зь ёю, іна ныгнала бочку рыштантыў і пышла. Ці іх прайміш, кылі сорык бочык рыштантыў нагоніш, так, толька ну душэ пыляхчэіць. *Параўн.* **Бочка рыштантаў.**

**С агнём** (са свечкаю). *Ніякімі сродкамі (не адшукаць, не знайсці).* Як закінуць што куды, с агнём ні на́йдзіш. Схуваўся, што с агнём ні разы́йшчыш. Айдзе ж тая брытва, хут ты яе са сьвечкыю ішчы. Са сьвечкыю ні найдзіш вілык, як згарелі. *Параўн.* **Днём с агнём не найціць.**

**Сагнуўшы галаву.** *Пакорна, з адчуваннем вінаватасці.* Слухыіць сагнуўшы гылаву, стыдна вочы пыдняць. Знаіць кошка, чыё сала ўкра́ла, пашоў сагнуўшы гылаву.

**Садзіцца вярхом** (на плечы, шыю, горб, карак), *неадабр. Пачынаць жыць за кошт іншага; падпарадкоўваць іншага сваёй волі, сваім інтарэсам.* Сыдзя́цца вярьхом на етыга зяця, ён ім зы тря́пку служыць. Усім жа відна, што Аўдотка садзіцца табе на плечы. Ні хачу я садзіцца к Пітраку на шыю, пакуля сіла трошку ёсьць, буду тут клы́пыць. Самі ж відзіця, як сыдзяцца на горб, будуць пыгыняць, як захочуць. Анька ня ўмеіць даць атпору, аттаго і сыдзяцца ны карык, і езьдзіць будуць. *Зак.* **Сесць вярхом** (на плечы, шыю, горб, карак). Раз вярьхом селі, то ня жджы, каб самі пызла́зілі. Горя ёй будзіць: тыкая мыльгва́ села на плечы. Яны табе селі на шыю, а ты й вязеш, як дура. Дужа ныха́льный і бяссовісный, ся́дзіць к каму на горб, дык нялёгка спароць. Што ж ты пупусьціўся етык, што селі табе ны карык і ты вязеш. *Узмацн.-множн.* **Пасесць вярхом** (на плечы, шыю, горб, карак). Паселі вярьхом і пікнуць ні даюць. Калі муўчаць будзіш, пысядуць на шыю і пывязеш. Пыддаўся і пыддаўся, паселі на горб і ні злазюць. Як ім ня стыдна, паселі к стырікам ны карык, а тых саміх карміць нада.

**Садзіцца за адзін** (круглый) **стол,** *кніжн. Выражаць гатоўнасць да прымірэння, прыміраццa.* Ні так то скора зыста́віць іх садзіцца зы адзін стол. Садзіцісь-ка вы за круглый стол, дос дуцца. *Зак.* **Сесць за адзін** (круглый) **стол.** Ай, як яны селі зы адзін стол, міру ў іх ня будзіць.

Дывай-ка сядзім за круглый стол, нада нам путулкува́ць пы-чылавечыску. *Узмацн.-множн.* **Пасесць за адзін** (круглый) **стол.** Паселі б вы зы адзін стол, як ета вун дайжа з другімі дзіржавымі сыдзяцца. У іх уражды́ цяперя німа, паселі за круглый стол.

**Садзіцца макам,** *гумар. Трапляць у недарэчнае становішча.* Садзіліся вы ма́кым і піріц сваімі, і пірічужымі, вам ета ні ў пірьвіну́. *Зак.* **Сесць макам.** Ты б луччы пыдзівілыся, як Пёкла пірят кумым села макым.

**Садзіцца на галаву** (макушку). *Поўнасцю падпарадкоўваць сабе, сваёй волі.* Ні дывай ім садзіцца ны гылаву, заезьдзюць, сам аць сябе атрякесься. Што ён зьдзелыіць, кылі ныха́льна сыдзяцца ны маку́шку. *Зак.* **Сесць на галаву** (макушку). Ён табе скора сядзіць ны гылаву, а табе ўсё будзіць худзь ба што. Селі ны макушку і вірду́юць як самі хочуць. *Узмацн.-множн.* **Пасесць на галаву** (макушку). Раз паселі ны гылаву, то ня згоніць, будуць кымандывыць ім, як пыныравіцца. Яму зразу гываріл і, каб дзіржаў іх пыда́льшы аць сябе, а як пыся́дуць ны макушку, трудна будзіць згыняць, дый саўсім ня згоніць.

**Садзіцца на два сукі,** *неадабр. Брацца за дзве справы адразу без надзеі давесці да канца.* Ты ні раз абріка́лыся ўсё дзелыць пы пырядку, а ўзноў садзісься ны два сукі. *Зак.* **Сесць на два сукі.** Кылі сеў ны два сукі, дык, думыіш, у яго што палучыцца — і пуню ні дадзелыіць, і баня бяс крышы зызіму́іць.

**Садзіцца на дзесяць** (сем) **сукоў,** *неадабр. Брацца за некалькі спраў адразу без надзеі давесці да канца.* Чаго ты зразу садзісься на дзесіць сукоў, ты хуць адно ды кынца дывядзі. Ні нада садзіцца на сем сукоў, як тая тырадэйка, ты сьпірва воўну дыпрядзі. *Зак.* **Сесць на дзесяць** (сем) **сукоў.** Ну й шылахвост: ізыком на дзесіць сукоў ся́дзіць, а на дзелі нічога ня зьдзелыіць. Як сядзіш на сем сукоў, можыш ні на дном ня ўдзержыцца.

**Садзіцца на душу.** *Падпарадкоўваць з прыніжэннем.* Саўсім знаглеў чылавек, садзіцца ім ну душу, стыда ні паўстолька німа. *Зак.* **Сесць на душу.** Трошку пупусьціся, і зразу сядуць ну душу, тады ат іх нічым ні атаб'есься.

**Садзіцца на зямлю.** *Пераходзіць да сталага занятку*

*земляробствам.* Адзь дзяреўні атырваўся, большы ён садзіцца ны зямлю ня думыіць. *Зак.* **Сесць на зямлю.** Як ацслужыў службу, шмыгыкнуў ат'етуль, доўга шытаўся пы гырыдах, пы прыізводствых, а посьлі вайны сеў ны зямлю, гаворіць: ныравіцца ў дзяреўні. *Гл.* А с я д а ц ь н а з я м л е.

**Садзіцца на мель.** *Трапляць у вельмі цяжкае становішча.* А ці мне плáкыць пычынаць, кылі ён садзіцца на мель. *Зак.* **Сесць на мель.** Сеў на мель, дык маўчыць, як саўсім ня тэй чылавек. *Узмацн.-множн.* **Пасесць на мель.** Ірзáлі, ірзалі і дырзаліся, паселі на мель і спакой зразу найшоўся.

**Садзіцца на сваё места.** *Прызнаваць уласную неправату.* То тоя, то тоя сытваріць, ну дужа ні тпірáіцца, садзіцца ны сваё места. *Зак.* **Сесць на сваё места.** Снычала быў зыпылíў, прічом тут я, а посьлі сеў ны сваё места. *Узмацн.-множн.* **Пасесць на сваё места.** Ты скажы ім пры скыпáныя грядкі, яны як мілінькія пысядуць ны сваё места.

**Садзіцца на свайго канька.** *Пачынаць гаварыць пра сваё любімае.* Чую, што Аўсей садзіцца ны свайго кынька, ня скора зьлезіць. *Зак.* **Сесць** (уссесць) **на свайго канька.** Есьлі ўжо сеў ны свайго кынька, ні піряслухыіш, хочыш — усю ноч будзіць трілюды рызвадзіць. Ты яму дай толька усьсесьць ны свайго кынька, ён сябе пыкажыць.

**Садзіцца на хлеб і ваду.** *Пачынаць харчавацца вельмі сціпла.* Ну й садзіціся на хлеб і ваду, ці ны вас якей дурак ірвацца нойдзіцца. *Зак.* **Сесць на хлеб і ваду.** Я ды цябе дыбяруся, уніму я цябе, як сядзіш у мяне на хлеб і ваду, тады дурікі айдзе дзенуцца. *Гл.* П е р а х а д з і ц ь н а х л е б і в а д у.

**Садзіцца не ў свае сані.** *Брацца не за сваю справу.* Тута кругом пынятна, што ён садзіцца ні ў свае сані. *Парайн.* Ні ў свае сані ні садзісь. *Зак.* **Сесць не ў свае сані.** Відзіш, як яно пулучаіцца, калі ні ў свае сані сеў. *Узмацн.-множн.* **Пасесць не ў свае сані.** Мікіта вам зразу пряма гывакріў, што вы паселі ні ў свае сані.

**Садзіцца** (перахадзіць) **на свой хлеб.** *Пачынаць жыць самастойна.* Пыра на свой хлеб садзіцца, у стырікоў ні хваціць змагі зыбясьпечывыць вас. Вы́бухыліся ладныя

лабрэты, на свой хлеб піріхадзіць нада. *Зак.* **Сесць** (перайціць) **на свой хлеб.** Сеў на свой хлеб, дык асьціпяніўся, пры сям'ю думыіць. Мы як піряйшлі на свой хлеб, у мяне і ну душэ пыляхчэла. *Узмацн.-множн.* **Пасесць** (паперайціць) **на свой хлеб.** Пысядзіця на свой хлеб, тады ўжо рыспыріджайціся як хочыця. З намі бацька доўга ня чыкыўся, мы рана пыпіряйшлі на свой хлеб.

**Садзіцца ў лужу** (калошу, калош). *Ставіць сябе ў недарэчнае, смешнае становішча.* Ня первый раз яму садзіцца ў лужу, усігда выска́кыіць зь ізыком, як сыбака с хвастом. Раз ні пынімаіш тута, што ды чаго дзелыіцца, садзіся ў калошу. Пулюбуйсь-ка, як твой друг садзіцца ў калош. *Зак.* **Сесць у лужу** (калошу, калош). Так сеў Міця ў лужу, што сам сабе ня веріць дайжа. Нізашто я́ны ня думылі, што так ніажы́дынна сядуць у калошу. С пырысятымі Грішычка сеў у калош. *Узмацн.-множн.* **Пасесць у лужу** (калошу, калош). Паселі ў лужу, дый здорыва, уся дзяреўня хахочыць зь іх. Глядзіця, глядзіця, пыся́дзіця ў калошу, астрейкыўцы ня лы́кым шы́ты, іх трудна правесьць у чом-небудзь. Ай-я-яй, як вы паселі ў калош, нашто вам було брацца зы такоя дзела.

**Садзіцца ў свае сані.** *Брацца за тое, да чаго здатны.* Нада ўсігда садзіцца ў свае сані, што можыш дзелыць, за тоя й бяріся. *Зак.* **Сесць у свае сані.** А ці ў свае ж ён сані сеў, твой Стасік. *Узмацн.-множн.* **Пасесць у свае сані.** Қылі вы пысядзіця ў свае сані, то можа якей толк палучыцца, а так ня відна толку. *Гл.* С а д з і ц ц а н е ў с в а е с а н і.

**Садзіць** (саджаць) **за адзін** (круглый) **стол,** *кніжн. Прымаць захады да прымірэння.* Трудна еткіх чарцей садзіць зы адзін стол. Ты пыдзівілыся б, як яны Машку с Сашкым садзілі за круглый стол. Қаторыя ўремя сыджаюць іх зы адзін стол, мірюць. Я пыдзіку́юся, як ты іх будзіш сыджаць за круглый стол. *Зак.* **Пасадзіць за адзін** (круглый) **стол.** Айдзе ты Пуўлючынят с Қындратывымі пасодзіш зы адзін стол. Во каго яны пысадзілі за круглый стол! *Працягл.-фінальн.* **Насадзіць** (насаджаць, дасадзіць, дасаджаць) **за адзін** (круглый) **стол.** Нысадзіла йна Манькіных зы адзін стол, грызу́цца ўжо за нешта. Нысадзіў за круглый стол, пу́шуць абоя сымаго. Нысыджа́іш, нысыджаіш за круглый стол, палучыш ласку ат усіх ат іх. Во дысадзіў зы адзін стол, ці відзіш, што

пулучыў сам. Тэй дысыджаў зы адзін стол, большы у такую кашу ні палезіць. І ты дысыджаіш за круглый стол, самі грызьліся, самі ніхай і рызьбіраюцца. *Гл.* Садзіцца за адзін стол.

**Садзіць** (саджаць) **на мель.** *Ставіць у вельмі цяжкае становішча.* Каго яны зьбіраюцца садзіць на мель? Цяперя Аніська атахоціцца сыджаць на мель. *Зак.* **Пасадзіць на мель.** Пысадзілі на мель, дык ён цяперя ні знаіць, у якей бок дзьвінуцца ці рýхнуцца куды. *Працягл.-фінальн.* **Дасадзіць** (дасаджаць) **на мель.** Дысадзілі на мель, што каб самім хто памог зьдзьвінуцца. Дысыджаіш на мель, можа сымаго прідзіцца сьцягыыць якім крюкым, як сядзіш. *Гл.* Садзіцца на мель.

**Садзіць** (саджаць) **на места.** *Сунімаць, супакойваць.* Зразу садзі на места, ато слабінку пачуствыіць, тады ў руках ня ўдзержыш. Ісак цябе ні раз сыджаў на места, асікаў ладна. *Зак.* **Пасадзіць на места.** Як вазьму ремінь, пысаджу на места, і зыняція будзіць, і ўсё. Зразу нада пысадзіць на места, тады яны і захвосьціну забудуць, ато дужа рызыйшліся.

**Садзіць** (саджаць) **на плечы** (шыю, горб, карак). *Ускладаць клопаты па догляду і забеспячэнню.* Што ты мне содзіш на плечы такую абýзу, сабе вазьмі. Ні садзі ім на шыю яшчэ свае заботы, яны хадзіць ня ўздоліюць і так. Нашто ён содзіць нам на горб сваіх мáлых, некылі нам глядзець за імі. Самім ня хочыцца дуріцца, дык сáдзюць усіх Веркі ны карык. Нашто ж ета, каб так було — ваш тлум і сыджаць нам на плечы. Што вы, хочыця і етых сыджаць нам на шыю? Хваціць ны наш карык сыджаць, самім нада троху біспакоіцца пры сваіх дзяцей. *Зак.* **Пасадзіць на плечы** (шыю, горб, карак). Пысадзілі нам на плечы сваё горя, і кукуйся цяперь зь естым дзіцёнкым. Яны даўно хацелі нам пысадзіць на шыю нявестку. Глядзі, пасодзюць на горб, тады будзіш рукамі рызвадзіць ды рызвадзіць. Пысадзілі ны карык бяду, вазіся, дыглідай. Хочыш, пасодзіць ны карык сваіх друзей, яны мне дужа горька нада. *Гл.* Садзіцца вярхом.

**Садзіць** (саджаць) **на хлеб і ваду.** *Карміць вельмі сціпла.* Даўно ты грозіш садзіць на хлеб і ваду і кажныя раньня яешню жаріш. Сыджай на хлеб і ваду, тады яны зразу пыспыкайнеюць. *Зак.* **Пасадзіць на хлеб і ваду.**

Я ні мяса, а я пра́нцыў ба яму пыднісла такому, пысадзіла б на хлеб і ваду — во што яму було б у мяне. *Гл.* Садзіцца на хлеб і ваду.

**Садзіць** (саджаць) **у лужу** (калошу, калош). *Ставіць у недарэчнае, смешнае становішча.* Ужо ні сышчыта́ць дайжа, сколька цябе садзілі ў лужу. Каго там садзіць у калошу, не сь кім тама зьвя́зывыцца. Многа хто пробывыў садзіць яго у калош. Не, мой дыражэнькій, ні табе мяне сыджаць у лужу. Вот куды ні паткнецца ш чым, яго сыджають у калошу. *Зак.* **Пасадзіць у лужу** (калошу, калош). Тырас усё шчытаў сіксіліён, ма́кдзіліён, фру́ктыліён, пакуля яго Зьмітрок ні пысадзіў у лужу. Ён выскычыў, думыў, пыка́жыць сябе, а яго тут і пысадзілі ў калошу. Увідзіш, як пасодзюць яго січас у калош. *Працягл.-фінальн.* **Насадзіць** (дасадзіць) **у лужу** (калошу, калош). Насодзіш ты ў лужу, сыджа́ньнік еткій. Ну хто ж ні знаіць, колькіх ты нысадзіў у калошу. Нысадзілі ў калош, нысадзілі, вы хітрей усіх і большы ўсіх знаіця. Дысадзіў у лужу, маўчыць, сам сядзіць па шыю. Ты ўсіх дасодзіш у калошу, табе ета раз плюнуць. *Гл.* Садзіцца ў лужу.

**С аднаго маху.** *Адразу, за адзін прыём.* Во сіла ў чылавека нямерныя — с ыднаго ма́ху самыю сукува́тыю калоду рысса́джывыіць. С ыднаго маху семсот мынахыў.

**С азоў,** *кніжн. З самага пачатку.* Ніхай ны каго хочыць ідзець, яму ўсюдых нада пычынаць с азоў. Етыя троху знали тоя-сёя, а Паўлюк пычаў с азоў.

**Сала пашло па зашкур'ю,** *неадабр.; пр., буд. Пра свавольства, балаўства, юрлівасць.* Не, баба, німа с табою пуця́, у цябе, знаць, сала пашло пы зашку́рью. Есьлі сала пашло пы зашкурью, трудна тады ўняць. Пыдажджы́, вот-вот сала пойдзіць пы зашкурью, ныгарю́ісься зь ім. *Незак., адзінк.* **Сала ідзець па зашкур'ю.** У цябе даўно сала ідзець пы зашкурью, нада табе шукаць унім. *Гл.* Жырыкі точаць.

**Салома** (мусар, смяццё) **ў галаве,** *абраж. Пра адсутнасць развагі, розуму.* Я сколька помню, дык у яго ўсігда салома ў гылаве. Калі му́сыр у гылаве, толку ня йшчы тады. Як жа веріць еткыму ветріньніку, есьлі ў яго сьмяцьцё ў гылаве. *Гл.* Мякіна ў галаве.

**Саломенная ўдава.** *Жанчына, якая часова не жыве з*

*мужам.* Анюта січас саломінныя ўдыва, яе нейдзі езьдзіць, лёхкыга хлеба ішчыць. Жывець саломінную удавою, аж ат людзей ніпрія́тна.

**Самае большае** (бальшое). *Не больш чым; не пазней чым.* Самыя большыя трі сотні ты возьміш і ўсё: пацьцёлык ня дужа пазорный. Самыя большыя пыдажджом ды за́ўтріга. Самыя бальшоя цірізь нядзелю будзіць тут.

**Самае крайняе.** *Не пазней чым.* Я дыла яму срок, каб са́мыя кра́йнія посьлізаўтріга варочыўся. Ну ніхай ён пацерьпіць самыя крайнія чатырі дні, а посьлі што ж, аддыва́ць нада.

**Самае што.** *Якраз.* Са́мыя што во ўрімя пасьпеў, толька зьбіраліся за стол садзіцца. Самыя што січас пыка́шывыць.

**Самі з вусамі** (с усамі). *Пра наяўнасць здольнасцей, магчымасцей, не горшых, чым у іншых.* Нечыга пу́лі зыліва́ць, мы самі з вуса́мі, рызьбярёмся. А яны самі с усамі, у тваіх пытка́зкых ні нужда́юцца.

**Самі ногі носяць,** *цяп., пр. Пра лёгкасць, імклівасць у хадзе.* Цябе, знаць, самі ногі носюць, і старысьць табе ніпачом. Як мне було дваццыць, тады і мяне самі ногі насілі, а ў семдзісят патпорка нада. *Параўн.* Н о г і н о с я ц ь.

**Сам не свой,** *м., ж.; адз., мн. Пра расхваляванасць, узрушанасць.* Такея піріжывы́ніі, што цэлыю нядзелю хадзіў сам ня свой. С самыга раньня сыма ні свыя,— ну як жа, баіцца, каб ня кінуў. Мы зайшлі, а яны самі ні свае, сідзяць, ташну́юць: што зь естым мальцым будзіць цяперя.

**Сам па сабе,** *м., ж.; адз., мн. Самастойна; адасоблена.* Ш шысна́ццыці гадоў жывець сам пы сабе. Ня сь кім дужа ня хочыць ку́чыцца, усюдых сыма пы сабе. Яны самі пы сабе, а я сыма сабе, німа ні сквілу, ні зводу. Самі пы сабе жывём, помышчы мы нічые ня просім.

**Сам сабе хазяін** (гаспадзін, пан, галава, гаспадар). *Пра незалежнасць, самастойнасць.* Адзьдзяліўся, халу́пчыну ські́дыў, ікая ня жызьня, дык сам сабе хызяін. Піліп — сам сабе гыспадзін, яму і чорт ні брат. Жывець, сам сабе пан, нікога прізныва́ць ня хочыць. Пры Івана

ты ні гывáрі, ён сам сабе гылыва. Як стаў сам сабе гыспыдáрь, вун сколька гоныру прібáвілыся.

**Сам сабою,** *м., ж.; адз., мн.* 1. *Самастойна, без намаганняў.* Сам сабою еткій даміна ня строіўся. Жывець сам сабою і нікога прізнывáць ня хочыць. Сыма сабою іна ні прідýмыла б етыга ўсяго. Вы ўсігда нешта самі сабою, вам ні разу ніхто ні нада. 2. *Без дазволу, самавольна.* Сам сабою ня дзелый, спрасіць нада. Як жа вы самі сабою возьміця, украдзіця ці што?

**Сам у сабе** (сябе). *Фізічна і духоўна развіты.* Ён хлопіц сам у сабе, ім любая дзеўка ні пагребыіць. Іван мушчына сам у сабе, тріпацца абы-зря ні станіць. Хлопіц сам у сябе, сымыстыя́цільный.

**Сам чорт.** *Абсалютна ніхто.* Там ба сам чорт за трі гады ні рызыбрáў, што яны за трі месіцы нытварілі. Сам чорт ня пойміць, што ён к чаму трілю́дзіць.

[Сам] **чорт галаву** (шыю) **зломіць** (зламаець, звернець, скруціць), *буд., пр. Пра немагчымасць разабрацца.* У етым тваім пырядку сам чорт гылаву зломіць. Тута сам чорт гылаву злумаў ба, а пырядку б ні прістáвіў. Айдзе ў еткій куламесі што найдзіш, у ёй сам чорт гылаву зьверніць. Сам чорт гылаву скруціць у етым ражэньні. Я ні знаю, што тама, ну Йван гываріў, што ў іхніх дзілах сам чорт шыю зломіць. Луччы ты ня ўмешывыйся, зь ім і сам чорт шыю злумáіць. Сам ба чорт шыю зьвярнуў перша чым рызыбрáцца у іхній хеўрі. Пы твайму снуджэньню лезьць — дык сам чорт шыю скруціць. Чорт гылаву зломіць і ні рызьбярецца, а ня то Колю туды пысылáць. У вас тута чорт гылаву зьверніць, яно ж усё тута чуць ліпіць. Чорт шыю злумаў ба і ні пыняў, нашто яны ўсё ета гырадзілі. Луччы ня йдзі й ня лезь, там і чорт шыю зьверніць — ня пойміць. Ты як аб'ясьніш, дык чорт шыю скруціць, каб пыняць, што ды чаго.

[Сам] **чорт мазкі звернець** (скруціць, выкруціць), *рэдкаўж. Пра немагчымасць разабрацца.* Што ў вас твáріцца, у важ жа сам чорт мазкі зьверніць. а толку ні даб'ецца. Як запутыюць, то сам чорт мазкі скруціць, а ні распутыіць. Сам чорт мазкі вы́круціць, перш чым пойміць, чаго ім хочыцца. Ты як піряверніш дыгары ныгамі, то й чорт мазкі зьверніць — ні рызьбярецца. Не, думыю, тута чорт мазкі скруціць, ніхай самі расхлёбыюцца.

[Сам] **чорт нагу зломіць** (зламаець, пераломіць, пераламаець, паламаець, паломіць), *буд., пр. Пра немагчымасць разабрацца.* У вашым роілі сам чорт нагу зломіць. Я тама і рызьбірацца ні стаў, тама сам чорт нагу злумаў ба. С тваімі аб'ясьненьнімі сам чорт нагу піряломіць, а ні найдзіць. Як жа тут іскаць, тута сам чорт нагу пірілума́іць. У вашым пырядку сам ба чорт нагу пулумаў. Ну вас і з вашыю пунію, у ёй сам чорт нагу паломіць. С табою рызьбіра́цца — дык чорт нагу зломіць. Ні палезу я ў ета рыгазьзё, тута і чорт нагу злумаіць. Ныгырадзі́лі, ныставілі ўсяго, што чорт нагу піряломіць. Чорт нагу пірілумаіць, пакуля вы́біріцца ат'етуліцька. Тама зь еткім громыздым чорт нагу пулумаў ба. Посьлі, як твае прія́ччыкі пыхызяйствывылі, дык ба чорт нагу пыламіў перша чым рысхліба́цца.

[Сам] **чорт не брат.** *Пра таго, каму шанцуе, лёгка даецца.* Лёніку сам чорт ні брат, раз у яго Лыўрінок цесьцім. Ты стала быгачкыю, цяперя табе сам чорт ні брат. Ды я віджу, што твайму дзядзічку ужо чорт ні брат, уна́цкыўся у Дуброву езьдзіць.

**Самый раз.** *Якраз у меру.* Мне етыя баці́нкі самый раз, вазьму. Кажыцца, нямнога, а самый раз несьць, большы і ні дынясеш. Самый раз выхадзі́ць, пад вечыр ні так жарка. Міцік табе самый раз будзіць — луччы пару гультаёў і ні пыдбяреш.

**Самый сок,** *жарт. Вышэйшай якасці.* Яго гады — самый сок, відзіш, красуіцца чылавек. Дзеўка — самый сок, ёй ішчэ підзьдзісяці німа. *Парайн.:* Раз ня сы́пліцца пясок, значыць, возрыст — самый сок.

**Сарвацца з языка.** *Нечакана быць выказаным, сказаным.* Я й ня думыла нічога гываріць, яно само неік сырва́лыся зь ізыка. *Незак., адзінк.* **Сарвывацца** (зрывацца) **з языка.** А ты слухый і думый, ніхай ні са́рвыіцца зь ізыка. У цябе стала зрывацца зь ізыка ня тоя, што нада.

**Сарваць** (атарваць) **галаву.** *Пакараць вельмі сурова.* Сь цябе даўно нада було сырваць гылаву, тады б ты ні адурюва́ў етык, пыспыкайнеў ба. Дажджэцца, сарвуць гылаву с такою ухва́ткыю. Зь яго вы́дзілкымі я атырваў ба гылаву і сыбакым вы́кінуў, ніхай ба тады папры́гыў, як хацеў. *Незак., рэдкаўж.* **Сарвываць** (атарвываць) **галаву.** Многа ты ўжо са́рвывыў гылаву з бысякоў сваіх.

Гылаву нада атáрвывыць за ўсё ета. *Узмацн.-множн.*
**Пасарвываць** (пасарваць, паатарвываць, паатарваць) **голавы** (галовы). Зь іх каб толька голывы пысáрвывыў, і большы нічога ні скажыш. Так вы ні прыжывіцё, пысарвуць вам голывы, тады самі ўвíдзіця. Ну ета ж галовы пысырваць мала зы такоя адурювáньня! Я б ім голывы пытáрвывыў, каб толька пупаў. Як голывы пытарвуць, вы і тады ні пыкáіціся. Ён вам галовы пытарьвець, ніхай толька дызнáіцца.

**Са свету.** *З далёкіх краёў, невядома адкуль.* Мы дайжа ні знаім, аткуль Аўрам, ён неткуль са сьвету. Нешта ён дужа скора прікаціў са сьвету.

**Са** (с, з) **усёю душою.** *Шчыра, адкрыта, даверліва.* Са ўсёю душою к ім, а яны зысьвістáлі, што глумакí нейкія. Чаго ж ёй нос вярнуць, Пятрок жа с усёю душою пыдыйшоў. Яны ўзяліся, я віджу, з усёю душою. *Гл.* З ч ы с т а й с о в е с ц ю.

**Са** (с, з) **усіх канцоў.** *Адусюль.* Са ўсіх канцоў сыпліцца, тут ні пірісыпáць, а нада новыя што субугорівыць. Зьбегліся с усіх канцоў, за дзень бульбу схвацілі. З усіх канцоў цякець зь яго і плувець, як ач чорта з балота, пылядзíця ны яго.

**Са** (с, з) **усіх ног.** 1. *Вельмі шпарка, імкліва.* Прíпусьцíлі са ўсіх ног, цірізь мінуту ўжо былі ніізьвесна айдзе. С усіх ног ляснуў ат Мыланкіных. Ого, як прíпýсьціць с усіх ног! Кытанулі з усіх ног, толька пяткі зыблішчэлі. 2. *Раптоўна (упасці).* Брязь са ўсіх ног і ляжыць. Лі прясла с усіх ног ля́снуўся, чуць атрітувáлі. Конь з усіх ног, а ён ціріз гылаву кýмільгым, як толька жывэй астаўся.

**Са** (с, з) **усіх сіл,** *радзей адз. Вельмі старанна, напружана, імкліва, гучна.* Узя́ліся са ўсіх сіл, дык к вечыру і ўся работа зьдзелына. Ірваліся, ірваліся са ўсіх сіл, столька нада було пірівярнýць усяго. Са ўсёй сілы цягнуць, а толку ні на грош ні́якыга. Ты с усіх сіл стыря́йся, цягніся з мыладымі разым, ну, а што зь естыга. С усіх сіл даў дзёру. Ну чаго ён тама крічаў с усіх сіл? Мы з усіх сіл цягнулі, чуць усьцягнулі. Ляцелі у бок кустоў з усіх сіл. З усёй сілы кытануў г бані.

**Са** (с, з) **усяго** [белага] **свету.** *Адусюль.* Сы ўсяго сьвету госьці к ёй сыбіраюцца. Знаць, с усяго сьвету пы-

сходзіліся, во ета свадзьба! У Зяціцы такея кірмашы́ бувалі, кажыцца, с усяго белыга сьвету молыдзіж сходзілыся. Ты пріцягніш сваіх друзей з усяго белыга сьвету. *Параўн.* З б е л а г а с в е т у.

**Са** (с, з) **усяго пляча.** *Моцна, з сілай.* Сы ўсяго пліча як урежыць таму, ён і с капы́льля далоў. С усяго пліча як пу́сьціць каток! З усяго пліча рызма́хыіцца: ну, хто сьледуюшчый, пытхадзі.

**Са скрыпам.** *З цяжкасцю, вельмі павольна, неахвотна.* Так, са скрі́пым паслухыў, нешта яму дужа ні хацелыся. У Лаўріна са скріпым дзела пыдзьвіга́іцца.

**Са слоў.** *Па чыйму-н. выказванню.* Што ж ён гаворіць са слоў, сам ён нічога ня відзіў. Хвалі́цца ня буду, сыма я нічога ня чула, пірідаю табе са слоў Максіма.

**Саслужыць службу.** *Аказаць паслугу.* Суслужы́ў мне Пракоп слу́жбу, ну яго. Мы ж яму пымыгалі, дык ніхай і ён саслу́жыць службу.

**Са спакойнай совесцю** (душою). *Чэсна, сумленна.* Мы паехылі сы спакойный совісьцю, чаго нам було трівожыцца. Я ета дзелыю сы спакойныю душою, я знаю, што так нада. *Гл.* З ч ы с т а й с о в е с ц ю.

**Са стараны.** *Без асабістай зацікаўленасці; не тутэйшы.* Свайму ўсігда сваё баліць, ны такоя дзела нада глядзець сы стыраны́. Сы стыраны прішоў, прістаў у зяці тут і акыпіру́ваўся. Ён сы стыраны браў сабе жонку, з-зу Дубровы неткуль прівёз.

**С атрада.** *Ніколі, праз усё жыццё, ад самага нараджэння.* С ытрыда́ ня чула, каб хто еткія трілюды нёс. С ытрыда быў акыя́ньнік і астаніцца ды кынца жызьні акыяньнікым.

**С атроддзя,** *неадабр. Ад самага нараджэння.* Ай, удаўся такей с атродзьдзя, ні пірявучыш і ні пірядзелыіш цяперя.

**Са ўрэменем** (урэмем). *Пазней, пасля.* Са ўремінім можа й абрузумі́цца, а січас нейкій як жыць ні зьбіраіцца. Са ўремім і ў іх ныладзіцца ўсё.

**Сашчамліваць** (сашчапліваць, сашчапляць, сціскаць, зжымаць) **зубы.** *Трымацца, мацавацца, праяўляць вытрымку.* Есьлі што ні так, ён сышча́млііць зубы, ну дзір-

жацца ўмеіць. Я ўжо віджу, што тут луччы сышча́плівый зубы і ні слова ні гывары. Сышчыпля́йця вы зубы ды йдзіця паціхіньку, нервы ня рьвіця. Ні раз мне пріхадзілыся сьціскаць зубы, жыўшы зь імі. Як пычынаіць шубуцець, іна жжыма́іць зубы,— тады яму слова ні гывары. *Зак.* **Сашчаміць** (сашчапіць, сціснуць, зжаць) **зубы.** Ну другога, кажыцца, ён ба там іх разьнёс, ато сышчаміў зубы і пашоў. Ай, сышчапі ты зубы, ня лезь ты ў ета пекла. Ну раз сьцісьніць зубы, другей раз, а большы ён цярьпець дуроў ня будзіць. Жжаў я зубы: ну вас к радзімцым, дзелыйця вы, што хочыця. *Узмацн.-множн.* **Пасашчамліваць** (пасашчаміць, пасашчапліваць, пасашчапіць, пасціскаць, пасціснуць, пазжымаць, пазжаць) **зубы.** Што ж яны пысышча́млівылі зубы, тут муўчаць нілізя. Вы́дзіржка крепкыя ў хлопцыў, што пасышчамілі зубы ды так прашлі́. Ета ім було ні ды вас, ато б яны ні пысышчаплівылі зубы, далі б разгон. Я знаю, чаго яны пысышчапілі зубы. Луччы вы пысьціскайця зубы, нашто вам кылытня́ тая. Нялёхка ім було пасьціснуць зубы, у іх гордысьці многа. Пыжжымалі зубы, муўчалі, толька пыглідалі коса у тэй бок. Пыжжалі зубы і ац стыда, і адз злосьці, толька зьдзелыць нічога ні маглі.

**Сашчапліваць** (сашчэплівацъ, сашчапляць) **рукі,** *узвыш. Паміраць.* Сколька ні жыві, а рукі сышча́плівыць прі́дзіць урамя. І рукі буду сашчэплівыць, дык етыга ні забуду. Ці ня думыіш ты рукі сышчыпля́ць, мыя ку́мухна? *Зак.* **Сашчапіць рукі.** Саўсім німа сілы, скора сышчаплю рукі, доўга я ні прыцягну́. Як рукі сашчэпіш, тады толька думыць пра ўсё пірістаніш. *Узмацн.* **Пасашчапліваць** (пасашчэплівацъ, пасашчапляць, пасашчапіць) **рукі.** Пысышча́плівыць рукі пасьпеіця, нада і ны зямле троху пажыць. Мае падругі, што ў дзявоцтві гулялі разым, пысашчэплівылі рукі. Пысышчыпля́ім рукі і мы, сколька нам цягнуць. Пысашчэпім рукі і нічога нам ні нада будзіць. Вот-вот пысашчэпім рукі, нашы гады дужа бальшэя.

**Сашчапя** (сашчапіўшы) **рукі.** *Без нічога, без набытку.* Буду валхві́ць-валхвіць і пайду сышчыпя́ рукі. Як астанісься сышчапі́ўшы рукі, тады хуць кінь хуць клін.

**Свабодна** (вольна) **ўздыхнуць.** *Адчуць аблягчэнне.* Сыма я ні знаю, калі я цяперя свабодна ўздыхну́, зьвізалі рукі етыя дзеці, саўсім зьвізалі. Вы́брыліся яны, дык

я хуць вольна ўздыхнула, прасьвет стала відзіць у жызьні.

**Свае мазкі** (свой вум, свой розум) **укладаць** (укладываць, устаўляць). *Наводзіць на розум, дапамагаць зразумець.* Свае мазкí уклыдаць нялёхка, ад дурукá розуму трудна дабіцца. Ай, табе свае мазкі ўкладывыць нада ны кажным шагу. Свае мазкі ўстыўляць я ім ня буду. Укладывый ты ім свой вум, тады яны жыць будуць. Што вы яму, свой вум устыўляіця ці што? Як жа я свой розум буду ўклыдаць яму? Нада свой розум устыўляць, ён ды сырыка гадоў будзіць у несмысьліх хадзіць. *Зак.* **Свае мазкі** (свой вум, свой розум) **укласць** (уставіць, улажыць). Табе ніхто свае мазкі ні ўкладзець, сам шывялí. Сколька ты ні гывары, а свае мазкі ўкласьць цяжола. Сваіх мазкоў ня ўложыця і нечыга што думыць тут. Я б і хацеў табе свой вум укласьць, дык табе ж усё як гарохым ап сьценку. Укладзі яму свой вум, кылі ён як палка дроў. Свой вум яму ўстаўця, кылі хочыця. Уставіць свой розум нілізя. Свой розум у яго пустую гылаву ня ўложыш. *Узмацн.* **Свае мазкі** (свой вум, свой розум) **паўкладаць** (паўкладываць, паўстаўляць). Ну што, ты думыў, што свае мазкі ім пыўклыдáіш? Не ўжо, я ім пыўклáдывыць свае мазкі ні бяруся. Свае мазкі ні пыўклыдаіця, якея радзіліся пустадомкі, такея і зьвякýюць. Хут ты сколька талкуй, дык сваіх мазкоў ні пыўстыўляіш. Каб ты меншы стырялыся свой вум ім пыўклыдаць, яны б скарей асьціпяніліся. Не, мыладыя, свой вум ніхто вам ні пыўклáдыіць, зь ветрым на сьвеці ні прыжывіцё. Ні зьбірайся і ні зыгáдывый, што нáўчыш нечым, свой вум ні пыўстыўляіш. Каб жа я ўмеў свой розум ім пыўклыдаць. Ныпрасна стыряўся свой розум у пустэя голывы пыўкладывыць. Сколька ні дукýй, сколька ня ўчы, а свайго розуму ні пыўстыўляіш.

**Свае** (сваёй) **крыві.** *Родны.* Ну ён жа яшчэ свае крыві, ну як жа так можна гывaріць. Ні глядзіць, што сваёй крыві, пачом зря крыіць. *Гл.* С в а я к р о ў.

**Сваім вумом** (розумам, галавою). *Самастойна.* Хвядос усё ныбывáў сваім вумом, ты ні гывары, чаго ня сьледыіць. На сьвеці нада жыць сваім розумым. Есьлі сымыстыяцільный, то будзіць жыць сваёю гылавою, таго пустадомка ні паслýхыіць.

**Сваім гарбом.** *Уласнаю працай.* Што само ў рукі пры-

плувець, ета ня тоя, цэнна, што сваім гарбом прідба́іш. І рышча́пыный віньцік нада сваім гарбом нажыць.

**Сваімі вачамі.** *Непасрэдна, візуальна.* Мы ўсё ета сваімі вычамі відзілі. Пакуля сваімі вычамі ня ўвіджу, я вам ні на нохыць ні паверю.

**Сваімі славамі** (словамі). *Ва ўласнай перадачы.* Ты ні сьпяшы́, рыскажы сваімі слыва́мі, як ты пыняў. Я так ні сумею, як іна, я сваімі словымі пірідам.

**Сваім парадкам.** *Як звычайна.* Такоя дзела пойдзіць сваім пырядкым, што тут доўга руссусолівыць. Нашто ж пычшта́рівыць, яно сваім пырядкым ныладзілыся.

**Сваіх не пазнаць.** *Атрымаць адчувальна.* Пракоп лі цябе як паходзіць, ты сваіх ні пызнаіш, прія́ччык. Дай, каб сваіх ні пызнаў, а ні дуріся, як зь дзіцёнкым. Другей раз пупаду тут, дык сваіх ні пызнаіця.

**Свая кроў.** *Родны.* Другей раз дывядзець — ні знаю, што зьдзелыла б, а тады падумыіш: свыя ж кроў. Як што ніхай ні гаворіць — ніхай сабе, помніць, што свыя кроў.

**Свая рука.** *Абаронца, заступнік.* У яго свыя рука ў горыдзі была, крепка яго падзьдзержывылі. Свыя рука ныйшлася, вы́звылілі, ато быў крепка ўліп.

**Светам варочаць.** *Мець вялікую ўладу і карыстацца ёю неабмежавана.* У тэя гады ён сьветым варочыў, быў тута галоўным рыспырядзі́цілім. *Непаўн.* **Светам паварочаць.** Яны пыварочылі сьветым, думылі, век іх уласьць будзіць, а во аселіся. *Узмацн.* **Светам наварочаць.** Ныварочылі сьветым уволю, пакуля сырваліся, рідавымі ходзюць. *Законч.* **Светам атварочаць.** Атварочыў сьветым, ціха сядзіць, а раншы нос драў во як. *Працягл.-фінальн.* **Светам даварочаць.** Ніхай пыўла́ствыіць, дыварочыіць сьветым, што абарьвецца.

**Свет варочаецца,** *цяп., пр. Пра надзвычайныя падзеі.* Бува́ла, сьвет варочыіцца, войны, ідуць адзін ны днаго, то там стріляюць, то там б'юць, страху хвытала. Многа мы піріжылі́ у жызьні, сьвет варочыўся ат усяго ўсякыга.

**Свет гарыць,** *цяп., пр. Пра ініцыятыўнасць.* Ета з Валодзькі сьвет гаріць, большы ні с кога, ён там зы Сажом і прыпыда́іць. Мы самі знаім, с каго сьвет гареў. *Пачын.* **Свет загарэўся** (узгарэўся, разгарэўся), *пр., буд.* Зь іх сьвет зыгареўся, ніяк ні маглі ўспакоіцца. Зь яго ішчэ

ні адзін раз сьвет зыгаріцца. Там і було пра што тулкуваць — нескылька дошчычык абзоістых, ета із-за іх і ўзгареўся сьвет. Посьлі свадзьбы сьвет рызгареўся: нехта ні так пыглядзеў ны яе ўборы.

**Свет заграбаць,** *асудж. Брацць, хапаць без меры і сумлення.* Ета ні такей чылавек, што ўпу́сьціць што-небудзь, ён сьвет зыгрібáіць. *Зак.* **Свет загрэсць.** Яны гатовы сьвет загресьць, ніяк ні ныжáдыюцца. *Узмацн.* **Свет пазаграбаць** (пазагрэсць). Дай толька волю, дупусьці́ — сьвет пызыгрябуць адж жáднысьці. Сьвет ба пызыгряблі́ і ні разу ня будуць сыты.

**Свет застаўляць** (загараджываць). *Рабіцца нечаканай перашкодай на жыццёвым шляху.* Ніхай яны ціха едуць, ні нада ім сьвет зыстыўля́ць. Што ты гародзіш пустоя, як ета Аўсяёнык сьвет табе зыгырáджыіць. *Зак.* **Свет заставіць** (загарадзіць). Мы табе сьвет ні зыставілі, а што ты ня ўмеіш пы-чылавечыску жыць, хто ж табе вінуват. Рады будуць, кылі чылавеку сьвет зыставюць. Зыгырадзілі яму сьвет, нікуды ні паткнецца. *Узмацн.* **Свет пазастаўляць** (пазаставіць, пазасланяць, пазасланіць, пазагараджываць, пазагарадзіць). Па-мойму, ня тэя вам сьвет пызыстыўлялі, што вы думыіця. Ну як жа мы вам сьвет пызыставілі, скажыця. Чаго яны табе так сьвет пызыслынялі? Пызысланілі вам сьвет мáзылыўцы, яны вам толька і на ўме стыяць. Пызыгырáджывылі дзяўчонкым сьвет, як радзімцы якея. Дужа мы ўжо вам сьвет пызыгырадзілі. *Працягл.-фінальн.* **Свет назастаўляць** (назасланяць, назагараджываць). Многа яны Івану сьвет нызыстыўлялі, ён сам із-зы гарелкі ці відзіць калі тэй сьвет. Нызыслыня́іць сьвет, я яго нызыслыняю. Ты знаіш, як ты сьвет нызыгырáджыіш? — не, ты йшчэ етыга ні знаіш. *Гл.* З а с л а н і ц ь с в е т.

**Свет зачыніўся,** *пр., буд. Пра неадольныя перашкоды.* Ходзіць, усё дно як яму кругом сьвет зычыні́ўся. Ну ці табе сьвет зачы́ніцца на етым аторьві, ці табе людзей ня будзіць? *Незак., рэдкаўж.* **Свет зачыняецца.** Ны кáплю якога ўбы́тку, а ёй ужо пычынаіць роіцца, што сьвет зычыняіцца.

**Свет зачыняць** (закрываць). *Рабіцца неадольнай перашкодай на жыццёвым шляху.* Ніхай яны ні выду́мывыюць, ніхто ім сьвет ні зычыня́іць. Табе Стах пычаў зыкрываць сьвет. *Зак.* **Свет зачыніць** (закрыць). Ці Іван

адзін на сьвеці, што ён так зычыніў табе сьвет. Нічога ты ня відзіш, усё дно як табе хто закрыў сьвет. *Узмацн.* **Свет пазачыняць** (пазачыніць, пазакрываць, пазакрыць). Ні так вам ужо сьвет пызычынялі, як вы гаворіця. Яны і сьвет пызычыніць ні пысьцісьня́юцца. Самі сабе пызыкрывалі сьвет і большы ніхто. *Працягл.-фінальн.* **Свет назачыняць** (назакрываць). Нызычыняіця вы сьвет Сямёнывым, яны вас прыздра́вюць хырашэнька калі-ні-бу́дзь. Нызыкрываў сьвет, ну й ладна, ну й хырашо.

**Свет клінам** (на клін) **не сыйшоўся** (не сыйшоў). *Пра наяўнасць выбару.* Ны каўшоўскіх ма́льцых сьвет клі́ным ні сыйшоўся, ні такея ўжо яны рыззылатэя. Пакуля сьвет кліным ні сыйшоў, будзіць і ёй чылавек. Ішчэ сьвет на клін ні сыйшоўся, ня будзіць тэй — другей на́йдзіцца. Ны Лаўріну сьвет на клін ні сыйшоў. **Свет клінам** (на клін) **сыйшоўся** (сыйшоў). Ці вам у етый дзяреўні сьвет кліным сыйшоўся? Во, дужа буду па іх пла́кыць, сьвет мне на іх кліным сыйшоў. А ці на ім адным сьвет на клін сыйшоўся?

**Светлая галава,** *звыч. іран. Разумны.* Во дзьві́ніцца сьветлыя гылыва, січас усё як па ні́тычкі рызьвядзець.

**Свет не відзеў.** *Пра незвычайныя з'явы, прадметы, якасці і г. д.* Такіх атря́х, як вы, сьвет ня відзіў. Што там гываріць, еткыга ішчэ сьвет ня відзіў. *Зак.* **Свет не ўвідзець.** Большы такой дураты́ сьвет ня ўвідзіць.

**Свет прахадзіць.** *Усюды бываць, шмат падарожнічаць.* Мыладзейшымі троху яны сьвет прыхадзілі, іх усюдых було поўна. *Зак.* **Свет прайціць.** Ён ужо сьвет прашоў. Сьвет прайдзі, такога ня ўвідзіш. Зы нядзелю яны сьвет пройдуць. *Узмацн.-множн.* **Свет папрахадзіць** (папрайціць). Праку́дзістыя хлопцы, яны сьвет пыпрыхадзілі. Сьвет папройдуць, а свайго ня ўпу́сьцюць, даб'юцца, што задумылі.

**Свету белага не знаць.** *Быць празмерна занятым, цяжка працаваць.* А ніхай яно і ж жы́сьцю такою, ні хачу я такея жысьці — жыць і сьвету белыга ні знаць. Яны так ужо стыряюцца, хвыта́юць, што ні знаюць свету белыга. *Гл.* Не відзець свету.

**Свінней** (сабак) **не пасвіць** (не пасцівіць), *іран. Не мець патрэбы ні ў якіх узаемаадносінах.* Мне зь імі сьвіньней ні па́сьвіць, ніхай хуць і пызыхлыну́цца адз

злосьці. Мільлянёнык с табою сьвіньней ні пасьцівіў. Я с табою сыбак ні пасьвіў і нічога табе ня должын. З вамі ніхто сыбак ні пасьцівіў. **Свінней пасвіць** (пасцівіць). А ці я зь імі сьвіньней пасьвіў. А што, мы с табою сьвіньней пасьцівілі ці што? Во каб жа я с тваім сыным сьвіньней пасьцівіў, тады б ты гываріла. *Гл.* Шчанят не ксціць; Пасвіць сабак.

**Свой брат.** *Блізкі, сябра.* Міхалка свой брат, відзіў, ня відзіў, а будзіць муўчаць. Ета свой брат, прі ім усё можна гывяріць.

**Святая прастата,** *кніжн. Просты, наіўны, бясхітрасны.* І Томка твыя сьвітáя прыстытá, хто што тріпанець, іна веріць.

**Святым духам.** *Невядома як.* А ты думыіш, Сямёну ўсё сьвятым дýхым дыстывáлыся? Сьвятым духым нійдзе ні прыжывеш, за дзела нада брацца.

**Святэй** (святый) **Лотра,** *іран. Гультай, абібок.* Вун сьвятэй Лотра рысхáджыіць, думыіць, зы яго работыць будуць. Во хто быў сьвятый Лотра, такей ламень, што сьвет ні сустрюкáў.

**Секунда ў секунду** (секундачка ў секундачку). *Надзвычай дакладна.* Раз Антончык скызаў, ён прідзіць сікунда ў сікунду. Во відзіш, якей точный: скызаў — і сікýндычка ў сікундычку брязкыіць.

**Сем патоў праліць.** *Затраціць шмат сіл.* Пакуля ты вылежывыўся, мы сем патоў прылілі. Зь естым шыльлім сем патоў пральлеш, пакуліцька рызьбяреш троху, пріпуціш.

**Сем патоў сагнаць.** *Выматаць, выматацца цяжкай працай.* Я сем патоў сыгнаў, пакуль еткыю пуню гною выкінуў. Ты, знаць, сем патоў хочыш з нас сыгнаць, ну цябе. І сам як вол варочыіць і з другіх сем патоў згоніць. *Гл.* Зганяць па сем патоў.

**Сем патоў сайшло** (выйшла, сцякло, пралілося), *пр., буд. Пра вялікую затрату сіл.* Ты гаворіш, што тута дзелыць було нечыга, з нас сем патоў сайшло. Ніхай сойдзіць сем патоў раз ды другей, пызнáіць смак хлеба. Сем патоў зь іх выйшла зь етымі пнямі. Як сем патоў выйдзіць, тады й на дзевык зáбýдзіць. На етый зямле кы-

па́ць — сем патоў сьцякець. Каб ён так нырваўся, як мы, і зь яго б сем патоў прылілося.

**Сем пядзей ува лбу,** *запаз. Вельмі разумны.* Ніхай будзіць хуць сем пя́дзій ува лбу, дык тута нывадзіць толк няпроста. Ці ў яго сем пядзій ува лбу, ці што.

**Сем пятніц на нядзеле.** *Пра адсутнасць цвёрдасці ў рашэннях.* У Гапкі ўсігда сем пятніц ны нядзелі, січас адно, цірізь мінуту саўсім другоя. У вас у абеіх па сем пятніц ны нядзелі.

**Серада** (субота) **з-пад пятніцы,** *жарт. Пра неакуратнае адзяванне, калі ніжняе адзенне відаць з-пад верхняга.* Вун ідзець, сіріда́ с-пыт пятніцы тарчы́ць. Во прібра́лыся: сіріда с-пыт пятніцы глядзіць. Прося, ў цябе субота с-пыт пятніцы відна.

**Серца адходзіць.** *Пра наступленне аблягчэння.* Яно можна па ві́ду пызнаць, як серца атходзіць. *Зак.* **Серца атайшло,** *пр., буд.* Пымякчэў, серца атыйшло і ўзноў рызгыва́рііць як нічога і ні було. Ну пыдажджы́ ўжо, ніхай серца атойдзіць, ато яшчэ нумуцюка́іць.

**Серца гнаіць.** *Нервавацца, мучыцца; мучыць.* Серца я зь ім гнаі́ла, во ікая была́ мыя жысьць. Дакуля ты ёй будзіш серца гнаіць, ты яе скора у зямлю заго́ніш. *Зак.* **Серца згнаіць.** Цірізь яго, пыразі́та, серца згнаіла, раншы ўремя у зямлю пышла. Серца згнаілі ёй тэя ірыды. *Непаўн.* **Серца пагнаіць.** Пыгнаі́ць серца с такім чылавекым, ён ні ў чом ні сачу́ствыіць. Пагноюць серца, пакуль цярьпець будзіць. *Працягл.-фінальн.* **Серца дагнаіць.** Пайціць мне ў тую сям'ю — ета дыгнаіць серца ды кынца. Ну, дыгнаіў сваёй серца, пасьві́стывыіш цяперіцька, рад.

**Серца дрогнула,** *пр., буд.* 1. *Пра адыходлівасць.* Ну, есьлі ў такога карю́злыга серца дрогнула, бу́дзіць толк. Ня дужа ў іх серца дрогніць: біссызна́цільныя. 2. *Пра стан страху.* Там ба і ў са́мыга хра́брыга серца дрогнула. Дайжа слухыўшы, серца дрогніць, а ня то відзіць такоя.

**Серца** (душа) **атарвалася** (упала), *пр., буд. Пра стан жаху.* Я думыю, што серца б атырва́лыся еткій страх увідзіць. У мяне серца ўпала, як ён пычаў ныстыўля́ць вінтоўку. Увідзіла, як яны пы са́мых маку́шкых ла́зюць, і душа атырва́лыся: а што як сарьвецца каторый. Увідзь

ты, і ў цябе б душа ўпала. Чаму душа ні ўпадзець, кылі так ляціць з рыгамі пряма ны цябе. *Гл.* Д у ш а  а п а л а.

**Серца** (душа) **выпадаець.** *Пра клопаты, хваляванне.* Ну, а чаго ж у цябе серца выпыда́іць, табе, кажыцца, яны ня дужа ў гылаве былі. Душа ў мяне выпыдаіць, як яны тама адны асталіся. *Гл.* Д у ш а  в а р о ч а е ц ц а.

**Серца** (душа) **дрыжыць** (трасецца, калоціцца), *цяп., пр. Пра стан страху.* Іду, а ў самой серца дрыжы́ць: што як воўк із-зу куста пры́гніць. Ці прізнывáйся, ці не, а серца ў цябе тряслося. Ці калоціцца ў цябе серца, як ты ідзеш к сваёй Ганьні. Доўга посьлі таго душа дрыжэла. Віду толька ні пыдаець, душа ў яго як авеччый хвост трясецца. У нас душа цэлыю ноч кылацíлыся. *Пачын.* **Серца** (душа) **задрыжэла** (затраслося, закалацілася), *пр., буд.* Сыбака етый глядзіць, зубы во такея, ну, думыю, січас пры́гніць, серца зыдрыжэла. Серца зытряслося, стаю, гляджу́, што я адзін зь імі зьдзелыю. Устреціш Зьмітрыка, дык серца зыкалоціцца. Гляджу, яны пыд'іжджаюць вірьхáмі, душа ў мяне зыдрыжэла. Ніхай душа троху зытрясецца, яму нада. *Непаўн.* **Серца** (душа) **падрыжэла** (патраслося, пакалацілася), *пр., буд.* Ну ніхай, табе пыляхчэіць, калі серца ў нас пыдрыжы́ць. Як ні храбрíціся, а серца пытряслося. Серца ў вас крепка пыкылацíлыся, хвацíла страху. Ува ўсіх душа пытріслася німáла. Ніхай і душа пыкалоціцца, ён усё роўна ні пыкаіцца. *Узмацн.* **Серца** (душа) **перадрыжэла** (ператураслося, перакалацілася), *пр., буд.* Так у нас серца пірідрыжэла, думылі, што жывэя ні астáнімся. Другей раз так пірікалоціцца серца, што ні знаю як. Душа ў цябе, канешня, пірідрыжэла, ну толька мулувáта. Так у нас пірітріслася душа, што мы чуць-чуць у сябе пpішлі. У яго душа пірікылацілыся, што й есьць ні ўзяў. *Законч.* **Серца** (душа) **аддрыжэла** (адтраслося, адкалацілася), *пр., буд.* У іх серца аддрыжэла, як яны толька вы́дзіржылі. Во аттряслося серца дык аттряслося, думыў, ня вы́біруся. Каб у цябе душа аддрыжэла столька, сколька ў нас, ты б тады знаў. Ня дужа ў яго душа аттрясецца, ня тэй чылавек. Ні знаю, куды выйціць і ўсё, аткылацілыся душа. *Працягл.-фінальн.* **Серца** (душа) **надрыжэлася** (натраслося, накалацілася), *пр., буд.* Серца ныдрыжэлыся, пакуля лу́пку ждаў. Я яго ні пужаў, кылі ў яго серца нытряслося. Пакуля немцы зь дзяреўні ня зьедуць, ныка-

лоціцца, бувала, серца кажный раз. Душа твыя нытріслася, толька нада, каб цябе сымаго натрёс ладна. Хуць душа нықылацілыся, дык сма́шнінькыга папробывыў. *Гл.* Д у х д р ы ж ы ц ь; С е р ц а д р о г н у л а.

**Серца** (душа, дух) **заміраець,** *цяп., пр. Пра стан вялікага хвалявання ад раптоўных пачуццяў, уражанняў.* У мяне аж тут серца зыміра́іць, як яны ны такой вісычыне стыяць. Душа зыміраіць глядзець, ета ж нада так аччáінна прыгыць у ваду. У нас дух зыміраў, а ім худзь ба што. *Зак.* **Серца** (душа) **замёрла** (дух замёр), *пр., буд.* Ну, гляджу, січас ля́сьніцца, аж серца замёрла. Другей раз душа замрець, глядзеўшы на іх. Ён пы сьцяне жых, жых, ува ўсіх дух замёр. *Гл.* Д у ш а м л е е ц ь.

**Серца** (душа) **кіпіць,** *цяп., пр. Пра раззлаванасць.* Ён ві́дзін, кылі серца кіпіць. Увесь вечыр кіпела серца. Ходзіць і ня можыць успакоіцца, дужа кіпіць душа. *Зак.* **Серца** (душа) **закіпела,** *пр., буд.* Я зьдзіржа́ўся, ну серца ў мяне зыкіпела: ета ж нада такую трілю́ду перць. Ня жджы, пакуля серца зыкіпі́ць. Ны такую работу зыкіпела душа. *Пачын.* **Серца** (душа) **закіпаець,** *цяп., пр.* Есьлі серца зыкіпа́іць, то пысядзі ціхінька і ня лезь. Ні раз душа яго зыкіпала, толька вы ня відзілі. *Непаўн.* **Серца** (душа) **пакіпела,** *пр., буд.* Ты яго ішчэ нарошня пыцсыкні́, ніхай серца пыкіпіць. Душа пыкіпела, як Таньку увідзіў сь Сярьгеім. *Законч.* **Серца** (душа) **адкіпела** (перакіпела), *пр., буд.* Можна спра́шывыць, серца ў яго ўжо аткіпела. Пакуля серца ні пірікіпі́ць, луччы ні пытыка́йся. Ці аткіпела ў цябе душа? Душа ў яго посьлі ўчыра́шніга пірікіпела, нервы ўжо ў пыря́дку, можна тулкува́ць. *Працягл.-фінальн.* **Серца** (душа) **накіпелася,** *пр., буд.* Ну як жа ні ныкіпі́цца серца, кылі дзелыюць усё як ні сваімі рукамі. Я чуствыю, што душа ў Кузьмы здорыва ныкіпелыся. Там душа ныкіпі́цца, тады сюды пріходзіць — аж хляхочыць у ём усё.

**Серца** (душа) **кроўю абліваецца,** *цяп., пр. Пра вялікі душэўны боль.* Як пыглядзі́ш ны яго стрыда́ньні, серца кроўю аблівáіцца. Ува ўсіх ба душа кроўю аблівáлыся, хто б ня ўвідзіў еткыя горя. *Зак.* **Серца** (душа) **кроўю аблілося,** *пр., буд.* Я чужэй чылавек, а ў мяне тожа серца кроўю аблілося. Другей раз душа кроўю абальлецца, а нічога ні ска́жыш, пымаўчы́ш. *Непаўн.* **Серца** (душа) **кроўю паабліваласся,** *пр., буд.* У мяне за месіц серца

кроўю ні раз пыблівáлыся. Душа кроўю пыбліваіцца і ў Варкі, ці ёй ні жалка сістрінога сына. *Узмацн.* **Серца** (душа) **кроўю наабліваласяя,** *пр., буд.* Ідзець біз нагі і другая пірябіта, чуць слу́жыць, ці лёхка ёй глядзець, серца кроўю ныблівáіцца. Ніўдáшныя яе жызьня, сколька ў нас душа кроўю ныблівалыся, глядзеўшы ны яе сьлёзы.

**Серца** (душа) **рвецца** (разрываецца, разарвываецца) **на кускі,** *цяп., пр., буд. Пра надзвычайныя перажыванні.* Ай-я-яй, што ета дзеўка сыма сабе думыіць, у маткі серца рьвецца ну кускі, а ёй ні сты́ду, ні пазору німа. Ты пыглядзеў ба, як іна церьпіць еткыю боль, і ў цябе б серца рызрывáлыся ну кускі. Ат аднаго жалю серца рызáрвыіцца ну кускі, а ты бяшчу́ствінный чылавек. Ну мулюпахтычык глянь — адзін другога меншы, душа будзіць ірвацца ну кускі. Душа рызрываіцца ну кускі, што зь імі так случылыся. Яны дужа нісызнáцільныя, сыбрáліся і пашлі, а Мары душа ну кускі рызáрвыіцца. *Гл.* Д у ш а р в е ц ц а.

**Серца** (душу) **вырываць.** *Надзвычай дакучаць.* Вы мне тут ня будзіця серца вырываць, я вам пыкажу́ места. Ну вырываіць жа ён мне душу, большы некуды. *Зак.* **Серца** (душу) **вырваць.** Другей дзіцёнык і зу пуўдня серца вырьвіць, што ў році горька стáніць. Чаго ня будзіць, а душу вырвуць, упяку́цца. *Параўн.* І р в а ц ь д у ш у.

**Серца** (душу) **выядаць** (ат'ядаць). *Дакучаць бязмерна.* Настолька выідáіць серца кажын дзень, што пряма ні знаю, што зь ім дзелыць. Харошыя мальчыкі, нічога сабе серца ат'ідáюць. Доўга выідаў душу, цяперя стала унімаць троху. Ні ат'ідайця, дзеці, душу, уйміціся з дурáмі. *Зак.* **Серца** (душу) **выесць** (ат'есць). Ні нада мне чужога, свой серца выіў. Яны ёй саўсім ат'елі серца, як іна столька церьпіць. Другей раз так вы́ідуць душу, што жыць ня хочыцца. Вы ж ёй саўсім душу ат'елі, ці ёсьць у вас хуць капля совісьці. *Узмацн.-множн.* **Серца** (душу) **павыядаць** (павыесць, паат'ядаць, паат'есць). Пывыідáюць серца, як сыбяру́цца рáзым. Уніміціся, вы тут саўсім цёткі серца павы́ілі. Вазьмі, вазьмі ны сваю гылаву, пыт'ідáюць серца ого як. Ну іх з бáлыўствым зь іхнім, пывыідáлі душу. Душу павы́ідуць, дык пірістáніць зуступáцца. Як пыт'ідаюць душу, тады пызнаіш етых ціхінь-

кіх. Так пат'елі душу, так збры́дзіліся за ета ўремя, што глядзець у тэй бок ня хочыцца, айдзе яны.

**Серца ёкнула,** *пр., буд. Пра стан страху перад нечаканасцю.* Ды я віджу, што ў цябе серца ёкнула. Увідзіць Пуўлюка, дык серца ёкніць. Ён прыг, а ў мяне серца ёк. *Незак., рэдкаўж.* **Серца ёкаець,** *цяп., пр.* Ты нічога ня ўвідзіў, і ўжо серца ёкыіць. Серца ў вас учора пірід бацькыю ладна ёкыла.

**Серца кроіць.** *Выклікаць вялікія душэўныя пакуты.* Кажный дзень ты мне серца кроіш. Усё ўремя яны кроюць ёй серца біз ныжá. *Працягл.-фінальн.* **Серца накроіць** (дакроіць). Цярьпела доўга, ну ўжо хвáціць, накроілі вы мне серца. Дакроіць серца, што замкнý дзьвері і к хаці блізка ні путпушчу. *Гл.* Ірваць душу.

**Серца мохам абрастаець.** *Пра бяздушнасць, чэрствасць, жорсткасць.* І ў другога серца мохым абрыстáіць, як у старшыга. *Зак.* **Серца мохам абрасло.** У яго даўно серца мохым абрасло. Есьлі серца мохым абрасло, трудна тады гывакріць. *Узмацн.* **Серца мохам паабрастала.** Ён усё чылавечыскыя пыціря́ў, у яго серца мохым пыбрыстáла.

**Серца ныець** (шчыміць), *цяп., пр. Аб прадчуванні нядобрага.* Чаго ж у цябе серца ны́іць? А ў мяне сколька серца ныла. Серца шчыміць і шчыміць: як яно тама ў іх? *Пачын.* **Серца заныла** (зашчымела), *пр., буд.* Усе пріехылі, а майго німа, серца заныла. Сыма ні прізнáіцца нізашто, ну пы вычах відна, што серца зышчымела. Як серца зышчымíць, тады сыма пызнáіш, што ета значыць. *Непаўн.* **Серца паныла** (пашчымела), *пр., буд.* Серца паныла, што іх ня чутна і ня чутна. Нічога, кылі ў яе серца пышчымíць, іна многа ні пыбядýіць. *Законч.* **Серца атныла** (адшчымела), *пр., буд.* Дýмыіш, у мяне мала серца атныла. Як астáнісься адна кріцыю, атныіць серца. Якей ня быў, а серца ладна ачшчымела і пы такому. *Узмацн.-працягл.* **Серца нанылася** (нашчымелася), *пр., буд.* Серца як наны́іцца, дык есьць крошкі ў рот ня ўгоніш. Серца нышчымелыся, як такімі нісмышлёнышымі пашлі ў сьвет.

**Серца сохнець,** *цяп., пр. Пра вялікія, працяглыя пакуты.* Серца сохніць, што адной пріходзіцца астывáцца. Пы Пітраку доўга ў яе серца сохла. *Непаўн.* **Серца па-**

**сохла,** *пр., буд.* У тоя ўремя серца ў яе пасохла. А ніхай і ў іх серца пасохніць. *Узмацн.-працягл.* **Серца насохлася,** *пр., буд.* Рыскажы луччы, сколька ў цябе серца насохлыся па Сеньку. Раншы ўгываріўвылі — ні пышла, а цяперя насохніцца серца.

**Серца сушыць.** *Выклікаць працяглыя пакуты.* С такім мужуком, як ты, серца сўшыш і ўсё: ці ты хызяін у дваре. *Непаўн.* **Серца пасушыць.** Ніхай сходзіць, серца пасўшыць, я дзіржаць ні стану. *Узмацн.* **Серца насушыць.** Столька яны серца нусушылі Мыланкі, што большы некуды, чаго яны толька ні ўтвыря́лі. *Працягл.-фінальн.* **Серца дасушыць.** Дасўшыць ён Ганьні серца, папрецъ іна яго палкыю і большы ні ўзгля́ніць.

**Серца трапечыцца** (трапечыць), *цяп., пр. Пра стан страху.* Ні пужа́йцяя большы, у яго і так серца тряпечыцца. Ну дык што, кылі серца тріпіта́лыся, у такой глушы любэй ба быяўся. Дзелыіць від, што ні спужаўся, а серца тряпечыць. *Пачын.* **Серца затрапяталася** (затрапятала), *пр., буд.* Ідуць зь вінтоўкымі, а хто іх знаіць, хто яны, ну серца й зытріпіта́лыся. Толька ша́мні зу кустом, у яго серца і зытряпечыць. *Непаўн.* **Серца патрапяталася** (патрапятала), *пр., буд.* Ці ладна ў цябе серца пытріпіталыся, пакуля мы муўчалі? Хва́ціць яму, серца пытряпечыць сколька нада.

**Серца ў пятках,** *іран. Пра пачуццё страху.* Ні крічы, у яго і так серца ў пя́ткых. У цябе сымаго скарей серца ў пяткых будзіць. *Гл.* Д у ш а ў п я т к а х.

**Серца ў пяткі ўскачыла,** *пр., буд. Пра стан выключнага страху.* Ты каб толька зда́ліку ўвідзіў цігра, у цябе б серца ў пяткі ўскачыла. Мікілай тўкніць, дык ў яго серца ў пяткі ўскочыць. *Незак., рэдкаўж.* **Серца ў пяткі ўскакываець.** Ат аднаго яго віду ў цябе серца ў пяткі ўска́кывыіць зразу. *Гл.* Д у ш а ў п я т к і ў с к а ч ы л а.

**Серца цярацъ.** *Празмерна шкадаваць, клапаціцца.* Із-за етых сваіх аторвыў проста серца ціря́іць, а яны ня тоя дык тоя атпалюць. *Зак.* **Серца пацярацъ.** Серца пыціряіць ат еткіх клопытыў і толька таго будзіць ёй. *Гл.* Д у ш у ц я р а ц ь.

**Сесць** (асесца) **на месце.** *Суняцца, супакоіцца.* Ці сядзь на месьці січаж жа, ці я цябе пысаджу, што зыа́йкыіш. У мяне мі́гым ася́дзіцца на месьці, я ні пыгляджў

ны матку. *Незак., рэдкаўж.* **Садзіцца на месце.** Ён адно слова скажыць, дык сыдзяцца на месьці. *Узмацн.* **Пасесць на месце.** Мяне ня дужа хочуць слухыць, Ільля як за́йдзіць, пыся́дуць на месьці. *Параўн.* На том месце сесць.

**Сесць дзёўбам** (крыцаю). *Не развівацца, не расці, не рухацца.* І с харошыя пароды пырысяткі, а селі дзёўбым, пызыкыжанелі і ні растуць; пы чатыры месіцы скора, а ім і месіц ні дасі. Што етыму ячменю сёліта? — сеў крі́цыю, саўсім німа росту. Ніхай ты сядзіш кріцыю і прікымянеіш.

**Сесць на места.** *Суняцца, супакоіцца.* Я і гываріць ні пычыла́, а ён ужо сеў на места. *Незак., рэдкаўж.* **Садзіцца на места.** Прі мне садзіцца на места, ня жджэць мае ласкі. *Узмацн.* **Пасесць на места.** Ці пыся́дзіця вы мне на места, ай за ремінь брацца нада. *Параўн.* Садзіцца на сваё места.

**Сесць у галаве,** *рэдкаўж. Пастаянна памятацца і турбаваць.* Бува́іць, ірунда́ ікая сядзіць у гылаве і ўсё думыіцца. *Зак.* **Засесць у галаве.** Крепка яму Танька засела ў гылаве, усё пры яе і гываріў ба і гываріў.

**Сёмая** (сядзьмая) **вада на кісялі** (кісяле), *гумар. Сваяк, але вельмі далёкі.* Паўлюк нам сёмыя выда ны кісялі́, во ікая ён нам рыдня. Ты ёй сёмыя выда ны кісяле. Ныйшлася мне рыдня — сідзьмая выда ны кісяле.

**Сілы няма.** *Вельмі, надзвычай, празмерна.* Сілы німа, хочыцца ім зьбегыць ны Сьвітазерья. Пымяні́ толька бутылычку, сілы німа будзіць ка́нькыць. Сілы німа аньціресна глядзець.

**Сказаць сваё слова.** *Праявіць, даць адчуць цвёрдасць, прынцыповасць.* Тута і Максім скызаў сваё слова, ато б яны ня дужа на што глядзелі.

**Скакаць** (плясаць) **пад дудку** *(чыю). Рабіць так, як камусьці патрэбна або хочацца.* Доўга яны скыка́лі пут Кузьмову дудку. Пыд вашу дудку мы плісаць ні станім, ні надзейціся. *Абмеж.* **Паскакаць** (паплясаць) **пад дудку** *(чыю)*. Первыя гады ён крепка паць цесьціву дудку пыскыкаў. Пыплісалі пад дудку етых чарцей, ува ўсім чысьцінька слухылі. *Законч.* **Адскакаць** (адплясаць) **пад дудку** *(чыю)*. Ацскыкаў пад іхнію дудку, большы ні за-

хочыць. Мархва пыд вашу дудку атплісала хваціць сколька. *Узмацн.* **Наскакацца** (наплясацца) **пад дудку** (*чыю*). Ныскыка́ліся пыць Сямёныву дудку, пакуль пувумнелі троху. Ныпля́шыцца пад іх дудку, каб було каму дукува́ць ды ту́кнуць, ато ж некыму.

**Скакаць** (плясаць) **пад чужую дудку.** *Рабіць не па сваёй ахвоце, жаданню, патрэбе.* Ты ўсё ўремя скачыш пуч чужую дудку, сколька цябе ні дукуй. А дос ужо плісаць пуч чужую дудку, сваёю гылавою думый. *Абмеж.* **Паскакаць** (паплясаць) **пад чужую дудку.** Пыскыкаў пуч чужую дудку і хва́ціць. Вы ні гывары́ця, вы пыплісалі пуч чужую дудку большы ні нада. *Законч.* **Адскакаць** (адплясаць) **пад чужую дудку.** Сколька вы ацскыкалі пуч чужую дудку — ні пріду́мыць сколька. Ніхто столька пуч чужую дудку ні атплісаў, як Мікіпыр. *Узмацн.* **Наскакацца** (наплясацца) **пад чужую дудку.** Вы, кажыцца, ужо ныскыка́ліся пуч чужую дудку. Свае гылавы́ ны плічах ня ймелі, ат таго й ныплісаліся пуч чужую дудку.

**Скакаць** (прыгаць) **у балота.** *Праяўляць безразважнасць, бяздумнасць, лезці ў небяспечную справу.* Яны умеюць пыд'ары́жыць, а ён тады гатоў у любоя балота скыкаць. Пры́гыіш ты, чылавек, у балота, шукаіш сабе пагібілі. *Зак.* **Скакнуць** (скокнуць, прыгнуць) **у балота.** Як у балота скакнулі, тады толька думыць сталі. Ну, глядзі, скакнеш у балота — ны нас ні біжа́йся, мы табе гыварілі, куды лезіш. Скокніць у балота, а тады: ой, што я надзелыў. Ні судзерж, ні нудуку́й, ну й прыгніць у балота. *Працягл.-фінальн.* **Дапрыгаць у балота.** Дапры́гыіць у балота, я чуствыю, што дапрыгыіць, будзіць глядзець, каб ны зашчы́ту йшлі.

**Скакаць** (прыгаць) **у пятлю,** *асудж., рэдкаўж. Безразважна імкнуцца заняцца небяспечнай справай.* Чаго яму було скыкаць у пятлю зь естым жэрдзім, ці ён ня мог вы́пісыць, як усе людзі. Сам прыгыіць у пятлю і палу́чыць. *Зак.* **Ускачыць у пятлю.** Ускочыць у пятлю, а тады рукамі разводзіць: як ета так пулучылыся. *Гл.* Л е з ц ь у п я т л ю.

**Скацярсцю** (скацяркаю, рушніком, рушнічком) **дарога** (дарожка), *часта іран. Пажаданне шчасця таму, хто адыходзіць, ад'язджае.* Сыбраўся — ніхай ідзець, ска́цірсьцю дарога. Кыта́й на ўсе чатырі, скацірсьцю дарож-

ка. Ска́ціркыю дарога яму, еткый путніні. Во, во, скаціркыю дарожка, хуць серцу спыкайней станіць, вупруўляйся. Ні жалею і жалець ня буду, рушнікам дарога. Рушнічком дарога твайму сыночку. Рушнічком дарожка, толька едзь.

**Скідаць** (скідываць, зваліваць) **з плеч** (плячэй). *Вызваляцца ад душэўнага цяжару, непрыемнасцей.* Ськіда́йця вы с плеч ету абу́зу, нашто вам тлум такей. Ці ты ня думыіш ські́дывыць с плячэй етыя заботы. Узяць було проста, а зва́лівыць с плячэй ой як цяжка. *Зак.* **Скінуць** (зваліць) **з плеч** (плячэй). Ськіну с плеч свае клопыты і к табе вы́біруся як-небудзь. Ці ўдасца нам ськінуць с плячэй усё ета горя ці не? Зваліця с плеч заботы, і вам троху пыляхчэіць. *Узмацн.* **Паскідаць** (паскідываць, пазваліваць) **з плеч** (плячэй). Сам ні знаю, калі мне як удасца пыськіда́ць с плеч чужэя заботы. Дужа б я стала дурі́цца зь імі, я б іх скора паські́дывыла с плеч. Дайжа і думыць пірістала, што калі-небудзь удасца пыськідаць с плячэй іхнія клопыты. Трудна паськідывыць с плячэй, ныбралі, дык дурі́ціся. Каб, кажыцца, пызва́лівыць с плячэй Антонывы заботы, то й ну душэ б атлягло.

**Скідаць** (скідываць) **маску.** *Выяўляць сваю сутнасць.* Прі́дзіцца яму ськіда́ць маску, усё ўремя строіць сь сябе ніізьвесна каго ня будзіць. Ські́дывый маску, атпрітвыря́ўся! *Зак.* **Скінуць маску.** Мы б ні так зыставілі ськінуць маску, мы б трошку іначы зьдзелылі. *Узмацн.-множн.* **Паскідаць** (паскідываць) **маскі.** Усё былі мякінькія, хуць ды раны пріклыдай, а тута пыськідалі маскі. Трудна ждаць, каб етыя прітворы паськідывылі маскі.

**Скідаць** (скідываць) **са шчоту,** *кніжн.; адз., мн. Не прымаць пад увагу.* І Аўдзея ськідаць са шчоту нілізя. Не, цябе яны ні разу ні ськідаюць сы шчатоў. А чаго ж ты ськідывыіш сы шчатоў швыгря́? *Зак.* **Скінуць са шчоту.** Ніхай сабе рытазей, а й яго ня ськініш са шчоту. Раз ніўдача, дык і Проську ськінулі сы шчатоў. *Узмацн.* **Паскідаць** (паскідываць) **са шчоту.** Ныпрасна вы пыськіда́лі сы шчатоў дучча́нь, яны вам могуць прігадзіцца. А нас вы паські́дывылі са шчоту, а? Паськідывылі сы шчатоў іх і ня хочуць дайжа думыць.

**Складаць** (складываць) **аружые,** *звыч. жарт. Адмаўляцца ад барацьбы, здавацца.* Нечыга табе дзелыць, нада склыда́ць ару́жыя. Скла́дывыйця аружыя, ато мы вас

січас рызбамбім: во сколька сьнежык у нас. *Зак.* **Скласць** (злажыць) **аружые.** Мы ўпіцярых асталіся і ўсё роўна ні склалі аружыя. Зайдзім ззаду, як крікнім, яны зразу зложуць аружыя. *Узмацн.* **Паскладаць** (паскладываць) **аружые.** Ну што, храбріліся, а прішлося г дзелу і пысклыда́лі аружыя. Вот відзіш, і пыскла́дывылі аружыя зыдыва́кі етыя.

**Складаць** (складываць) **крылле.** *Прымірацца з абставінамі.* Ды яно й відна, што ты склыда́іш крыльля. Чаго ж ты скла́дыіш крыльля, табе б ішчэ пувуюва́ць нада. *Зак.* **Скласць** (злажыць) **крылле**. Склаў крыльля, сядзіць і ня ріпыіцца. Такея хлёсткія хлопцы былі, а вот злажылі крыльля прі Сямёну. *Узмацн.-множн.* **Паскладаць** (паскладываць) **крылле.** Адзін раз ту́кнуў, і вы пысклыдалі крыльля. Яны такея змыгарі́, што скора пыскла́дывыюць крыльля.

**Складаць** (складываць) **рукі.** 1. *неадабр. Пераставаць дзейнічаць, працаваць.* Рана склыда́ць рукі, тута ішчэ дзел ды дзел, да вечыра худзь ба ўпра́віцца. Што ж вы складыіця рукі, бяріціся за вілкі. 2. *узвыш. Памірань.* Што ты склыдаць рукі, нада яшчо пажыць. Я дык ба гатова хуць сяньня рукі склыдаць, ныжыла́ся. Скольска ні жыві, дык рукі складывыць сыбірайся. *Зак.* **Скласць** (злажыць) **рукі.** 1. Вун рукі склаў: нешта ні пы яго скызалі. Работа гаріць, а яны рукі злажылі, рузмунды́кыюць. 2. Ат етых клопытыў, наверна, толька тады аддыхнеш, як рукі складзеш, а так усё будуць заботы, усё клыпаціць будзіш. Во й Дзінісёнык склаў рукі, пасьці за год неік адзін за дным кудріча́ні пыдыбра́ліся: Пятрок Гулубчонык, Міхалка Полькін, Хведзька вясною, а летым Антон Чубук, нічога іх цяперя ні трівожыць. Многа я ні нады́шу, скора злажу рукі. *Узмацн.* **Паскладаць** (паскладываць, паскласць) **рукі.** 1. Пысклыдалі рукі і ў тэй бок ні глідзяць, што работа стаіць. Ім нядоўга пыскла́дывыць рукі, усё кінуць-рінуць і дзелый тады што хочыш. Зымаріліся дужа, пірірва́ліся, рукі пысклалі. 2. Столька ў мяне було падруг зудушэўных, ужо ўсе пысклыдалі рукі. Во Каця была, і Домна, і Аксюта, разым гулялі — усе пыскладывылі рукі. Мы пыскладзём рукі і будзіця па-свойму ўсё пывадзіць. Скора пыскладзём рукі, ці мы жыць будзім два вякі.

**Скланяць на ўсе лады** (на ўсякій (любэй) лад). *Аб-*

*гаворваць, бэсціць.* То была хырыша́, хы́рыша, а як ні пышла за Грішку, узя́ліся склыня́ць на ўсе лады. Ны ўсякій лад склынялі дзевіря. У яе чаго хочыш палу́чыш, ну любэй лад склыняіць. *Зак.* **Праскланяць на ўсе лады** (на ўсякій (любэй) лад). Ну што ты глядзіш як рызівон, ці ладна прысклынялі на ўсе лады. Яны табе ні пысьцісьня́юцца, прысклыня́юць ны ўсякій лад. Ні ўгадзі́ш адзін раз нечым нявесткі, дык прысклыняюць ну любэй лад. *Законч.* **Адскланяць на ўсе лады.** Ні дыгадзіла нечым, цяперя ацсклыняюць на ўсе лады, пымя́нуць і та́тычку, і ма́мычку.

**Скланяць** (схіляць) **галаву.** *Выражаць пакорлівасць; прызнаваць сябе пераможаным.* Гылаву склыняць піріт такім чортым я ня думыў і ні зьбіраюся. Дайжа ня веріцца, каб Тыцяна так сьхіляла гылаву ёй, карі́лыся. *Зак.* **Скланіць** (схіліць) **галаву.** Мы ні пірят кім ня склонім гылаву. Як пры́дзіцца, дык любэй сьхіліць гылаву і гордысьць айдзе дзеніцца. *Узмацн.-множн.* **Паскланяць** (паскланіць, пасхіляць, пасхіліць) **голавы** (галовы). Пызыдыва́ліся-пызыдываліся, ды піряць цёткыю пысклынялі голывы. Ня дужа еткія гэрчыкі пысклыняюць галовы. Знаюць, што вінуваты, пыскланілі голывы. Яны ня с тых, што пасклонюць галовы. Пысьхілялі голывы дый стыяць, муўчаць. Сяньня пысьхіляюць галовы, а нызаўтріга ўсё забылі. Самыя тэя, што пысьхіляюць галовы, дажджэсься. *Працягл.-фінальн.* **Наскланяць** (насхіляць) **галаву.** Усё хвалілыся, што дужа пакорлівый,— во ён табе нысклыняў гылаву. Ага, Саша нысьхіляіць гылаву, ён табе пыкарі́цца, увідзіш, як пыкаріцца.

**Скласць** (злажыць) [свае] **косці** (костачкі), *узвыш. Загінуць, памерці.* Ты, Ганнычка, хуць зьезьдзіла, ны магілі Сямёнывый пыплакыла, а мой дайжа ні знаю, айдзе косьці склаў. Абоя костычкі склалі, пы днаму́ пісьму толька прішло. Мадзею патрошку тут, а айдзе косьці при́дзіцца злажыць — ні знаю. Нейдзі ў сьвеці склаў свае косьці. Сколька народухну склала зы вайну свае костычкі, ай-ай-ай. А сыночык жа ты мой дырагенькій, а йдзе ж ты злажыў свае костычкі. *Узмацн.* **Паскласць** [свае] **косці** (костачкі). Ты падумый-ка, сколька с аднае нашыя дзяреўні пыскла́лі косьці. Пыскладу́ць свае косьці, кылі галоў ны плічах ня будуць дзіржаць. Ім жа двыццаці іішчо ні було, а яны свае костычкі беднінькія пысклалі, на сьвеці ні пукрусува́ліся.

**Склаўшы рукі.** *Бяздзейнічаючы, нічога не робячы.* Я сядзець склаўшы рукі пряма ні магу, каб хуць што ну дзелыць. Раз кыпа́іця, і я ня буду ўбаку склаўшы рукі. *Параўн.* Сашчапя рукі.

**Скокам-бокам.** *З рознымі намаганнямі.* Скокым-бокым, а цягнуся са ўсімі разым, ня хочыцца ацстыва́ць. Куріца скокым-бокым пач шы́пушкі, схува́лыся,— нягеглыя нейкыя зыдыла́ся.

**Сколька жызні** (жысці, змагі, сілы). *Пра вялікі імпэт, стараннасць, напружанне.* Сколька жызьні ляцелі, ажно зімля дрыжэла. Мы хвыталі сена ў капёшкі сколька жысьці. Сколька змагі́ цягнулі макушку, чуць-чуць дывылаклі́. Бегла за ім сколька змагі, ну ўжо каб дыгнала. Сколька сілы крічалі абоя, дужа вы́пужыліся.

**Сколька нада** (следуець). *Пра забеспячэнне да поўнага задавальнення.* Ты ўчора помніш як рёў, і сяньня палучыш сколька нада. Було яму сколька сьледыіць, сколька зуслужы́ў.

**Сколька ўгодна** (заўгодна, хочаш). *Пра ненадзейнасць або знарочыстасць.* Сколька ўгодна мыгла іна тріпану́ць, у яе язык нізыба́рсывыный. Нарошня маглі скызаць сколька заўгодна. Сколька хочыш можыць і пульнуць чым-небудзь. У такога ні пыта́ць, сколька хочыш любую штуку атпа́ліць.

**Сколька ўлезець.** *Пра абсалютнае задавальненне.* Ты яго слухый, вушы разьвесіўшы, будзіць тріл́юдзіць сколька ўлезіць. Ці ты ні знаіш, будуць гресьць сколька ўлезіць, ня дужа астановюцца. Дывай ім сколька ўлезіць, усё ні хвытаіць. Палучыш сколька ўлезіць, я ўгыварівыць доўга ні прівык. Нулуплю́ сколька ўлезіць і пойдзіш.

**Скорый** (быстрый) **на нагу** (ногі). *Шпаркі ў хадзе і паслухмяны.* У мылалестві быў скорый ны нагу́, а цяперя ні дапросісься нікуды і ні дашлесься. Скорый на ногі, толька зыікні́ся — гатоў ляцець куды хочыш. Быстрый ны нагу, куды ні папросіш, січас зьбегыіць. Ух, быстрыя на ногі, як мітульга́ літа́іць. *Гл.* Лёгкій на нагу.

**Скорый** (быстрый) **на язык,** *іран., рэдкаўж. Балбатлівы.* Прі ёй луччы пумуўча́ць, ато ўжо дужа скорыя ны язык: ня толька пірі́да́сьць, а й прікладзець у трі разы.

Каб ні была тыкая быстрыя ны язык, куды б луччы. *Гл.* Лёгкій на язык.

**Скорый на руку.** *Спрытны ў працы, у дзеяннях.* У любым дзелі скорыя ну руку, ты пыглядзеў ба, як іна лён бярець, ніхто зь ёю ні спруўляіцца. І брат яго быў скорый ну руку, бувала, біцца як с ыгня.

**Скрапіць** (сціснуць, зжаць) **серца.** *Схавацъ пачуцці.* А што ты ны Ріпініным месьці дзелыла б, скрепіш серца і будзіш муўчаць. Сьціснуць серца і цярьпець — ета дужа трудна. Куды іна дзеніцца, куды іна кініцца, сажмець серца і сядзіць. *Незак., рэдкаўж.* **Сціскаць** (зжымаць) **серца.** Глядзі, дзетухна, сьціскай серца, можа як піряменіцца. Сьпірва жжымала серца, цярьпела, а тады дос, думыю, зьдзівацільствы вынасіць, пышла ў сільсавет і рыскызала ўсё.

**Скрапя** (скрапіўшы) **серца.** *Вымушаючы сябе, супраць волі.* Скріпя серца я сыгласіўся пусьціць яго. Пашлі скріпя серца. Скряпіўшы серца іду, я знаю, што там будзіць.

**Скрозь зубы.** *Неразборліва са злосцю (гаварыць).* Посьлі тога слўчыя бўркніць скрозь зубы два словы і пойдзіць. Як чылавек ня дужа што скажыць, усё скрозь зубы.

**Скруціць** (адкруціць, звярнуць) **галаву** (башку), *неадабр.* 1. *Жорстка пакараць; знішчыць, забіць.* Яму даўно нада було скруціць гылаву, каб ні адурюваў. Я каб дыбраўся, скруціў ба башку, ня быў ба ён у мяне такей распўшчыный. Аткрўцюць гылаву, увідзіця, што аткруцюць айдзе-небудзь. Ні аткруцілі башку, дык аткруцюць, даржэсься. У мяне б так ні ірзаў, я б зьвярнуў гылаву. Нада, каб зьвярнулі башку, тады ўнімуцца троху. 2. *Моцна пакалечыцца; загінуць.* Дылазіш, дакідыісься, што скруціш гылаву. Скруціў башку, то пыцішэў трошку. Даносіцца — аткруціць гылаву айдзе с такім кідыньнім. Аткруціць башку, тады будзіць знаць ухадор. Зьвярнуў гылаву, цяперя і места сабе знаіць. Нейдзі зьвярнуў башку, ня чутна, каторый год німа. *Узмацн.-множн.* **Паскручываць** (паскруціць, паадкручываць, паадкруціць, пазварачываць, пазвярнуць) **голавы** (галовы). 1. Каб хто найшоўся голывы ім паскрўчывыў, руспусьціліся — большы некуды. Сумусёнык пупадзець вас, дык галовы па-

скру́чыіць. Голывы нада пускруці́ць і сыбакым выкінуць, тады ўспакоюцца. Ты ўжо каторый год грозіш ім галовы паткручывыць. За дно за ета путкруціць голывы нада. Ну есьлі хто-небудзь ні пызвыра́чыіць вам голывы, ні знаю, ды чаго вы да́йдзіця. Вам абішчаў Сашка пызьвярнуць галовы, дык ішчэ й я пымагу. 2. Будуць так во насіцца, дык голывы паскручывыюць. Чаго іх носіць па етых бярёзкых, голывы ні пускруці́лі? Голывы свае вы паскруціця, на́йдзіця пагібіль. Паткручывыіця голывы — тады троху пурузумнеіця. Чаго іх туды пынясло, галовы ні путкруцілі? Лезуць у кажныю пролыбку, пакуля голывы пызвырачыюць. Што вас туды пыгнала, галовы хочыця пызьвярнуць?

**Скруціць** (звярнуць) **сабе галаву** (башку). *Моцна пакалечыцца, загінуць.* Скру́ціць сабе гылаву, тады ўніміцца. Нада б ужо, каб скруціў сабе як-небудзь башку. Січас места ніяк ні найдзіць, а як зьверніць сабе гылаву, пыцішэіць. Ці чула: зьвярнуў сабе башку, схувалі на той нядзелі. *Узмацн.-множн.* **Паскручываць** (паскруціць, пазварачываць, пазвярнуць) **сабе голавы** (галовы). Можа тады толька пыцішэюць, як голывы сабе паскру́чывыюць. Яй-богу, паскру́ціця сабе голывы, на́йдзіця ўгамоньня. Дырза́ліся, пускруці́лі галовы, ліжаць адзін у дваре, а другей у бальніцы. Так збры́дзілі, што каб і галовы сабе пызвырачывылі, ні жалела б. Ежылі ні пыцішэіця, то айдзе-айдзе ды пазьверніця сабе голывы.

**Скрыгаць** (скрыгатаць) **зубамі.** *Моўчкі, стоена злаваць.* Яны даўно скры́гыюць зубамі ны мяне. Ны каго ён толька ні скрыгыта́ў зубамі. *Пачын.* **Заскрыгаць** (заскрыгатаць) **зубамі.** Увідзюць ета дзела, дык заскрыгыюць зубамі. Зыскрыгочыць зубамі, нягож ні зыскрыгочыць, кылі ты ўсё дзелыіш цяп-ляп. *Непаўн.* **Паскрыгаць** (паскрыгатаць) **зубамі.** Зы мяшочыкі ён паскрыгыў зубамі. Ніхай пыскрыгочуць зубамі, ніхай ні пыскрыгочуць, дужа яны мне важны. *Узмацн.* **Наскрыгацца** (наскрыгатацца) **зубамі.** Я сам чу́ствыю, што яны наскрыгыліся зубамі. Зы самыю мелыч ныскрыгочыцца зубамі,— ета ўжо хракцір у чылавека такей. *Законч.* **Адскрыгаць** (адскрыгатаць) **зубамі.** Ацскры́гыў зубамі, большы ня будзіць. Пупадзець нейкыя пірялома і цябе, ацскрыгочыш зубамі. *Працягл.-фінальн.* **Даскрыгаць** (даскрыгацца, даскрыгатаць, даскрыгатацца) **зубамі.** Даскры́гыіця зубамі, вас

усё ўремя нешта хвытаіць зы бакі́. Даскрыгыўся зубамі, стаў і добрым, і мяккім. Дыскрыгочыць зубамі, баню палучыць, айдзе яго й скрыгыта́ньня дзеніцца. У Высіля яны палучуць ласку, дыскрыгочуцца зубамі.

**Слабая** (слабкая) **струна** (струнка), *гумар. Найбольш уразлівы бок натуры чалавека, на які лёгка ўздзейнічаць.* Ну хто ж ні знаіць тваю слабыю струну: табе дай пасэньдзіць і ўсё. Яны зразу абнаружылі яго слабыю струнку. Ніхай толька найдуць слабкыю струну, будуць зь яго вярёўкі віць. Во, во, мне даўно гыварілі пра іх слабкыю струнку.

**Слабкае места.** *Істотны недахоп.* Мужык ба ён нічога, ну ёсьць слабкыя места ў яго. Нашчупылі слабкыя места, будуць цяперя тріпаць як тряпку, ня вырьвіцца нізашта.

**Слава богу.** 1. *Выражэнне радасці, задаволенасці, заспакаення.* Клопыты зь мяне сла́ва богу спа́лі, можна лёхка ўздыхнуць. Слава богу, усё хырашо абыйшлося. Думыла, ўжо і духу ня будзіць, не, слава богу пісьмо нясець пышта́рька. 2. *Нарэшце.* Едуць слава богу, чуць дыжда́ліся етых іздакоў.

**Слава табе госпадзі,** *часта іран.* 1. *Выражэнне радасці, задаволенасці, заспакаення.* Слава табе госпыдзі, зыяві́ўся, як сонца зайшло. Слава табе госпыдзі, што ты ды прівізла́ іх, ато ў мяне рукі былі пустэя. Слава табе госпыдзі, аддыла ціріс паўгода. 2. *Нарэшце.* Слава табе госпыдзі, грімя́ць, ато бязь іх тут ні абыйшлося б.

**След на след не нахадзіць** (не наступаць). *Быць у вельмі непрыязных, варожых узаемаадносінах.* Пыма́лу, пымалу, а заеліся, што сьлед на сьлед ні находзюць. Гадоў, знаць, дзесіць сьлед на сьлед ні нуступа́лі адна з другою. Сколька жывуць, дык у іх сьлед на сьлед ні нуступаіць.

**Слова добрага не стоіць.** *Быць нявартым ні да чаго.* Здай ты тря́пышніку ета сваё тряхольля, яно слова добрыга ня стоіць. Што толку, кылі ў яе ў хаці ды быў мушчына, ён слова добрыга ня стоіў.

**Слова на слова не памяняць** (не размяняць). *Быць вельмі лагодным, згаворлівым.* Ныпра́сна ты, кума, ныгыва́рііш ны яго, ён ні сь кім ні разу слова на слова ні пыміня́ў. Сколька іна тут жыла, слова на слова ні рызьміняла.

**Слова не выцягнуць.** *Быць вельмі маўклівым.* Сколька дыбіва́ліся — скажы, слова ні маглі вы́цігнуць. Зь яго ўсігда слова ня выцігніш. **Слова выцягнуць.** Ты паспробый сь Цімоха слова выцігнуць хуць калі. Думыіш, слова выцігніш с такога муўчуна́?

**Слова па слову.** *Пра павольную гутарку.* Слова па слову рызгывары́ліся — а ніхай цябе, мы ж чуць ня ўмесьці расьлі́. Ну а дальшы як, а тады што — выця́гывылі зь яго слова па слову. Слова па слову цягні — нічога толкым ні рыскажыць, як мамы́ря нейкій.

**Слова свята.** *Пра цвёрдасць у абяцанні, пра безумоўнасць выканання.* Есьлі я скызаў, то слова сья́та: к вечыру разводка будзіць. У яго ўсігда слова сьвята, дырма́ тріпа́цца ня любіць.

**Слова** (словічка) **не гавары.** *Пра катэгарычнае непрыняцце парад, заўваг, пярэчанняў.* Скызалі: Колічка, нашто ж ты так дзелыіш,— дык на́ дыбы, слова ні гыварі. Ніхай твыря́ць, што хочуць, а ты слова ні гыварі. Словічка ні гыварі, нічога слухыць ня хочуць.

**Слова** (словічка) **не сказаць.** *Прамаўчаць.* Я тама слова ні скызала, пыстыяла, пыстыяла і пышла нызад. Ён што хочыць ніхай трепліцца, я словічка ні скажу. Якея ж крепкія нервы нада: яны пы-ўся́кыму нясьлі, а ён словічка ні скызаў. *Гл.* Не праранiць слова.

**Слова ў** (да) **слова.** *Даслоўна, дакладна.* Што мы тута гыварілі, іна мне ныза́ўтріга слова ў слова пірікá- зыіць. Адзін раз прычытаў і рыскызаў слова ў слова. Усё чыста слова да слова зыпымінáіць, во табе й адны дры́бы.

**Словыastралі ў горле,** *пр., буд. Пра немагчымасць гаварыць ад вялікага хвалявання, узрушанасці.* Я нічагенічка ня мог там скызаць, у мяне словы зыстря́лі ў горлі. Такую бяду уві́дзіш, дык словы зыстря́нуць у горлі. *Незак., рэдкаўж.* **Словы застраюць у горле.** Нічога такога ні случы́лыся, а ў цябе ўжо і словы зыстря́юць у горлі. *Узмацн.* **Словы пазастравалі** (пазастралі) **ў горле.** Тут вы дужа храбрі́ціся, а там у вас і словы пызыстрялі ў горлі. Як скызалі, што вы едзіця ныза́д, у іх словы пызыстрівáлі ў горлі.

**Слоў на вецер не кідаць.** *Выказвацца абдумана, сур'ёзна, разважна.* Я слоў на вецір ні кідáю, калі пыбіш-

ча́ў, маё слова сьвята. Слоў на вецір ні кідаіць, выдзіў-быў віряю — будзь здароў. *Зак.* **Слоў на вецер не кінуць.** Трахімывы хлопцы слоў на вецір ня кінуць, дырма ні пы-бішча́юць.

**Служыць абедню** (службу, малебен), *іран. Лаяць, бэсціць; лаяцца.* Чуць прулупіла вочы і пышла служы́ць абедню. Цэлый дзень слу́жыць слу́жбу, во язык дык язык. Вун паслухый, як твыя служыць малебін, ці ня трецьцій за дзень. *Непаўн.* **Паслужыць абедню** (службу, малебен). Пуслужы́ць абедню — ета йна як заветычку, хуць пысярёд ночы гатова. Ніхай толька зыя́віцца, узноў службу паслу́жыць. Пуслужы́ла малебін і пышла. *Законч.* **Адслужыць абедню** (службу, малебен). Ну, кажыцца, ацслужыла абедню, успакоілыся, можна і пы-чылавечыску гываріць. Ёй каб толька зачэпка ікая была, а службу ацслужы́ць іна ўмеіць,— як толька язык ні зы-баліць. Ты пакуль ні ацслу́жыш малебін, то і за стол ні сядзіш. *Працягл.-фінальн.* **Наслужыць абедню** (службу, малебен). Наслу́жыць абедню, што сыма пойдзіць прызд-ра́ўлінью. Нуслужы́ла службу, ня будзіць большы. Я б ішчэ ні так нуслужыла ёй малебін зь яе ла́інкыю.

**Служыць парабкам** (батраком), *жарт., рэдкаўж. Стаяць прыгнуўшыся.* Чаго ты кылы мяне служыш па́-рыбкым? Вун лі плітня служыць бытраком: выгліда́іць нешта.

**Служыць** *(чыйму)* **богу.** *Выступаць на баку пэўнай асобы.* Сколька цябе знаім, ты ўсігда служы́ў Цімкывы-му богу, зу путура́лу ў яго. *Непаўн.* **Паслужыць** (*чыйму*) **богу.** Як паслу́жыш іхніму богу, ста́ніш на ногі, яны цябе зьдзелыюць чылавекым. *Узмацн.* **Наслужыцца** *(чыйму)* **богу.** Пятрок нуслужыўся вашыму богу, чаго там дужа руссуждаць. *Законч.* **Адслужыць** *(чыйму)* **богу.** Гадоў дзесіць ацслужыла твайму богу, ну й хва́ціць, ніхай сыма сабою пыжывець. *Працягл.-фінальн.* **Даслужыць** *(чый-му)* **богу.** Дaслу́жыш ты Гаўрілывыму богу, выйдзіш у людзі, і за людзі пупадзеш.

**Сляза слязу пашыбаець,** *цяп., пр. Пра вельмі горкі плач у вялікім горы, роспачы.* Сьлізá сьлязу́ пышыба́іць, гледзічы ны яе стрыда́ньні. Мы стыялі, відзілі ўсё, у чу-жых саўсім сьліза сьлязу пышыбала. *Зак.* **Сляза слязу пашыбець,** *буд., пр.* Зірнеш, дык сьліза сьлязу пышыбець.

У любога б сьліза сьлязу пашыбла, а ты дайжа пыдыйціць ні субожыўся.

**Сляпіць вочы** *(каму), неадабр. Уводзіць у зман.* Каму ж ты сьлепіш вочы, ці мы ні пынімаім, длі чаго ета гаворіцца і дзелыіцца. *Узмацн.* **Пасляпіць вочы** *(каму).* Такея вы ўжо бяспомышныя, ён адзін пысьляпіў вам вочы, нічога ды вас ні дайшло. *Працягл.-фінальн.* **Насляпіць** (дасляпіць) **вочы** *(каму).* Ну, многа нысьляпіў ім вочы, скора цябе рускусілі? Дасьлепіш вочы і тым, і етым, ты думыіш, што хітрей цябе нікога ў сьвеці німа.

**Смагу глытаць.** *Зайздросціць, бачачы задаволенасць іншага.* Што ты сма́гу глыта́іш, заві́дна глядзець ны Йвана, што ў яго жонка як пісыныя. Хвыта́іць-хвытаіць, бярець-бярець, а тады ўжо дажнецца, ся́дзіць, сядзі́ць і смагу глытаіць. *Непайн.* **Смагу паглытаць.** Што, пыглытаў смагу, як пышла з другім, ну й добря: ня ўмеў дзіржаць, дык у хвост глядзі́.

**Смаленая скула** (дуля), *неадабр., рэдкаўж. Невядома што; нішто.* Сма́ліныя скула твайму Мікіту нада. Ці ні зы смаліныю дулію ты пріхадзіў? *Гл.* Р а б а я  с к у л а.

**Смертный час,** *узвыш. Смерць, апошнія хвіліны жыцця.* Во і Лёнікыў сьмертный час прішоў. Даўно ўжо я жду свой сьмертный час.

**Смяшынка ў рот папала,** *пр., буд. Пра беспрычынны смех.* Во й другей раз табе сьмяшы́нка ў рот пупа́ла. Яму сьмяшынка ў рот як пупадзець, няскора успакоіцца.

**Смяшыць курэй.** *Займацца пустой, недарэчнай справай.* До ўжо сьмяшы́ць курей, ты німа́ла чаго ізыком пірядзелыў. *Зак.* **Насмяшыць** (рассмяшыць) **курэй.** Нысьмяшы́лі вы курей, хто ета калі грібы с-паць сьнегу выка́пывыў. *Непайн.* **Пасмяшыць курэй.** Сходзюць, курей пасьмешуць, во што зь естыя хадні будзіць. *Узмацн.* **Парассмяшыць курэй.** Вы курей пырысьсьмяшы́лі праўдыю вашыю, вам жа ні на грош паверіць нілізя. *Працягл.-фінальн.* **Дасмяшыць курэй.** Дасьмешыцця курей лухтою етыю, і с саміх яшчэ ўсе стануць сьміяцца.

**Снаваць кросны.** *Заблытваць справу, звыч. знарок.* У цябе ўсё прайшло гладка, а я як здыла́ дукументы, і пашлі снува́ць кросны. *Працягл.-фінальн.* **Наснаваць** (даснаваць) **кросны.** Глядзі, мярні́чый, нуснуеш кросны,

зы цябе тады распу́тывый. Дуснуець ён кросны, што ныпішу зыяву і пыдам.

**Сонная цяцера,** *абраж. Соня, аматар паспаць.* Во айдзе сонныя цяцеря, ніяк ня высьпіцца, рыздряхцела як пу́хва. Қылі ўжо ны цябе сну таго хва́ціць, сонныя ты цяцеря.

**Сорак саракоў.** *Вельмі многа.* Сорык сыракоў іх там сыбра́лыся, я дайжа ні знаю, сколька іх було.

**Спадаць з ліца.** *Мізарнець, блажэць.* Што зь ёю такоя стала, пряма ны вычах спыдаіць зь ліца. *Зак.* **Спасць з ліца.** Дужа спаў зь ліца, саўсім ні пызнаць стала чылавека. *Узмацн.-множн.* **Паспадаць** (паспасць) **з ліца.** За лета выспыдалі зь ліца, ну ета ім на пользу. Ня бойся ты, халера іх дужа ні бярець, калі пыспаду́ць зь ліца, яны сваё нагонюць.

**Спадаць з ног.** *Абяссільваць, знемагаць.* Гадоў за восімдзісят було, тады пычыла спыдаць з ног. *Зак.* **Спасць з ног.** Пакуль ціга́ісься, нічога, а як спадзеш з ног, тады худа. *Узмацн.-множн.* **Паспадаць** (паспасць) **з ног.** Пыспыдаць з ног нядоўга, толька тады кычацца дужа дренна. Пыспадзём з ног, хто нас тады прігледзіць.

**Спадаць з цела.** *Худнець, слабець, мізарнець.* Пыд вясну ён неік усігда спыдаіць сь цела. *Зак.* **Спасць з цела.** Проця прышлагодніга твыя сьвякрова пыря́дышна спала сь цела. *Узмацн.-множн.* **Паспадаць** (паспасць) **з цела.** Былі крепка пыспыдалі сь цела, а цяперя ўзноў разьеліся як сьлімяньнё. У іх жа ўсяго хвыта́іць, аднаго птушыныга мылыка німа, а нешта дужа пыспалі сь цела.

**Спакон веку,** *адз., мн. З незапомных часоў.* Спакон веку ў іхнім раду́ усе былі рыбыця́шчыя. Спакон вякоў па етых буграх вяліся лісіцы, толька пасьледнія гады ня відна.

**Спаць вечным сном,** *узвыш. Быць нябожчыкам.* Сьпіць ён вечным сном, нічога яму большы ні нада, ні клапот ні забот ні знаіць. *Зак.* **Заснуць вечным сном.** Наму́чыўся, пакуль заснуў вечным сном, увесь пабітый быў, увесь пыра́нітый. Заснуў ты вешным сном, мыя ку́кылка, маё горічка, а я пла́чу — ні ныплачуся. *Узмацн.-множн.* **Пазаснуць вечным сном.** Пыдыбра́ліся мае тываришкі, пасьці ўсе пызаснулі вечным сном.

**Спаць і курэй відзець,** *жарт. Марыць пажывіцца, украсці.* Тваe га́ўрікі етыя сьпяць і курей відзюць: ім каб толька гарод выцірць, ато і ў мёд злазіць гатовы.

**Спаць і** [ўва сне] **відзець.** *Вельмі хацець, марыць.* Мой дык ужо сьпіць і відзіць мытыцыклет. Сьпяць і відзюць сябе ў горыдзі. Яй-богу, ты сьпіш і ўва сьне відзіш тую свадзьбу, там і праўда пы табе у атопык званíць будуць.

**Спаць у** [сырой] **зямле** (магіле), *узвыш. Быць нябожчыкам.* Ужо каторый год сьпіць у зямле. Такей хлопіц быў, а сьпіць у магілі, во што зна́чыць ні бярежца. Што ты пры Мікілая спра́шыіш, ён пятый год ужо сьпіць у сырой зямле. Трудна мыладому у сырой магілі спаць.

**Спаць у шапку,** *жарт. Упускаць магчымасці.* Што ж ты сьпіш у шапку, нейкій чарнíлыўскій с тваёю Ганнык пашоў. Ты ўсігда спаў у шапку, так усё на сьвеці прасьпіш. Ня сьпіця, хлопцы, ў шапку, дзеўкі йдуць.

**Спераду горб расцець,** *здзекл. Пра цяжарнасць, звыч. няшлюбную.* Глянь-ка ты, і ў спакойнінькія дзевычкі сьперіду горб расьцець.

**Спіна** (шкура) **чэшыцца** (свярбіць), *цяп., пр. Пра паводзіны, за якія могуць пакараць.* Сьпіна ў цябе, маліц ты мой, чэшыцца, і дужа чэшыцца. У цябе нідырма́ сьпіна чыса́лыся. Калі сьпіна сьвярьбíць, бацька табе пачэшыць. С самыга раньня відна було, што шкура ў яго чысалыся. Ну разьві ні сьвярьбіць у цябе шкура? *Пачын.* **Спіна** (шкура) **зачасалася** (засвярбела), *пр., буд.* Ува ўсіх траіх сьпіна зычысалыся. Як зысьвярьбіць сьпіна, ты йдзі ў мідунíчкі злазь. Шкура як зачэшыцца, пряма просіцца, каб пыхадзіў лі яго з ремнім. Што, ці ня ўзноў у цябе шкура зысьвярьбела? *Законч.* **Спіна** (шкура) **адчасалася,** *пр., буд.* Аччыса́лыся сьпіна, сядзіць як ціхыя лета. Ня думыў я, што ў яго так скора сьпіна аччысалыся. Аччысалыся шкура, конікі большы ні выкідаіць. *Гл.* Робры чэшуцца.

**Спіну** (бакі, плечы) **грэць,** *іран. Гультаявацъ.* Калі ўжо табе ныдаесьць сьпіну грецъ? Ці ма́льскыя была ноч, ты кычаўся, а цяперя дзень бакí греіш, ні за што ня возьмісься. Грелі б і грелі дзень у дзень плечы, дзела ні спрашывый. *Непаўн.* **Спіну** (бакі, плечы) **пагрэць.** Так і глядзíць, каб сьпіну толька пагрець, пальцым ні к чаму

ня хочыць прітронуцца. Ты ўжо сяньня бакі пагрэў, пойдзім хуць палку піряпілім. Што ж вы дзелылі месіц,— пагрелі плечы — во й зынятык ваш увесь. *Працягл.-фінальн.* **Спіну** (бакі, плечы) **нагрэць** (дагрэць). Нагреіць сьпіну, што біс хвырасьці́нкі аста́ніцца, а за лета ж можна насеч, насеч. Відзіш, як дагрэў сьпіну, хвыта́іць у пустэй сьлед. Нагрелі бакі, аглідаюцца: чаго йта сьнег ныбыракі ва́ліць. Хырашо дагрелі бакі, усяго зыгатоўліна? Песінкі яны пріклáдныя пелі і плечы нагрелі уволю, толька ні заробіў за іх ніхто. Дагрелі плечы, зіма зыліглá, а ў іх трі вазочыкі сена,— чым карову прыкармі́ць?

**Спіну часаць.** *Лупцаваць.* Ці пупыда́ла яшчэ каму столька, сколька табе сьпіну́ чысалі. Дзяржыць у руках крепка і сьпіну, буваіць, чэшыць. *Непаўн.* **Спіну пачасаць.** Табе каб найшоўся хто сьпіну пычыса́ць, к уремю було б і к месту. Толька пупадзець Сярьгей, ён табе сьпіну пачэшыць. *Узмацн.* **Спіну начасаць.** Абоім ладна сьпіну нычысалі, ніхай пыхвалюцца. Табе б нада крепка сьпіну нычысаць. *Законч.* **Спіну адчасаць.** Я дык ба і пырасіла каго сьпіну табе аччысаць, каб абрузумі́ўся хуць ны кыпялю́хтычку.

**Спісываць з паталка** (са столі), *неадабр., рэдкаўж. Вырашаць, сцвярджаць беспадстаўна.* Што ён сьпісывыіць с пытылкá, ён нікога нійдзе ні сустрюкáў. Ты ня сьпісывый са столі, а сам вазьмі ды разгледзься. *Зак.* **Спісаць з паталка** (са столі). Усё ён сьпісаў с пытылка, ніхто яму нічога ня мог рыскызаць. Аткуль яны што відзілі, аткуль яны што знаюць, ета яны сьпісалі са столі. *Гл.* Б р а ц ь з п а т а л к а.

**Спіхаць** (спіхывыць) **з плеч** (плячэй). *Пазбаўляцца клопатаў.* Сьпіха́й ты скарей с плеч етых зяцёў, нашто табе іх карміць. У сябе сьпі́хыіць с плеч, а другому содзіць ны карык. Ні так лёхка ўсю араву сьпіхывыць с плячэй. *Зак.* **Спіхнуць з плеч** (плячэй). Мне каб сьпіхну́ць с плеч етых вы́рвысыў, тады б і клопыты ўсе. Як жа ты сьпіхнеш с плячэй старых, яны ж цябе ўзгудува́лі. *Узмацн.* **Паспіхываць з плеч** (плячэй). Зьмітрок свабодзін: дзяцей пасьпіхывыў с плеч, на свой хлеб селі. Табе нада пасьпіхывыць іх с плячэй, сідзяць аб'іда́лы абу́зыю. Я пыняў, што ён цыля́іць пасьпіхывыць іх с плячэй ну Кузьмінка.

**Сплош і радам,** *запаз. Усюды; усе.* Такей прайдоха

Лявон быў, яму сплош і рядым усё ўдывáлыся. Пры вас ужо сплош і рядым гаворюць, якея вы мысьцярíцы.

**Спускаць дух,** *жарт. Паміраць.* Мікіпыр вун у твае гады жаніўся, а ты зьбіраісься дух спускáць, што йта ты, а? *Зак.* **Спусціць дух.** Ты яго многа ні кармі, ён скора спýсьціць дух, дык ета ўсё ныпрáсна. *Узмацн.-множн.* **Паспускаць** (паспусціць) **дух.** Ці вы тут ні пуспускáіцця дух ня еўшы? Глядзі, паспýсьцюць дух, і будзіш атвічáць, што чáрычку ні пыднíслá.

**Спускаць з вока** (вачэй), *часта жарт. Пакідаць без нагляду.* Тваю, брат, жонку апáсна спускаць з вока. Вот відзіш, як спускаць з вачэй, біз ныгляду астыўляць. *Зак.* **Спусціць з вока** (вачэй). Спýсьціш з вока і прыпáла, іна тыкая карова, што так і глядзіць, каб шмыгнýць ат тубунá. Ага, спусьцíў з вачэй, то бегый, ішчы, ні нада рызівоніць. *Параўн.* Не спускаць з вока.

**Спускаць з языка.** *Пераставаць абгаворваць.* Дýмыла, троху забылі, а яны й ня думылі спускаць зь ізыка. *Зак.* **Спусціць з языка.** Қылі пупадýць, то ня скора спýсьцюць зь ізыка, доўга будуць насіць. *Параўн.* Не спускаць з языка.

**Спускаць механ шкуру.** *Лупцаваць бязлітасна.* Нада ні глáдзіць, а спускаць мехым шкуру кажный дзень зь еткіх. Сколька ні спускай мехым шкуру, а есьлі ўрадзіўся такей, то трудна пірівысьпітáць. *Зак.* **Спусціць мехам шкуру.** Твой бацька есьлі дыбярецца, то спýсьціць мехым шкуру. З вас даўно нада було мехым шкуру спусьціць, тады б вы пыспыкайнелі. *Узмацн.* **Паспускаць** (паспусціць) **мехам шкуру.** Усё ніяк ня вы́біру ўремя дыбрáцца, ато б я пуспускаў зь іх мехым шкуру. Пупадý яшчэ раз ны яблыных — пуспушчу мехым шкуру. *Гл.* Лупіць кожу.

**Спускаць на тармазах,** *кніжн. Вырашаць справу без шуму, з уступкамі.* Яны знаюць, што пычáнь шумець — можыць дальшы сыр-бор зыгарецца, паетыму і спускаюць ны тырмызáх. *Зак.* **Спусціць на тармазах.** Другей ба ня выпутыўся, а тута спусьцілі ны тырмызах, усё ціха, спакойна.

**Спускаць сем шкур.** 1. *Лупцаваць бязлітасна, з лютасцю.* Як успы́хніць — сем шкур, глядзі, пычанець спускаць, а тэя бáлыўнікі як хадзілі пы гылывáх, так і хо-

дзюць. 2. *Абіраць, патрабаваць вельмі высокай аплаты.* Лясьнік быў ні лясьнік, а нячыстыя сіла нейкыя, сколька ён спускаў зь людзей сем шкур і ныжываўся. Вясною яны за горсьць шчаўлю спускаюць сем шкур. *Зак.* **Спусціць сем шкур.** 1. Каб зь іх са ўсіх спусьціў сем шкур, ды яшчэ каб сольлю пысаліў, каб чўствывылі. Пятрок сем шкур з вас спусьціць, толька вы ні ўніміця сваё ба́лыўства. 2. Гэрчык быў ішчэ тэй, умеў зь любога сем шкур спусьціць. У мяне за тэя палкі сем шкур спусьцілі.

**Спяшыць на віселіцу** (вісельню, шыбеніцу), *асудж., рэдкаўж. Паступаць безразважна, бяздумна, супрацьзаконна.* Нечыга було сьпяшыць на вісіліцу, пагібілі сабе шукаць. Сьпяшыць, узноў сьпяшыць на вісільню. Дужа бальшэй ахотнік сьпяшыць скорінька на шыбініцу. *Пачын.* **Паспяшыць на віселіцу** (вісельню, шыбеніцу). Урадзіўся такей пріпадык, што ў любэй мамент пысьпяшыць на вісіліцу. Дужа быйстра на вісільню пысьпяшылі із-зы свае гырячкі. Пысьпяшыў на шыбініцу зь ніцярьпеньнім тваім, нысьмяшыў людзей. *Гл.* Лезць на віселіцу.

**Ссаджываць у лужу.** *Ставіць у непрыемнае становішча.* Ты дужа ні зыдыва́йся, у лу́жу цябе сса́джывылі хто ні ляніўся, і ў піряплётых ты пубува́ў вы ўсякіх. *Зак.* **Ссадзіць у лужу.** А што, ссадзілі ў лужу, ніпрія́тна стала, а як жа ты другіх любіў пыткалу́пывыць. *Узмацн.* **Пассаджываць** (пассадзіць) **у лужу.** Пысса́джывылі вас там у лужу, як глума́коў якіх. Сьпірва зьдзелыйця, а тады хваліціся, вас пассодзюць у лужу і будзіця вырыня́тымі глядзець. *Гл.* Садзіць у лужу.

**Ссаць** (цягнуць, высасываць, выцягываць) **сокі,** *радзей адз. Нажывацца за кошт іншых.* Што ты ўсё сокі зь яе сьсеш, айдзе ж іна табе ўсяго ныбярецца. Доўга ссаў сок, пакуль прутуріла. Нашто ім свой хлеб, кылі сы старых можна цягнуць сокі. Сокі выса́сыюць сы стырікоў і яшчэ ні слова ні скажы ім. Як вам ня стыдна выцягывыць сокі ш чылавека, брыся́м еткім. *Зак.* **Выссаць** (выцягнуць) **сокі.** Вы́ссылі сокі і паехылі: вы нам большы ні нада. Пакуля пасьледнія сокі ня выцігнулі, усё нуд душою віселі. Сок выцігнуць, а тады ты ім ні нада будзіш. *Непаўн.* **Пассаць сокі.** Ты пыссаў сокі ладна, хва́ціць сь цябе, зы работу бяріся. *Узмацн.* **Павысасываць** (павыссаць, павыцягываць, павыцягнуць) **сокі.** Сьпірва пывыса́сывылі сокі, а тады: ты нам ні нада,— во якея яны людзі.

А што б ты гываріла, каб сь цябе сокі так павыссылі. Пляменьнікі пывыцягывылі сокі, ім усігда ўсяго ні хвытаіць. Усе сокі павы́цігнулі, а цяпер ім ні нада. *Працягл.-фінальн.* **Дассаць** (дацягнуць) **сокі.** Ну, дыссалі сокі, большы ўзяць нечыга і ў тэй бок на іх глядзець ні нада. Дыця́гніця сокі, што галенічкыю кініця, іна й так вам усё піряпёрла.

**Ставіць** (браць) **на прывязь,** *жарт. Трымаць неадлучна пры сабе.* Ты свайго на прівізь ставіш, ац свайго хвыста атыйціць ні даеш. Бяры, бяры на прівізь, ато скора зьбягіць за дзеўкымі. *Зак.* **Паставіць** (узяць) **на прывязь.** Як жа табе ўдалося пыставіць такога атлёта на прівізь. Мы даўно відзім, што Маша ўзіла яго на прівізь, ні ны шаг ні тпуска́іць, ну ён зьбягіць сі раўно.

**Ставіць вапрос рабром,** *кніжн.-канц. Гаварыць, заяўляць рашуча, цвёрда, катэгарычна.* Цімох ні абы-хто, ён зра́зу ста́віць вапрос рябром. *Зак.* **Паставіць вапрос рабром.** Ты луччы пірідзь зяцім пыстаў вапрос рябром, ён ува ўсім усякім ту́мкыіць дужа крепка.

**Ставіць на кон,** *кніжн., рэдкаўж. Рызыкаваць.* Нічога я тут ні стаўлю на кон і ні выйгрыва́ю нічога. *Зак.* **Паставіць на кон.** Во різыка́нт, жысьць зы мінуту пыста́віць на кон, яму нічога ні жалка. *Гл.* Ставіць на карту.

**Ставіць** [паследнюю] **точку,** *кніжн. Заканчваць, канчаткова вырашаць.* Мы пра ўсё пыгыварілі, і я стаўлю точку, нечыга тут многа рузмунды́кывыць. Па-мойму, ставіць у етым дзелі точку ні пыра́. Сколька ж цягнуць валы́нку, нада ставіць пасьледнію точку. *Зак.* **Паставіць** [паследнюю] **точку.** Ды нывазіліся дос, дывай пыставім точку і большы ня будзім варочыцца. Я ўсё, пыставіў точку. Доўга кыніцелілі, пакуля пыставілі пасьледнію точку.

**Ставіць** (станавіць) **на адну доску.** *Аднолькава ацэньваць.* Што ж ета вы ста́віця мяне ны адну доску з Максімывымі, у іх жа чэцьвіра трудаздольных у хаці. Ныпрасна вы становіця на дну доску удаву с такімі лабрэтымі. *Зак.* **Паставіць на адну доску.** Пыставіш ны адну доску, дык нічога ў цябе ні палучыцца. *Гл.* Мераць на адзін аршын.

**Ставіць** (станавіць) **на калені.** *Падпарадкоўваць.* Дужа ні храбрі́ся, ні такіх, як ты, хрыбряцоў ставілі ны

калені. Папробывылі былі стынавіць ны калені Сьціпана, ды не, ня ймуць. *Зак.* **Паставіць на калені.** Мала яны кашы елі, каб пыставіць мяне ны калені. Наш народ ніхто ні пыставіць ны калені.

**Ставіць** (станавіць) **на карту.** *Рызыкаваць.* Ці стоіць тута ставіць ны ка́рту, нічога ў цябе ня вы́паліць. Глядзі, ты дужа многа становіш ны карту, каб ні жалеў посьлі. *Зак.* **Паставіць на карту.** Я ні такей,— я кылі дзелыць што, усё пыстаўлю ны карту, палу́чыцца — дык палучыцца, а не — дык не.

**Ставіць** (станавіць) **на крывую дарожку.** *Уцягваць у злачынную дзейнасць, прывучаць да несумленнага жыцця.* Ты ж відзіш, што яго ста́вюць ны кріву́ю дарожку, і нічога ні скажыш. Ужо саўсім былі стынавілі ны крівую дарожку, каб мы ні ўміша́ліся, быў ба разым зь імі. *Зак.* **Паставіць на крывую дарожку.** Нешта ж другіх ны крівую дарожку ні пыставілі, чаго твой сынок пупа́ўся ім у рукі?

**Ставіць** (станавіць) **на** [сваё] **места.** 1. *Заклікаць да парадку.* Я луччы чым хто умеў ставіць яго на места. Алёна часьценька стынаві́ла Кырпінка на места. Некыму було цябе ставіць ны сваё места. Дужа яны рызыйшліся, нада стынавіць ны сваё места. 2. *Надаваць яснасць, пэўнасць.* Усё тута ставіць на места ня дужа проста було, усё запу́тына большы некуды. Пріслалі новыга буга́лціра, ён цяперь становіць усё на места. Дні чатырі рызьбіраліся, ставілі дзіла́ ны сваё места. Тут ніізьвесна зь якога кынца пычынаць стынавіць ны сваё места. *Зак.* **Паставіць на** [сваё] **места.** 1. Іван іх зразу пыставіў на места. Пыставіць ны сваё места я ўмею. 2. Хырашо, што ён паехыў, хуць пыставіў усё на места, рызьясьні́ў. Што вы пыставілі ны сваё места, яны біз вас ета зналі.

**Ставіць** (станавіць) **сябе на места** *(чыё). Супакойвацца; уяўляць сябе ў становішчы іншай асобы.* Ні кіпяціся, умей ставіць сябе на места. Стынавіць сябе на места Лявона я ні хачу, ну толька ж і апуска́цца як старцу нечыга. *Зак.* **Паставіць сябе на места** *(чыё).* Нада ўмець пыставіць сябе на места. Пыстаў сябе на места Сашкі, а тады і гывары.

**Ставіць** (станавіць) **точкі** (кропкі) **над і,** *кніжн. Заканчваць, прымаць канчатковае рашэнне.* Нада ж ста́-

віць точкі над і, сколька ж зь етым можна вазіцца. Я пакуля што ні зьбіраюся ставіць кропкі над і, пыгляджу, што яны дальшы будуць дзелыць. Стынавілі б вы ўжо точкі над і, нічога зь естыя вазьні ні палу́чыцца. Доўга мяне угыва́рівыў: стынаві ты кропкі над і, яны ніплахея людзі. *Зак.* **Паставіць точкі** (кропкі) **над і.** Ладна, пыставім точкі над і, ты мне за мёд усё сплоціш, а я ў суд ні пыда́м. Мы скызалі, пыставілі кропкі над і, нічога пірадумывыць ня будзім. *Працягл.-фінальн.* **Наставіць точкі** (кропкі) **над і.** Ета рысьця́па ныставіць точкі над і, будзіць ныста́ўліна. Паехылі, нічога ня кончылі, ні пыгываріл і,— во табе й ныставілі кропкі над і.

**Ставіць** (станавіць) **у тупік.** *Бянтэжыць да разгубленасці.* Як возьміцца спра́шывыць, дык ставіць іх ны кажным шагу у тупі́к. Ніхай, што язык хырашо падвешын, а Пуўлючок усякій раз становіць яго у тупік. *Зак.* **Паставіць у тупік.** Так пыста́вілі ў тупік, што сядзеў рызя́віўшы рот і ні знаў, пра што скызаць.

**Ставіць у вугал,** *рэдкаўж. Бянтэжыць.* Толіка ставіць у вугыл проста, сколька ён учыўся, ты папробый спрасі́ пра што ў Сямёна. *Зак.* **Паставіць у вугал.** Яго і нечыга пыставіць у вугыл, ён нічога ні знаіць.

**Ставіць** (устаўляць) **палкі ў калёсы.** *Знарок рабіць перашкоды.* Ці я сам ня чу́ствыю, ці што, мне Ігарёнык ставіць палкі ў калёсы. Нарошня ўстыўляюць палкі ў калёсы, натура ў іх тыкая. *Зак.* **Паставіць** (уставіць) **палкі ў калёсы.** Ну раз ба ён мне пыставіў палкі ў калёсы, ну два, а большы б ні зыхацеў, я атвучы́ў ба. Усё було ны мазі́, а тута яны уста́вілі палкі ў калёсы. *Узмацн.* **Паўстаўляць** (паўставіць) **палкі ў калёсы.** Ета ж пыўстыўля́лі палкі ў калёсы, каб хуць чым дапеч. У саміх ня вы́пыліла, дык другім пыўставілі палкі ў калёсы. *Працягл.-фінальн.* **Наўстаўляць** (даўстаўляць) **палкі ў калёсы.** Ныўстыўля́іць палкі ў калёсы, палучыць калі ат мяне. Дыўстыўляў палкі ў калёсы, прыздра́вілі як належыць.

**Ставіць хрэст,** *кніжн. Заканчваць, спыняць, канчаць.* Мы ставіць хрест на ўсім етым ні зьбіраімся, мы йшчэ пыва́юім. *Зак.* **Паставіць хрэст.** Ніхай ба яшчэ раз пыгываріць і каб на етым пыставіць хрест.

**Станавіцца** (выцягывацца) **ў струнку,** *іран. Празмерна дагаджаць, выражаючы пачцівасць.* Ты ішчэ ні зуслу-

жы́ў, каб пíрíт табою стынавíліся ў стру́нку. Ці відзіш ты, як выцягыіцца ў струнку пірідзь зьвіньнявою. *Зак.* **Стаць** (выцягнуцца) **у струнку.** Яны цябе прíжму́ць, дык ні хыця́ станіш у струнку. Выцігнуўся ў струнку піряць цесьцім, ні знаіць, ны якой наге ступíць. *Узмацн.-множн.* **Павыцягывацца ў струнку.** Дужа ўжо зыбігáюць перід Стыхванывічу, як ён ідзець, дык пывыця́гывыюцца ў струнку: «Здрастуйця, Стыхванывіч»,— а ён пысьміхáіцца, знаіць, к чаму «Здрастуйця».

**Станавіцца на горла** (глотку). *Груба, нахабна дабівацца.* Ого, якей ныхáльный, ён табе на горла становіцца, з зубоў ірьвець. Абоя на глотку становюцца, во чаго аддаю́. *Зак.* **Стаць на горла** (глотку). Прíстáлі, прíчапíліся: дай, дай, пряма на горла сталі, ну й аддаў. Другому гатовы на глотку стаць, а свайго ні на грош ня ўпу́сьцюць. *Гл.* Н а с т у п а ц ь н а г о р л а.

**Станавіцца на крывую дарожку.** *Рабіць несумленна, злачынна.* Есьлі пашлí кынпáніі, вы́піўкі, гарелычка — ета ясна, што становіцца ны крівую дарожку,— ніхай вун у кніжку глядзіць. *Зак.* **Стаць на крывую дарожку.** Зы дзіцёнкым змалку глядзі ды ў руках дзяржы, а як станіць ны крівую дарожку, тады позна і войкыць, і вохкыць.

**Станавіцца на пуць ісцінный,** *жарт. Рабіцца сталым, разумным.* Цяперя ты с Паўлікым астарожна, ён ужо становіцца на пуць íсьцінный. *Зак.* **Стаць на пуць ісцінный.** Дажджэсься, стáніць ета аторва на пуць ісьцінный, кылі хочыш і ны два пуці станіць: і тут нап'ецца, і там бу́дзіць цмы́гыць. *Парайн.* Н а с т а ў л я ц ь н а п у ц ь і с ц і н н ы й.

**Станавіцца на сваё места.** *Займаць становішча ў адпаведнасці з магчымасцямі.* Коля ня с тых, што быстра становюцца ны сваё места, такея ня дужа сваё места знаюць. *Зак.* **Стаць на сваё места.** Трошку былі пычалі зыдывáцца — як жа, ета мы, а тады сталі ны сваё места.

**Станавіцца на якар,** *жарт. Асталёўвацца на жыхарства.* Нада стынавіцца ны я́кырь, хвáціць цігáцца па сьвету як бяздольніку. *Зак.* **Стаць на якар.** Няўжэлі ета Максімыў сын стаў ны якырь, ну ні ждала я, ні ждала. А наш Якыў стаў ны якырь.

**Станавіцца** (паднімацца) **дыба,** *рэдкаўж. Рашуча пя-*

*рэчыць, пратэставаць, гарачыцца.* Паспробый-ка адно слова ні пы яго скызаць, січас становіцца дыба. Ня дужа ета красіва пыднімацца дыба з-зы ўсякія ірунды. *Зак.* **Стаць** (падняцца) **дыба.** Чуць што ні так, зразу стануць дыба, айдзе ты згаворісься. Я к ім пы-харошыму, так і так, луччы було б уступіць, дык пыдняліся дыба. *Гл.* П а д н і м а ц ц а н а д ы б ы.

**Станавіцца рабра** (рабрака, рабраком), *іран., рэдкаўж. Рэзка пярэчыць, не пагаджацца.* Ён проста зы прівычку ўзяў стынавіцца рібра. Чаго ты становісься рібрыка, яно ж усё ладна сказына. Дужа пычаў стынавіцца рібраком, ціряшчур дужа. *Зак.* **Стаць рабра** (рабрака, рабраком). Усё йшло ладна, дык жа Лыўрінёнку зыхацелыся стаць рібра. Яму дзела гаворюць, а ён ніізьвесна чаго стаў рібрыка. Яму як што ўспадзець у гылаву, станіць рібрыка і нізашто ні піряпреш. Нешта ж стаў рібраком, ні пы ыраву што-то.

**Станавіцца** (уставаць, паднімацца, узнімацца) **на ногі**. 1. *Ачуньваць, папраўляцца.* Сколька ж табе ліжаць, нада стынавіцца на ногі. І Высілёнык устаець на ногі. Варкін мужык пыднімаіцца на ногі, а думылі, зь яго ўжо нічога ня будзіць. Зыбалець лёхка, а ўзьнімацца на ногі трудней. 2. *Паляпшаць свой дабрабыт, рабіцца самастойным, незалежным.* Ці думыіш ты калі стынавіцца на ногі, ці ўвесь век будзіш ны бацькывый шыі сядзець? Пыра, пыра ўстываць на ногі, сам думый, што на сьвеці жыць нада. Пасьледнія ўремя яны пыднімаюцца на ногі, хызяйства ладныя рызьвялі. Мне було трудна ўзьнімацца на ногі, помышчы ў мяне ні було. *Зак.* **Стаць** (устаць, падняцца, узняцца) **на ногі**. 1. Быў стаў на ногі, алі ж ні бярёгся і ўзноў зваліўся. У харошыга доктыра зы нядзелю устаніць на ногі. Дужа ліжаў, ніхто ня думыў, што падніміцца на ногі. Здароў — ні здароў, а ўзьняўся на ногі. 2. Міхалкіны сыны сталі на ногі, крепка абжыліся. Еткыя біда іх была пацьсекла, а зы два гады узноў усталі на ногі. На ногі пыдняліся, цяперя я за іх ні баюся, прыжывуць. Як жа було ўзьняцца на ногі: хутыр пустэй, рідабодзьдзя расло, лугу ні було ніякыга. *Параўн.* П а д н і м а ц ь н а н о г і.

**Станавіцца ў тупік.** *Губляцца, трапляць у безвыходнае становішча.* Мы ні раз, бувала, стынавіліся ў тупік,

як ён пычынаў спрáшывыць. *Зак.* **Стаць у тупік.** Усігда яны ныхадзілі вы́хыд, а тут сталі ў тупік, саўсім рысьціряліся. *Гл.* Захадзіць у тупік.

**Старая песня.** *Даўно вядомае.* Завёў стáрыю песьню, мы чулі етыя рызгаворы ні раз. У яго ўсігда пычынаіцца стырая песьня: усім хырашо, а яму плоха.

**Старый** (бітый) **воўк.** *Вопытны, бывалы чалавек.* Цімох — старый воўк, яго ня дужа чым падловіш. Ета старый воўк, ён прашоў агні і воды. Бітый воўк, а тута пупаўся: усё, што гыварiў, аткызáлі ёй.

**Старый і малый.** *Усе грамадой.* Гу́жым дзьвінуліся стáрый і мáлый у лес, арехі с арешынымі зьнясу́ць. Сяньня старый і малый на полі, пагода лучча некуды.

**Старый** (стрэляный) **верабей.** *Вопытны, бывалы чалавек.* Гаўріла — старый вірябей, усё ета ён лучча цябе знаіць у сто разоў. Ета стреліныя віряб'і, жызьні яны пыспытáлі. *Парайн.* Старыга віріб'я ны мякіні ні прывядзеш.

**Стаць на пробку,** *гумар. Выпіць.* Як станіць на пробку, тады ён добрый. Ці ні стаў ты і сяньня на пробку? *Незак., адзінк.* **Станавіцца на пробку.** Прівучыўся, патроху становіцца на пробку. Тады-сяды становіцца на пробку, уця́гыіцца. *Гл.* Наступіць на пробку.

**Стаяць адною нагою ў магіле** (яме). *Дажываць век.* Адною нагою ў магілі стаíць, а ўсё ны баб пыглідáіць. Ня жы́ціль с Саўкі, ён ужо адною нагою ў ямі стаіць. *Зак.* **Стаць адною нагою ў магілу** (яму). Есьлі стаў адною нагою ў магілу, то ўжо нічога ні нада. Як станіш адною нагою ў яму, тады пачу́ствыіш, як на сьвеці жыў.

**Стаяць гарою.** *Абараняць рашуча і непахісна.* Зы сваіх яны стыяць гарою, ты пыспрабуй-ка што проця прыгыварíць. *Пачын.* **Станавіцца гарою.** Зычапі толька Аўсеівых, січас усе становюцца гарою. *Зак.* **Стаць гарою.** Ку́чыю стáлі гарою і апстоілі, ато ўжо таму було — ні знаў, што дзелыць.

**Стаяць груддзю.** *Абараняць рашуча і непахісна.* Стыяў гру́дзьдзю зы Якыва, яны дужа бальшэя дружбакí. *Пачын.* **Станавіцца груддзю.** Чаго йта ты зы Сашку становісься грудзьдзю, ці ні адзьдзенчыць хочыш зы

сянцо? *Зак.* **Стаць груддзю.** Мы ста́нім грудзьдзю, у крі́ўду вас ні дадзім, мы вашу дыбрату́ помнім.

**Стаяць за спіною.** *Таемна дапамагаць, скрыта кіраваць, накіроўваць, падштурхоўваць.* У яго нехта стаіць зы сьпіною, сам ён ды ўсяго етыга ні даду́мыўся б. *Пачын.* **Станавіцца за спіною.** Ня думыў я і ні зьбіра́ўся ні ў кога стынаві́цца зы сьпіною. *Зак.* **Стаць за спіною.** Каб ні сталі цёткі зы сьпіною, то йна нічога б ня вы́йгрыла.

**Стаяць на адной даске** (доске). *Быць падобным да іншага ва ўсіх адносінах.* Ты пыдняўся ого як вісока, стаіш ны адной даске з брігадзірым — паўлі́тры яму падносіш. Стыяў ты зь імі ны адной доскі, ды нешта пыніжэў. *Пачын.* **Станавіцца на адну даску** (доску). Ён становіцца ны адну даску з Бырысёнкым, дайжа ву́сікі такея самыя зугудува́ў. Мал ты ішчэ стынавіцца ны адну доску с Аўдзеім. *Зак.* **Стаць на адной даске** (доске, на адну даску (доску). С самі́м Зьмітраком ны адной даске стаў, што яму цяперя. Дырма ён зьбіраіцца стаць ны адной доскі с кумамі. Айдзе ж табе, гультаю, стаць ны адну доску с Хведзькыю, кылі ён работыіць ні-пыклыда́ючы рук, а ты гульма гуляіш.

**Стаяць на баку** (старане). *Выступаць у абарону.* Ты ўсігда стыяў ны Сярёжкіным баку́. Не-а, ты ні знаіш, чаго ён стаіць ны баку Хвёдырькі. *Пачын.* **Станавіцца на бок** (старану). Прімець-ка, Домна ўсігда становіцца ны Аніськін бок. Чаго ж ты стынавіўся ны стырану́ Сярьгея, кылі ён ніпра́ў? *Зак.* **Стаць на бок** (старану). Ны ваш бок ён ні разу ні станіць. Мы ўсе знаім, чаго ён стаў ны стырану Лаўріна.

**Стаяць на галаве,** *адз., мн. Паводзіць сябе распусна, вельмі дурасліва.* Знаю, чаго ён стаіць ны гылаве, ремінь даўно па ім хадзіў. Адны як аста́нуцца на ўвесь дзень, ны гылыва́х тут стыяць. *Пачын.* **Станавіцца на галаву** (галаве). Унімаць дужа некыму, дык саўсім становюцца ны гылаву, кватэрку вун раські́дылі. Меншы ны галовы стынаві́ціся, рукі-ногі цалейшымі будуць. Становюцца ны гылаве, як адны астаюцца. Бісь цябе яны тута ны гылыва́х стынавіліся. *Зак.* **Стаць на галаву** (галаве). Ніхай ба хто ту́кнуў троху, ато саўсім сталі ны гылаву. Ны гылаве стануць, а ён саўсім уніма́нія ні брышча́іць.

**Стаяць на дароге** (пуці). *Быць перашкодай.* Хто там у цябе стаіць ны дарогі, нешта ты выдýмывыіш. А чаго ён стаіць ны маёй пуці, чым я яму ні дыгадзíў? *Пачын.* **Станавіцца на дароге** (дарогу, пуці, пуць). Хто яму становіцца ны дарогі, гываріць нечыга, пустоя трепліць. Ня думылі мы нікому стынавіцца ны дарогу. Ні хачу я стынавіцца ну пуці ні ў кога, нікому ні хачу мішаць. Ні нада було стынавіцца на іх пуць, ніхай ба яны брáліся, жаніліся, ну іх. *Зак.* **Стаць на дароге** (дарогу, пуці, пуць). Нарошня лучáіць стаць ны дарогі ў Анікына. Із-за сына яны сталі Пітраку ны дарогу. Усё хырашо пулучáлыся, а Дзім'янывы сталі ну пуці. Ні стануць яны сільчáным на пуць, ні захочуць. *Гл.* Д а р о г у з а с т у п а ц ь.

**Стаяць на задніх лапках,** *іран. Празмерна дагаджаць.* Вот любіць стыяць пірід нычáльствым ны зáдніх лáпкых. *Пачын.* **Станавіцца на заднія лапкі** (задніх лапках). Ужо так становіцца ны заднія лапкі пірід Кіреім, што ні прідýмыіш як. Ніхай сабе што мярло, а вы́гыду пачуў — становіцца ны задніх лапкых. *Зак.* **Стаць на заднія лапкі** (задніх лапках). Як увідзіў Дзёму, мігым ны заднія лапкі стаў, такей добрый, хуць ды раны прiклыдáй. Ці ты ні пынімáіш, чаго яны сталі ны зáднія лапкі, сена ныкасíць нада. Нешта ні пасьпеў ны задніх лапкых стаць пірід Андреім.

**Стаяць на каленях,** *іран. Дагаджаць прыніжаючыся.* Тыкая-то асоба, што я ны каленіх буду піряд ёю стыяць. *Пачын.* **Станавіцца на калені** (каленях). Чаго ён етык становіцца ны калені піряд імі? Піряд кім ты толька ні стынавіўся ны каленіх, усігда лістом сьцелісься. *Зак.* **Стаць на калені** (каленях). Із-зы вашыга сына я ны калені ні стану. Стань ты піряд імі ны каленіх,— во чаго яны хочуць.

**Стаяць на краю магілы.** *Дажываць век.* А пра што дужа думыць, кылі ён стаіць ны краю магілы. Стаіць ны краю магілы, а зымашык сваіх ні кідáіць. *Гл.* С т а я ц ь а д н о ю н а г о ю ў м а г і л е.

**Стаяць на крывой дарожке.** *Жыць несумленна.* Стаіш ты ны крівой дарожкі і, глядзі, спаткнесься — некыму будзіць пыднімаць. Ён у цябе стаіць ны крівой дарожкі, судзержывый, будзіш посьлі жалець, локці кусаць будзіш.

**Стаяць на сваём** (сваім). *Цвёрда трымацца ўласных поглядаў.* Раз скызаў, то будзіць стыяць ны сваём, хуць у лоб стріля́й. Цьвёрда стыялі ны сваі́м, нікога ня вы́дылі. *Зак.* **Стаць на сваём** (сваім). Стаў ны сваём і точка, ніхто яго і зь места ня зьдзьві́ніць. Так усту́пчывый, ну як станіць ны сваім, то ні пірікынá́іш.

**Стаяць на сваём** (сваім) **пасту.** *Сумленна выконваць абавязкі.* Крепка стаіць ны сваём пасту́, ні пыткыпа́ісься. Ня трогый, відзіш, стыяць ны сваім пасту, у іх шахмах ня зьдзелыіш.

**Стаяць на сваіх нагах.** *Быць эканамічна незалежным.* Ні нада богу гряшы́ць, твае стыяць ны сваіх ныгах. Дзеці стыяць ны сваіх ныгах, і ўсё горя с плеч звалі́лыся. *Гл.* Станавіцца на ногі.

**Стаяць** (сядзець, вісець) **над душою,** *неадабр. Неадчэпна надакучаць.* Каб ні стыяў нуд душою, скарей ба дзела пашло. Сядзі́ць нуд душою і сядзіць, і ня вы́гыніш жа. Вісець ужо так нуд душою, дык ну яго. *Зак.* **Стаць** (сесць, павіснуць) **над душою.** Як ста́ніць нуд душою, няскора пойдзіць. Чаго ён тама сеў у чылавека нуд душою? Што ж було дзелыць, кылі павіс нуд душою і ўсё. *Непайн.* **Пастаяць** (пасядзець, павісець) **над душою.** Будзіць толку, есьлі ты пыстаіш нуд душою, толька нидыясі. А ніхай, маўчы ўжо хут ты, пысядзіць нуд душою і пойдзіць. Дужа многа памог, кылі пывісеў нуд душою. *Абмеж.* **Прастаяць** (прастояць, прасядзець, праседзець, правісець) **над душою.** Прішла і прыстыя́ла пуўдня нуд душою. Прастоіць нуд душою — во і ўся помышч яго будзіць. Цярьпеньня нада ймець праседзіць столька нуд душою. Прінёс ён пользы, кылі прывісеў у чылавека нуд душою. *Узмацн.* **Настаяцца** (насядзецца, наседзецца, навісецца) **над душою.** І нуд душою ныстыяліся ўволю, і ізыкамі нылыпыта́ліся сколька хацелі. Ці ты яшчэ ні нысядзеўся у іх нуд ду́шою? То зайдзіць, то зыбягіць, то пукуры́ць пры́дзіць — сколька ён нывісеўся нуд душою! *Законч.* **Адстаяць** (адстояць, адсядзець, адседзець, адвісець) **над душою.** Ацстыя́ла нуд душою, ныдаела чылавеку. Столька ўремя ацстоіць нуд душою, — ета і ж жалезнымі нервымі ня вы́ціраьпіш. Па-мойму, хва́ціць, ацьседзіла нуд душою. Атвіселі нуд душою, ну іх к чортывый гылаве. *Працягл.-фінальн.* **Дастаяць** (дастояць, дастаяцца, дастояцца, дасядзець, даседзець, дасядзецца,

даседзецца, давісець, давісецца) **над душою.** Дыстаіш нуд душою, што будуць табе і бліны, і ладкі. Дастоіў нуд душою, пашоў як пабітый. Гыварілі ж вам, што дыстыіцёся нуд душою, палýчыця. Дастоіўся нуд душою, вочы ўзьняць стыдна. І матка, і дычка даседзюць нуд душою, даждуць чэсьці. Дысядзíцца нуд душою, што патýрюць як мíлінькыга. Даседзіцца нуд душою, палýчыць, як тая шкáріда. Ну што, дывісеў нуд душою, большы ні захочыць вісець? У мяне іна быйстра нывісíцца нуд душою, атвы́кніць ад дурнэя прівы́чкі.

**Стаяць у вачах** (уваччу, перад вачамі). *Увесь час, бесперапынна ўяўляцца.* Сколька ўремя прайшло, а Мырьянка стаіць у вычах, як учора яе відзіла. Усё, што я відзіла, стаіць уваччу. Дзядзіна стаіць уваччу як жывая, пряма с ума ня йдзець. У мяне Пынас і сяньня стаіць пірід вычамі. *Параўн.* І ў в а ч ч у н е с т а я ц ь.

**Стаяць у вушах** (увушшу). *Чуцца, уяўляцца, быць у памяці.* Во ряўлí коні лі Гарелыга аборка, як іх ваўкі пырвáлі, етый рёў ажно січас у вушах стаіць. Мне паўгода стыяла ўвушшу, як Анька пы сваймý выла.

**Стаяць у галаве** (памяці). *Памятацца пастаянна.* Усё ўремя стыялі ў гылаве ніткі, а ў мыгазíн прішла і забылыся. Калі яно што стыяла ў цябе ў паміці: табе што ні скажы, цірізь мінуту пухтыряй, а не — прістýкні.

**Стаяць у нагах.** *Прасіць прыніжана.* Сколька ты ня стой у ныгах, дык у яго нічога ня вы́мыліш.

**Стаяць уперак** (упярок, упоперак) **горла,** *груб. Рабіцца невыносннай перашкодай, прадметам зайздрасці.* Што я воз паплецьця прівёз, дык яму стаіць уперік горла. Усё ета ім упярёк горла стаіць. Доўга вам стыяла упопірік горла яго капёшка. *Пачын.* **Станавіцца уперак** (упярок, упоперак) **горла.** Ці даўно вам іх лес уперік горла стынавіўся? Табе мой сын упярёк горла становіцца. Увідзюць што ў каго, усё ім становіцца упопірік горла. *Зак.* **Стаць уперак** (упярок, упоперак) **горла.** Калі ўжо хто стáніць яму уперік горла, тады дзяржыся. Узноў упярёк горла мы ім сталі. Чаго я табе стаў упопірік горла?

**Стаяць уперак** (упярок, упоперак) **дарогі.** *Вельмі перашкаджаць, наўмысна ствараць перашкоды.* Тваім

Варка стыяла уперік дарогі. Нікому я ні зьбіра́юся стыяць упярёк дарогі. Ніхто табе ні стаіць упопірік дарогі і ні нада пустога выду́мывыць. *Пачын.* **Станавіцца уперак** (упярок, упоперак) **дарогі.** Ніхай хто паспробыіць стынавіцца яму уперік дарогі, ніхай. Уздумыў быў стынавіцца упярёк дарогі, большы ня ўзду́мыіць. Можа й ні зьбіраўся стынавіцца упопірік дарогі, я ні знаю. *Зак.* **Стаць уперак** (упярок, упоперак) **дарогі.** Так і цыля́іць, каб стаць каму уперік дарогі. Хто ім стаў упярёк дарогі, гываріць людзям нечыга. Мне Кірей стаў упопірік дарогі, яму дужа заві́дна усё було.

**Страляць варон,** *неадабр. Ратазейнічаць.* Нечыга було варон стріляць ны такой вісычыне. *Непаўн.* **Пастраляць варон.** Другей раз і ні так можыш пыстрі́ляць варон, як грохнісься вобзімлю. *Працягл.-фінальн.* **Настраляць** (дастраляць) **варон.** Ныстріляіць варон: конь жардзі́ну аткі́ніць і пойдзіць пы гріда́х. Ага, дыстріляў варон, айдзе цялёнычык? *Гл.* В а р о н ш ч ы т а ц ь.

**Страляць вачамі** (вочкамі). *Кідаць кароткія пагляды, гулліва какетнічаць.* Сколька ёй, сімнаццыць ці ёсьць, а ўжо стріляіць выча́мі па хлопцых, што ухадзі́. Даўно стріляіць вочкымі, еткыя-то крысавіца. *Непаўн.* **Пастраляць вачамі** (вочкамі). Пыстріляла вычамі, пыстріляла і пышла. Ого як пыстріляли вочкымі, ета ўмець нада. *Аднакр.* **Стральнуць** (стрэліць) **вачамі** (вочкамі). Як стряльнець вычамі, дык Шурка места сабе ні находзіць, аж рыстаець. Стряльнець вочкымі раз ды другей, яму што маслым па серцу. Ёй каб толька було ны каго стреліць вочкымі. *Узмацн.* **Настраляцца вачамі** (вочкамі). Ныстріляліся вычамі ны бызарі, усё некыга выглі-да́лі. Ці скора яны там ныстрі́ляюцца вочкымі?

**Строіць вaздушныя замкі,** *кніжн. Фантазіраваць, мары выдаваць за рэальнасць.* Нечыга строіць взду́шныя за́мкі, ня зьдзелыў ты нічога і ня зьдзелыіш. *Зак.* **Пастроіць** (выстраіць) **вaздушныя замкі.** Пастроіць ваздушныя замкі яго ўчыць ні нада, язык дужа гладка ходзіць. Як вы́стрыюць ваздушныя замкі, дык, кажыцца, ня жыць будзіш, а рускушува́цца. *Узмацн.* **Настроіць вaздушныя замкі.** Толька слухый ды верь, ён табе ваздушныя замкі настроіць. *Працягл.-фінальн.* **Дастроіць вaздушныя замкі.** Дастроіш, хызяін, ваздушныя замкі, як дыжывесься, што хвост пыця́гніш з двыра.

**Строіць** (дзелаць) **глазкі** (вочкі), *іран. Гулліва заляцацца, какетнічаць.* Луччы некуды як наўчы́лыся строіць глазкі. Вы пыглядзелі б, як яго меншыя строіць хлопцым вочкі. Каму йна так дзелыіць глазкі? Няўжэлі для Сьцёпы дзелыіць вочкі? *Зак.* **Састроіць глазкі** (вочкі). Як састроіць глазкі, чышчы гырадзкея якой. Састроіла Міцю вочкі, ён ажно русплуўляіцца. *Абмеж.* **Пастроіць глазкі** (вочкі). Пастроілі глазкі і хва́ціць, борызны ліжаць ніпычына́тыя. Ой, пастроіш ты вочкі, ой, пастроіш. *Узмацн.* **Настроіць** (надзелаць) **глазкі** (вочкі). Верычка настроіла аднаму глазкі, а цяперя з другімі ходзіць. Пусты́нскія дзеўкі настроілі вам вочкі, чаго там. Глазкі надзелыць умеіць дык умеіць, айдзе толька і ўчы́лыся. Аднаму надзелыла вочкі, а з другімі ходзіць, улыба́іцца. *Працягл.-фінальн.* **Дастроіць глазкі** (вочкі). Вун з-зы Сыжа пріхадзіла строіньніца, дастроіла глазкі, што вярнулыся к маткі с пу́зым. Пыра́сычкіна тута дастроіла вочкі, пыляцела біз агля́дкі.

**Строіць з сябе** (*каго*). *Прыкідвацца, прытварацца* (*кім*). Дужа разумныга строіць сь сябе, думыіць, ніхто яго ня пойміць. Прівыклі строіць сь сябе дуручка́ і жыць ну дурні́цу. *Зак.* **Састроіць з сябе.** Як састроіць сь сябе хвон-барона, куды там і пытыка́цца. Састроіць сь сябе дурука́, што нічога лу́ччыга й ні скажыш: дурак дураком. *Непаўн.* **Пастроіць з сябе.** Пакуля ні рускусі́лі, пастроіў сь сябе прія́ціля, і ыпра́ўду яму верілі. *Працягл.-фінальн.* **Настроіць** (дастроіць) **з сябе.** Ну, настроіў сь сябе гыспадзіна, думыў, угыждаць будуць, ны за́дніх лапкых хадзіць і хвосьцікым віль-віль дзелыць. Настроілі сь сябе ніпынімá́ юшчых, сьмеху надзелылі, нырігыта́ліся зь іх. Я знаю, як ён дастроіць сь сябе дуручка, знаю, што зь естыга палу́чыцца.

**Строіць на пяску** (пяске), *кніжн. Засноўваць на ненадзейнай падставе.* Зымышля́іць многа, толька ўсе свае планы ён строіць ны пяску́. Я ж яму гываръю, што ён строіць ны пяске, дык яго ж ні піріўбядзі́ш. *Зак.* **Пастроіць на пяску** (пяске). Ён усё рызьміръкува́ў, рысплані́рывыў, а тады паду́мыў-падумыў, не, гаворіць, усё ета я пастроіў ны пяску. Якея дыкыза́цільствы, усё ета пастроілі ны пяске.

**Строіць смешкі** (смешачкі, хаханькі), *неадабр. Адносіцца легкадумна, насмешліва.* Нечыга строіць сьмеш-

кі, ны сябе пулюбу́йся луччы. Нуд другімі любіў ба строіць сьмешычкі. У іх адно дзела: ха́хынькі строіць з раньня да вечыра. *Непаўн.* **Пастроіць смешкі** (смешачкі, хаханькі). Сьмешкі тут пастроілі і пыцягнуліся некуды зы дзяреўню. Пастроіць сьмешычкі большы ніхай, ні путурі́ла, дык путурю́. Ці ён хахынькі пастроіць прішоў сюда, ці чаго яшчэ. *Працягл.-фінальн.* **Настроіць** (дастроіць) **смешкі** (смешачкі, хаханькі). Дыжджыцёся ў мяне, настроіця сьмешкі. Мігым настроіць сьмешычкі, як вазьму́ся за венік. Настроілі хахынькі, уня́ліся і ізыкі́ прікусі́лі. Дастроіць сьмешкі, я ні пыгляджу, што бальшэй. Ты церьпіш, дык ён тварі́ць усё, а ў мяне дастроіў ба сьмешычкі. Дастроілі хахынькі, большы ні сьмяюцца.

**Стрыжч** (падстрыгаць) **пад адну грабёнку.** *Ігнараваць розніцу пры ацэнцы.* Пыд адну грябёнку ўсіх стры́глі, ні рызьбіра́ліся, як каму пріходзіцца. Нілізя пыцстрыга́ць пыд адну грябёнку зяця Кындратывыга з намі. *Зак.* **Пастрыжч** (падстрыжч) **пад адну грабёнку.** Што ж вы пастрыглі ўсіх пыд адну грябёнку, ці відзілі вы, як тая Мікітоўна жывець. Пацстрыжч пыд адну грябёнку лёхка, алі ж толку зь естыга мала. *Гл.* М е р а ц ь  а д н ы м  а р ш ы н а м.

**Стукаць** (грукаць) **у галаву,** *рэдкаўж. Раптоўна з'яўляцца ў памяці.* Няўжэлі табе ні разу ня стукыла ў гылаву, што людзі цябе просым прасілі. Можа і табе грю́кыла што-нібудзь у гылаву? *Зак.* **Грукнуць у галаву.** Каб мне зразу грюкнула у гылаву, я купіў ба, а ўспомніў, як г дзяреўні пыд'іжджа́ў.

**Стукаць зубамі,** *груб. Вельмі злаваць пры немагчымасці ўздзейнічаць.* Сту́кыіць зуба́мі, што пысядзела мінутку лі Мікіціхі. Зубамі стукылі, што піріпусьці́лі нам етыга пацьцёлка. *Абмеж.* **Пастукаць зубамі.** Ну ніхай пастукыіць зубамі, дужа яго злосьць прізнаець хто. Знаю, што зубамі пастукыў, а кылі хочыць, ніхай яшчэ пыляскыіць. *Узмацн.* **Настукацца зубамі.** Уволю настукыўся зубамі, большы некуды. *Працягл.-фінальн.* **Дастукаць зубамі.** Я скора злосьць выгыню зь яго, дастукыіць зубамі. Што, дастукыў зубамі, зло тваё як рукою зьняло.

**Стукаць** (стукацца) **у дзверы.** *Надыходзіць (у жыцці).* Ці даўно ваша Танька пяшком пац стол хадзіла, а тут ужо свадзьба стукыіць у дзьвері. Восінь стукыіцца

ў дзьвері, нада думыць пра корм. *Зак.* **Пастукаць** (пастукацца) **у дзверы.** Ні зы гырáмі старысьць, вот-вот пастукыіць у дзьвері. Позна будзіць хвытáцца, як зіма пастукыіцца ў дзьвері, січас аба ўсём думыйця. *Аднакр.* **Стукнуць у дзверы.** І старысьць ніўзáдыўзі стукніць у дзьвері, ці ты думыіш век мыладым быць.

**Ступіць адною нагою ў магілу** (яму). *Дажыць век, адчуць смертны час.* Не ўжо, жыцілка зь мяне абычáйныя, я ўжо адною нагою ступíла ў магілу. Ён адною нагою ў яму ступіў, а ты яму з гысьцямі спакою ні даеш, ныдыідáіш усё. *Гл.* С т а я ц ь а д н о ю н а г о ю ў м а г і л е.

**Ступіць на край магілы.** *Дажыць век, адчуць блізкі канец жыцця.* Як стýпіш ны край магілы, тады ўсю жызьню ўспомніш, кажыцца, прыляцела як адна мінута. *Гл.* С т а я ц ь н а к р а ю м а г і л ы.

**Судзіць** [і] **радзіць.** *Многа развяжаць, гаварыць звыч. без карысці.* Як возьмуцца судзíць-рядзíць, доўга будуць пустазвоніць. Нечыга судзіць-рядзіць, нада што дзелыць. Што мы будзім судзіць і рядзіць, тута рызгаворы ні памогуць.

**Суды-перасуды,** *неадабр. Пустыя размовы, плёткі.* Ужо рызьвялí сýды-пірясýды, няскора сьціхнуць. Харошыя нада цярьпеньня піряслýхыць іх суды-пірясуды.

**Сукін** (суккін) **кот**, *пяшч. Гарэза.* Ах ты, сýкін кот, што йта ты дзелыў пыд яблынкыю? Дзяржы́-ка, дзяржы, суккін кот, я січас дыганю.

**Сукін** (суккін) **сын.** 1. *асудж. Нягоднік.* Дай жа ні сасьніў ба, што с Іванывых дзяцей такей сýкін сын палýчыцца. Суккін сын быў пасьледній твой ціхінькій і зьмíрнінькій. 2. *пяшч. Гарэза, разумнік.* Злаўлю, сукін сын, і зынясý, знаіш каму зынясу. Прідумылі ж такоя, суккіны сыны, во што значыць грáмытныя ды з гылавою.

**Суккіна дачка** (кошка), *пяшч. Гарэза, гарэзніца.* Ну й суккіна ж дычка, нада ж так з бáбыю бáлывыцца. Ах, суккіна кошка, ах, зайгра, у жмýркі зь дзедым гуляць хочыць.

**Сумашэччый дом,** *неадабр. Памяшканне, дзе вялікі шум, гвалт.* Сыбярýцца твае ды мае, як спрáвюць сумашэччый дом, хуць вушы зытыкáй.

**Сунуцца** (совацца, савацца, усовывацца, лезць, улязаць, улазіць) **са сваім носам,** *неадабр. Умешвацца не ў сваю справу.* Нечыга су́нуцца сы сваім носым, калі ніхто ня просіць. Дужа любіць совыцца сы сваім носым ні ў сваё дзела. Вас ніхто ні зваў сува́цца сы сваім носым. Чаго ён усовыіцца сы сваім носым і сюды яшчэ? У чужую кымпа́нію саўсім ні нада було лезьць сы сваім носым. Церіх прівык улізаць сы сваім носым куды ні заву́ць. Міхейчыкыў усігда улазіў сы сваім носым у іхнія дзялы. *Зак.* **Усунуцца** (улезць) **са сваім носам.** Усу́нуўся сы сваім носым, дык яго вежліва пыпрасілі. Пыдажджы, падойдзіць Пашка, іна улезіць сы сваім носым. *Узмацн.* **Паўсунуцца** (паўлязаць, паўлазіць) **са сваім носам.** Ніхай зыя́вюцца, яны січас паўсу́нуцца сы сваім носым. Чаго вы пыўлізáлі сы сваім носым такея любапы́тныя, што вам тут нада. Каб ні пыўла́зілі сы сваім носым, куды б луччы було.

**Сунуць** (совацць, савацць) **пад нос.** *Паказваць, падаваць груба.* Нілізя так сунуць пад нос, нікрасíва, ты ж пыдыйдзі й пыкажы. Што ты совыіш пад нос, я і бісь цябе віджу. Ці можна ж так сува́ць пад нос, ніякія ў цябе культу́ры німа.

**Сунуць** (совацць, савацць, усовывацць) **галаву ў пятлю,** *неадабр. Пачынаць вельмі рызыкоўную, небяспечную справу.* Чаго яму тыкая ахота су́нуць гылаву ў пятлю. Прівы́к совыць гылаву ў пятлю, калі-небудзь улезіць, што ня вы́скычыць. Сам вінуват, ніхто ні прасіў сува́ць гылаву ў пятлю. Айдзе ікая пролыбка, там і ўсоўвыіць гылаву ў пятлю. *Зак.* **Усунуць галаву ў пятлю.** Усунуў гылаву ў пятлю пы сваёй ахоці, калі ён цяперіцька вы́зыбыіцца. *Узмацн.-множн.* **Паўсунуць голавы** (галовы) **ў пятлю.** Паўсунулі голывы ў пятлю, а́йкыюць, як вы́брыцца. Раз іх учылі — ні наўчы́лі, узноў паўсунулі галовы ў пятлю.

**Сунуць** (совацць, савацць, усовывацць) [свой] **нос,** *неадабр. Умешвацца не ў сваю справу.* Хто цябе прасіў сунуць сюда нос? Ні нада сунуць у чужоя дзела свой нос, ета саўсім нікрасіва. У яго была дурная прівычка совыць куды пупала нос. Каб ты меншы тут совыў свой нос, куды б луччы було. Прівык сува́ць нос куды ні нада. Дужа любапы́цін, суець свой нос увы ўсякыю дзірьку. Часта усовывыў к ім свой нос, пакуля ні нылáілі. *Зак.*

**Усунуць** [свой] **нос.** Яны там нешта сваё рішалі, а ён усунуў нос, дык ладна ныстрамілі, аччыта́лі бакі. Ну, пулучы́ў, усунуў свой нос? *Гл.* С у н у ц ц а с а с в а і м н о с а м.

**Сухой** (сухея) **ніткі не астацца.** *Змокнуць дарэшты.* Прікоцююць, што сухой ніткі на іх ні аста́ніцца. Сухея ніткі ні аста́лыся на іх, усе мокрыя ды яшчэ пірікалелі ў пріда́чу.

**Сухой** (сухея) **ніткі няма,** *цяп., пр., буд. Пра змоклага дарэшты.* Коцюць с пыўдарогі удвору, а на іх сухой ніткі німа. Прібегла с поля, на ёй сухой ніткі ні було. Пыглідзіцё, зьмякніця, што сухея ніткі ны вас ня будзіць.

**Сучка запісная,** *груб. Пляткарка.* Во айдзе су́чка зыпісна́я, ня жы́ва, есьлі якую лухту ні прідумыіць ды ні сапрець. Нада ж еткыю сучкыю зыпісною урадзі́цца!

**Сушыць вочы,** *іран. Глядзець без мэты.* Ізьвесна, чаго йна туды вылакецца, вочы сушы́ць, ат нечыга дзелыць. *Непайн.* **Пасушыць вочы.** Сыбяру́цца утрёх-учытырёх і пашлі́ ку́чыю, каб вочы пусушы́ць. *Працягл.-фінальн.* **Насушыць** (дасушыць) **вочы.** Насу́шыця вочы, вы тама дужа горька нада. Дусушы́лі вочы, ідуць і ў зямлю глідзяць.

**Сушыць зубы** (язык), *іран. Весці лянівую размову.* Не, ім ні ра́зу ні ныдаесьць сушы́ць зубы, ета зыня́ція па іх ікра́з. Сідзяць пыт капёшкыю, су́шуць ізыкі́. *Зак.* **Прасушыць зубы** (язык). Ніхай сходзіць, нада ж чылавеку зубы прусушы́ць. Прусушы́ў язык, цяпераа можна лезьць на печ. *Непайн.* **Пасушыць зубы** (язык). Пуўдня́ пусушы́лі зубы, во іх і работа ўся. Пышла́, язык пусушыць зыхацелыся. *Працягл.-фінальн.* **Насушыць** (дасушыць) **зубы** (язык). Насу́шыця зубы, пыглідзіцё, што насушыця, работа стаіць. Насушуць ізыкі, дождж вот-вот хля́ніць, і пірібіра́нкі аста́нуцца ліжаць. Дусушы́лі зубы, ротым і носым хвыта́юць. Дасу́шыць язык, што пайду і ў карык пріганю́.

**Схадзіць за чыстую манету.** *Успрымацца як ісціна.* Яму ўсё сходзіць за чы́стыю манету, са́мый лухце веріць. *Зак.* **Сайціць за чыстую манету.** Адзін раз сыйшло за чыстыю манету, а другей раз не, ня пройдзіць.

**Схадзіць з рук.** *Заканчвацца беспакарана.* З ма́ткыю

табе ўсё сходзіць з рук, а са мною будзіць іна́чы. *Зак.* **Сайціць з рук.** Адно сыйшло з рук, а тады другоя, дык ён і саўсім рузмудрэў. Удзіўля́юся, што вам так сыйшло з рук.

**Схадзіць з рэльсаў,** *жарт. Парушаць звычайны ход жыцця.* Нешта твой пыча́ў сходзіць з рельсыў, сяньня разьві́днівыла, як ішоў неткуль двору. *Зак.* **Сайціць з рэльсаў.** У Лёніка ўсё було хырашо, ажно заві́дывылі, а тута на́ табе, сыйшоў з рельсыў.

**Схадзіць са сцэны.** *Спыняць актыўнасць, дзейнасць.* Мікілай ужо сходзіць са сцэны, нешта яго і слу́хыць піріста́лі і сам дужа ні ў вошта ня ўмешыіцца. *Зак.* **Сайціць са сцэны.** Абоя сайшлі са сцэны, нійдзе ня відна і ня чутна. *Узмацн.-множн.* **Пасхадзіць** (пасайціць) **са сцэны.** Ды пысхадзілі са сцэны, ато ім доўга уходу ні було. Скора пасойдуць са сцэны, нямнога ім аста́лыся па́нствывыць.

**Схадзіць с ума.** 1. *Вар'яцець.* Ня буду ж я с ума схадзіць, што ён так вытвыря́іць. 2. *Безразважна паступаць, хваляваціца, перажываць, захапляцца.* Як толька ны час куды вы́йдзіць, ён с ума сходзіць: ага, г другі́м пышла́. С ума сходзіць етый чылавек, што ён сам сабе ду́мыіць так дзелыць. Сходзіць с ума пы Танічкі. *Зак.* **Сайціць с ума.** 1. Ат усіх пірі́жыва́ньніў сыйшоў с ума. 2. Ты, яйбогу, маліц, сыйшоў с ума вупруўля́цца голым такою хыладзі́шчыю. Глядзі́, с ума сойдзіш, кылі пысядзіш у дваре. *Узмацн.-множн.* **Пасхадзіць с ума** 1. Пысхадзі́лі с ума ад горя. 2. Ці вы с ума пысхадзілі плесьць абы-што, вы ж нічога ня відзілі. *Гл.* Р о з у м у т р о г а ц ц а.

**Схадзіць у магілу** (яму). *Паміраць.* Патроху сходзюць нашы гады́ ў магілу, усё меншы і меншы нашыга возрыста астаецца. Табе рунува́та схадзіць у я́му. *Зак.* **Сайціць у магілу** (яму). Сойдзіць матка ў магілу, тады будзіця самі сабе жыць як зна́іця. З маім здароўім толька сыйціць ба ў яму — ня му́чыцца і другіх ня мучыць.

**Схваціць** (хваціць) **салодкага** (гарачага) **да слёз.** *Перажыць шмат цяжкасцей, нягод.* Ніхай вупруўля́юцца, схва́цюць салодкыга да сьлёз, апомнюцца. Схвацілі гырячыга да сьлёз, ка́іліся, што рыспрыда́ліся ды паехылі. Хто-хто, а Зьмітраковы хвацілі салодкыга да сьлёз. Хваціў гыря́чыга да сьлёз, дык айдзе й вы́мудры дзеліся.

**Сход адпраўляць,** *рэдкаўж. Лаяць, бэсціць.* Ці зна́іця, як учора атпруўля́лі сход ны ва́шыга? *Зак.* **Сход адправіць.** Ой, мысьцяріцы сход атпра́віць, ны каго хочыш ынясу́ць што зря.

**Сцены разлягаюцца,** *неадабр.; цяп., пр., буд. Пра крык, лаянку, сварку.* Як вечыр, так сьцены рызьліга́юцца, ці будзіць ужо ім якей-небудзь мір. Ніхай яму узвароту ня будзіць: сколька тут сядзеў, столька й сьцены рызьліга́ліся. Ты ішчэ пачуіш, як сьцены будуць рызьліга́цца, пабудзь троху.

**Сцерцца з ліца зямлі,** *кніжн., рэдкаўж. Знікнуць, загінуць, прапасці, разбурыцца.* Сколька чаго сьцёрлыся зь ліца зямлі толька зы маёю па́міцьцю, дык ай-яй-яй. *Узмацн.* **Пасціраццa** (пасцерцца) **з ліца зямлі.** Што ўспымінаць, кылі яно пысьціра́лыся зь ліца зямлі. Мой ма́лый чытаў, дык там ёсьць, што цэлыя гырады пасьцёрліся зь ліца зямлі.

**Сціраць** (змятаць) **з ліца зямлі,** *кніжн. Жорстка расправляцца; знішчаць, разбураць.* Ты б усіх сьціра́ў зь ліца́ зямлі, сам ба адзін астаўся і рускушува́ў. Такіх зьмітаць зь ліца зямлі нада, а ні хаты ім строіць. *Зак.* **Сцерць** (змесць) **з ліца зямлі.** Каб яго сіла, ён ба сьцёр нас зь ліца зямлі. Увесь ваш приіда́цільскій род нада каб зьмялі́ зь ліца зямлі. *Узмацн.* **Пасціраць** (пасцерць, пазмятаць, пазмесць) **з ліца зямлі.** Столька лясоў пысьціра́лі зь ліца зямлі, ета ж як падумыіш, кругом лясы былі і лясы. Выйна дужа многа чаго пасьцёрла зь ліца зямлі. Каб мыя воля, я такіх ба зь ліца зямлі пызьмітаў. Што ў цябе толька рызгаворы пазьмесьць зь ліца зямлі.

**Сціраць у пыл** ([дробный] парашок). *Жорстка расправляцца.* А ты даўно сыбіраісься сьціраць іх у пыл. Ні нада, ні сьцірай у пырашок, ніхай трошку пыжыву́ць. Ты ж ня будзь такім выяўні́чым, ні сьцірай усіх у дробный пырашок, хуць сколька кінь. *Зак.* **Сцерць у пыл** ([дробный] парашок). Цябе нада сьцерць у пыл зы твае дуры. Каб толька ныскачы́лі, яны б цябе сьцёрлі у пырашок. Як пычыла́, як пыгна́ла, як пыніслá, сьцёрла яго у дробный пырашок. *Узмацн.* **Пасціраць** (пасцерць) **у пыл** ([дробный] парашок). Ніхай толька разойдуцца, гатовы ўсіх у пыл пысьціраць. Яны вас у пырашок пысьціраюць. Вы астарожній, ато яны могуць у дробный пыра-

шок пысьціраць. Вы ж ні аднаго сыбіраліся пасьцерць у пыл. Гатова пасьцерць етых дзяўчонык у дробный пырашок.

**Сцішаць** (суцішаць) **ход,** *жарт. Стрымліваць імпэт, энергію.* Няўжэлі Ігарёнык сьцішáіць ход? Не, суцішáць ход ён ня думыіць, дужа ў ім многа імпэту. *Зак.* **Сцішыць** (суцішыць) **ход.** Цяперя ты сьцішыш ход: мылыдая жонка ў хаці. А глядзі-ка, твой зяцёк суцішыў ход.

**Сцяклкннага бога відзець,** *іран. Выпіваць.* Цётку як цётку, а сьціклянныга бога часьценька відзіць, цірязь дзень, ні рядзей. *Зак.* **Сцяклкннага бога ўвідзець.** Пакуль сьціклянныга бога ня ўвідзюць, у іх ныстраенія німа, і ахота ні приходзіць. *Непайн.* **Сцяклкннага бога павідаць.** Ідзець дужа давольный: сьціклянныга бога у Адаркіных пывідáў.

**Сцяклкннаму богу служыць** (кланяцца, пакланяцца, укланяцца), *іран. Выпіваць.* Дакуль жа ты будзіш сьціклянныму богу служыць, хто ны цябе зырыбáтывыць будзіць? Ладна сьціклянныму богу кланіўся, нійдзе ні прупускáў. Прівык сьціклянныму богу пыклынянцца, трудна будзіць атаўчыць. Ну як ты, нізінька сьціклянныму богу уклыняісься? *Непайн.* **Сцяклкннаму богу паслужыць** (пакланіцца). І твой статуй сьціклянныму богу пуслужыў — ёсьць чым пыхвáстыцца. Не, тут ня сэньдзілі, тут праўду гыварілі: сьціклянныму богу ён пыклáніўся. *Узмацн.* **Сцяклкннаму богу наслужыцца** (накланяцца, наўкланяцца). Нуслужыўся сьціклянныму богу, патпорціў здароўя, шчах вун, выпітріў ны махнытку. Луччы сатні губы і маўчы, сколька твой ныклáніўся сьціклянныму богу — ета мы знаім. Ныўклыняіцца сьціклянныму богу, як бацька. *Законч.* **Сцяклкннаму богу адслужыць** (адкланяцца). Ацслужыў сьціклянныму богу ладна, іна, бувала,ріванець-ріванець ат яго дуроў. Відна, аткланіўся сьціклянныму богу, зыкáжыць. *Працягл.-фінальн.* **Сцяклкннаму богу даслужыць** (дакланяцца). Дуслужыў сьціклянныму богу, большы ні захочыць. Прідзіць уремя, і етый дыклáніцца сьціклянныму богу.

**Сцяўшы зубы.** *Мацуючыся, праяўляючы вытрымку.* Пройдзіць сьцяўшы зубы, ні слова ні прароніць. Нешта сьцяўшы зубы ходзіць, рызабíджыныя дужа.

**Сцяць зубы.** *Стрымацца, праявіць вытрымку.* Нешта

сьцяла зубы, ні пы ныра́ву прішлося. Як сатну́ць зубы, папробый ім што-небудзь гываріць. *Гл.* С а ш ч а м і ц ь з у б ы.

**Счытанныя дні.** *Зусім кароткі час.* Шчы́тынныя дні ды жніва, жыта пасьці дайшло. Я тута дубува́ю шчытынныя дні, скора паеду.

**Счытаць мух,** *неадабр. Ратазейнічаць.* Меншы нада шчыта́ць мух, кылі к скату́ пріста́ўлін. Будзіш так мух шчытаць, дык прывароніш машыну. *Зак.* **Пасчытаць мух.** Адзін пышчытаў мух і другей да етыга даслу́жыцца. *Працягл-фінальн.* **Насчытаць** (дасчытаць) **мух.** Вот і нышчытаў мух: у грязі́ па вушы і ныэад нада варочыцца. Дышчытаіця мух, што сьвіньні ўва́люцца ў бульбу усім тубуном.

**Счытаць** (перасчытываць) **косці** (робры). *Моцна лупцаваць.* Перш чым мне шчытаць косьці, пыбірягі́ свае. Шчыталі табе рёбры зы Сажом і тута пышчытаюць. Вун гірой косьці піряшчы́тывыць будзіць. Рёбры ён піряшчы́тыіць, шчыта́ньнік найшоўся. *Зак.* **Пасчытаць** (перасчытаць) **косці** (робры). Яму ладна пышчыталі косьці, хваліцца ня хочыць. Хуць дзьвіжком дыбяруся, ну рёбры я табе пышчытаю. Ты можа й не, а я знаю, за што косьці ім пірішчыта́лі. Я б ішчэ ні так рёбры пірішчытаў. *Працягл.-фінальн.* **Насчытаць** (дасчытаць) **косці** (робры). Я яго нышчыта́ю косьці, будзіць яму і шчот і пачшчот. Нышчытаіш, вогірь, рёбры, пріці́хніш скора. Дышчытаіць косьці, як пырявець уволю, я атучу́ яго адурюва́ць.

**Сыпаць** (падсыпаць, уссыпаць) **соль на раны.** *Рабіць непрыемна напамінкам пра цяжкія перажыванні ў мінулым.* Яму і сымаму́ ні салодка, а тута ішчэ ты сы́піш соль ны ра́ны. Пірістань ты пыцсыпа́ць соль ны раны, ніхай хуць у сябе прі́дзіць. Ны кажным шагу Сямён уссыпаў ёй соль ны раны. *Зак.* **Насыпаць** (пасыпаць, падсыпаць, уссыпаць) **солі на раны.** Прідзіць Ксеньня, тая яшчэ большы насыпліць солі ны раны. Вы сваімі рызгаворымі толька пасы́пылі солі ны раны. Сьпірва муўчаў, а як пацсы́пылі солі ны раны, уськіпеў. Ніхай, што уссыпылі солі ны раны, ніхай пачуствыіць троху жызьню.

**Сыпаць солі на хвост,** *іран. Не мець магчымасці ўздзейнічаць.* Ну што, сып яму цяперя солі на хвост, дыгыня́й. *Зак.* **Насыпаць** (пасыпаць) **солі на хвост.** Насып

солі на хвост, кылі хочыш, можа паможыць. Табе асталося толька солі ім на хвост пасы́пыць. *Аднакр.* **Сыпнуць** (сыпануць) **солі на хвост.** Дыгані ды солі сыпні на хвост, ён ста́ніць, твой бычанок. Што табе астаецца, солі на хвост сыпану́ць.

**Сыр-бор гарыць** *(з каго), цяп., пр. Пра завадатарства.* Ізь Лявона сыр-бор гаріць, ён усё пыцсытыня́іць. Тама сыр-бор гареў пу другой прічы́ні, а ні таго, што ты думыіш. *Пачын.* **Сыр-бор загарэўся** (разгарэўся, узгарэўся), *пр., буд.* Я ні знаю, чаго ў іх етый сыр-бор зыгареўся. Зь нечыга вот рызгареўся сыр-бор, то дружылі, а тут на сьлед адзін другому ні нуступа́юць. Рызгаріцца сыр-бор, тады ня скора пату́шыш. Ш чаго б етый сыр-бор узгареўся, што яны ні пыдзялілі? Узгаріцца сыр-бор, і пашло, і пашло, чым дальшы, тым большы.

**Сыт па горла.** *Задаволены звыш усякай меры.* Сыт па горла тваімі ба́сьнімі. Абішча́лі, абішчалі, большы некуды, я па горла сыта абішча́нкымі.

**Сядзець вярхом** (вярха), *неадабр. Падпарадкоўваць.* Сідзяць вярьхом на іх сям'е, самі ня дужа што хочуць прідбаць, каб усё гатовінькыя було. Сядзелі б вірьха́ ну другіх. *Непайн.* **Пасядзець вярхом** (вярха). Вярьхом пысядзелі ны брату і хваціць, вун на свой хлеб дарога. Троху пысідзяць вірьха ны Ціхону. *Законч.* **Адсядзець** (адседзець) **вярхом** (вярха). Столька ўремя ацьсядзелі вярьхом на цёткых, за іх шчот жылі́. Ладна ацьседзілі вярьхом ны стары́х, злазьця самі зырыбля́ць. Ацьседзюць вірьха, ня скора сапреш. *Узмацн.* **Насядзецца** (наседзецца) **вярхом** (вярха). Каму рыскажы, а я сыма знаю, што нысядзеліся на родных брытах вярьхом. Нысідзя́цца вірьха, ні пысьцісьня́юцца, іх совісьць асоба ня мучыць. Наседзіліся вірьха усёю абла́выю, самім брацца за дзела му́тырна було. *Гл.* С а д з і ц ц а  в я р х о м.

**Сядзець колам** (калом) **у горле,** *груб. Быць вельмі непрыемнай перашкодай.* Сколька гадоў прайшло, а Хрісьцінін гароччык сядзіць яму колым у горлі. Ім, відна, колым у горлі ета банчына сядзіць, гатовы вуглы грызьць, ка́жыцца. Табе ўсігда што-небудзь сядзіць калом у горлі, усігда вадзііць. Ета я ім сядзеў калом у горлі, каб ні я, яны рускушува́ліся б. *Зак.* **Засесць колам** (калом) **у горле.** Колым у горлі засеў ім пляцень етый, пряма жыць ня могуць цірізь яго. Заселі яму колым у горлі Зьміт-

рачонкі, вы ўсякым дзелі і ны кажным шагу пад'есьць стыряіцца. І прістаець, і бубніць, і бурчыць ніізьвесна чаго, усё дно як я яму калом у горлі засеў.

**Сядзець колам** (калом) **у роце,** *неадабр. Быць вельмі нясмачным.* Колым у році два дні сідзяць яе прісмакі. У той грязішчы кылі й зьясі што, дык будзіць колым у році сядзець. Рысказывыў, што швагреніны бліны ш чыцьвірьга калом у році сідзяць. *Зак.* **Засесць колам** (калом) **у роце.** Дзьве ложкі й зычарепнула, етый кулеш засеў колым у році. У яе што ні зьясі, усё калом у році зысядзіць. Ложку адну ўзіла кулагі, дык і тая засела колым у році.

**Сядзець ля** (кала) **мора і ждаць пагоды,** *неадабр. Спадзявацца ў бяздзеянні.* Із*ь*весна, што дзелыіць твой Сашка: сядзіць лі моря і жджэць пагоды,— што ён выжджыць ат той халеріі. Чаго ж вы сядзелі лі моря і ждалі пагоды, пріехылі і нада було малоць, а ні прыхлыждацца, а цяперя пупала на коў — і пасьці прыпала мука: еж, ды глядзі зубы ні пулумай. Што ж ты сядзеў кыла моря і ждаў пагоды, пыд ліжачый камінь і выда ні цякець.

**Сядзець на бабах.** *Не мець надзеі на ўмацаванне становішча.* Нешта ў іх нічога ні пулучаіцца с паездкыю, асталіся ні туды ні сюды, сідзяць ны быбах. *Абмеж.* **Пасядзець на бабах.** Пысядзеў ны быбах, дык што высідзіш, сыбраўся нызад. *Закончч.* **Адсядзець** (адседзець) **на бабах.** Ацьсядзелі ны быбах паўмесіца, ні туды було, ні нызад. Ніхай ацьседзіць ны быбах, хваціцца вума, раз ня слухыіць. *Узмацн.* **Насядзецца** (наседзецца) **на бабах.** Нысядзеліся ны быбах, хваціла зь іх большы некуды. Здорыва наседзюцца ны быбах, кылі дзьвінуцца німа як. *Гл.* Аставацца на бабах.

**Сядзець на зямле.** *Займацца сельскай гаспадаркай.* Паезьдзіў, туды, туды торнуўся, пріехыў — нійдзе нісмашна, буду сядзець ны зямле. *Абмеж.* **Пасядзець на зямле.** Жыў ён і ў нас, толька нядоўга пысядзеў ны зямле, некуды паехыў. *Гл.* Садзіцца на зямлю.

**Сядзець на мялі.** *Знаходзіцца ў вельмі цяжкім становішчы.* Воц стану я плакыць, што Быгрынёнык сядзіць ны мялі. Пы свайму рытазейству сідзіцё ны мялі. *Непаўн.* **Пасядзець на мялі.** Пысядзіць ны мялі с такою ухваткыю, раз нікога і нічога прізнываць ня хочыць. *Узмацн.*

**Насядзецца** (наседзецца) **на мялі.** Дужа былі пы́рскія, а нысядзеліся ны мялі і пызьмірнелі. Як наседзіцца ны мялі, то трошку станіць думыць. *Гл.* Садзіцца на мель.

**Сядзець на плячах** (шыі, гарбу, карку, хрыбту) *(у каго)*, *звыч. неадабр. Жыць за кошт пэўнай асобы.* Што ж сядзець ны плічах у Хведзі, у яго і свае заботы ёсьць. Сядзеў ён у Стыхвана на шыі большы года. Сядзець на цёткіным ні выходзіць, нада пры работу якую ду́мыць. Ны ка́рку ў дзядзькі нічога було сядзець. Дакуль жа ён будзіць сядзець ны нашым хрябту́. *Непаўн.* **Пасядзець на плячах** (шыі, гарбу, карку, хрыбту). Раз сыгласі́ліся ўзяць, то пысядзіць ны плічах. Якей ня совісный, а троху пысядзеў у іх на шыі. Так і цыля́іць, каб ны чыім гарбу пысядзець. Лю́бюць пысядзець у каго-небудзь ны карку. Хваціць з вас, пысядзелі ны Маріні́ным хрябту. *Абмеж.* **Прасядзець** (праседзець) **на плячах** (шыі, гарбу карку, хрыбту). Ета вам ого як пывязло, што столька ўремя прысядзелі ў Высіля ны плічах. Узялі, дык і праседзіць ны плічах. Цэлый год ну дурня́к прысядзець на шыі,— айдзе ў іх хут трошку совісьці чылавечыскія ёсьць. Праседзілі ны нашым гарбу, дык маўчыця, ня пікніця. Прысядзець ны карку праседзюць, во работы, ета праўда, ні дажджэсься. Так і цэлюцца, ны чыім хрябту можна праседзіць. *Законч.* **Адсядзець** (адседзець) **на плячах** (шыі, гарбу, карку, хрыбту). Аьсядзе́лі ны плічах у Сярьгея, дужа ім тыкая жысьць пыныра́вілыся. Ты знаіш, сколька яны аьседзілі ў Міронывых на шыі,— трі гады. Аьсядзелі сваё ўремя ны гарбу і дос. У яго на ўме — аьседзіць ны тваём гарбу, во пра што ён думыіць. Хваці́ла і совісьці аьсядзець такоя ўремя ны карку у чужых людзей. Аьседзілі ны Андреівым карку, пурускушува́ліся. Аьсі́дзяць ны хрябту сколька захочуць зь іхнаю совісьцю. *Узмацн.* **Насядзецца** (наседзецца) **на плячах** (шыі, гарбу, карку, хрыбту). Наседзіліся ны Ганьніных плічах большы ні нада. Нысядзеліся ну людзкой шыі, столька нысядзеліся, што айдзе іх совісьць была. Яны і ны нашым гарбу нысядзеліся, і ны вашым цяперя дубуўля́юць. Карм́іла, угыжда́ла, етык нысядзеліся ны карку, а цяперя і ні ўзгля́нуць. Ішчэ наседзюцца ны карку, толька большы валхві́ іх. Тута учыць ні нада, і біз навукі наседзюцца ны хрібту. *Гл.* Садзіць на плечы; Сядзець на чужой спіне.

**Сядзець на сваім** (сваём) **хлебе.** *Жыць самастойна, ні ад каго не залежаць.* Я як ні жыву, дык сяджу ны сваім хлебі, ішчэ скарінкі чужэя ня зьела. Ны сваём хлебі сядзець спыкайней: ні ты ні каму ня должын, ні ны цябе скоса ніхто ні глядзіць. *Гл.* С а д з і ц ц а н а с в о й х л е б.

**Сядзець на хлебе і вадзе.** *Жыць вельмі сціпла, бедна.* Нядзелю рыскашу́іцца, а трі нядзелі сядзі́ць на хлебі і вадзе. *Непайн.* **Пасядзець на хлебе і вадзе.** Пысядзі́ць на хлебі і вадзе, дык будзіць знаць, як пуска́ць на веціp. *Абмеж.* **Прасядзець** (праседзець) **на хлебе і вадзе.** Як ён жыў? — прысядзеў на хлебі і вадзе, во як жыў. Каб ён праседзіў месіц на хлебі і вадзе, як я, тады б знаў цану скарінкі хлеба. *Законч.* **Адсядзець** (адседзець) **на хлебе і вадзе.** Ты зы нас ні гарюй, есьлі мы ацьсядзелі на хлебі і вадзе, аცьсядзелі й аცьсядзелі, а ты сыт быў — і ладна. Аცьседзіць на хлебі і вадзе, дык, можа, троху пурузумнеіць. *Узмацн.* **Насядзецца** (наседзецца) **на хлебе і вадзе.** Нысядзеліся на хлебі і вадзе, а ўсё роўна ні пыка́іліся, узноў тра́цюць, як раншы. Ікая баба глу́пыя, ці можна ж було кыравёнку збува́ць, цяперя наседзіцца на хлебі і вадзе. *Гл.* С а д з і ц ь н а х л е б і в а д у.

**Сядзець на чужой спіне** (шыі, чужым (чужом) карку, гарбу, хрыбту), *звыч. неадабр. Жыць за кошт іншага.* Як табе сымаму́ ня збры́дзіць сядзець ну чужой сьпіне. Сма́шна сядзець ну чужой шыі, і зла́зіць ня хочыцца. Сядзеў ну чужы́м карку, пакуля ні сьпіхну́лі. Сам дужа ні пыцста́віцца, ну чужом ба карку любіў рызьіджджа́ць. Сколька ж сядзець ну чужом гарбу, дос ужо. Ныравіцца сядзець ну чужым хрябту. *Непайн.* **Пасядзець на чужой спіне** (шыі, чужым (чужом) карку, гарбу, хрыбту). Пысядзеў ну чужой сьпіне і злазь сам зырыбля́й. Так і глядзі́ць, каб у каго ну чужой шыі пысядзець. Ніхай сабе ня дужа доўга, а толька ж пысядзеў ну чужом карку. Ныра́віцца пысядзець ну чужым гарбу. Любіць ну чужом гарбу пысядзець, нечыга скызаць. Каб хырашэнька турну́лі, то меншы б пысядзелі ну чужым хрібту. *Абмеж.* **Прасядзець** (праседзець) **на чужой спіне** (шыі, чужым (чужом) карку, гарбу, хрыбту). Увесь век і глядзелі, каб ну чужой сьпіне праседзіць. Ні́якія ў іх совісьці ні разу ні було і ня будзіць, во прысядзелі ну чужой шыі і рады. Бяссты́днікі вы, вы ж ну чужом карку прысядзелі, хто

вас карміў два гады. Так, як яны, нада ўмець праседзіць ну чужым карку. Прысядзеў ну чужым гарбу, дык дужа даволін. Нічога ім ня дзелыіцца, праседзілі ну чужом гарбу і пысьміха́юцца. Сыбаччыя совісьць нада, каб ну чужом хрібту прысядзець пасьці год. Праседзілі нічога ну чужым хрябту, ніхай-ка сваімі рукамі пызырыбля́юць. *Законч.* **Адсядзець** (адседзець) **на чужой спіне** (шыі, чужым (чужом) карку, гарбу, хрыбту). Ацьседзілі ну чужой сьпіне сколька хацелі і ўсё нідавольны. Я з горя на месіц прітуліўся к цёткі, а во сколька ты ну чужой шыі ацьсядзеў. Нада ж ацьседзіць столька ну чужой шыі, і худзь ба хны яму. Аціьсядзелі ну чужым карку сколька ім хацелыся. Ла́дныга аціьседзіў ну чужом карку, каб ні сыгна́лі, і даетуль ба сядзеў. Вы ня меншы зу Пуўлюка ну чужым гарбу аціьсядзелі. А што ім, аціьседзілі ну чужом гарбу — пыныра́вілыся. Увесь свой век ну чужом гарбу аціьседзіў, айдзе яму було здароўя траціць. *Узмацн.* **Насядзецца** (наседзецца) **на чужой спіне** (шыі, чужым (чужом) карку, гарбу, хрыбту). Пажы́ў усма́к, нысядзеўся ў ахотычку ну чужой сьпіне за ета ўремя. Ну чужой сьпіне наседзіліся, ох, ні хацелыся зла́зіць. Столька наседзіцца ну чужой шыі, як твае родныя,— ета ўмець нада. Хочыш ну чужом карку наседзіцца,—не, скора сьпіхну́ць. Большы цябе ніхто етык ні нысядзеўся ну чужым гарбу. А што яму ста́ніць, наседзіўся ну чужом гарбу і хіхі́кыіць. Табе нечыга абіжа́цца, нысядзеўся ну чужым хрябту. Ну чужым хрябце столька наседзіўся, што і сядзець некуды. Гл. Е х а ц ь н а ч у ж о й ш ы і; С а д з і ц ц а в я р х о м.

**Сядзець у галаве.** *Пастаянна памятацца.* У яго даўно сядзіць у гылаве, каб скарей ат'етуль улізну́ць. Зразу мне сядзелі ў гылаве тває ніткі, а тады зукруці́ўся і забыў, толька січас успомніў, як цябе ўві́дзіў.

**Сядзець у лужы** (калошы). *Быць у недарэчным становішчы.* Сядзіць у лужы і ня ріпыіцца. Сядзіць у калошы ад бальшога зыдыва́ньня, айдзе што й дзіва́лыся. *Непаўн.* **Пасядзець у лужы** (калошы). Ты і другей раз пысядзі́ш у лужы, зьлезіць сь цябе хворс. Путкулупну́лі яго дужа лоўка, пысядзеў у калошы. *Гл.* С а д з і ц ь у л у ж у.

**Сядзець у мазках,** *груб. Пастаянна памятацца.* Дурноя сядзі́ць у мызка́х, а што нада, таго ня помніць. Ска-

жы ты мне, што калі ў цябе сядзела ў мызках? *Гл.* Стаяць у галаве.

**Сядзець у пячонках.** *Вельмі надакучыць, абрыдзець.* Мне твае рызгаворы даўно ў пячонкых сідзяць. Што йта зы пацьцёлык такей, чуць атвярнýўся — ён у шкоду, пряма у пячонкых сядзіць.

**Сямі пядзей ва лбу** (лбе), *кніжн. Вельмі разумны.* Ніхай ён будзіць сямі пя́дзій ва лбу, дык нічога у етый нірызьбяріхі ня зьдзелыіць. Ні шчыта́й, што ён у цябе сямі пядзій ва лбе, абыкнавенный хлапчы́на.

**Сярэдняй рукі,** *кніжн. Нічым не адметны, пасрэдны.* Тады ён быў сяредній рукі хызяін, ну, карова, кунюшэнка, цігаві́тый быў конік, авец дзіржаў, сьвіньнёнка якога.

**Таго** (тога) [і] **глядзі,** *адз., мн. Пра неабходнасць абачлівасці.* Кру́цюцца і круцюцца пыд ныгамі, таго глядзі, што на вілкі каторый ускочыць. Таго і глядзі, каб гарод ня выцірлі. Таго й глядзіця, каб ні схваціліся босца каровы, паколюцца. Тога і глядзі, што апшасьнецца каторый.

**Таго** (тога) **і жджы,** *адз., мн. Пра магчымасць непажаданых падзей, дрэнных вынікаў.* Таго і жджы, што пабітыга калі-небудзь пріцягнуць. Таго й жджы́ця, што сь цюрьмы пісьмо прі́дзіць. Тога і жджы, што ўзноў пызавець ныстаўніца у школу.

**Тады тое будзець.** *Пра адсутнасць у гэты момант патрэбы клапаціцца пра будучыню.* Свадзьба свадзьбыю, тады тоя будзіць, а січас пру другоя думый. Паедзіш — ладна, паедзіш, тады тоя будзіць.

**Такей-сякей нямазаный.** *Жартоўная характарыстыка.* Ах ты, такей-сякей німáзыный, дзяржы-ка мне яго, дзяржы. Ты тут, такей-сякей німазыный, вот я цябе січас.

**Так-етак** (сяк). *Пэўным чынам.* Што тут дужа ма́сьліць да цýгу, так-етык ські́дыў сьценку і ніхай стаіць. Схадзі так-етык пыд Аўдотку, можа там цялёнык ны хря́пкых масоліцца. Так-сяк вурушу́ся лі хаты.

**Так і быць.** *Поўная згода.* Так і быць, зыбірай, толька барыш сь цябе. Так і быць, паехылі, мне тожа ў Добрыя нада.

**Так і етак.** *Па-рознаму.* Думылі так і етык, ну ня дужа ж яно што выходзіць. Так і етык руссуждáй, ехыць сі раўно нада.

**Так і ёсць.** *Сапраўды.* Я ж гывaріў, што ішчэ засьпеім, так і ёсьць, вун ён трепліцца зь дзеўкымі.

**Так і нада.** *Гэтага і заслугоўвае.* Пыскыкáў ны адной наге, так і нада, рузухáбіст быў. Так і нада зы бірізьня́к, што ўклеілі штраху, ні бірягí — вы́сікуць за месіц.

**Так і так** [мол]. *Паведамленне пра размову або яе пачатак.* Дывай ён ры́скáзывыць, так і так, сьпірва ніхто нічога ні знаў, а посьлі патроху рыскыпáліся. Так і так мол, я вас трошку с прошлыга лета знаю.

**Так на так.** 1. *Рэч на рэч без даплаты (мяняць).* Хочыш — дывай так ны так міня́цца, дыплáчывыць тута німа за што. 2. *Адно на другое (атрымлівацца).* Бýдзіць большы сена, дык бульбы меншы пойдзіць, прыдасí вазок, так ны так і палýчыцца. Торх пыдбяреш — дровы зацэліюць, так ны так і вы́йдзіць.

**Так сабе.** 1. *Няважна, пасрэдна; нічога асаблівага.* У лашчы́ных і пуд узгорык жыта аж шалеіць, а ны самым узгорку так сабе, сяредніӊькыя. Так сабе жыву: ны работу, з работы, есьць звáріш, пычытáіш, хадзіць нікуды дужа ні хаджу. Так сабе піршчáткі, хуць яны і везіныя, а ня дужа греюць, на від толька нічога. 2. *Без асаблівых намераў, прычын.* Зайшоў ба так сабе і пысядзеў, ці ты нас ні знаіш, ці што. Дай, думыю, так сабе зыбягý ны сікýндычку.

**Так-сяк накасяк** (цераз (чэраз) касяк). *Няскладна, наогул дрэнна (выходзіць, рабіцца, атрымлівацца).* Якея мысьцяры́, тыкая і работа, так-сяк накыся́к ля́пыюць, етыя бані ім хвáціць ды зáмырызкыў. Сь первыга дня у іх пычалося так-сяк ціріс кыся́к — стáрыя усё ўлазюць, пад'ю́джывыюць яго. Кылі пойдзіць так-сяк чыріс кысяк, то вупруўля́ць дренна, луччы ні дупускáць ды такога. *Параўн.* Т а к-е т а к.

**Так-то** [яно] **так.** *Усё гэта можа і так.* Так-то так, знаюць, ды каб ныпісаў, то ня хужы було б. Так-то яно так, толька ж і я ім ні чужая. Так-то яно так, узрослыя, ну ня быўшы нійдзе трудна будзіць зразу.

**Так ці іначы.** *Тым або іншым чынам, абавязкова.* Так

ці іна́чы, ну ён должын ехыць, ждаць большы нечыга. Так ці іначы, а дзьвері нада сяньня сыглі́чыць. Так ці і́нычы усадзьбу нада пасеіць, што ж ты зы чылавек будзіш ні пасеіўшы.

**Там-сям.** *Месцамі, зрэдку (трапляцца).* Грібы ішчэ там-сям пупыда́юцца. Там-сям пу кукуру́зіні сядзіць, ці гракі вы́брылі, ці семя порчыныя було.

**Таму** (тому) **богу маліцца** (кланяцца). *Займацца тым жа самым.* Етыя пыцсытыня́юць, а Мішка і рад таму богу малі́цца — грызьня́ дзень у дзень. Большый ні пральлець і меншый таму богу кла́ніiцца. Тому богу маліўся і Карней, ён толька ныпярёд меншы лез. А ён разьві ні за дно быў? — тому богу кланіўся.

**Таму** (тому, етаму) **богу рад.** *Пра супадзенне жадання і магчымасці.* Пёкла нымікну́ла пру буты́лычку, а ён таму богу рад, пымчаўся. Дай толька сыйці́цца, тому богу рады, пашлі вірябеніць ну пуўдня. Тэй мірьга́іць: пайдзём, а Сярёжа етыму богу рад: ні нада ў ку́зьні стыяць.

**Танцаваць** (скакаць) **ад печкі,** *кніжн. Пачынаць з самага пачатку.* Дзёмка, ты відзіш, ат печкі пычынаіць тунцува́ць. Ну, хва́ціць скыкаць ат печкі, гывbooарі-ка ты дзела. *Пачын.* **Затанцаваць ад печкі.** Во, ўзноў зутунцува́ў ат печкі, ны два часы рызьвядзець та́ры-бары.

**Тапіць** (атапліваць) **вуліцу** (свет, ваду й зямлю). *Бэсціць, лаяць апошнімі словамі.* Узіла́ся тапі́ць вуліцу ны хлыпца́ зы нішто. За што яны топюць сьвет ны чылавека? Тапілі ны Мыкара ваду й зямлю, нясьлі ўсё са сьвету. Як шчэпюцца ўдзьвюх, ата́пліюць вуліцу адна на дну. Шаг ні ўладзь піряд ёю ступіць, атапліiць сьвет. Што ёй пытпа́ла, кажный дзень атапліiць ваду й зямлю. *Зак.* **Атапіць вуліцу** (свет, ваду й зямлю). За што яны атапі́лі вуліцу ны Саньку, што йна такога ўжо зьдзелыла? Марья, па-мойму, нічагенічка і ні скызала, а тая як пытхвацілыся, як пынісла́, як папёрла, атапіла сьвет. Ета бізь нічога ніякыга можыць атапіць ваду й зямлю, а ныйпа́чы, калі яе хто затроніць. *Узмацн.* **Патапіць вуліцу** (свет, ваду й зямлю). Каб толька чула, што зь іх твары́лыся, пытапі́лі вуліцу, нясьлі што зря. То нічога, нічога, то ніізьвесна чаго і за што патопюць сьвет. Як узя́ліся са ўсіх бакоў, як разі́нуліся, былі пытапілі ваду

й зямлю. *Працягл.-фінальн.* **Натапіць свет** (ваду й зямлю, датапіць вуліцу). Натопіць сьвет, так ужо дам здáчы, што места сабе ні найдзіць. Ну, нытапілі ваду й зямлю, прікусілі сабе ізыкі. Калі-небудзь датопіць іна вуліцу, Іван будзіць цярьпець-цярьпець, ну лопніць у яго цярьпеньня, дацерьпіцца.

**Тапіць у гразь,** *рэдкаўж. Зневажаць, бэсціць.* Сьпірвá я троху стыяў, слухыў, а як пычалí тапіць Сьціпана ў грязь, я пашоў, ну іх зь іх лухтою. *Зак.* **Утапіць у гразь.** Такім людзям нядоўга што хочыш зьдзелыць, яны і ў грязь утопюць любога. *Гл.* Т а п т а ц ь у г р а з ь.

**Тапіць у крыві,** *кніжн. Жорстка распраўляцца, забіваць, знішчаць.* А прідáцілі, етыя ізьвірьгі, умесьці зь немцымі дзяреўні тапíлі ў крыві. *Узмацн.* **Патапіць у крыві.** Такім дай волю, гатовы пытапіць у крыві сьвет.

**Тапіць у ложке вады.** *Нагаворваць знарок.* Ны кáжным шагу тая дзёўбдзя стыряíцца тапíць іх у ложкі вады. *Зак.* **Затапіць** (утапіць) **у ложке вады.** За сы́пку чаго-небудзь ты затопіш чылавека ў ложкі вады. Мы знаім, як іна любіць Мыкырінят, іна б утапíла іх у ложкі вады.

**Таптацца на** [адным (адном)] **месце.** *Не знаходзіць вырашэння.* Ні пыдганí, то будуць год тыптацца на месьці. Другія б ету пу́нчыну ськíнулі зы нядзелю, а яны месіц топчуцца ны адным месьці. Кажный дзень топчуцца ны адном месьці, нешта ў іх ні туды ні нызад ні вырішáіцца. *Зак.* **Пратаптацца на** [адным (адном)] **месце.** А што толку, есьлі вы ўсе такоя ўремя прытыптáліся на месьці. Прытыпталіся ны адным месьці, дзела нісколька ні падзьвíнулыся. *Законч.* **Адтаптацца на** [адным (адном)] **месце.** Адны аттыптáліся на месьці, другея тоя самыя пычынаюць. Тута ўсё можна було і ныпісаць, і пытпісаць за дзесіць мінут, а яны аттыпталіся на дном месьці нівісь сколька. *Парайн.* Н а а д н ы м м е с ц е.

**Таптаць нагамі.** *Папіраць, здзекавацца.* У такую сямейку пупáў, што там тыпталі ныгамі, зы чылавека ні вялі,— во якей ён зяць быў.

**Таптаць** (утаптываць, затаптываць, мясіць) **у гразь.** *Зневажаць, бэсціць.* Сколька жыла зь імі, столька тыптáлі ў грязь. Німа чаго утáптывыць у грязь, кылі скызалі ні пы твайму носу. Зытáптыюць у грязь, і ты ім маўчы,

ні слова ні скажы. Қылі месюць чылавека у грязь, ета, па-твойму, хырашо? *Зак.* **Затаптаць** (утаптаць, умясіць) **у гразь.** Толька пыспрабу́й ні ўгадзі чым-небудзь, у грязь затопчуць. Чуць саўсім ні ўтыпталі ў грязь, як усьселі с усіх бакоў. Умесюць у грязь, а ты тады дыказывый, што праў. *Узмацн.* **Патаптаць у гразь.** Қаб мы ні зуступіліся, яны б вас сы сваімі ізыкамі у грязь пытыпта́лі. *Працягл.-фінальн.* **Натаптаць** (датаптаць) **у гразь.** Натопчыця вы ў грязь, апсікіцёся калі-небудзь. Дытыпталі ў грязь, самім цяперь сты́дна у вочы чылавеку гля́нуць, толька ці быў у іх стыд якей. *Гл.* Мяшаць з граззю.

**Таршма** (тарчма, старчма) **носам.** *Раптоўна тварам уніз* (*паваліцца*). Тыршма́ носым у грязь бря́знуўся і ляжы́ць. Тыршма носым як пыляці́ш, дык будзіш знаць ба́лыўства. Ідзець як рызівон, брязь тырчма носым у дзядоўнік. Қаб я ні прідзержыў, ён ба і пыляцеў стырчма носым.

**Тары-бары** [растабары], *неадабр. Балбатня.* Рызьвяду́ць свае та́ры-ба́ры да поўнычы, толька спаць ні даюць. У іх тары-бары рыстыба́ры надоўга заводзюцца, каротка яны ня любюць.

**Тары ды бары,** *неадабр. Балбатня.* Слова па слову, та́ры ды ба́ры, гля́нулі — а сонца заходзіць. Тары ды бары, а ўремя ляціць.

**Таўкаць** (таўхаць) **у галаву.** *Крыху непакоіць, прыходзіць на ўспамін.* Трошку туўка́ла первыя дні ў гылаву, што нада було б ныпісаць сваім пры пірястройку, а посьлі неік саўсім забыў. Ці туўхаіць табе ў гылаву, што Қоля прасіў. *Аднакр.* **Таўкануць** (таўкнуць, таўхануць, таўхнуць) **у галаву.** Неік жа ні туўкану́ла у гылаву пры замок. Як жа мне ні таўкнула ў гылаву, што пылаценчыкі аста́ліся ны плятне. Туўханець у гылаву — тады хвачуся, а другей раз саўсім забу́ду. Неік ні таўхнула ў гылаву, што Прося дужа прасіла купіць гу́зікыў. *Парайн.* Стукаць у галаву.

**Таўкаць** (таўхаць) **у серца.** *Непакоіць, напамінаць пра маральны абавязак.* Можа трошку й туўка́іць Домніна дычка ў серца, толька ён віду ні пыдаець. Нешта я ня верю, каб яго што-небудзь туўхала ў серца. *Аднакр.* **Таўкануць** (таўкнуць, таўхануць, таўхнуць) **у серца.** Ні

такей чылавек, каб яму туўканýла што ў серца. Ды таўкнýла ў серца, як рыскызалі пры сапрыныўцыў. Віду ні пыкызаў, ну, па-мойму, нешта туўханула ў серца, як Аньку увідзіў. Ныўрад ці таўхнець яго ў серца дайжа Сямёныва пісьмо.

**Тачыць** (вайстрыць) **зубы** (зубкі). *Мець патаемнае жаданне, разлік.* Яны даўно точуць зубы ны тваю мідунічку, бірягí, с сукáмі калі зьнясýць. Доўга тачыў зубкі на Пецькін ножычык. А яны нескылька гадоў вайстрíлі зубы ны зяцíцкыю рошчу. Ныпрáсна войстріш зубкі, тута ні пылытáісься. *Зак.* **Натачыць** (навайстрыць) **зубы** (зубкі). На чый гарод нытачы́лі сяньня зубы? Калі наточуць на што зубкі, ат іх мáхылым ні атаб'есься. Ці ні ны мае вы гурочкі нывайстрíлі зубы? Раз нывайстрілі зубкі, то ныўрад ці мінець íхных рук, яно ім даўно вя́дзіла. *Непаўн.* **Падтачыць** (падвайстрыць) **зубы** (зубкі). На што-то пыттачы́лі зубы, відзіш, згывáріюцца. Гатовы ўжо, пыттачы́лі зубкі, січас вы́прывюцца. Відзіця, як пыдвайстрíлі зубы, ні глідзя́ць, што адзь зямлі ні пытрыстáлі. *Абмеж.* **Патачыць** (павайстрыць) **зубы** (зубкі). Дні трі яны пытачы́лі зубы ны маю моркыўку, пакуля ні прызнáла ды нысварíлыся. Пытачылі зубкі, ды толька аблізнýліся ны яблыкі: Сенька с пýгыю сядзіць у саду. Пывайстрілі зубы на ету хату, алі ж ні пы кырману. Ніхай толька замецюць, павойстрюць зубкі.

**Тачыць нож.** *Рыхтаваць помсту.* Яны даўно точуць нож ны Пітрыка, усё ня могуць прасьцíць, што іх мыхінáцыі вы́крыў. *Зак.* **Натачыць нож.** Ды я віджу, што вы нытачы́лі ны нас нож. *Абмеж.* **Патачыць нож.** Зразу пытачылі нож, дайжа дýмылі, што могуць атпалíць што, а посьлі неік абмякчы́ліся. *Працягл.-фінальн.* **Датачыць нож.** Ну, ну, хлюсты такея-то, дытачы́лі нож, прайшоў ваш задор.

**То бокам** (крукам) **то скокам** (бокам-скокам). *З цяжкасцю, з намаганнямі, усякімі спосабамі.* Ні магу ж дужа, то бокым то скокым чуць-чуць паўзу, іду, нада ныкармíць скот. То крю́кым то скокым трошку дзьвíгыюсь. Бокым-скокым цігáюся, нада ж кыпашы́цца.

**То вашаму то нашаму** (то нашаму то вашаму), *адз., мн. Папераменна, беспрынцыпова.* Толку ў такога чылавека ні даб'есься, ён то вáшыму то нáшыму. С такімі лучцы ні чыпáцца і ні візáцца, яны то вашым то нашым.

Як жа зь імі чаго даб'есься, кылі яны то нашыму то вашыму. *Гл.* І вашаму і нашаму.

**То густа то пуста.** *Па-рознаму, вельмі няроўна.* У цябе ўсігда так: то гу́ста то пуста, хызя́йнічыіш ты дужа ладна. Жывуць то густа то пуста, роўна яны ня ўмеюць.

**Толька быў,** *адз., мн. Пра імклівыя ўцёкі, знікненне.* Толька быў зу гумно, пыспрабу́й дыгані. Цёрлыся, цёрлыся, вярёўку з рог зьдзела і толька была ў клевір. Я за ремінь, дык яны толька былі́ ў кусты.

**Толька відзелі.** *Пра імклівае знікненне.* Рехвы схваціў і толька відзілі, мыхану́ў к сажылкым,— нашто яму тэя рехвы. Зьмікі́ціў, што ні пылыса́, даў дзёру толька відзілі.

**Толька дзяржысь!** *Выражэнне вышэйшай ступені ацэнкі.* Наложыць воз толька дзяржы́сь, абгрябець, апчы́сьціць — як лялька зьдзелыіць. Толька дзяржысь хлопцы, ніхто плахога ні ска́жыць.

**Толька пaглядзець** (палюбавацца), *іран. Пра выключнасць, незвычайнасць.* Дзелыюць яны толька пыглядзець: зямлёю шу́льля троху апсы́пылі, а аптоўч і ні бра́ліся. Кызьба́ толька пулюбува́цца: пыт пакосымі пылаві́на травы́ стаіць.

**Толька тады і відзеў,** *адз., мн. Пра хуткае знікненне.* Многа набы́ў пінжачок, купіў — толька тады і відзіў. Толька тады й відзілі вашыга Міхалку, адзін дзень пабыў тута.

**Толька тады і чуў** (слухаў), *адз., мн. Пра непаслухмянства.* Ці гывар́і, ці ні гывар́і — нічога ні даходзіць, ты ска́жыш — толька тады й чуў. Пыпрасі́ў: схадзі́ця, зыгані́ця скот, дык пашлі — толька тады і чулі. Мала што ты прасі́ў — ты прасіў, а яны толька тады і слу́хылі.

**Толька ходу было.** *Пра выкананне невялікай працы.* Толька ходу було, зы якіх два часы усё скасі́лі. Ікая там работа, толька ходу було, можна було аднаму спра́віцца.

**Тонкій ход,** *гумар. Дыпламатычны манеўр.* Нешта ў цябе тонкій ход ні пулучы́ўся. Задумылі тонкій ход проця Антонывых.

**Торкаць палкі ў калёсы,** *рэдкаўж. Праднамерана чыніць перашкоды.* Я пыняў, хто нам торкыіць палкі ў калёсы, тэй усё ня можыць забыць Колю. *Зак.* **Уторнуць палкі ў калёсы.** Ета сьпец уторнуць палкі ў калёсы, дужа злаўредзіна быльшая. *Гл.* С т а в і ц ь п а л к і ў к а л ё с ы.

**Торкаць у зубы.** *Груба падаваць, паказваць, даваць.* Што ты мне торкыіш у зубы етый сувой, ці я сыма ня віджу, якей ён. *Зак.* **Торнуць** (торкнуць) **у зубы.** Ну й культура ж у цябе: торніць у зубы і бярі. Торкні што ў зубы, каб атвізáліся, ні ныдыідáлі пуд рукамі.

**То так то сяк** (етак, так). *Па-рознаму.* То так то сяк, неік выкрýчывыліся. То так то етык нада угáдывыць, каб неік луччы. Тугувáта було, ну то так то так апхадзíліся.

**То там то сям** (тут, там). *У розных месцах.* То там то сям і зарьвецъ што-небудзь. Пупыдáліся бырывічкí то там то сям. Ён умеіць, то там то тут і заробіць якую капейку. То там то там пыдзяржы́ць ны кынáўкі, пыпасецъ, іна і мылыка даецъ луччы.

**То-то і ёсць.** *Сцвярджэнне правільнасці меркаванняў.* То-то і ёсьць, што яны тріпанýлі нарошня. То-то і ёсць, што ня дужа к чаму прітýркыіш, білябеніла б і тырабеніла ні сьціхáючы.

**То то** (тое) **то сё** (сёе, ета). *Featureзнае.* Ня ўцерьпіць, то то то сё скáжыць, а яны ня дужа любюць. То то то ета, бувала, і пытхвáціць. То тоя то сёя спруўля́іцца, ужо лáдна адзежы ёсьць. То тоя то ета пашы́іць, усігда капейчына лі рук вядзецца ны расходы.

**Тоўстый** (тугей, тугій, поўный) **карман.** *Пра таго, хто мае шмат грошай.* Усё выбірáіць цісьця́, каб тоўстый кырмáн быў. Ідзі пыдлабýнься к Высілёвым, у іх тугей кырман. Быў тугій кырман, ды німа. Ніхай поўный кырман, ніхай распоўный, я ўклыня́цца ні стану.

**Точка ў точку.** *Абсалютна дакладна.* Ляжы́ць, точка ў точку пупáла, як тут была. Нада ж умець так пыдыгнáць, точка ў точку.

**Точ у точ.** *Вельмі адпаведна, падобна.* Точ у точ у мяне такей ножык быў. Точ у точ бацька, зразу пызнáіш пы пріродзі.

**Трапацца языком.** *Балбатаць, пустасловіць, гаварыць упустую.* Ні тряпліся ты ізыком, асобінна калі ні знаіш. Трепліцца ізыком, што ў яго і кварціра чуць ні зылытая і быгаства нямерныя. *Непайн.* **Патрапацца языком.** Ёй каб толька айдзе-небудзь ізыком пытріпáцца. Стыяў тут атвечыра, пытріпаўся ізыком, а тады паплёўся некуды. *Абмеж.* **Пратрапаць** (прамалоць) **языком.** Дабедзьдзя прытріпалі ізыкáмі, а тады палезьлі на сена. Ну што ж вы дзелылі, прымалолі ізыком і ўсё. Прымалоў ізыком дос, ідзі пыпірінáшывый карзінкі. *Законч.* **Адтрапаць** (адмалоць) **языком.** Аттріпалі ізыкамі, чуць-чуць рызвылакліся. Ні піряжджэш, пакуля яны аттреплюць ізыкамі. Пакуля атмеліць ізыком, біс хвырасьціны астáнімся пад дождж. *Гл.* Б а ў т а ц ь я з ы к о м.

**Трапаць** (збіваць) **ногі.** *Хадзіць пехатой у далёкую дарогу.* Ня хочыцца мне тріпáць ногі, што я там харошыга увіджу. Іціць столька — ета ногі зьбіваць ныпрáсна. *Зак.* **Патрапаць** (збіць) **ногі.** Пайдзём, табе палезна пытріпаць ногі. Ніхай пройдуць, саб'ю́ць ногі — ну другей раз атахоцюцца. *Узмацн.* **Натрапаць ногі.** Ну, ладна нытріпаў ногі, ці будзіш другей раз прасíцца? Етый ламень ляжыць, яго і колым ня ўзьверніш, мы зы яго нытріпалі ногі ладна.

**Трапаць нервы.** *Пастаянна злаваць, злавацца.* Ты знаіш, сколька ёй тріпалі нервы тэя лабрэты. Дос мне тріпаць нервы, угаворшчык найшоўся. *Зак.* **Патрапаць** (страпаць) **нервы.** Нічога ты ні пірійнáчыш, толька нервы ныпрасна патрепліш. Так піріжываць усё ўремя — толька нервы стрепліш. *Узмацн.* **Натрапаць нервы.** Ікая жызьня, калі нервы натрепліш, натрепліш і пойдзіш. *Законч.* **Адтрапаць нервы.** Аттріпáла я зь імі нервы адзін бог можа знаіць сколька. *Працягл.-фінальн.* **Датрапаць нервы.** Датрепіш нервы, што астáнісься біз здароўя. Датрепліця нервы, што ні пыгляджу́ ні ны каго, а путурю́ с хаты. *Наз.* **Тропка нерваў.** Кажный дзень трёпка нервыў, як жа так жыць. *Гл.* П о р ц і ц ь н е р в ы.

**Трапляць** (трапляцца) **на вока.** *Прыкмячацца, заўважацца.* Ны бызар як пойдзіш, буваіць, і харошыя што трыпля́іць на вока. Посьлі тых пылацён неік ні трыпляіцца на вока. *Зак.* **Трапіць** (трапіцца) **на вока.** А ўсё-

тыкі ты баісься трапіць к Марьі на вока. Ета блыгыдарі бога, што ты Анісу ні трапіўся на вока. *Гл.* П а п а д а ц ь н а в о к а.

**Трапляць** (трапляцца) **на вочы.** *Выпадкова аказвацца ў полі зроку.* Дужа даўно Іван ні трыпляў мне на вочы. Стыдна як пасьледніму сыбаку на вочы трыплящца. *Зак.* **Трапіць** (трапіцца) **на вочы.** Во каб яны мне калі на вочы трапілі, я б іх аччыта́ла. Калі ладный пулушубык трапіцца на вочы, бяры, ні звыля́іцца. *Гл.* П а п а д а ц ь н а в о ч ы.

**Трасца не бярэць,** *часам мн.; цяп., пр. Пра нядрэннае становішча, умовы жыцця.* Нечыга гурюва́ць, вашых родзічыў тря́сца ні бярець. Іх нійдзе трясцы ні бралі. **Трасца бярэць,** *цяп., пр.* А што, яго трясца бярець? Калі твайго Мікілая трясца брала? *Зак.* **Трасца не возьмець,** *буд., пр.* Калі родный цёткі паможыш, трясца ня возьміць. Відзіш, ні аднаго, ні другога трясца ні ўзіла́. **Трасца возьмець,** *буд., пр.* Дужа баіцца, што іх абаіх трясца возьміць. А ці яго трясца ўзіла б, каб трошку пасобіў. *Гл.* Р а д з і м е ц н е б я р э ц ь.

**Трахнуць** (трахануць, патрэсць) **машною.** *Не паскупіцца.* Тряхні машною, нечыга пріжыма́цца. А Кындрацёнык тряхнуў машною, дайжа ні ждалі ат яго. Во калі надумыўся тріхану́ць машною. Глядзі што рызда́сца, ня дужа ён пытрясець машною. *Незак., рэдкаўж.* **Трэсць машною.** Трясі машною, ні жалей, усяго с сабою ні зыбяреш.

**Трахнуць** (трахануць) **старыною.** *Зрабіць, паступіць, як раней, у маладосці.* Ну, ну, тряхні-ка стыріною, як, бувала, у Кудрічых. Як, гадок, тріханём стыріною? *Незак., рэдкаўж.* **Трэсць старыною.** Ні глядзі, што ўвесь стаў як лунь, трясець стыріною, ня хочыць здыва́цца.

**Траціць** (растрачываць) **порах,** *гумар. Расходаваць сілы, энергію.* Нупра́сна тра́ціш порых, ня вы́пыліць у цябе нічога. Ай, братка, рыстра́чывыіш ты порых зря. *Зак.* **Патраціць** (растраціць) **порах.** Пытраціў Максім порых, маўчыць ужо, ні слова. Што ж вы так скора порых рыстрацілі? *Узмацн.* **Парастрачываць** (парастраціць) **порах.** Пырыстра́чывыў прівыдзіц порых, саўсем ня тэй стаў што раншы. Пырыстра́цілі порых і сідзяць што мышы пад венікым.

**Трашчэць па ўсіх швах,** *гумар. Развальвацца, разбурацца.* Тряшчы́ць іх кымпа́нія па ўсіх швах, ні ла́дзюць нешта. *Пачын.* **Затрашчэць па ўсіх швах.** Доўга ета ў іх дзіржалыся, а тута вот табе — зытряшчэла па ўсіх швах. *Аднакр.* **Трэснуць па ўсіх швах.** Яно ж так: ідзець, ідзець, а тады разым тресьніць па ўсіх швах, і ўсё прыпала, пычына́й на́нывa.

**Трогацца** (здзвігацца) **з места.** *Прыходзіць у рух* (*часц. пра справы*). Я віджу, што й швагерь твой пычынаіць трогыцца зь места. Хылады́, нічога ні расьцець, дайжа зь места ні зьдзьвіга́іцца. *Зак.* **Тронуцца** (стронуцца, здзвінуцца) **з места.** С такім мужуком ні ныкрасу́ісься, ён тронуцца зь места ня хочыць. Ці ты ім гываpі што, ці маўчы — каб зь места стронуліся. Нічога, маё дзела ўжо зьдзьві́нулыся зь места, цяперь пойдзіць у ход.

**Трогаць душу,** *кніжн. Кранаць, хваляваць.* Ня відна, каб тваё гывареньня трогыла яму душу́. *Зак.* **Растрогаць душу.** Ды відна, што табе растрогылі душу, блішчы́ш як медный сумувар. *Аднакр.* **Тронуць душу.** Ня дужа, каб такому зыкарю́злыму тронула што-небудзь душу.

**Трогаць раны,** *рэдка адз. Напамінаць пра цяжкія перажыванні ў мінулым.* Нашто вам трогыць раны, яму і так ні салодка. Луччы ні пымі́найця, ня трогыйця рану. *Узмацн.* **Растрогаць раны.** Пріехылі, растрогылі раны, ну хуць пыгывары́лі, усё ўспомнілі. *Аднакр.* **Тронуць раны.** А маўчы́ця, троніця раны — лішнія валненьні. Ён дужа глубока тронуў рану, ці стоіла гываріць пра ета. *Гл.* К а в я р а ц ь р а н ы.

**Трубіць у кулак.** *Бедаваць.* Калі галы́тырь ды галытырі, яно ўсё ўместа сходзіцца, як ты з гары біс паду́зы спу́сьцісься, во стой ды трубі ў кулак. *Пачын.* **Затрубіць у кулак.** Тыкая дырагоў аніла́ бульбу ны бызарі, што хуць у кулак зутрубі. *Непайн.* **Патрубіць у кулак.** Сколька хочыш путрубі ў кулак, а бука́ткі як німа дык німа.

**Тры корабы,** *неадабр. Вельмі многа (нагаварыць).* Ныплялі́ лухты ўсякія трі корыбы, толька слухый. Прінясець трі корыбы пустаты́, вушы зыбыля́ць слу́хыўшы. *Гл.* З т р ы к о р а б ы.

**Трын-трава.** *Дробязь, тое, што не заслугоўвае аніякай*

*увагі.* Табе ўсё трын-трава, калі табе што ні було трын-трыва.

**Трэсца** (калаціцца) **над кажнаю капейкаю.** *Празмерна ашчадднічаць.* Па-мойму, калі ўжо тресца ныт кажныю капейкыю, ета ня жызьня. Твой дзед кылаціўся ныт ка́жныю капейкыю, а табе стыдна. *Непаўн.* **Патрэсца** (пакалаціцца) **над кажнаю капейкаю.** Ён сьпірва пытрясецца ныт кажныю капейкыю, а тады ўжо купіць. Пакуля ныт кажныю капейкыю ні пыкалоціцца, ні рысстря́ніцца. *Узмацн.* **Натрэсца** (накалаціцца) **над кажнаю капейкаю.** Перш ныкалоціцца ныт кажныю капейкыю, дзесіць разоў пірішчыта́іць, а тады ўзноў схува́іць. Яму ж нада раншы ныкыла́ціцца ныт кажныю капейкыю, а тады можа рызагнецца купіць што-небудзь. *Гл.* Д р ы ж э ц ь н а д к а п е й к а ю.

**Трэсць трахоллем,** *гумар. Ісці.* Вун ві́дзіш, ці ні твыя падруга трясець тряхольлім с-пыд бярезьнічка. *Пачын.* **Затрэсць трахоллем.** Зытрісла́ тряхольлім некуды ў тэй бок, па-мойму, к Лявоніхі.

**Тугей** (тугій) **на вуха** (слух), *звыч. іран. З дрэнным слыхам.* Калі просюць, тады ён тугей на ву́ха. Гывары грамчэй, ён тугей на слух. Ты толька ўримі́намі тугі́й на вуха буваіш. Не, ён ня глух, ён туг на слух. *Непаўн.* **Тугаватый на вуха** (слух). Нешта ты стала тугува́та на вуха, я гываро: дай пяцёрку да вечыра. Як завеш пымыга́ць, тады ён тугуват на слух.

**Туды і дарога.** *Пажаданне бяды, гібелі.* Найшлі́ калелыга, туды яму і дарога, столька ён прі немцых нуд людзя́мі зьдзекывыўся.

**Туліць галаву.** *Знаходзіць прытулак, адчуваючы прыязнасць.* К каму мне цяперь тулі́ць гылаву, як ні к табе, ты ў мяне аста́лыся самыя родныя. *Працягл.-фінальн.* **Натуліць галаву.** Многа там ні нату́ліць гылаву, ня тэя людзі яны, каб пусучу́ствывыць. *Гл.* Г а л а в у п р ы т у л я ц ь.

**Туманіць вочы** (галаву). *Задурваць, падманваць.* Нечыга мне тума́ніць вочы сваімі тріл́юдымі, усё дно як я нічога ня смы́сьлю. Каму ты гылаву туманіш, ён тоя даўно забыў, пра што ты яшчэ і ня думыў. *Зак.* **Затуманіць вочы** (галаву). Ён думыў, і Ткычанку́ вочы зутума́ніць. Яны ўмеюць зутуманіць гылаву, учыць іх ні нада. *Уз-*

*мацн.* **Натуманіць вочы** (галаву). Етый як возьміцца, нутуманіць вочы. Здорыва нутуманілі гылаву і, відна, веріць усёй лухце. *Узмацн.-множн.* **Патуманіць вочы** (галавы, галовы). Ці вам вочы путуманіла, ці што, што вы нічога у толк ні біріцё. Хто вам так путуманіў голывы? Такім нядоўга путуманіць галовы, раз ту́рмынымі расту́ць.

**Туман у вачах** (галаве), *неадабр. Пра адсутнасць жадання зразумець відавочнае.* У яго ўсігда туман у вычах, дуріся, дуріся і ні ўталку́іш нічога. Што ты аб'ісьня́іш, кылі ў іх туман у гылаве.

**Туману напускаць** (падпускаць), *неадабр. Знарок заблытваць справу.* Яны сьпіцыя́льна туману нупуска́юць, думыюць, ніхто ні рызьбіра́іцца ні ў чом. Дзёма сьпіцыяльна таўморіцца тут, туману путпуска́іць. *Зак.* **Туману напусціць** (падпусціць). Такога туману нупусьціў, як пріехыў, што й ні пріду́мыць. Ага, думыіць, путпушчу́ туману, пакуль будуць рызьбіра́цца, я сам скарей вы́путыюся,— во на што ён біў. *Узмацн.* **Туману панапускаць.** Ну хто ж другей, твае сёстры і пунупускалі туману етыга.

**Турусы на калёсах,** *адзінк. Лухта, бязглуздзіца.* Ідзіка ты, чылавек, двору, поўныч ужо, некылі твае туру́сы ны калёсых слу́хыць.

**Тут ёсць тут няма,** *неадабр. Пра непаседлівасць.* Пряма вінаходым ходзюць цэлый дзень, носюцца тут ёсьць тут німа, тут ёсьць тут німа. Тут ёсьць тут німа і лётыюць, і лётыюць бісь пірядь́ху.

**Тут і там.** *Усюды.* Яе тут і там поўна, нійдзе ні прапу́сьціць. Тут і там пасьпеў апшука́ць, нійдзе сьвердла німа.

**Тут як тут.** *Пра з'яўленне ў момант гаворкі.* Толька пры яго гаворім, а ён тут як тут. Глядзі́м, і Пітрачок тут як тут, як чуў, што яго ўспомнілі.

**Туча тучаю.** *Пахмурны, змрочны.* Ту́ча ту́чыю ходзіць, ні дыгадзі́лі нечым. Сяньня абоя нешта ні ў гуморі, старшый дык пряма туча тучыю.

**Тыкаць носам,** *груб. Рэзка ўказваць, паказваць на недахопы, памылкі.* Ны ка́жным шагу́ ты́кыюць яго носым, усё ім ні так, ні ў лад. *Непаўн.* **Патыкаць носам.** Ладна

патыкылі носым, будзіць помніць ну другей раз. *Аднакр.* **Тыкнуць носам.** Тэй ні пысьцісьня́іцца і прі людзя́х ты́кніць носым: што ж ты дзелыіш. *Узмацн.* **Натыкаць носам.** Ніхай, адзін раз наты́кыюць носым, то другей раз будзіць помніць, як ні нада дзелыць і як нада.

**Тыкаць пальцамі.** *Асуджаць адкрыта, не таячыся.* Нябось ты, ны мяне па́льцымі ня ты́кылі, як ны цябе. Хва́ціць вам ны яго пальцым тыкыць. *Зак.* **Затыкаць пальцамі.** Як табе ня совісна так дзелыць, цябе ж людзі пальцымі заты́кыюць. *Непаўн.* **Патыкаць пальцамі.** Дужа ён спужа́ўся, што ў яго пальцымі патыкылі, раз німа совісьці, нічога ні паможыць. *Узмацн.* **Натыкаць** (натыкацца) **пальцамі.** Посьлі га́лкыўскія свадзьбы наты́кылі ў яго пальцымі. І сябе апстраміў, і сёстрым стыд, ува усіх пальцымі натыкыюцца. *Гл.* П а к а з ы в а ц ь п а л ь ц а м.

**Тыкаць** (торкаць, утыкаць) **нос,** *неадабр. Умешвацца не ў сваю справу.* Усігда ты́кыіць нос ні ў сваё дзела, такей праці́ўный чылавек. Хто вас прасіў торкыць сюда нос. Ні заву́ць — і ні ўтыка́й нос, калі пызавуць, тады будзіш пытка́зывыць. *Аднакр.* **Тыкнуць** (торкнуць) **нос.** Бяс толку тыкнуў нос, падлез, як яго сюда прасілі. Любапы́цін дужа, так і ла́дзіць куды б небудзь торкнуць нос. *Гл.* С у н у ц ь н о с.

**Тыкаць у вочы.** *Папракаць, груба, рэзка ўказваць.* Ня хочыш слу́хыць харошыга, дзелый па-свойму, ніхай усе ты́кыюць у вочы. *Непаўн.* **Патыкаць у вочы.** Нашто вам былі тэя снапочкі, цяперя паты́кыюць у вочы. *Аднакр.* **Тыкнуць у вочы.** Мне ў вочы ніхто нічым ня тыкніць: у мяне і рукі чы́стыя, і душа спакойныя. *Узмацн.* **Натыкаць у вочы.** Што яны мне натыкыюць у вочы, што я каму ні дыгадзіў.

**Тыкаць у нос.** *Рэзка ўказваць, падносіць для азнаямлення.* Ні хачу я так дзелыць, каб мне посьлі ты́кылі ў нос, я кылі ня ўмею чаго, то ні бяруся. *Аднакр.* **Тыкнуць у нос.** Што ж ён тыкніць мне ў нос, я яму аддаў хаму́т цэлый.

**Тым** [самым] **духам дыхаць.** *Быць такім жа.* Ду́мыіш, Іван луччы, тожа тым ду́хым ды́хыіць, пыдлавіць ні сьцісьня́іцца. І сам ты ня промых, і брыцья́ твае тым са-

мым духым ды́шуць. Арцімiня́ты тым самым духым дыхылі, зышчышча́ць іх ні нада.

**Тым** [самым] **местам сесць** (асесца). *Прыйсці да ранейшага стану.* Што б яны ня дзелылі, дык усё раўно тым местым ся́дуць. Ніхай як ні крічыць, а тым местым асядзіцца, як і раншы було. Папры́гыў дзень, папрыгыў, а што ён зьдзелыіць, тым самым местым сеў. Сьпірва ух хра́бір быў, а тады айдзе й храбрысьць дзелыся, тым самым местым асеўся. *Незак., рэдкаўж.* **Тым** [самым] **местам садзіцца.** Ніхай ён хуць сколька пыцска́кыіць, а прідзіцца яму тым самым местым садзіцца: *Гл.* Н а т ы м м е с ц е с е с ц ь.

**Тэй свет.** 1. *Замагільнае жыццё.* Мяне тэй сьвет ужо ні пужа́іць. У лыгіря́х як былі, тэй сьвет ра́ім здыва́ўся. 2. *Невядомы край, вельмі далёкі.* Тэй сьвет Рослыў, я туды ні дайду з маімі ныгамі.

## У

**У абратным случае.** *Іначай, бо.* Ніхай і Прося садзіцца з намі ехыць, у абра́тным слу́чыі і я ні паеду. Пісьма Міхалка ні прісыла́ў, у абратным случыі мы зна́лі б.

**У агонь і ваду.** *На любыя ўчынкі не задумваючыся.* Такея хлопцы, што ў любэй міг гатовы у агонь і ваду. Зы Высілёнкыў у агонь і ваду пойдзіць, друзья, што вадою ні разьлі́ць.

**У адзін голас** (адно слова). *Разам, адзінадушна (гаварыць).* Скызалі у адзін голыс: нет, так ні було — і ацстоілі. Усе гыварілі у адзін голыс. У адно слова скызалі, як разым паду́мылі. У адно слова гыварілі, што Прося, то й я. У адно слова гаворюць, нічым іх ні саб'еш.

**У адзін шчот.** *Хутка, спрытна, проста.* Слова скажы́, у адзін шчот паслу́хыіць. Што хацеў, у адзін шчот мог дыстаць, знакомствы кругом былі. *Параўн.* А д з і н ш ч о т.

**У адкрытую,** *кніжн. Не таячыся.* У нас пырцізаны у аткры́тыю хадзілі, а немцы і ні пыка́зывыліся. У аткрытыю гаворіць, што думыіць, то й скажыць.

**У адной рубашкі** (сарочкі). *Без сродкаў існавання.* Што ж яны, аста́ліся у адной рубашкі як стыяць, хыра-

шо, калхоз памог. Такей злаўредзіна у адной сарочкі можыць кінуць.

**У адну дудку іграць,** *неадабр. Дзейнічаць разам, хаўруснічаць, падтрымліваць адзін аднаго.* Крепка сьпеліся, і Дзёма цяперь у адну ду́дку зь імі іграіць. *Пачын.* **У адну дудку заіграць.** Сь кім хочыш у адну дудку зыйгра́іць, толька налі́ стыка́н якей га́рі. *Непаўн.* **У адну дудку паіграць.** Троху пыйгралі у адну дудку, а посьлі дос, за нешта ні пыладзілі. *Законч.* **У адну дудку атыйграць.** Атыйгра́лі у адну дудку, нешта крівіцца пычалі́, нямі́рія ў іх нейкыя. *Працягл.-фінальн.* **У адну дудку наіграць.** Ну, ныігралі ў адну дудку, сва́рюцца, штурьха́цца пычына́лі як пітухі́, мы тама нырігыта́ліся зь іх.

**У адным** (адном) **званні,** *рэдкаўж. У тым жа становішчы.* Ня лу́ччыіць і ня ху́жыіць, усё ўремя у адным зва́ньні: у погріб уваліўся у халодный, а поўный вады быў і са льдом, і во стала яму плоха. Каторый год у адном званьні, саўсім німа луччыньня.

**У адны рукі.** *Адной асобе.* Дыва́лі ў адны рукі па трі кілыграмы, і ўсім хваціла. Цяперя хлеба ў адны рукі бярі худзь дзесіць буха́нык, хуць сколька.

**У ажуры,** *кніжн. Так, як трэба, вельмі добра.* У цябе цзіла́ ў ажу́рі, што яшчэ нада. Пра што ня спросіш, усё ў ажурі.

**У белый свет.** *Куды папала; усё роўна куды.* Ат такога мужука́, як ты, у белый сьвет пойдзіш. Што ты паедзіш у белый сьвет, табе сьпіцыя́льнысьць нада у первыю вочырідзь. Хуць січас гатоў у белый сьвет як у капейку, аж хліпціць.

**Убіваць духі.** *Вельмі цяжка працаваць, празмерна стамляючыся.* Так убіва́лі духі́ зь естым торхым, што ні прідумыць. *Зак.* **Убіць духі.** Ня йдзі ты, дзетухна, уваб'еш ты духі, нызад будзіць ні пріцягну́цца. *Узмацн.* **Паўбіваць** (паўбіць) **духі.** Вы за первый дзень пыўбіваіця духі, а што ж зы нядзелю бу́дзіць. Ну схадзіця з вашыю ахоткыю, пыў́б'іцё духі, што вы увечырі ска́жыця. *Працягл.-фінальн.* **Наўбіваць духі.** Столька яны ныўбівалі духі лі етых пнёў і ўсё зря — ні прішлося папользывыцца.

**Убіваць клін** (клінне). *Раз'ядноўваць.* Нарошня убі-

ва́юць клін: як ета так — мы пысварі́ліся, а яны дру́жуць. Сталі былі ўбіваць клі́ньня, яны і так, і етык, і адно скажуць, і другоя пріду́мыюць, ну па іх ні выходзіць. *Зак.* **Убіць клін.** Сымчанок убіў клін, ён іх усё ўремя нао́джывыў. *Узмацн.-множн.* **Паўбіваць клінне.** Вам даўно хацелыся пыўбіваць кліньня між імі, за етым і га́мбіця ўсюдых Кыныстрацёнка.

**Убірацца ў пер'е,** *гумар. Сталець.* Ужо і меншый твой убіра́іцца ў перья, будзіць памошнік. *Зак.* **Увабрацца** (убрацца) **ў пер'е.** Дай толька ім увыбра́цца ў перья троху, яны сябе пыкажуць. Міхалычкіны убраліся ў перья, цяперя ім і чорт ні брат. *Узмацн.* **Паўбірацца** (паўвабрацца) **ў пер'е.** Чаго ж табе жаліцца, раз дзеці пыўбіраліся ў перья, то ім самім ні біда́. Як ета ўремя ляціць, — ці даўно яны гылапу́зікымі бегылі, а ўжо глядзі, як у перья пыўвыбраліся.

**Убірацца** (ухадзіць) **у гады.** *Сталець, набываць вопыт.* Як стаў убірацца ў гады́, пыцішэў, пыняў, што раншы людзі сьміяліся ныд яго вы́хыдкымі. Якей толк, што ўходзіць у гады, як быў несмысіль, так і астаўся. *Зак.* **Увабрацца** (убрацца, увайціць) **у гады.** Дай ім увыбра́цца ў гады, тады скажыш, чаго яны стоюць. Убраліся ў гады — хлопцы што дубы́ ста́лі. Ніхай увойдзіць у гады у любэя, а ўсё роўна сыпыса́ціль як быў, так і аста́ніцца. *Узмацн.* **Паўбірацца** (паўвабрацца, паўхадзіць) **у гады.** І ў гады пыўбіраліся, а толку зь іх дужа нешта німа. Як у гады пыўвыбраліся, яны сталі хырашо хызяйства весьць. Яны пыўхадзілі ў гады, як Матруну саўсім біздароўя аняло.

**Убіць** (забіць) **асінавый кол.** *Праклясці.* Убіць асінывый кол, а ні гурюва́ць пы такому уредзіні. Кол асінывый забіць ны яго, як ён нуд людзямі зьдзекывыўся, у палі́цыю гыняў.

**У бога цялёнка ўкрасць,** *жарт. Правініцца.* А ці Косьцік у бога цялёнка ўкраў, што яго пысыла́ць нада. Так ужо ён у бога цялёнка ўкраў, дужа ён сыгряшы́ў пі́ріт табою. *Незак., рэдкаўж.* **У бога цялёнка красць.** Я ж у бога цялёнка ні краў і стыда мне німа ніякыга. *Множн.* **У бога цялят пакрасць.** Можа вы другей раз у бога цілят пыкралі, нешта Вукулёнык ны вас коса пыгліда́іць.

**У божжым свеце.** *Абсалютна (не ведаць, не дапускаць*

*магчымасці).* У божжым сьвеці ні знала, што яны паедуць. У божжым сьвеці ні паду́мыў ба, што Сьціпанёнык рішы́цца ны такоя. Ну што ты трілю́дзіш: зна́лі, зналі, мы нічога ў божжым сьвеці ня чулі.

**Увадзіць** (браць) **у долю** (часць). *Рабіць удзельнікам.* Нас тады увадзі́ць у долю ні хацеў нізашто. Ныўря́д, ці думыюць яны увадзіць у часьць Қыныстрацёнка. Нашто нам каго браць у долю, нас і саміх хуць адбуўля́й. Қаго бралі у часьць, а каго не, як самі хацелі. *Зак.* **Увесць** (узяць) **у долю** (часць). Ён жа саўсі́м блізкій, а ні ўвялі́ ў долю. Доўга бегыў, каб і яго увялі ў часьць, а ны яго і ўніманія ні брышча́лі. Быгытырі́ былі, зыкрі̇ча́лі: «Ня возьмім яго ў долю, гылыдра́нца, яму плаці́ць будзіць нечым». Мы цябе возьмім у часьць, ну ты глядзі, тута шу́ткі шуціць нечыга.

**Увадзіць** (укладаць, укладываць) **у вушы,** *неадабр. Расказваць, даводзіць да ведама.* Ні знаюць — і ладна, ні нада увадзі́ць у вушы. Нашто уся́кыю трілю́ду уклыда́ць у вушы? Нічога я ні ўкла́дывыў у вушы ім, можа ты сам айдзе што тріпану́ў. *Зак.* **Увесць** (укласць, улажыць) **у вушы.** Яны ж такея людзі, ім каб толька увесьць у вушы. Қаб ты ні ўкла́ла ў вушы пра Лысыю гару, і ціха б абыйшлося. Самі ўлажылі ў вушы, а ну другіх зва́лііця. *Узмацн.* **Паўвадзіць** (паўвесць, паўкладаць, паўкладываць, паўкласць, паўлажыць) **у вушы.** І адной, і другой твой сьвёкыр пыўвадзіў у вушы пра тоя сена, ён там нечыга цігаўся. Хто ж ба мог так паўвесьць у вушы етыю трілюду, я вума ні прікладу́. Пыўклыда́юць у вушы нарошня, што тыкая ды еткыя, с тым была, зь естым сядзела, ён кіпі́ць, сь сябе выходзіць. Што хочыш пыўкла́дывыюць у вушы, ім нядоўга умеючы. Яны ўсяму верюць, ім што заўгодна можна пыўкласьць у вушы. С цэльлю пыўлажылі ў вушы, што ад Гаўріліхі нільзя атвесца, каб пацьцёлка ў яе ні купілі.

**Увадзіць у курс** [дзела], *кніжн. Дэталёва знаёміць.* Нешта доўга яго уводзюць у курс. Ці помніш, як цесьць цёшчу увадзіў у курс дзела. *Зак.* **Увесць у курс** [дзела]. Як увядуць у курс, дык і Цімка пойміцца. Хочыш, ныпярёд пыбігаць, устрецюць і ны дарогі увядуць у курс дзела. *Узмацн.* **Паўвадзіць** (паўвесць) **у курс** [дзела]. Чу́стыіцца, што вас крепка пыўвадзілі ў курс. Ні зыба́вюцца, у іх ні задоўжыцца, пыўвядуць у курс дзела. Пыўвялі ў

курс, нувухрілі, будуць сьпіцыялістымі. Ён іх так паўвёў у курс дзела, што луччы зы яго сталі рызьбірацца.

**Увадзіць у славу.** *Няславіць, сарамаціць.* Ні ўвадзі́ ўжо хлыпца́ ў сла́ву, ну ашыбну́ўся раз, сы ўсякім буваіць. *Зак.* **Увесць у славу.** Луччы да́льшы ты ат етых чарцей, увядуць у славу, як увялі Антона, людзі будуць сьміяцца. *Узмацн.* **Паўвадзіць** (паўвесць) **у славу.** Самі сябе пыўвадзілі ў славу, на людзі пыкыза́цца сты́дна. Яны вас толька у славу пыўвядуць зь естымі гурочыкымі, нашто вам було трогыцца. *Працягл.-фінальн.* **Даўвадзіць у славу.** Даўводзіця вы мяне ў славу, дырьвіцё серца, палучыця калі-небудзь.

**Увадзіць у старцы.** *Разараць, пазбаўляць матэрыяльных сродкаў.* Любіў ба ты увадзі́ць людзей у ста́рцы. *Зак.* **Увесць у старцы.** Тады як було? — зы зямлю зубамі дзіржа́ліся, а ён у нас надзел ацсудзі́ў і ўвёў у старцы. *Узмацн.* **Паўвадзіць** (паўвесць) **у старцы.** Як жа ета дзелылыся, што свой родный і пыўвадзі́ў у старцы. Андряёнык тады паўвёў нашых у старцы, быгач быў на ўсю акру́гу, з нычальствым быў сьпет. *Працягл.-фінальн.* **Наўвадзіць** (даўвадзіць) **у старцы.** Дажджэцца, палу́чыць, наўводзіць ён Аўдотку у старцы. Ну глядзі, даўводзіш ты іх у старцы, палучыш ты баню дык палучыш.

**Ува сне відзець,** *жарт.* *Вельмі хацець, марыць.* Ува сьне відзюць Антоніхіныга большыга сваім зяцім. Тэй даўно ува сьне відзіць сябе у брігадзірых. *Гл.* С п а ц ь і [ува сне] в і д з е ц ь.

**Ува ўвесь кар'ер.** *Вельмі шпарка.* Ляцеў ува ўвесь кар'ер, ног пыц сабою ня чуў. Дывай ува ўвесь карьер туды і нызад, каб ціріcь пяць мінут прінёс мяшкі.

**Ува ўсю.** *Звыш меры.* Ува ўсю даюць сы сваімі гу́лімі — у руках дзіржаць некыму. Тыка́я мылыдая, а ўва ўсю кру́ціць с хлопцымі.

**У вачах двaіцца** (траіцца) *(у каго), іран. Пра вельмі п'янага.* Будзіць хліста́ць, пакуля у вычах пычанець дваі́цца. Ішлі, чуць су́нуліся, у іх у вычах дваілыся. Нука, ну, пышчыта́й, сколька нас, ці дваіцца ў вычах. Ён ужо ні знаіць, ны якім сьвеці ад гарелкі, у яго чуць ні кажный дзень у вычах траіцца.

**У векі вякоў,** *урачыст.* *Заўсёды.* У векі вякоў іхнія

ла́скі ні забу́ду. У векі вякоў ня думый пру людзей плахоя.

**Увідзець свет.** 1. *Нарадзіцца.* Ка́жныга ця́гніць туды, айдзе уві́дзіў сьвет. 2. *Пажыць у новых умовах, культурна.* Іна увідзіла сьвет, як атправіла Пітрыка, зыіда́ў яе жызьню. *Незак., рэдкаўж.* **Відзець свет.** *Жыць у новых умовах, культурна.* Німа іх, хуць свет троху віджу. *Параўн.* Не відзець свету; Свет не відзеў.

**У віры,** *нездав. Празмерна далёка.* У віры́ сыбіра́іцца твой Іванька, куды ж яму яшчэ так пріські́чыла, стахыўся с Кузьмінятымі.

**У вобшчым і цэлым,** *іран., канц. Наогул.* Ён прівы́к гывары́ць у вобшчым і цэлым. Ну як жа іначы, у вобшчым і цэлым і пулуча́іцца.

**У вочы.** 1. *Прама, адкрыта, не таячыся.* У вочы скыза́ла, што ён дзелыў, што твары́ў і што пры яго думыюць. Вы́лізь зь ізыком, у вочы пысьмяю́цца, большы нічога. 2. *Зусім, абсалютна.* Дайжа у вочы нікога ня відзіў і голысу нічыйго ня чуў. Спусьці́ зь вярёўкі — такую карову у вочы чырізь мінуту ня ўві́дзіш.

**У вочы не глядзець.** *Саромецца.* Учора хра́брысьці некуды було дзівацць, а сяньня у вочы ні глядзі́ць,— во ды чаго гарелычка даводзіць. *Гл.* Не паднімаць вачэй.

**У гадах.** *Пажылы.* Мільлянок у гыда́х, яму даўно за семдзісят. Яны абоя у гыда́х, пасьці равесьнікі, можа Мікілай мыладзей ны якій год.

**У галаве вецер свішчыць** *(у каго), цяп., пр., буд. Пра вельмі легкадумнага.* Есьлі вецір у гылаве сьві́шчыць, то тру́дна будзіць ужы́ць. Што я зьдзелыю, калі ў яго гылаве вецір сьвішчыць. У твайго тожа ня меншы вецір сьвістаў у гылаве. Во так да веку і будзіць вецір у гылаве сьвістаць. *Гл.* Вецер у галаве.

**Уганяць у краску.** *Прымушаць чырванець.* Ці помніш, як Надзька угыня́ла цябе ў кра́ску ны вічары́нкых? *Зак.* **Увагнаць у краску.** Можа ён нічога ні вінува́т, а ты яго ныпра́сна увыгнаў у краску. *Узмацн.* **Паўганяць** (паўвагнаць) **у краску.** Ці ты забыў, як вас кудріцкія дзеўкі пыўгыня́лі ў краску. Здорыва пыўвыгна́лі ў краску, яны ня думылі, што іх так падзьдзенуць.

**Уганяць у пот.** *Прымушаць многа або цяжка працаваць.* Як ста́ніць ззáду, дык ён мыладых етых зы дваццыць мінут угыняіць у пот. *Зак.* **Увагнаць у пот.** Зь естымі шлэптухымі ты спрáвісься, а Ціхон цябе сымаго у пот угоніць скора. *Узмацн.* **Паўганяць** (паўвагнаць) **у пот.** Так пыўгыня́лі іх у пот, што як мокрыя мышы былі. Крепка пыўвыгналі вас у пот, слыбакі вы. *Працягл.-фінальн.* **Наўганяць** (даўганяць) **у пот.** Во хвалíўся, асілык, ныўгыняў у пот, сам чуць ды́шыць. Дыўгыняў у пот, што лёг, ляжыць і ні шылахнецца.

**У гарачай вадзе купаный.** *Порсткі, празмерна рухавы.* Абоя у гырячый вадзе купáны, як сьпічка ўспы́хывыюць. Вот різáк, у гырячый вадзе купáный, ніяк ні ўспакоіцца.

**У глубіне душы,** *кніжн. Унутрана, падсвядома.* У глубіне душы я сыглышáўся, а так паверіць ня мог. У глыбіне душы Машка яго і цяперя любіць, ну сільма ж к сабе ні пріцягніш.

**У голавы.** *Пад галаву.* Я ні люблю вісока ў голывы спаць. Што кінуў у голывы, лёг дый заснуў.

**Ударыцца** (ударыць) **у амбіцыю** (анбіцыю), *кніжн. Закапрызнічаць.* Я ні знаю, чаго яны так удáріліся ў амбіцыю. Як ударіцца у анбíцыю, тады зь ім толку трудна знайціць. Ён можыць ударіць у амбіцыю, ну каб так — я ня думыў. Адна ўдаріла у анбіцыю, а другая ня хочыць уступіць.

**Ударыць у ногі.** *Аказаць ап'яняючае ўздзеянне.* Кáплю выпіла, а так удáріла ў ногі, што ўстаць ні магу.

**У два канцы.** *Туды і назад.* Так быстра у два канцы пывярнýўся, што мы й ні агледзіліся. У два канцы сходзіў і яшчэ ны вічарíнку пабег.

**У два** (тры) **шчоты.** *Вельмі хутка, энергічна.* Я с табою у два шчоты рызьбярýся, ня будзіш ты большы пы я́блыных лáзіць. У два шчоты к пыря́дку прізвáлі. У трі шчоты найшлі яму места.

**У дзве рэдзі.** 1. *Без меры (хлусіць).* Што пачýіць, а яшчэ у дзьве редзі прібáвіць сымá. У дзьве редзі прібрешуць, ты большы верь. 2. *Двойчы, па дзвюх лініях (быць раднёю).* Яны рыдня́ ў дзьве редзі: і пы бацьку, і пы маткі.

**У двух** (трох) **шагах.** *Вельмі блізка.* Як жа вы ня ўстрецілíся, вы ж у двух шыгах стыялі адзін ат аднаго. У трёх шыгах лі нас нешта шмыг і зышымытáла пу кустáх.

**У дзеўках.** *Да замужжа.* У дзеўкых іна пукрусувáлыся, а зáмужым хвацíла: ён ня дужа рызваротлівый, дзеці пасы́пыліся.

**У дзіковіну** (дзіковінку). *Незвычайна, непрывычна.* Первый раз пріехылі, можа калі дзіцямі раз былí ў дзяреўні, дык ім усё у дзіковіну. Ня думыю, што яму чáрычка у дзіковінку будзіць. *Гл.* Не ў дзіковіну.

**У добрый час.** *Шчасліва (пажаданне ўдачы).* Шчасьліва едзьця, у добрый час. З зáўтрішніга дня і пычынайця строіць, у добрый час.

**У доску.** 1. *Вельмі моцна (напіцца).* Надры́зкыліся ў доску, перш пелі песьні, а тады звалíліся, спáлі ў саломі. 2. *Вельмі блізкі па поглядах, перакананнях.* Крепка сьпеліся, Сашка ім стаў у доску свой. Коля у доску свой, ён ні пыдвядзець ні ў чом.

**Удоўж і ўперак.** *Усюды, ва ўсіх напрамках; поўнасцю.* Схадзíў я кусты удоўж і ўперік, німа там цялёнка. Удоўж і ўперік ізучы́лі твае штýчкі. Знаюць яны цябе удоўж і ўперік.

**У дрызіну** (дыміну, дрызк, дым). *Вельмі моцна (п'яны, напіцца).* Так ён чылавек нічога, і стыря́цільный, і мысьціравэй, ну глядзець нада: дыбярецца,— то нап'ецца ў дрызíну. У дымíну п'яныя былі, хырашо кума пучуствáла. У дрызк п'яный, чуць ізыком варочыіць. Пыныпівáліся у дым, адурювалі як хацелі.

**У душэ.** *Унутрана, падсвядома.* Водж жызьні ні пулучы́лыся, а ў душэ яны любюць адзін аднаго. Віду ні пыдаю́ць, а ў душэ пірíжывáюць. *Гл.* У глубіне душы.

**У загоне.** *Без прыгляду, без увагі.* І дзеці ў загоні, і сябе ня можыць пріпуцíць, а ў хату глянь — што йта зы хата. Іван у іх усігда быў у загоні.

**Узбівацца на дарогу.** *З цяжкасцю рабіцца самастойным у жыцці.* Пычынаюць узьбівáцца ны дарогу, думыюць троху пра жысьць. *Зак.* **Узбіцца на дарогу.** Трудна було, ну сам узьбíўся ны дарогу, ніхто яму ні пымы-

гаў. *Узмацн.* **Паўзбівацца** (паўзбіцца) **на дарогу.** Во, відзіш, Гапкіны дзеці усе пыўзьбіваліся ны дарогу. Пыўзаб'юцца ны дарогу, дык будуць жыць, а могуць і збысятнічыць. *Гл.* Выхадзіць на дарогу.

**Узбіваць духі.** *Моцна кашляць.* Нешта ў грудзя́х і баліць, і коліць, узьбіва́іць духі́, відна, прасту́ды пытхваціў. *Зак.* **Узбіць духі.** Ідзі вы́пырься, піріпацей хырашэнька, табе ўжо саўсім узьбіла духі.

**Узваліваць на плечы.** *Бесцырымонна перакладаць абавязкі, справы на іншых.* Я б ні пазволіў так узва́лівыць на плечы ўсю абу́зу, самі ніхай ба спруўля́ліся. *Зак.* **Узваліць на плечы.** Узва́люць табе на плечы, ты й піклуйся,— не, самі думыйця сы сваім клопытым. *Узмацн.* **Паўзваліваць** (паўзваліць) **на плечы.** Пыўзва́лівыіця іх заботы на плечы, ту́га прі́дзіцца, ра́ды ня будзіця. Пыўзвалілі ны нашы плечы, а мы як просьцінькія і сыгласіліся.

**Узваліцца на плечы** (галаву, шыю). *Раптоўна зрабіцца клопатам, цяжарам.* Редка так буваіць, што дзяці́ныя заботы ні ўзва́люцца на плечы. Што табе ўзвалілыся ны гылаву, дужа ты стогніш. Другей раз такоя ўзваліцца на шыю, што ні падумыў ба нізашто.

**Узвей вецер,** *неадабр. Бяздумны, пусты чалавек.* Во ўжо узьвей веціp, нічога за́гыдзя ня думыіць. С узьвей ветрым еткім нічога ні дыгаворісься, ён сяньня адно, заўтря другоя.

**Узвышаць голас,** *рэдкаўж. Гаварыць з падкрэсленай строгасцю, цвёрдасцю.* Нечыга тут узвыша́ць голыс, кымандзір-то такей найшоўся. *Зак.* **Узвысіць голас.** Адзін раз узвысіў голыс, а ну другей раз яго апсеклі. *Гл.* Павышаць голас.

**Узлазіць** (узлязаць, залазіць, залязаць, узбівацца) **на свайго канька.** *Пачынаць гаварыць пра сваё любімае.* Арцём узла́зіць ны свайго кынька́, ды раньня можыць весьць свае песьні. Ну пашлі́, раз ны свайго кынька узьлізаіць, то дзела кончына. Віджу, што зыла́зіць ны свайго кынька. Ідзі слухый, узьбіва́іцца ны свайго кынька — як ён храбра уціка́ў ат ваўкоў. *Зак.* **Узлезць** (залезць, узбіцца) **на свайго канька.** Дай толька узьлезьць яму ны свайго кынька, ноч прыгаворіць. Залез ны свайго кынька і будзіць перць тріл́юду. Узьбіліся ны свайго кынька,

мусолюць і мусолюць адно й тоя ж. *Гл.* Садзіцца на свайго канька.

**Узліваць масла на агонь.** *Абвастраць становішча сваім умяшаннем.* Ні нада узьліваць масла ны агонь, ніхай яны самі рызьбіраюцца міжсобкыю. *Зак.* **Узліць масла на агонь.** Ён такей, што можыць нарошня узьліць масла ны агонь. *Гл.* Падліваць масла.

**Узліць вару,** *рэдкаўж. Паддаць імпэту, уздзейнічаць.* Узьлі́ ва́ру, дык ня строніцца зь места. Вазьміця ны яго вару ўзьліця, ні паможыць. *Гл.* Падліць вару.

**Узлятаць на** (у) **воздух.** *Узрывацца.* Падложым, зымыськіру́ім і толька зда́ліку глядзім, як узьлітаюць на воздух. Фріцы ны нашых міных ого як узьлітали ў воздух. *Зак.* **Узляцець на** (у) **воздух.** Што адна машына ўзьляціць на воздух, мы й ні шчыта́лі дужа, во поїзд як пу́сьцім, во ета дзела! Раз мы пыліца́ім лоўка пацстроілі — узьляцелі яны ў воздух.

**Узрываць** (узарвываць) **серца.** *Нерваваць, хваляваць.* Хваціць табе узрываць серца, ныцярьпелыся і нывынасілыся дос. Сколька тута жыў, усё ўремя уза́рвывыў серца, ніхай яму ўзны́ку ня будзіць. *Зак.* **Узарваць серца.** Вазьмі ны сваю гылаву, ні раз узарвуць серца. *Непаўн.* **Паўзрываць** (паўзарвываць) **серца.** Ніхай-то ніхай, а серца пыўзрыва́лі за тэя гады. Хочыш — пыдрядзíся, вазьмí, ніхай пыўза́рвыіць серца. *Працягл.-фінальн.* **Наўзарвываць** (даўзарвываць) **серца.** Ныўза́рвыіця маё серца, кончыцца маё цярьпеньня. Дыўза́рвывылі серца, хвацíла пруцíну ды пруцíныю пы ныгах, пы ныгах. *Гл.* Серца выядаць.

**Узяткі гладкі** (*з каго*). *Пра таго, хто не можа аддаць.* С твайго зяця ўзя́ткі гла́дкі, ш чым прíдзіш, с тым і пойдзіш. Я к Сямёну — і с таго узяткі гладкі, у кырма́ных вецір гуляіць.

**У какцях** (кіпцях, кіпцюрах, лапах). *У поўнай залежнасці.* Чаго ты дужа храбрíсься, ты даўно у Сярьгея ў кыкця́х. Яны цябе даўно дзіржаць у кíпціх луччы некуды. Раз у Антона ў кіпця́х, тэй паезьдзіць. Ну, а ў чыіх я кіпцюра́х, і чаго йта я должын пыччыня́цца каму? Што ён у ла́пых, і сам ішчэ ні пыня́ў.

**У канцы** (канцэ) **канцоў,** *кніжн. У канчатковым выні-*

*ку, нарэшце.* У канцы́ канцоў нада неік рішаць, ці туды ці нызад. У канцэ канцоў і мне хочыцца пыглядзець сьвету як другім.

**У кароткіх славах.** *Цвёрда і катэгарычна.* Пыгыварілі зь ім у кароткіх слыва́х. Нада було ў кароткіх слывах скызаць.

**Укладаць** (укладываць) **здароўе.** *Жорстка збіваць.* Умелі ўклыда́ць здароўя, як пыдзіржа́ць, бувала, каго ў руках, то чылавекым ня будзіць — зьвярьё зьвіря́мі. Каму ён тама зьбіраіцца укла́дывыць здароўя? *Зак.* **Укла́сць** (улажыць) **здароўе.** Сам быў харошыя цаца, то і найшліся, уклалі здароўя. На той свадзьбі яму улажылі здароўя. *Узмацн.* **Паўкладаць** (паўкладываць, паўкласць) **здароўе.** Як пыўклыда́лі здароўя за горыдым, так яны і ня вы́скрібліся. Ладна пулучы́лі, ніхай пыхва́люцца, як пыўкладывылі здароўя. Так пыўкладуць здароўя, што ні апомніціся.

**Укладаць** (укладываць, убіваць) **у галаву.** *Пераконваць; прымушаць засвоіць, зразумець, запомніць.* Тру́дна яму уклыда́ць што-небудзь у гылаву, кылі пыніма́ць нічога ня хочыць. Сколька хочыш укла́дывый у гылаву, ён выскычыў і забыў. Сколька ні ўбівалі ў гылаву, сколька ні ўгыварівылі — ня слухыіць. *Зак.* **Укласць** (улажыць, убіць) **у галаву.** Ты вазьмі ўкладзі ў гылаву, ніхай цябе паслухыіць. Ну бяріся, можа ты ўложыш у гылаву. Чуць-чуць убілі ў гылаву, што нада паехыць, ато ўпёрся і хуць здохні зь ім. *Узмацн.* **Паўкладаць** (паўкладываць, паўкласць, паўлажыць, паўбіваць, паўбіць) **у галаву.** Хто ж такоя мог пыўклыда́ць у гылаву ім, аткуль я знаю. Есьлі пыўкла́дывылі ў гылаву сваты́, ты ні піріўбядзі́ш, дайжа ня думый. Большы слухыйця, яны на́ўчуць разумныму, пыўкладу́ць у галовы што нада. Нарошня ім усякыю чуш паўложуць у голывы, а тэя аж заходзюцца. Пыўбіваў сабе ў гылаву, што мы ны яго нешта кызалі. Што пыўваб'еш у голывы, то й знаюць, а большы — не.

**Укладаць** (укладываць) **у душу.** *Пераконваць, даказваць.* Зь дзецтва іх вы́пусьцілі з рук, цяперя трудна што уклыдаць у душу́. Мы пробывылі, вазьмі́ця вы папробыйця укла́дывыць яму што-небудзь у душу. *Зак.* **Укласць** (улажыць) **у душу.** Зма́лку ўклалі ў душу, што

нада ўчыцца, стыряцца нада. Многа чаго ўлажылі яму ў душу, а на толк ні пашло.

**Укладаць** (укладываць) **у мазкі** (башку), *груб. Пераконваць, растлумачваць з цяжкасцю.* Такому уклыдаць што ў мазкі цярьпеньня нада ды цярьпеньня. Што ні ўкла́дывылі ў мазкі, дык як у стол у етый. Укладывый у башку ці ні ўкладывый, як стоўб нейкій. *Зак.* **Укласць** (улажыць) **у мазкі** (башку). Укладзеш такому у мазкі, кылі ты скызаў, а зь яго вы́ліціла. Ну я ж думыла, пойміць, хуць што ўкладу́ ў башку, дык укла́ла. Сколька мы біліся, сколька дуры́ліся, пакуля улажылі ў мазкі, што ні нада ехыць. Каб зыхацеў, то ўлажыў ба ў башку, нябось ты, пыня́ў ба.

**У кокці** (кіпці, кіпцюры, лапы). *У поўную залежнасць, ва ўладу.* Яны даўно зьбіра́юцца узяць яго ў кокці. Пупаў у кіпці к такім, што здорыва пакру́ціцца. Зыграблі́ ў кіпцюры́, ня дужа салодка сядзець. Чаго ж вы самі лезьлі у лапы? *Гл.* У к а к ц я х.

**Укось і ўкрыў.** *Дрэнна, не так, як належыць.* У іх нідаўна пычалося укось і ўкріў, раншы яны нічога жылі. Укось і ўкріў як пойдзіць, тады трудна пірядзелывыць.

**У крайнем случае.** *Калі не будзе іншага выйсця.* У кра́йнім слу́чыі цялёнка пад нож пусьцім, ручанцы́ атыйшлі́. У крайнім случыі можна у Лешчынку за Хведзію зьбегыць, ён слухмя́ный хлопіц.

**Украсць у старца торбу** (кіёк). *Забраць апошняе, што ўжо не мае каштоўнасці.* Ну што ён зьдзелыў, укра́ў у ста́рца торбу. Ета ўжо іхныя рука украсць у старца кіёк, совісьці у іх ні на нохыць. *Незак., рэдкаўж.* **Красць у старца торбу** (кіёк). Як яму ня сты́дна красьць у старца торбу. Ты сыгла́сін ужо красьць у старца пасьледній кіёк. *Гл.* А д б і р а ц ь у с т а р ц а к і ё к.

**У крыві.** *У натуры, у характары.* Ета ў яго ўжо ў крыві́ сядзіць. У вас у крыві нялю́дзкысьць, цяцюха нейкыя усялілыся ці што.

**Укрыў і ўкось** [наперакось]. *Дрэнна, не так, як належыць.* Як пычанецца укріў і ўкось, тады яно, кажыцца, само йдзець. Во так я й жыву укріў і ўкось ныпірякось. *Гл.* У к о с ь і ў к р ы ў.

**У курсе** [дзела], *кніжн. Пра дэталёвае знаёмства,*

*азнаямленне.* Ён ужо у ку́рсі ўсяго. Ідзі і скажы, што я прісла́ў, ён у курсі дзела. *Гл.* Увадзіць у курс [дзела].

**У кусты,** *неадабр. Далей ад сумеснай справы, адказнасці.* Мы г брігадзіру: нада сірьёзна пыгывары́ць, а ён у кусты́,— ай, хлопцы, некылі, другей раз. Такей ужо урадзі́ўся: ні к людзя́м, а ўсігда ў кусты.

**Уладзець** (уладаць) **сабою.** *Праяўляць самавалоданне, уменне стрымлівацца.* Ніхай кіпіць-гарі́ць ну душэ, віду ні пыдасьць, дужа уладзеіць сабою. Учыся ўладзець сабою, ні гырячысь. Як расьсердзіцца, ні ўлыда́іць сабою.

**Улазіць** (улязаць, залазіць, залязаць) **з вушамі.** *Трапляць у безвыходнае становішча.* Ула́зіця вы з вушамі у такую кашу, што ці вы́скрібіціся зь яе. І яму яшчэ хочыцца улізаць сюда з вушамі, мала було с адным ніпрія́тнысьцій. Дужа ні саветыю зылазіць з вушамі туды. Ты сам пынімаіш, што яны зылізаюць з вушамі, і слова ні скажыш. *Зак.* **Улезць** (залезць) **з вушамі.** Ні нада й цягнуць, яны самі з вушамі ўлезуць у любую пролыбку. Залезьлі з вушамі: ні ўпярёд, ні ныза́д німа ходу. *Узмацн.-множн.* **Паўлазіць** (паўлязаць, паўлезць, пазалазіць, пазалязаць, пазалезць) **з вушамі.** З вушамі пыўла́зілі, што вырыняты якея. Зы такімі ўсігда глядзі́, ато ў міг пыўлізаюць з вушамі куды й ні падумыіш дайжа. У іх ішчэ тыкая розвылка, што паўлезуць з вушамі, айдзе ім быць саўсім ні нада. Былі як пызыла́зілі з вушамі, чуць пывыскріба́ліся. Яны вас нарошня патторнуць, пызылiза́іця з вушамі, а самі пысьміха́цца будуць збоку. Вы ж нічога паслухыць ня хочыця, а ці знаіця, як ба вы пызалезьлі тама з вушамі, век ня вы́лізьлі б.

**Улазіць** (улязаць, залазіць, залязаць) **у ямку.** *Трапляць у непрыемную гісторыю, у ганебныя абставіны.* Ахота ж яму ула́зіць у я́мку зь естымі сплетнімі. Чаго вы ўлiза́іця ў ямку, ета пітля́ на шыю, а ні зыработкі. У такую ямку зыла́зюць, што йна цюрьмою пахніць. Ны пагібіль сабе зылiза́іць у ямку, нашто яму тая атава, ці зь яго ні хвытаіць. *Зак.* **Улезць** (залезць) **у ямку.** Ну, улез у ямку, можыш пычына́ць бегыць у абарону. Залезьць у ямку нядоўга, ціжалей вы́скычыць. Ну каб

жа ета дзеці, нісмышлёнушы якея, ато ж узрослыя, з гылавою, і так залезьлі ў ямку.

**Улазіць** (улязаць, лезць) **у сабаччую шкуру.** *Траціць сумленне.* Ні нада ў сыба́ччыю шкуру улазіць, ні так ета красіва. Вот ты улізаіш у сыба́ччыю шкуру, калі-небудзь пыкаісься. Нечыга лезьць у сыбаччыю шкуру, людзей страміць. *Зак.* **Улезць у сабаччую шкуру.** Чаго добрыга ат яго ждаць ня дужа жджы, а ў сыбаччыю шкуру мігым улезіць. *Пачын.* **Палезць у сабаччую шкуру.** Усьлед зы швагрём палез у сыбаччыю шкуру, совісьці ат іх ат усіх дужа ніхто ня відзіў. *Узмацн.-множн.* **Паўлазіць** (паўлязаць, паўлезць) **у сабаччую шкуру.** Каб ні пыўлазілі у сыбаччыю шкуру, і к вам ба як к людзям атнасіліся. Нечыга пра іх тулкува́ць, яны даўно пыўлізалі у сыбаччыю шкуру. Доўга ім паўлезьць у сыбаччыю шкуру умеючы. *Працягл.-фінальн.* **Далезць у сабаччую шкуру.** Далезіш у сыбаччыю шкуру, пупадзесься ны каго-небудзь, прыздра́вюць як нада.

**Улазіць** (улязаць, лезць) **у шкуру** (*чыю*). *Апынацца ў чыім-н. становішчы.* Вот ты мне заві́дыіш вун як, а ў маю шкуру улазіць ня хочыш. Улізаць у Праскоўіну шкуру нікому ні захочыцца. Чаго мне лезьць у вашу шкуру, вы як самі зна́іця, так і жывіцё. *Узмацн.* **Паўлазіць** (паўлязаць, паўлезць) **у шкуру** (*чыю*). Як пыўла́зіця у бабскыю шкуру, забу́дзіця пра гу́лі, кылі зы хвыстамі усьлед ціга́цца стануць. Ніхай пыўлізаюць у такую шкуру, ніхай паку́шыюць такога хлеба. Каб у іхныю шкуру паўлезьлі ды пысядзелі троху, другоя б саўсім запелі.

**У лесе радзіцца** (росць, вырасць). *Быць дзікаватым, нелюдзімым.* Ці вы ў лесі радзі́ліся, ці што, самыга простыга ні пынімаіця. Усё дно як ён у лесі рос. Нейкія людзі, як у лесі вы́рысьлі, нічога толку ні дыбяресься.

**Уліпнуць у гісторыю.** *Ублытацца ў непрыемную справу.* Яны ўліплі ў гісторію с аўчы́нкымі, што самі ні рады, ні знаюць, як вы́брыцца. *Узмацн.* **Паўліпнуць у гісторыю.** Паўліплі ў гісторію, ажно стыдна выйціць на вуліцу. *Гл.* П а п а д а ц ь у г і с т о р ы ю.

**У ліцо.** *Па знешняму вобліку.* Я колтыўцыў усіх у ліцо знаю. Ці знаў ты ў ліцо Кургу́зыву Тайку?

**У лоб.** *Прамалінейна, непасрэдна.* Пряма ў лоб тут ні пацсту́піська, тут нада падумыць, як зьдзелыць.

**У лоск,** *рэдкаўж. Звыш магчымага* (*напіцца*). У лоск пыныпіва́ліся, як яны толька жывы асталі́ся. Дыбярецца — то ўжо ў лоск нахлепчыцца.

**У меру.** *Дастаткова, у межах нормы, не дапускаючы празмернасцей.* Вы ж біріцё, дык бяріця ў меру, нашто вам столька. У меру ныклыдай, у меру, лішніга ні пынясеш. *Параўн.* Не ў меру.

**У міг.** *Вельмі хутка, шпарка.* Ідзі скажы, ён у міг зьбегыіць. Вот вам і таўморя, у міг пыд'яві́лыся.

**У мінуту** (дзве мінуты, секунду). *У гэты ж момант.* Каб у мінуту гра́блі нызад прінёс! Пріехылі позна, відзім, прадуктыў саўсім умаленія, ну, праўда, Косьцік ны мытыцыклеці ў дзьве мінуты ацскачыў у горыд. У сікунду атвярну́ўся туды і нызад.

**Умудрыць** (учудзіць, адчудзіць) **штуку.** *Зрабіць надзвычайнае.* Як умудряць штуку, дзень хыхытаць будзіш. Яны тады учудзілі штуку дык учудзілі ў Белі, і доўга ні зналі хто. *Гл.* Адпаліць номер.

**Умывацца потам.** *Стамляцца ў цяжкай працы.* Ладна бярець, стыря́цільна, умыва́іцца потым. *Зак.* **Умыцца потам.** Ніхай, умы́іцца раз ды другей потым, трошку жызьню пызна́іць. *Непаўн.* **Паўмывацца потам.** Пастой так дзень прі дзень, пыўмыва́йся потым, пызнаіш, як хлеб дыстаецца. *Узмацн.* **Наўмывацца потам.** Строіўся адзін, помышчы ніатку́ль ня відзіў, ныўмыва́ўся потым.

**Умываць рукі.** *Ухіляцца ад удзелу, знімаць з сябе адказнасць.* У такіх дзіла́х я ўсігда умыва́ю рукі. *Зак.* **Умыць рукі.** Луччы умыць рукі, а ні зьвя́зывыцца зь імі, с такімі нячэснымі. *Узмацн.* **Паўмываць рукі.** Атыйдзі́ця вы, пуўмува́йця рукі, атрікіцёся вы ат яблык етых, як рызгаворы пойдуць.

**У мышыную дзірку лезць** (улазіць, улязаць, залазіць, залязаць). *Быць вельмі пранырлівым.* Айдзе яму саўсім ні нада, і там у мышы́ную дзірьку лезіць. Яны ма́лымі у мышыную дзірьку ўла́зілі. Такей прыспалі́тый, што ў мышыную дзірьку улiза́іць. Яны ня то што тут вы́пырюць, яны ў мышыную дзірьку зыла́зюць. Тэя як лежні нейкія, а етый адзін у мышыную дзірьку зыліза́-

іць. *Зак.* **У мышыную дзірку ўлезць** (залезць). У мышыную дзірьку улезіць, есьлі захочыць што дабы́ць. Ён у мышыныю дзірку залезьць умудрі́цца. *Узмацн.* **У мышыную дзірку паўлазіць** (паўлязаць). Такея, як Пітрачок, у мышыныю дзірьку пыўла́зюць. Ні глядзі́ на від, яны у мышыныю дзірьку пыўлізáюць, такея праны́ры.

**У** (на) **пабягушках.** *На паслугах.* Прівык усігда быць у пыбягу́шкых. Ты доўга дзіржаў Зьмітрыка ны пыбягушкых, ён табе нуслужыўся.

**У** (на) **пабягушкі.** *Для паслуг.* Я ў пыбягушкі ні ныймаўся, сам едзь, есьлі нада. Хочыць, каб у пыбягушкі ішоў к яму. Таўпорюцца у пыбягушкі к свату, а я ны пыбягушкі ня здолін.

**Унасіць** (вынасіць) **ногі.** *Уцякаць са страху, паспешліва.* Унасі́ скарей ногі, пакуля табе гылаву ні аткруці́лі. Тутыцька табе ня места, вынасі ногі, пакуля цэл. *Зак.* **Унесць** (вынесць) **ногі.** Яны чуць ногі унясьлі́ ат'етуля, і то многіх пылаві́лі, судзі́лі. Выніськлі ногі цэлымі, дык маўчы́ця. *Узмацн.* **Павынасіць ногі.** Ні знаю, што б ім там було, каб ні пывынасі́лі ногі.

**Унасіць сваю долю.** *Рабіць пэўны ўклад.* Айдзе ня просюць, тама іна уносіць сваю долю. *Зак.* **Унесць сваю долю.** Аркад тожа унёс сваю долю, ён іціць ну чужоя ня хочыць.

**У неба гледзячы,** *груб. Бяздумна, безуважна.* Куды ты ідзеш у неба гледзічы? Ціга́юцца у неба гледзічы, зыня́ція ніяк не на́йдуць пы сабе.

**У нежывога сэрца зайдзецца,** *буд., пр. Пра вельмі вялікія перажыванні.* У ніжывога серца за́йдзіцца, тэя стрыда́ньні уві́дзіўшы. У ніжывога б серца зайшлося, каб пачуў, як іна вы́ла і кукува́ла.

**У новых лапцях,** *іран. З неістотнай абноўкай.* Як жа, любу́йціся — у новых лыпцях прішоў, нейкыю сінію тря́пку нычапіў на шыю. Ёсьць чым зыдывацца — у новых лыпцях.

**Упадаць у галаву.** *Запамінацца.* Яму ў кажный дзяреўні дзеўкі ўпыда́юць у гылаву, куды ня пойдзіць. *Зак.* **Упасць у галаву.** Упала ў гылаву, што нада сходзіць у Бель. Як што ўпадзець у гылаву, доўга будзіць гываріць.

**Упадаць у душу.** *Заставацца надоўга або назаўсёды ў памяці.* Яму і ў Бялкові упыда́лі ў душу́, і ў Гімбыдыўкі, і ў Пустынкых — усю́дых. *Зак.* **Упасць у душу.** Калі ўпадзець яму што-небудзь у душу, то доўга будзіць помніць.

**У падмёткі не гадзіцца.** *Быць нічога не вартым.* Чаго толька яны і яны, яны вам у падмёткі ні гыдзя́цца. Твой сын нам і ў падмёткі ні гадзіцца.

**У пажарным парадку,** *кніжн. Тэрмінова, спяшаючыся.* У пыжа́рным пыря́дку схваці́ліся ріманьці́рывыць, знаць, камісію нейкыю ждуць.

**У палажэніі,** *кніжн. Цяжарная.* Нікуды вы Сьвету ні пышліцё, іна ў пылажэніі. Ці даўно была ў пылажэніі, а скора яшчэ ма́лыга жджэць.

**У парадку** (парадке) **вяшчэй,** *кніжн.-канц. Нармальна.* І па-твойму ета ў пыря́дку вяшчэй, што яны так дура́чуцца. Мя́кніць, тлеіць, і длі яго ў пырядкі вяшчэй,— во ета хызяін.

**У пару** (пары). *Удваіх.* Ім у па́ру пыработыць самый смак. Усюдых у па́ру, адзін другога ні кіда́юць. Етый конь ня ўмеіць у па́рі хадзіць, дайжа ні бярі.

**У паўвуха.** *Няўважліва (слухаць).* Сяньня ён слухыіць у паўву́ха, яго другоя зыніма́іць. — А можа другая?

**У першую вочарадзь.** *Спачатку, перш за ўсё.* Ён у первыю вочырідзь пра дзевык думыіць. У первыю вочырідзь нада у хату увыбра́цца, а посьлі пры свадзьбу зыга́дывыць.

**У пер'і,** *жарт. Сталы.* Твае ужо ў перы, нечыга клыпаці́ць. Бярі ў рукі цяпер, у перы ня ўдзержыш. *Гл.* У б і р а ц ц а ў п е р' е.

**У піку.** *Назло.* У піку ёй сыбраўся і паехыў. Так і глядзі́ць, каб у піку што-небудзь зьдзелыць.

**Уплываць міма рук.** *Страчвацца, не прыносіць карысці.* Тэя што ні памогуць, усё ў яго уплыва́іць міма рук, а яны ж хырашо пымыгаюць. *Зак.* **Уплысць міма рук.** Нада було зра́зу ні ўпуска́ць, а раз уплуло міма рук, ні пыйма́іш.

**Уплываць паміж** (між) **пальцамі** (пальцаў, скрозь пальцы). *Бескарысна страчвацца, расходавацца.* Раз

уплуваіць паміж пальцымі, то хызяін ла́дный. Уплуваіць між пальцымі, а ён і ні глядзіць ні за чым. Нада ж, такоя дабро уплуваіць паміж пальцыў. У яго многа чаго уплуваіць між пальцыў. Скрозь пальцы ўплуваіць усё хызяйства і як ні ды яго. *Гл.* Плысць паміж пальцамі.

**У пользу бедных,** *жарт. Бясплатна, добраахвотна.* Ладна, мы сыгла́сны ські́нуцца у пользу бедных, нада ж пы ча́ркі зьдзелыць. Ніхай, мы можым у пользу бедных пыпа́сьвіць.

**У пот ударыць** (кінуць). *Усхваляваць, узрушыць.* Прібег і ні знаіць, што дзелыць, яго аж у пот ударіла. Івана ац страху у пот кінула, патрёсься ён ладна. *Незак., рэдкаўж.* **У пот кідаць.** Мы знаім, чаго іх у пот кі́дыіць, ніхай самі скажуць.

**У** [поўным] **парадку** (парадке). *Так, як трэба, як павінна быць.* Мае дзіла́ у пыря́дку, я ні пра што ні біспакоюсь. Глядзі, каб работа была ў пырядкі. Усё тут у поўным пырядку, дайжа і глядзець ні нада. Яго брігада у поўным пырядкі.

**У поўным рассудку.** *У нармальным псіхічным стане.* Я ж табе гыварю́ ў поўным рассу́дку, як табе аб'ісьняць нада.

**У поце ліца,** *жарт. Стараючыся.* У поці ліца дубува́іць хлеб, ац сна пацеіць. Яно й відна, што ты тру́дзісься у поці ліца.

**У прыдачу.** *Звыш таго, што ёсць.* Вот табе другая набойшчыца у пріда́чу. Вазьмі ў прідачу і авечку, з нас хва́ціць.

**У прыцензіі.** *У крыўдзе.* Высілёвы нешта ны вас у пріценьзіі. Чаго ж ты ў пріценьзіі к свыта́м?

**У прымеце.** *На ўвазе.* Можа табе ў прімеці айдзе ладный пацьцёлык, каб пугуля́ўшый. Ці ў прімеці вам, што старыя Юста, бувала, гываріла.

**Упускаць** (выпускаць) **з вачэй.** *Губляць з поля зроку; не звяртаць увагі.* Ні ўпуска́й з вачэй Лявона, за ім усігда нада вока ды вока. Анька свайго ні выпуска́іць з вачэй ні ны мінуту, знаіць, што ета зы ца́ца. *Зак.* **Упусціць** (выпусціць) **з вачэй.** Упу́сьціш з вачэй, то прыпала,

ты зы такою каровыю дзень будзіш бегыць, шукаць і ні найдзіш. Нашто ж ты выпусьціў з вачэй? *Гл.* Выпускаць з віду.

**Упускаць** (выпускаць) **з галавы**. *Забываць.* Глядзі ж ты, глядзі ні ўпускай з гылавы, што солі адзін шчэпыць астаўся. А чаго ж ты выпускаў з гылавы, што табе гыварілыся. *Зак.* **Упусціць** (выпусціць) **з галавы.** Як жа я упусьціў з гылавы, што нада пад'ехыць к Мікіпарёнку, ён жа зря пірікáзывыць ні станіць. Я то крепка прікáзывыла, дык ён усё дно выпусьціць з гылавы. *Узмацн.* **Паўпускаць** (павыпускаць) **з галавы.** Глядзіця ж, пуўпускáіця з гылавы, тады варочыцца прíдзіцца. І прікáзывыла, і дукувáла, а паехылі і ўсё пувупускáлі з гылавы.

**Упускаць міма рук.** *Страчваць без карысці тое, што можна было выкарыстаць.* Ці мала ты чаго упускаў міма рук, ета гыварíць толька проста. *Зак.* **Упусціць міма рук.** Што ўпýсьціш міма рук, то прыпала, ня верніш. *Гл.* Выпускаць з рук.

**У пустэй** (пустый) **след.** *Дарэмна, бескарысна, позна.* Чаго ж ты пойдзіш у пустэй сьлед, я тама усе кýсьцікі агледзіў. Гляніш у пустэй сьлед, тама даўно нікога німа. Гаворіш ты ета у пусты́й сьлед, нада було на той нядзелі гыварíць.

**У пух і прах.** *Канчаткова, поўнасцю; дашчэнту.* Ты дужа с конімі ня ўмеіш, а етый пужлíвый, ён цябе у пух і прах рызьнясець. Рыстрáціўся у пух і прах, гылышом астаўся.

**У пялёнках.** *У раннім дзяцінстве.* Ты пра Шуріка ні гывары, ён у пялёнкых ужо знаў ета. Вы, знаць, ці ні ў пялёнкых пычалí чытаць.

**У пяткі калоць,** *гумар. Выклікаць пачуццё страху.* Ні пужáй большы, у іх і так у пяткі коліць ат учырáшніга. *Непаўн.* **У пяткі пакалоць.** Учора вам пыкалола ў пяткі. як пачулі, што Хвідыріняты прішлі ны вічарінку. *Аднакр.* **У пяткі кальнуць.** Сашку ў пяткі кальнула, як нас увідзіў. *Пачын.* **У пяткі закалоць.** Січас яны дужа сьмелы, а скора ім у пяткі заколіць, і яны знаюць ета самі. *Узмацн.* **У пяткі накалоць.** Ныкалола яму ў пяткі, доўга будзіць помніць ету зыварýшку. *Законч.* **У пяткі адка-**

**лоць.** Німала ім у пяткі аткалола, быяліся, каб ня ўстрецііць Хымчынка.

**У пяткі стрэліць** (стрэльнуць), *жарт. Выклікаць сполох.* Ці стреліла табе ў пяткі, як Ганна прішла? Во стаіць, у пяткі стрельнула, ні знаіць, куды ўцікаць.

**У рамках.** *Стрыманы, тактоўны.* Пры Ныпряёнка плахога ніхто ні скажыць, ён усігда у ря́мкых. Ты ў рямкых, знаць, тады буваіш, як нюхнеш у чарычку, а біш ча́ркі ты і з ря́мык і із вокын выска́кыіш часьценька. *Параўн.* Д з я р ж а ц ь с я б е [у руках (рамках)].

**Урастаць карэннем** (корнямі, каранямі). *Асталёўвацца грунтоўна.* Вот табе й чужэй, гываріліі, на год, а ён вун як урыста́іць кареньнім. Стаў урыстаць корнімі у Сяльцэ. Урыстаць кыріня́мі яны тут ні зьбіраюцца. *Зак.* **Уросць карэннем** (корнямі, каранямі). Урос кареньнім, тут яму ужо і зьвікува́ць. Куды ім зьдзьві́нуцца, корнімі урасьлі ныўсігда. Пакуля ні ўрасьлі кырінямі, яны дужа джогія. *Узмацн.* **Паўрастаць** (паўросць) **карэннем** (корнямі, каранямі). Пыўрыста́юць кареньнім, асьціпіня́цца і будуць сядзець да гроба жызьні. Крепка пыўрысталі корнімі, нічога яны нікуды ні паедуць шукаць. Пыўрыстаюць кырінямі і нійдзе ім нічога ні нада будзіць. Ніхай што пыўрасьлі кареньнім, яны такея, што нядоўга і сырвацца. Вы ўжо корнімі пыўрасьлі, усё ваша тут.

**У рот укласць** (пакласць, улажыць, палажыць). *З'есці.* Ні дыіцё вы мне нічога у рот укла́сьць. Учыну́ць гурьбою у хату, ні даюць нічога у рот пыкласьць. У рот улажыць куска ні пасьпеіш, ужо завуць: пайдзём. Як ушчапенюцца ма́лыя са ўсіх бакоў, у рот нічога ні даюць пылажыць.

**У рот укласць** (улажыць) **і разажваць,** *рэдкаўж. Дэталёва і грунтоўна растлумачыць.* Усё каб яму у рот уклаў і рызыжва́ў, сам думыць ня хочыць. У рот улажы яму і рызажві, тады пойміць, і то можа. *Гл.* Р а з а ж в а ц ь і ў р о т у к л а с ц ь.

**У роце прамачыць.** *Выпіць крышку.* Пыдажджы́, хуць у році прымачу́, ато зысьмя́гла ўсё. У році прымачылі і пабеглі на сена. *Параўн.* П р а м а ч ы ц ь г о р л а.

**У рубашке не месціцца.** *Гарэзаваць, балавацца.* Ён

жа табе у рубашкі ня месьціцца — і крýціцца, і верціцца, і чаго толька ні тваріць.

**У руках кіпець.** *Выходзіць лоўка, спрытна.* За што ня возьміцца, у руках у яго ўсё кіпіць. Любáя работа кіпела ў руках. *Пачын.* **У руках закіпець.** Калі захочыць, у яго у руках усё зыкіпіць, а ні захочыць — будзіць кыпашыцца. *Гл.* Г а р э ц ь у р у к а х.

**У рукі прасіцца.** *Лёгка давацца.* Чаму ні брацы, кылі само у рукі просіцца. Столька яму ўсяго у рукі прасілыся, толька ні пупáла, пуплуло дальшы. *Гл.* П л ы с ц ь у р у к і.

**У руку.** *Пра здзяйсненне, трапнасць* (*сну*). Ета сон у рукý, пыглядзіш, свáты ныгрянуць, — сапрыныўцы тыкі і гыварілі нешта.

**У рэдкасць,** *рэдкаўж.* 1. *Выключны.* Мужык ёй у редкысьць пупаўся, іна за ім пріпівáючы жывець. 2. *Выключна.* Зрýбіць, і падгоніць, і пріпýсьціць у редкысьць, такога масьціра пыіскáць ды пыіскаць. *Гл.* Н а р э д к а с ц ь.

**Урэзацца ў памяць.** *Моцна, трывала запомніцца, застацца ў памяці яркім вобразам.* Мне Мархвіны ксьціны дужа ўрезыліся ў пáміць. Буваіць, што ўрежыцца ў паміць, усю жысьць ні забудзіш. *Узмацн.* **Паўразацца ў памяць.** Хуць у нас баёў дужа ні було, ну выйна ўсім пыўрізáлыся ў паміць.

**Урэмя не жджэць.** *Пра неабходнасць неадкладнай дзейнасці.* Чаго тут сядзець ды руссусолівыць, уремя ня жджэць. Уремя ня жджэць, дывайця скарей дыгрябём.

**Урэмя церпіць.** *Пра адсутнасць патрэбы тэрмінова брацца за справу.* Чаго мне хвытаць да поту, уремя церьпіць, дыкашý. Табе некылі — бягі, а мне ўремя церьпіць.

**У сабаччай шкуры,** *асудж. Без сумлення.* Табе, знаць, нырáвіцца у сыбáччый шкýрі. І тулкувáць пры яго ні нада: усю жызьню прабыў у сыбаччый шкурі.

**У** [самай] **парэ** (саку). *У росквіце сіл.* Дзеўкі ў паре, хуць сяньня садзі за стол. Пакуля чылавек у сакý, яго нічога ні бярець. Хлопіц у сáмый паре, толька жаніць, нечыга ждаць. У самым саку, як агýрчык круглінькій.

**У самый раз.** *Дакладна, столькі, колькі трэба, або так, як трэба.* Пыдыйшлі ў са́мый раз, толька зьбіраліся за стол садзіцца. Яму етый касьцюм у самый раз. Табе ў самый раз тыкая работа. *Гл.* С а м ы й р а з.

**У сваём** (сваім) **вуме** (розуме). *У нармальным псіхічным стане.* Ці ты, чылавек, у сваём вуме на восінь ду́мыць пры пірястройку. Каб у сваём розумі, то ні прідумывыў ба усё ўся́кыя. Ні знаю, мушчына, ці ты ў сваім вуме. Трудна скызаць, што ты ў сваім розумі.

**У сваё удавольствіе.** *Бесклапотна, весела.* Ён прівы́к жыць у сваё удавольствія. Іхныя жызьня — у сваё удавольствія.

**У сваё ўрэмя.** *У пэўны мінулы час.* У сваё ўремя і Косьцік а́хывый кывалер быў. Нам у сваё ўремя ніхто загу́ны ні дываў.

**У свет.** *Вельмі далёка, невядома куды.* Ахота вам ехыць у сьвет. Зы Стыхваным ба іна у сьвет пабегла, каб толька мірьгну́ў.

**У свіннэя** (свінныя) **галасы,** *рэдкаўж. Бязладна, непрыемна для слыху* (*спяваць, крычаць*). Запелі у сьвіннэя гыласы. Вішча́лі чаго-то у сьвінны́я гыласы.

**У сетку** (цянёты). *У злачынную кампанію.* Няўжэлі ты ня відзіш, што цябе ця́гнуць у сетку. Ніхай вароныю ня будзіць, дык ні зывылаку́ць у сетку. Што рызівоны, аттаго і ў цянёты пызыця́гывылі.

**Усе шышкі валяцца** (падаюць, ляцяць), *цяп., пр., буд. Пра збег непрыемнасцей, няшчасцяў.* Нешта ны цябе ўсе шы́шкі ва́люцца. На бедныга Мыкара ўсе шышкі валюцца. Гады, знаць, два ны яго ўсе шышкі валіліся. Ны зяця на первыга усе шышкі падыюць. Дакуль жа ны мяне усе шышкі будуць ляцець?

**Усёю душою** (серцам). *Вельмі горача, шчыра.* Я к ім усёю душою, а яны крівюцца. Любіць яго усёю душою. Мы ўсім серцым з вамі.

**У сілах.** *У стане магчымасці, з фізічнай энергіяй.* Ты ішчэ ў сілых у Рослыў зьбегыць, а ня то што ды Ма́зылыва дайціць. Раз у сілых, ніхай ідзець, нашто яго дзіржаць. *Параўн.* Н е ў с і л а х.

**У сіле.** 1. *Фізічна моцны, працаздольны.* Лёнька ў

сілі, ён здароў ого як. Тріццыць гадоў — ета у самый сілі чылавек. 2. *З уладай у руках.* Тады ён быў у сілі, швагрі — нычальства, дык хадзіў вогірім.

**Усімі сіламі.** *Любымі сродкамі.* Усімі сілымі стыря́іцца падлезьць к Ігнатывым. Усімі сілымі хочуць вы́брыцца ат'етуліцька.

**Усім мірам.** *Агульнымі сіламі, намаганнямі, калектыўна.* Усім мірым як населі, дык пірімяніўся троху. Пымыгалі яму строіцца усім мірым.

**Ускачыць у балота** (пролабку, прорву), *груб. Трапіць у безвыходнае становішча.* Не, так ты ня вы́вірнісься, ускочыш у балота, абізацільна ўскочыш. Ён даўно шукаў места, айдзе ўскачыць у пролыбку. Найдзіць пы сабе, ускочыць у прорву, што ня вы́скрібіцца. *Узмацн.* **Паўскакываць у балота** (пролабку, прорву). Ні зналі ж, айдзе сы сваёю ухва́ткыю дзіва́цца, і пыўска́кывылі ў балота. Усё ні було спакою, пакуля ні пыўскакывылі ў пролыбку. Як пыўскакыюць у прорву, тады хва́цюцца зы гылаву. Пыўскакыюць у прорву, можа абрузумя́цца кыпілі́нку. *Парайн.* Скакаць у балота.

**Ускачыць у пекла,** *асудж. Трапіць у выключна цяжкія абставіны.* Ускачы́ў у пекла, бяду́іць, як вы́брыцца нызад, айдзе хра́брысьць дзіва́лыся. *Узмацн.* **Паўскакываць у пекла.** Пыўскакывылі ў пекла — ну, ніхай, самі пекла шукалі. *Гл.* Лезць у пятлю.

**У** (скрозь) **ігольнае** (іголкіна) **вушка улезць** (пралезць). *Быць пранырлівым, праяўляць празмерны спрыт.* Есьлі яму нада, у ігольныя ву́шка ўлезіць, а свайго даб'ецца. Ён у ігольныя вушка пралезьць умеіць, ма́хырь ішчэ тэй. Қындрацёнык табе у іголкіна вушка пралезіць. Такога учыць ні нада, ён скрозь ігольныя вушка ўлезіць. Скрозь ігольныя вушка умеіць пралезьць,— так нылаўчы́ўся. Яны спасобны скрозь іголкіна вушка ўлезьць. Скрозь іголкіна вушка пралезуць, ну ўсё роўна дасьці́гнуць, што задумылі. *Узмацн.* **У** (скрозь) **ігольнае** (іголкіна) **вушка паўлазіць** (паўлязаць). Ты іх мала знаіш, яны у ігольныя вушка пыўла́зюць. Қылі на што нывя́люцца, то ў ігольныя вушка пыўліза́юць. Такіх нічога ні астановіць, такея у іголкіна вушка пыўла́зіюць. У іголкіна вушка пыўліза́ць гатовы, ну праб'юцца, ні піряч чым ні ста́нуць. Іх нічога ня ўдзержыць, яны

скрозь ігольныя вушка пыўлазюць. Я на іх ні надзеіўся, а яны ж могуць скрозь іголкіна вушка пыўлазіць. Ежылі зыпа́хла даходым хуць нібальшым, етыя і скрозь іголкіна вушка пыўлізаюць.

**У случаі.** *Калі надарыцца магчымасць, выпадковасць.* У слу́чыі пупадзецца ла́дныя цубуля, то купіш, толька ладныя. *Гл.* П р ы  с л у ч а ю.

**У случаі** (случай) **чаго.** *Калі што здарыцца.* У случыі чаго зразу дай нам знаць. У случый чаго мы ж ні зы гырамі, пірікáзывый.

**У смак.** *З ахвотай і задавальненнем.* Сяньня яны ў смак ныработыліся. Пыкасіў у смак, ажно пріятна неік.

**У собственныя рукі.** *Асабіста.* Адда́лі ў собствінныя рукі, дык спакойны цяперь. Дай яму ў собствінныя рукі і ні знайся.

**Успадаць на вока.** *Пачынаць падабацца, кранаць.* Пітраку многа ікая успыда́ла на вока, толька ды сва́дзьбы дзела ніяк ні даходзіць. *Зак.* **Успасць на вока.** Па-мойму, дык яму Лена дужа крепка успа́ла на вока. *Узмацн.-множн.* **Паўспадаць на вока.** Ці ні бялкоўскія вам дзеўкі пыўспыдалі на вока?

**Успадаць на язык,** *іран. Рабіцца прадметам абгаворaў.* То тэй, то тэй успыдаіць вам ны язык, так у вас ні апходзіцца. *Зак.* **Успасць на язык.** Ніхай хто ўспадзець ны язык, няскора спу́сьцюць.

**Успаленіе** (васпаленіе) **хітрасці,** *іран. Прытворства.* У яго ці ма́ла було успаленія хітрысьці. Ды я віджу, што ў цябе пычалося выспаленія хітрысьці: погріб кыпаць ня хочыцца.

**Усплываць** (выплываць, выхадзіць) **на свет.** *Рабіцца вядомым, выяўляцца.* Во калі усплыва́юць на сьвет вашы прадзелкі. Ета дзела стала вуплува́ць на сьвет гадоў ціряз восім. Доўга ні выхадзілі на сьвет мяшкі тэя, як скрозь зямлю прываліліся зразу. *Зак.* **Усплысць** (выплысць, выйціць) **на свет.** Як ты ні скрыва́й, дык усё дно ўсплувець на сьвет. Вы́плыла на сьвет і сасонычка, і пры паплёт ужо знаюць. Думылі яны, ўсё ужо, канцы ў ваду, ажно выйшла на сьвет. *Узмацн.* **Паўсплываць** (павыплываць, павыхадзіць) **на свет.** Пройдзіць троху ўремя і ўсё пуўсплува́іць на сьвет. Такея шту́кі бы́йстра пувуплу-

ва́юць на сьвет. Як ні хувалі, а ўсё роўна пывыхадзіла на сьвет.

**Усплываць** (выплываць) **наверх** (наружу). *Выяўляцца.* Хуць няскора, ну ўсплува́юць наверьх вашы шту́чкі. Вот відзіш, як у іх усплуваіць усё нару́жу. Як пірістáлі дружы́ць, то адно, то другоя вы́буркнуць, нешта й вуплуваіць наверьх. Яны хува́юць, атріка́юцца, а яно большы вуплува́іць наружу. *Зак.* **Усплысць** (выплысць) **наверх** (наружу). Я пыня́ў зразу, як тэя грошы усплылі́ наверьх. Цяперя і ата́ўка с Круглінькыга аборка усплыла́ нару́жу. Німала прашло ўремя, а толька січáс вы́плыла наверьх тоя. Ня ду́мылі ні гыда́лі, што яно вы́плывіць наружу. *Узмацн.* **Паўсплываць** (павыплываць) **наверх** (наружу). Як пуўсплува́лі наверьх восі, тады і пры каткі́ ўзна́лі. Яны нізашто ня думылі, што іх мыхля́рства пуўсплува́іць наружу. Як пувуплува́ла наверьх усё, нісма́шна стала. Як ніхай ні хува́юцца, яно само пувуплува́іць наружу.

**Усплываць у памяці.** *Прыходзіць на ўспамін.* Як ты пычаў рыска́зывыць, і ў мяне тэя ксьціны пычалі́ усплува́ць у па́міці. *Зак.* **Усплысць у памяці.** Другей раз усплувець у паміці, як хува́ліся пу кустах, толька я ета як ува сьне помню.

**Успускаць на язык.** *Каштаваць.* Сколька пражы́ў, дык гарелкі і ны язык ні ўспуска́ў. Худзь ба ўспускаў ны язык адну каплю, ні разу ў рот ні браў. *Зак.* **Успусціць на язык.** Успусьці́ць ны язык ня хочыць, гаворіць, ну яе, ат яе толька гылыва балі́ць. *Гл.* Не ўспускаць на язык.

**Уссесць вярхом** (на плечы, шыю, горб, карак), *неадабр. Пачаць жыць за чый-н. кошт; падпарадкаваць сабе, сваім інтарэсам.* Тэя ні прымі́ну́ць, усься́дуць вярьхом мігым і пыгыня́ць будуць. Усься́дуць на плечы, дык наезьдзюцца. Ім нядоўга усьсесьць на шыю. Ні ны таго ныпалі, каб усьсесьць на горб. Яны скора ны ка́рык усьсядуць і яшчэ ўшчалепюцца. *Незак., рэдкаўж.* **Уссядаць вярхом** (на плечы, шыю, горб, карак). Быў пыча́ў усьсіда́ць вярьхом, ну мы яго скора пыставілі на места. Яўна усьсіда́іць на плечы, а яны муўчаць як тумакі́ якея. Я табе ні пазволю усьсіда́ць на шыю. Мы пынімалі, што усьсідаіць к Антону на горб. Мне усьсідаць ны карык ня цэлься. *Гл.* Садзіцца вярхом.

**Уссесць на галаву.** *Поўнасцю падпарадкаваць сабе.* Усьсядуць ны гылаву і будуць як самі захочуць вірідувáць. *Незак., рэдкаўж.* **Уссядаць на галаву.** Мы табе ні пазволім усьсідаць ны гылаву Кузьме. *Гл.* Садзіцца на галаву.

**Уссядаць** (узлазіць, узлязаць, залазіць, залязаць) **на душу.** *Падпарадкоўваць маральна.* Як стáнуць усьсідáць ну душý, бог знаіць, ач чаго атрякесься. Пірістань узлáзіць ну душу. Ну чаго ты узьлізáіш ну душу, ці сь цябе Гырбацкыга логу мала. Чуствыіць, што пычалі зылáзіць ну душу. Луманецца чаго, тады зылізáіць ну душу і ні ацстаець. *Зак.* **Уссесць** (узлезць, залезць) **на душу.** Усьселі ну душу і дзелый што хочыш, пáлкыю ні атмахнесься. Умеіць ну душу узьлезьць, уся ў маму. Скора і к табе ну душу залезуць. *Гл.* Садзіцца на душу.

**Устаўляць слова.** *Умешвацца ў размову.* Што я буду слова ўстыўля́ць, ці яны мяне паслýхыюць. *Зак.* **Уставіць слова.** Пітрачонык ні дываў яму слова устáвіць. Ён такей — будзіць сядзець, слýхыць і ні ўстáвіць слова.

**Устаць з левай** (не з той) **нагі,** *іран. Быць не ў гуморы.* С сáмыга рáньня бурчы́ць, ці ён устаў зь левыя нагі. Ну што ты, і сяньня ня с тэя нагі устаў? *Незак., рэдкаўж.* **Уставаць з левай** (не з той) **нагі.** Усігда зь левыя нагі устаець, пыд ныстраеніім редка буваіць. Ці ты ўсігда ня с тэя нагі ўстаеш?

**Устаць з правай нагі,** *жарт. Быць лагодным, у добрым настроі.* Во, зрáзу віднa, што сяньня ты с прáвыя нагі устаў. *Незак., рэдкаўж.* **Уставаць з правай нагі.** Як у дýхі, тады нічога, толька ён редка с прáвыя нагі устаець.

**Уступаць у строй,** *жарт. Рабіцца здольным да дзейнасці.* З зáўтрішніга дня Сьціпан уступáіць у строй, цяперь вам толька работу пыдывáць спруўля́йся. *Зак.* **Уступіць у строй.** Скора твой памошнік уступіць у строй, тады у вас зугудзíць дзела.

**Усунуцца** (уторнуцца, уторкнуцца, падторнуцца, падторкнуцца) **з языком.** *Недарэчы ўступіць у размову.* Ты ўсігда усýнісься зь ізыком ікраз тады, як ні нада. Хто вас прасіў, чаго вы ўторнуліся зь ізыком. Есьлі б іна ня ўторкнулыся зь ізыком, яно б і абыйшлося ўсё ціха. Ты як пойдзіш, усігда патторнісься зь ізыком ня к месту. Адзін ладна скызаў, а цяперя другей патторкнуўся зь

ізыком. *Незак., рэдкаўж.* **Сунуцца** (торкацца, падторкывацца) **з языком.** Хто ж цябе прасіў торкыцца сюда зь ізыком. У тую іхныю ка́шу нікому ні нада торкыцца зь ізыком. Стыхван усюдых любіў патторкывыцца зь ізыком. *Гл.* Л е з ц ь з я з ы к о м.

**Усунуць** (уторнуць, уторкнуць) **язык,** *неадабр. Недарэчы ўступіць у размову.* Як ні нада, тады іна абіза́цільна усу́ніць язык. Што цябе цягну́ла уторнуць язык, нашто табе було умешывыцца. Ці нада, ці ні нада саўсім, усігда уторкніць язык. *Незак., рэдкаўж.* **Сунуць** (торкаць) **язык.** Нашто було су́нуць язык ні ў сваё дзела. Торкыіць усюдых язык, як біз гылавы.

**У сябе,** *кніжн. У сваім пакоі або дома.* Антоныў у сябе, зыхадзі́, пакуля нікога німа. Да абеду быў у сябе, а цяпера я ні глянула.

**Усяго-наўсяго.** *Толькі.* Сяньня ўсяго-ныўсяго сіріда. Купіла ўсяго-ныўсяго катушку нітык, ці ета ку́пля.

**У сямі вадах купацца.** *Быць вельмі ўдачлівым, шчаслівым.* Ты, знаць, у сямі выда́х купа́лыся, што табе так вязець. *Зак.* **У сямі вадах пакупацца.** Усё дно як ён у сямі выдах пукупа́ўся. Можа вы разым с тым стыўбянём у сямі выдах пукупаліся.

**У сярцах,** *гумар. У злосці.* Трецьцій месіц у сірца́х, во як з бальшэя дружбы бува́іць. За што йта вы у сірцах с Пуўлюковымі? Прішоў з ныря́да у сірцах.

**Утапіць галаву** (галовухну, галовачку). *Трапіць у безвыходнае становішча.* Утапі́ў ён гылаву, ні ўпярёд цяперя ні нызад німа ходу. Ня йдзі, дзеўка, і ня думый, утопіш галовухну, сыма сабе рада ня будзіш. Ці доўга утапіць галовычку, а тады і табе горя і с табою горя. Утапіла сваю галовычку, табе горя, а мне ўдвоя.

**У точку,** *звыч. жарт. Дакладна.* Во як ты хырашо бягу́н пыставіў, ікраз у точку, калі дзіржа́ць вароты, яны й ні зыва́люцца. *Параўн.* Б і ц ь у а д н у т о ч к у.

**У тры ручаі** (пяць ручаёў). *Горка, няўцешна.* Кукува́лі ныд маткыю, плакылі у трі ручаі. Плачуць у пяць ручаёў, нягож ні плачуць.

**У тры шыі.** *Груба, зняважліва (гнаць).* У трі шыі нада туріць такіх знакомцыў: іх ныкармі ды яшчэ глядзі

у воба, каб чаго ні пытхвацілі. Пыгналі у трі шыі, ляцеў пу лума́ччу біз ыгля́дкі.

**Утупіць вочы.** 1. *Засаромецца і не глядзець.* Пра Жэньку як рысказывылі, іна уту́піла вочы, ні ны каго ні глядзела. 2. *Неадрыўна глядзець.* Зра́ньня як утупіць вочы у кніжку, дык і есьць чуць зыставіш. *Узмацн.* **Паўтупіць вочы.** 1. Паўтупілі вочы, як ім пы сімнаццыць гадоў. 2. Як агза́міны, тады ўжо вочы паўтупюць у кніжкі, дзень і ноч сідзяць. *Гл.* П а т у п і ц ь в о ч ы.

**Утыкацца з носам,** *неадабр. Умешвацца.* Нашто мне утыка́цца з носым у чужыя дзялы́, у мяне свае заботы ёсьць. *Зак.* **Уваткнуцца** (уткнуцца) **з носам.** Уваткнецца з носым, а посьлі сам ні рад. А яны яшчэ чаго уткну́ліся з носым? *Узмацн.* **Паўтыкацца з носам.** Многа б луччы було, каб вы ні пыўтыкаліся з носым.

**Утыкацца носам.** *Неадрыўна глядзець.* Як толька пріходзіць, зразу ўтыка́іцца носым у свае кніжкі. *Зак.* **Уваткнуцца** (уткнуцца) **носам.** Уваткну́лыся носым у вакно, што там такоя дужа аньціресныя. Уткнецца носым у газетку і сядзіць пуўдня, а паможч ня дужа падгоніш. *Узмацн.-множн.* **Паўтыкацца насамі.** Як пыўтыка́ліся нысамі, дык хуць с пушкі стріляй над імі.

**Утыкаць нос.** 1. *неадабр. Умешвацца.* Ныпрасна вы утыкаіця нос к ім, ніхай самі рызьбяру́цца, як луччы будзіць. 2. *Неадрыўна глядзець.* Што ж ты ўтыкаіш нос у кніжкі на ўвесь дзень, нада ж і зьдзелыць што-небудзь. *Зак.* **Уваткнуць** (уткнуць) **нос.** 1. Ета пріву́чка тыкая ў чылавека: уваткнуць нос куды ні нада. Усё ўжо кынча́лыся, не-а, нада, нукруці́ўся Кузьмянок, уткнуў нос, на́нывa пычалося. 2. Як уваткнець нос у піса́ньня, ні атарьвеш зьдзелыць што. Уткнуў нос і вачэй ні атводзіць. *Узмацн.-множн.* **Паўтыкаць насы.** 1. І етыя куклы насы свае пыўтыкалі куды ні нада. 2. Ны скамеічкі пыўтыкалі насы ў газеткі, здрастуйця бу́ркнулі.

**Утыкаць язык,** *неадабр. Недарэчы ўступаць у размову.* А ты чаго ўтыкаіш язык, набойшчык мне найшоўся. *Зак.* **Уваткнуць** (уткнуць) **язык.** Уваткнець другей раз язык, дык пыльні ў вочы пряма з решыта, каб ня лез большы. Іна ўсігда уткнець язык, ня можыць бязь етыга. *Узмацн.-множн.* **Паўтыкаць языкі.** Ну што, ня можыця вы́ціpьпіць, пыўтыка́лі ізыкі́ свае і сюда.

**У тэй бок не глядзець.** *Не звяртаць аніякай увагі.* У тэй бок ні глядзіць, што яны тама дзелыюць, што твыря́ць. **У тэй бок глядзець.** Худзь ба трошку глядзеў у тэй бок, унімаў кыпілі́нку, дык не. *Непайн.* **У тэй бок не паглядзець.** Ска́жыш — так-етык зьдзелыіць, а ні напомні — у тэй бок ні пыглядзіць. **У тэй бок паглядзець.** Пынадзейся, кінь, пыглідзя́ць яны ў тэй бок, самыя тэя, што пыглідзяць. *Аднакр.* **У тэй бок не глянуць.** Што йта зы матка, на сьвет пунупуска́ла, а якея яны там, кыря́выя ці гыря́выя — у тэй бок ні гляніць. **У тэй бок глянуць.** Глянуць яны ў тэй бок і ў два глянуць, будзіць гля́нута.

**Ухадзіць ва ўкус** (у смак), *жарт. Пачынаць разумець, даходзіць да цікавасці, адчуваць прыемнасць, задавальненне.* Пыдажджы́, дай апсмукува́ць, ён ішчэ толька уходзіць ва ўкус ат вічарінык. Вот відзіш, і Гаўріла уходзіць у смак, чужэя дзеўкі большы ныра́вюцца. *Зак.* **Увайціць ва ўкус** (у смак). Увайшоў ва ўкус, пыныра́вілыся брігадзі́рствывыць, ета ні ка́жныму так брігадзірская работа пу душэ. Ну дайця яму пуўпруўляцца, ён толька увайшоў у смак, а вы — зьнімаць. *Узмацн.-множн.* **Паўхадзіць ва ўкус** (у смак). Так пыўхадзілі ва ўкус, што днювалі б і нучувалі ў Пірядніні. Пыўхадзілі ў смак, ат іх колікым ні атаб'есься. *Парайн.* У с м а к.

**Ухадзіць** (захадзіць, залазіць, залязаць, улазіць, улязаць) **у большае** (бальшое). *Пагаршаць узаемаадносіны.* Луччы ні ўхадзіця у большыя, пыміріціся як-небудзь. Дужа ні саветыю ухадзіць у бальшоя, яно як пойдзіць, дык куды хочыш. Малу-пымалу і пойдзіць зыхадзі́ць у большыя. Я сам чу́ствыю, што ў іх заходзіць дужа ў бальшоя. Хва́ціць, ні зыла́зьця ў большыя, ішчэ ніізьвесна, чым ета кончыцца. У вас зыла́зіць у бальшоя, успакойціся луччы. Мала було таго, дык зылiза́юць у большыя. Ой, ні нада зыліза́ць у бальшоя. Былі аціхамі́ріліся, а цяперя улязюць у большыя. Яй-богу, у іх узноў улазіць у бальшоя, умішайся хут ты. Каб худзь ба у большыя ні ўлізалі. Яны ўлізалі ў бальшоя, ета мы трошку ўня́лі іх, ато б магло зываріцца. *Зак.* **Увайціць** (зайціць, залезць, улезць) **у большае** (бальшое). Калі ні абразу́мюцца тэя і другея, у іх увойдзіць у большыя. Як у бальшоя ўвойдзіць, тады хужы што дзелыць. Глядзі, каб ужо у большыя ні зайшло. Зайдзіць у бальшоя — ні знаю, што будзіць, а яно зайдзіць. Троху-патроху залезла ў большыя. Міру там ня

будзіць, дужа залезла ў бальшоя. Глядзі, улезіш у большыя — ці вы́путыісься. Улезьлі яны ў бальшоя, ня ўсту́пюць адзін аднаму. *Узмацн.* **Паўхадзіць** (паўлазіць, паўлязаць) **у бальшое.** Раз пыўхадзілі ў бальшоя, толку ня будзіць, нада було раншы уніма́ць. Самі пыўлазілі ў бальшоя, ніхто вас ні пыгыня́ў. Пыўліза́іця ў бальшоя, дык будзіця самі сабе локці кусаць.

**Ухадзіць** (убірацца) **у сілу.** *Вырастаць, мужнець; рабіцца ўплывовым.* Самыя што уходзіць Кываленык у сілу, самый возрыст. Канешня, убіраюцца ў сілу, падзьдзержку чу́ствуюць са ўсіх бакоў. *Зак.* **Увайціць** (увабрацца) **у сілу.** Яны так увайшлí ў сілу, што іх зь места ня строніш. Сыны як увыбраліся ў сілу, ёй цяперь ня горя, на ўсім гатовым сядзіць. *Узмацн.* **Паўхадзіць** (паўбірацца) **у сілу.** Зразу былі німудряшчыя, а пыўхадзілі ў сілу, разьдзелыліся хлопцы што нада. За трі гады пыўбяруцца ў сілу, як дубы стануць.

**Ухадзіць** (убірацца) **у цела.** *Спраўнець.* Іван уходзіць у цела на цёшчыных блінах. Убіраўся-ўбіраўся ў цела, а тады разым спаў. *Зак.* **Увайціць** (увабрацца) **у цела.** Можыць спасьць і быйстра увойдзіць у цела. Глянь-ка, увыбраўся ў цела, стаў як падушка, толька пыхціць. *Узмацн.* **Паўхадзіць** (паўбірацца) **у цела.** Ны траве, ды яшчэ ны харошый коні мымінта́льна паўходзюць у цела. Пыўбіра́ліся ў цела, сьліманьнё, разьеліся.

**Ухадзіць у галаву.** *Рабіцца прадметам думкі, развагі.* Усякыя чуш уходзіць яму ў гылаву; што ўроіцца, тады колым ня вы́б'іш. *Зак.* **Увайціць у галаву.** Аткуля ім такоя магло увайціць у гылаву, я й сам ні знаю.

**Ухадзіць у долю** (часць), *уст. Рабіцца ўдзельнікам.* Сам ён тады ня мог купіць зямлю, дык ухадзіў у долю. Бува́ла, як і гумны строілі, ухадзілі ў часьць. *Зак.* **Увайціць у долю** (часць). Сьпірва́ увайшлі ў долю, а посьлі вы́плыцiліся патроху. Нада було глядзець, каб ш чылавекым увайціць у часьць, ато і рад ня будзіш і ач ча́сьці атрякесься.

**Ухадзіць у каляю.** *Трапляць у ранейшы, нармальны стан.* Ці ты ўходзіш у кыляю́ посьлі сва́тывый узбу́чкі? *Зак.* **Увайціць у каляю.** Піріпалох ім ладный быў, ня скора увайшлі яны ў кыляю. *Узмацн.* **Паўхадзіць у каляю.**

Ні рысстраівый большы, яны і так чуць-чуць пыўхадзілі ў кыляю.

**Ухадзіць у кроў.** *Рабіцца неад'емнай якасцю, натурай.* Ёй маміны прівычкі пычынаюць ухадзіць у кроў. *Зак.* **Увайціць у кроў.** Дык ёй жа у кроў увайшло, каб згámбіць каго, ат етыга яе ніхто ні атвучыць.

**Ухадзіць у міласць.** *Выказваць чуласць, спагаду.* Длі Мыкара і Стыхван уходзіць у мілысьць, чуствыіцца сваё. *Зак.* **Увайціць у міласць.** Ну ўвайдзі ты ў мілысьць, пымагі ты ім узьбіцца ны кыравёнку, у цябе ж грошы камком ліжаць.

**Ухадзіць у палажэніе** (палажэнне). *Адносіцца з разуменнем, увагай.* Ня дужа яны хочуць ухадзіць у пылажэнія, ня тэй у іх хракцір. Андрей усігда ухадзіў у пылажэньня. *Зак.* **Увайціць у палажэніе** (палажэнне). Каб увайшлі ў пылажэнія, пасобілі троху, карона б зь іх ні спала. Адзін раз увойдзіць у пылажэньня, а буваіць, толька хвыркніць.

**Ухадзіць у плоць і кроў.** *Авалодваць усёй істотай.* Правільныя пывядзенія с самыга мальства у плоць і кроў уходзіць, а етыму нада ўчыць. *Зак.* **Увайціць у плоць і кроў.** І ад бацькі, і ат маткі ета жаднысьць ім у плоць і кроў увыйшла.

**Ухадзіць у розум.** *Разумнець.* Нада ўхадзіць у розум, ты ўжо ні малютычка нісмышлёныя. *Зак.* **Увайціць у розум.** Ні знаю, ці ўвойдзіць ён калі ў розум, праўду гаворюць пры такіх, што вырыс, а ўма ня выніс.

**Ухадзіць у серца.** *Глыбока кранаць.* Я то ні знаю, хто табе там уходзіць у серца, нешта Коля тут кажны дзень аціраіцца. *Зак.* **Увайціць у серца.** Ёй увайшоў у серца Лёнік, бізь яго дыхыць ня можыць.

**Ухадзіць у шкуру** (*чыю*), *рэдкаўж. Апынацца ў чыім-н. становішчы.* Нікому ні захочыцца ухадзіць у яго шкуру, яму і дысталыся ўжо і ня меншы дыстанецца. *Зак.* **Увайціць у шкуру** (*чыю*). Увайдзіця ў іхныю шкуру, тады пызнаіця жысьць. *Гл.* У л а з і ц ь у ш к у р у.

**У хаду.** *Ва ўжыванні, распаўсюджана.* Тады ў хаду былі боты зь вісокімі глянішчымі у абліпычку. Ці ты ня відзіла, якея цяпер спадніцы у хаду,— адна чэцьвірць, во якея.

**У хвасце.** *Ззаду, у ліку апошніх.* Што ты сёліта нешта ў хвасьце, ужо ўсе дыбра́лі свае па́йкі. Дос у хвасьце цягнуцца, ну-ка пыднажмі́ся.

**Уходу** (убрэгу) **не быць** (не знаць), *неадабр. Не мець стрымання.* Толька сыбяру́цца разым, ім уходу ня будзіць. Ніяк німа вам уходу. Уходу сабе ні знаюць цэлый дзень, лётыюць, як голыў ні паскру́чыюць. Усё ж убрэгу ні було, пульга́лі тута каменьнім. Помніш, Піліпёнык быў, убрэгу нійдзе ні знаў, пакуля шыю ні скруці́ў.

**У цане.** *Дарага.* Пырысяты пыд вясну будуць у цане. Прошлыя скрысеньня цубуля была ў цане.

**У цемпе.** *Хутка, энергічна.* Нада у цемпі брацца, і́ныч зыначуіш с пакосымі. Дывайця у цемпі, тута лым'я́ дужа многа.

**Уціраць ачкі.** *Падманваць; пераўзыходзіць.* Вы толька скажы́ця, хто яму ні ўціра́ў ачкі́, яго ж дзіцёнык прывядзець. *Зак.* **Уцерць ачкі.** І гываріліж, і пріка́зывылі, глядзі, дык глядзеў: ачкі ўцёрлі, поймы ўпёрлі — і карові апа́сна дываць, а аўца́м саўсім ні дасі. *Узмацн.* **Паўціраць ачкі.** Пыўціра́лі ачкі разу́мнікым етым. Ён адзін усім вам пыўціраіць ачкі. *Працягл.-фінальн.* **Наўціраць** (даўціраць) **ачкі.** Ныўціра́іш ты ачкі, уціра́ньнік еткій. Дыўціраў ачкі, хму́рый ходзіць: аблыпашы́лі сымаго кругом ны бызарі.

**У цісках.** *У залежнасці, строгасці.* Хомчынка у іх у ціска́х, ні даюць рызьвярнуцца. Яго ні дзяржы у цісках, дык толку ня будзіць: зьбегыіцца, сап'ецца, зы паўгода збыся́тнічыіць.

**Уцягываць жывот** (духі). *Даваць моцна адчуваць сябе (пра голад).* Скарей ба на места даехыць, жывот ладна уця́гыіць. Тыкая дарога, сонца с абедыў зьвярну́ла, чаму ж ня будзіць уцягывыць духі́. *Зак.* **Уцягнуць жывот** (духі). Уцягнула жывот, дык з двыра крічыць: «Нылівай капусту!» Як уцягнула духі, дык на́лыб гаршчок крупені пірівярну́ў. *Узмацн.* **Паўцягываць** (паўцягнуць) **жывот** (духі). Ныработыюцца, пыўця́гывыіць жывот, то яны чорта зьяду́ць. Галодныя прібеглі, духі пыўцягывыла, хырашо, у мяне ва́ріва ў печы стыяла. Пыўцягну́ла жываты, дык і бліны пашлі зы маліну, хуць і мука трошку гырька́віла. І сухую скарінку згрызу́ць, як духі пыўця́гніць.

**У цяню** (цяні). *Непрыкметна, малапрыкметна.* Мыкарёнык ныпярёд лезьць ня любіць, ён усігда дзяржы́цца ў цяню́. У вас нешта Іван у цяні пасьці ўсігда.

**Уцяць язык.** *Прымусіць змоўкнуць.* Ну каб хто найшоўся уця́ць бабі язык! Во спасіба, уцялі етый язык, куды цішэй стала.

**У чом** (чым) **маць радзіла.** *Пра голага.* Ці мала дуроў було раншы: бувала, дзяўчонкі-подрысьні мыюцца, а Якыў у вы́вірнутый шубі з нашлега пыд вакенца гы-ы-ы!, дык яны бігаць у жыта хувацца у чом маць рыдзіла́. Ну ляці у чым маць рыдзіла, чаго ты стаў.

**У чом** (чым) **ні станець.** *Пра абавязковасць.* У чом ні ста́ніць я свайго даб'юся. Нада у чым ні станіць ехыць ны бызар.

**У чом** (чым) [толька] **душа** (чар) **дзяржыцца** (дзержыцца). *Пра слабага, ледзь жывога.* Пыглядзеў я на тога жыніха́: у чом душа там дзяржы́цца. У чым тая душа дзержыцца — такей ён худэй. У чом чар дзяржыцца у етыга чылавека? У чым тэй чар дзержыцца, як ён пы зямле ходзіць: кожа ды косьці аста́ліся. У чом тама толька душа дзяржыцца, ён жа ат ветру хіта́іцца. Ні жылец ён на сьвеці, ні есьць ня можыць, ні піць, у чым толька чар дзяржыцца. Прайшоў такоя крываліція, пабітый увесь, пыра́нітый, у чым толька чар дзержыцца.

**У чорта на кулічках.** *Недзе вельмі далёка, у глушы.* Ці я хацеў туды іціць, ета ж ты зы́рілыся на тэй хутыр, а ён у чорта ну улі́чкых. Ні хачу я жыць у чорта ну кулічкых.

**У шкуры** *(чыёй). На месцы, у становішчы (каго).* Ты пабыў ба у яе шку́рі, тады б пу-другому запеў. У шкурі яго пыжыві, тады пызнаіш смак бяж жонкі.

**У шкуры не змяшчацца** (не памяшчацца), *неадабр. Быць вельмі сытым, здаровым.* Разьеўся, што ў шкурі ні зьмішча́іцца, ходзіць, толька пы́шыць, як пыхцелка. На ім жа жы́ру — у шкурі ні пымішчаіцца, хуць дзярі зь яго.

**У штанах не месціцца,** *неадабр. Гарэзаваць, балавацца.* Дужа рызыйшоўся, у штынах ня месьціцца, успакоіць нада. *Гл.* У р у б а ш к і н е м е с ц і ц ц а.

**У што б там ні стала.** *Пра абавязковасць.* У што б

там ні ста́ла зьезьдзі глянь, чаго яны ня пішуць нічэга. Етый сваё дыка́жыць у што б там ні стала.

**У штыкі.** *Варожа (сустракаць).* Мылыдая нічога, а ста́рыя ны яго ў штыкі́. У штыкі ўстрецілі Пылагеіныга, а ён жа к ім хінецца.

**Ушчаміць** (зашчаміць) **нос,** *іран. Адвучыць ад празмернай цікаўнасці.* Ушчэмюць табе нос, і прузукува́тысьць твыя айдзе прыпадзець. Троху ўняўся, як зышчамілі нос. *Гл.* П р ы ш ч а м л я ц ь н о с.

**Ушчаміць** (зашчаміць) **хвост.** 1. *Суняць.* Ніхай папры́гыіць мярло, як ушчэмюць хвост. Яму нада було даўно зышчамі́ць хвост, і так доўга цацкыліся. Ні такея ўжо яны сьмелыя, што хвост каму зашчэмюць, ета каб ны Ісака пупалі, тэй ба у зубы ні пыглядзеў. 2. *Ублытацца ў непрыемную справу.* Пры́гыў, прыгыў, пакуля ушчамі́ў хвост. Як зашчэміця хвост, айдзе ваша ву́хырьства й дзеніцца. Крепка зышчаміў хвост, нійдзе ня чутна і ня відна стала.

**Ушчамляць язык.** *Уступаць у размову без запрашэння.* Ня дужа красіва ушчымляць язык, айдзе цябе саўсім ні кысаіцца. *Зак.* **Ушчаміць язык.** Во яшчэ і тая кыцманогыя ушчаміла язык, звалі яе дужа. *Узмацн.-множн.* **Паўшчамляць языкі.** Яны ўсігда пыўшчымляюць ізыкі бязь дзела, прівычка ўжо тыкая ат пріродзьдзя.

**Уядацца ў косці** (пячонкі). *Празмерна дакучаць.* Мікіта ўсігда уідаўся ёй у косьці крепка, цярьпець яго ні мыгла. Сколька ён мне уідаўся ў пячонкі, пряма ні рыскызаць. *Зак.* **Уесца ў косці** (пячонкі). Ні глядзі, што змогля, так уеўся ў косьці, што большы некуды. Чуствыіцца, што ўеўся ён табе ў пячонкі. *Узмацн.-множн.* **Паўядацца** (паўесца) **ў косці** (пячонкі). Пыўідаліся ў косьці, што я дайжа глядзець на іх ні хачу. Крепка пыўідаліся ў пячонкі, доўга іх будзіць помніць. Хвалі́, хвалі, як пыўяду́цца ў косьці, тады другоя зыпяеш. Яны ўсім паўеліся ў косьці, ня толька табе аднаму. Пыўядуцца ў пячонкі, ішчэ пызна́іш суседзіў. *Працягл.-фінальн.* **Наўядацца ў косці** (пячонкі). Ух, быў уредзіна, што ныўідаўся ў косьці Аксеньні, ніхто ні знаіць як. Ныўідаліся ў пячонкі большы некуды, спрацівілі, што глядзець ні магу.

**У яжовых рукавіцах,** *кніжн. У строгасці.* Каб ні дзіржала ў яжовых рукаві́цых сыма, ён ба даўно скруці́ўся.

Пабыў у яжовых рукавіцых, пыспытáў новыга хлеба. *Гл.* П а п а д а ц ь у я ж о в ы я р у к а в і ц ы.

# Ф

**Фама няверуюшчый,** *кніжн. Вельмі недаверлівы.* Табе, Фыма няверыюшчый, нічога ні дыкажыш. Во хто быў Фыма няверыюшчый, твой старэй.

**Фіга** (кукіш) **з маслам,** *іран., кніжн. Зусім нічога.* Хочыць — ніхай ідзець, ня хочыць — ня йдзець, яму усё дно будзіць фіга з маслым. Кукіш з маслым пулучыў, зывярнуўся і пашоў. Кукіш з маслым яму нада, што ж яшчэ.

**Фількіна грамата,** *кніжн., неадабр. Пусты дакумент.* Нейкыю фількіну грамыту пыказывыў, ніхто нічога ня мог рызыбраць. Ета ні дукументы, а фількіна грамыта, ці яны ёсьць, ці німа — усё роўна.

# Х

**Хавацца за чужую спіну** (чужэя (чужыя) плечы, чужэй (чужый) хрыбет). *Маскіравацца пад іншых, ускладаць адказнасць на іншых.* Чаго ж ты хувáісься зу чужýю сьпінý, дзелыць любіш, а атвічаць ня хочыцца. Любіць хувацца зу чужэя плечы. Ні хувайся зу чужыя плечы, пры твае прадзелкі даўно ізьвесна. Хуваіцца зу чужэй хрібет, як ён сьвятэй якей. Усё ўремя хуваўся зу чужый хрібет. *Зак.* **Схавацца за чужую спіну** (чужэя (чужыя) плечы, чужэй (чужый) хрыбет). Якей ні рызівон, а прідýмыў схувацца зу чужую сьпіну, во табе й рызівон. Сам схуваіцца зу чужэя плечы, а другога ураз можыць патторнуць. Любіць схувацца зу чужэя плечы, зь ім сьперцца ня дужа лёхка. Зу чужэй хрібет схуваўся, а вы аддувáйціся, як хочыця. Схуваўся зу чужый хрібет і ён цяперь праў. *Узмацн.-множн.* **Пахавацца за чужэя** (чужыя) **спіны** (плечы, хрыбты). Сьпірва былі хрыбряцы́, што куды там, а г дзелу каснýлыся — пухуваліся зу чужэя сьпіны. Пухувацца зу чужэя плечы — такоя ў іх усігда було. Вазьмі за руб зы двáццыць, кылі пухуваліся зу чужыя плечы. У любой мелычы глідзяць, каб пухувацца зу чужэя хрібты. Зу чужыя хрібты пухуваюцца, а посьлі гіроімі ходзюць. *Працягл.-фінальн.* **Нахавацца за чужую спіну** (чужэя (чужыя) плечы, чужэй (чужый) хрыбет). Нухуваўся зу чужую сьпіну уволю. Нухуваліся зу чужэя плечы, нада самім атвічаць. Ну што, нухуваўся зу чужэй

хрібет, дос хувацца? Нухуваўся зу чужый хрібет, лаіцца, відна, мыхінáцыі яго пірісталі пыкрывáць.

**Хавацъ вочы.** *Не глядзецъ ад сораму.* Я зразу дыгыдáўся, чаго Аксюта хувáіць вочы, знаіць кошка, чыё сала ўкрала. *Зак.* **Схавацъ вочы.** Табе толька вочы схувацъ посьлі такога пазору і на людзі ні разу ні пыказывыцца. *Узмацн.-множн.* **Пахавацъ вочы.** Усё хадзілі кыньдзібобірым, а посьлі ксьцін пухувалі вочы.

**Хавацъ душу.** *Рабіцца бессардэчным.* Што ж ты хуваіш душý, яны ж твае родныя пляменьнікі, як жа ты атносісься. *Зак.* **Схавацъ душу.** Даўно яны схувалі душу, і нечыга пра іх дайжа тулкувáць.

**Хавацъ карты.** *Умела маскіравацъ учынкі, дзеянні.* Косьцік умеў хувацъ карты, яго трудна було ў чым путкулупнýць. *Зак.* **Схавацъ карты.** Зы Қыныстратывых ня бойся, яны схуваюць карты. *Узмацн.* **Пахавацъ карты.** Даўно яны пухувалі карты і канцы зымялí, ня дужа дызнáісься.

**Хавацъ ніткі,** *рэдкаўж. Затойвацъ злосцъ.* Ты мне ні гыварі, я сыма віджу і знаю, што ты другей год на іх хуваіш ніткі.

**Хавацъ падмёткі,** *гумар. Шпарка ўцякацъ пры нязначнай небяспецы.* Хувáйця скарей падмёткі, Сярьгеівы гуркі вам дарым ня пройдуць, ён сам сюда йдзець. *Зак.* **Схавацъ падмёткі.** Як мітульгá схуваў падмёткі, во ныгнáў ты ны яго страху. *Узмацн.-множн.* **Пахавацъ падмёткі.** А што, пухувáлі падмёткі, спужаліся Пынаса ўстрецiць.

**Хадзіцъ вінаходам,** *неадабр. Балавацца, гарэзавацъ.* Цалю́хтынькій дзень ходзюць вінаходым, пад'есьць ім некылі. Ходзіць вінаходым, спакою людзям ні даець. *Непаўн.* **Пахадзіцъ вінаходам.** Утраіх яны пыхадзілі вінаходым, а цяперь íхнія кымпанія рыспáлыся. *Пачын.* **Захадзіцъ вінаходам.** Час пыбылí спакойна, а цяперя ўзноў зыхадзíлі вінаходым. *Законч.* **Адхадзіцъ вінаходам.** Атхадзіў вінаходым, стаў цішэй ціхыга, як саўсім ня тэй маліц.

**Хадзіцъ ганалём** (ганянём), *адзінк. Моцна злавацъ, адкрыта выражацъ злосцъ.* Нечыга ходзіць сяньня гыналём, а што яму хто ні ўлáдзіў — ні знаю. Тая шмыкыдзя́ўка гынянём хадзіла. *Гл.* Хадзіць ханалём.

**Хадзіць** (гуляць) **па руках.** *Перадавацца ад адной асобы да другой.* Як узялі решыта, яно с прошлыга месіца і ходзіць пу руках, дайжа ні знаю ў каго. Мой пасьці ўвесь інструмент гуляіць пу руках. *Непаўн.* **Пахадзіць** (пагуляць) **па руках.** Як паходзюць пу руках, зь іх будуць ні мяшкі, а тряпкі. Зразу відна, што касьцюм пугуляў пу руках. *Законч.* **Адхадзіць** (адгуляць) **па руках.** Атхадзілі гра́блі пу руках, чуць сыйска́ў. Вілкі пу руках адгулялі, ужо с трімя рыга́мі аста́ліся. *Працягл.-фінальн.* **Нахадзіць** (дахадзіць, дагуляць) **па руках.** Находзіць пу руках бязьмен, што саўсім ня сы́йшчыш. Мыя пілка дыхадзіла пу руках, ні знаю, айдзе: тэй гаворіць, што аддаў, а етый цьвярдзі́ць: ні браў. Ну што, дугулялі мяшочыкі пу руках, ні знаіш, у каго спра́шывыць.

**Хадзіць з козырэй** (казырэй), *жарт. Адчуваць сябе вельмі ўпэўнена; пачынаць рашуча, упэўнена.* Коля ні сьцісьня́іцца, ходзіць с козырій — дзядзька ў яго вун ікая шышка. Вот-вот і Сярёжа пычанець хадзіць с кызырей, ужо і ву́сікі гаду́іць.

**Хадзіць лісіцаю.** *Услугоўваць вельмі лагодна, ветліва.* Сколька я гляджу і ўсё дзіку́юся, як яны ходзюць лісіцыю адзін лі днаго. *Непаўн.* **Пахадзіць лісіцаю.** Вясною пыхадзілі лісіцыю, а січас у іх нешта ня тоя. *Пачын.* **Захадзіць лісіцаю.** Узноў зыхадзіў лісіцыю, думыіць пыдлыта́цца чым ба небудзь. *Законч.* **Адхадзіць лісіцаю.** Атхадзіў лісіцыю, ацслужы́ў, у разныя бакі глідзяць. *Працягл.-фінальн.* **Нахадзіць** (дахадзіць) **лісіцаю.** Доўга Стыхванёнык ні находзіць лісіцыю, ён услу́жывыць ня любіць. І ты даходзіш лісіцыю, як твой брат дыхадзіў.

**Хадзіць месікам,** *іран. Радавацца, выяўляць вышэйшую задаволенасць.* Сашка так ужо ходзіць месікым, пряма зямлі пыц сабою ня чуіць. *Непаўн.* **Пахадзіць месікам.** Ніхай і ён трошку паходзіць месікым, пыблішчыць, ні гывbooрі нічога. *Пачын.* **Захадзіць месікам.** І ты ўжо зыхадзі́ў месікым? — ну пыра́дуйся, пырадуйся трошку. *Законч.* **Адхадзіць месікам.** Атхадзіў месікым, зьвесіў гылаву чаго-то, ці ні с кра́лію сваёю ні стулкува́ўся.

**Хадзіць на галаве,** *часам мн. Надзвычай сваволіць, дурэць.* Не, у мяне б так ны гылаве ні хадзіў, я ўніла́ б. Што ты ат іх хочыш, кылі ходзюць ны гылыва́х. *Непаўн.*

**Пахадзіць на галаве.** Пыхадзіў ны гылаве біз бацькі. Лета пыхадзілі ны галовых. *Пачын.* **Захадзіць на галаве.** Толька я с хаты, ды каліткі ні дыйшла, яны ўжо зыхадзілі ны гылаве. *Законч.* **Адхадзіць на галаве.** Атхадзіў ны гылаве, стаў цішэй ціхыга лета, сядзіць як клоп у шчэліні. *Працягл.-фінальн.* **Дахадзіць на галаве.** Даходзіш і ты ны гылаве, і цябе ўні́муць, пасодзюць на места.

**Хадзіць над пропасцю.** *Быць у небяспечным становішчы.* Глядзі, чылавек, ты ходзіш нат пропысьцю, калі-небудзь так ускочыш, што за вушы ня выцігнуць. *Непаўн.* **Пахадзіць над пропасцю.** Пыхадзіў нат пропысьцю, ды не, гаворіць, дос, ні хачу у пятлю лезьць. *Законч.* **Адхадзіць над пропасцю.** Столька ўремя атхадзіў нат пропысьцю і ні разу ні ў чом ні пыгареў — ета нада ўмець.

**Хадзіць на павадке** (павадку). *Быць пад вялікім уплывам.* Ты ўсігда ходзіш ны пывадке, як сваёй гылавы німа. І бацька твой хадзіў ны пывадку, і ты такей самый. *Непаўн.* **Пахадзіць на павадке** (павадку). Ні нада атка́зывыцца, ў Маркі і ты пыхадзіў ны пывадке. У каго ў каго, а ў свата паходзіш ны пывадку. *Законч.* **Адхадзіць на павадке** (павадку). Як атхадзіў ны пывадке, знаць, узяўся трошку за розум. Нешта крі́віцца, як скызалі яму, што атхадзіў у цесьця ны пывадку. *Працягл.-фінальн.* **Дахадзіць на павадке** (павадку). Глядзіця, даходзіця ны пывадке, дывяду́ць яны вас ды ряшоткі. Абоя можыця дыхадзіць ны пывадку, што кругом сьміяцца будуць, як з малю́тычык.

**Хадзіць на паклон** (пакланеніе). *Прыніжацца.* Пірістань ты ўжо хадзіць ны паклон, ажно глядзець сты́дна збоку. Усё к сваім родніṅкім ходзюць ны пыкланенія. *Непаўн.* **Пахадзіць на паклон** (пакланеніе). Пыхадзілі ны паклон, тэя зь іх крепка духі выма́тывылі. Я ці хадзіў ці не, а ты ныпра́ўду паходзіш ны пыкланенія. *Законч.* **Адхадзіць на паклон** (пакланеніе). Ці ты ўжо кончыў, атхадзіў ны паклон? Раз атхадзіў ны пыкланенія, цяперя табе нічога ні страшна. *Працягл.-фінальн.* **Дахадзіць на паклон** (пакланеніе). Іван дыхадзіў ны паклон, лаіцца нешта на чом сьвет стаіць. Даходзіш ны пыкланенія, можа пурузумнеіш калі-нібудзь.

**Хадзіць на пальчыках** (задніх лапках), *іран.* *Дагаджаць з празмернай ветлівасцю.* Ета нада було сымаму

увíдзіць, як яны хадзілі пíріт Кузьмою ны пáльчыкых. Чаго вы так ходзіця за ім ны задніх лапкых, ці ня цесьцім ён будзіць у вас. *Непаўн.* **Пахадзіць на пальчыках** (задніх лапках). Якея ні былі сваты́, дык вы пыхадзілі піряд імі ны пальчыкых. Пыхадзіў ны задніх лапкых, ды нешта ў яго ні чыртá ня вы́пыліла. *Пачын.* **Захадзіць на пальчыках** (задніх лапках). Нешта пачуў, íнычы чаго б ён так зыхадзіў піряд ёю ны пальчыкых. Пыня́лі, што пупáліся, і зыхадзілі ны задніх лапкых. *Законч.* **Адхадзіць на пальчыках** (задніх лапках). Атхадзіў ны пальчыкых дык атхадзіў, уволю уюном нывярцеўся. Я думыю, што скора атходзюць ны задніх лапкых, толька пачýюць пры Пірагова. *Працягл.-фінальн.* **Дахадзіць на пальчыках** (задніх лапках). Ты íкраз так даходзіш пірíдзь Зьмітраком ны пальчыкых, як Анька пірíц сваімі. Ну, дыхадзілі ны задніх лапкых, ублыгытварíлі яны вас?

**Хадзіць на цыпачках.** *Паддобрывацца асцярожна.* Сколька ўремя яны хадзілі на цы́пычкых пірíд Іваным. *Непаўн.* **Пахадзіць на цыпачках.** Пыхадзілі кылы Андрея на цыпычкых, пакуля грошыкі вы́мындзырілі. *Законч.* **Адхадзіць на цыпачках.** Нешта ня віднa Сямёнывыга, атхадзіў ён тут на цыпычкых. *Працягл.-фінальн.* **Дахадзіць на цыпачках.** Во пулучы́лыся, дыхадзіў на цыпычкых, у іх бок і ні глядзіць.

**Хадзіць па галавах** (голавах, галовах), *асудж. Груба гарэзаваць, сваволіць, не зважаючы ні на каго.* Што ты глядзіш, яны пы гылывáх ходзюць, а ты іх ні ўспыкáівыіш. Таго ходзюць па голывых, што ніхто к рукам ні прібярець. Як чыпляну́ чым-небудзь, ня будзіш тады хадзіць пы галовых. *Законч.* **Адхадзіць па галавах** (голавах, галовах). Атхадзілі пы гылывах, пакуля ні було каму унімáць. Чаго яны толька ні вытвыря́лі, столька ўремя атхадзілі па голывых. Аччаго ж ні атходзюць пы галовых, калі ў руках дзіржаць некыму. *Працягл.-фінальн.* **Нахадзіць** (дахадзіць) **па галавах** (голавах, галовах). Я зы цябе скора вазьму́ся, находзіш пы гылывах. Находзіць па голывых, як вярёўка пу лупáткых паходзіць. Я вас ныхаджу́ пы галовых, я вам найду спакой. Даходзіця пы гылывах, як схвачу хлыбазíну. У Цімоха вы ўсе разым жыва даходзіця па голывых, ён умеіць места дываць. Ні я буду, што даходзіш ты пы галовых, яй-богычку даходзіш. *Гл.* Іціць па галавах; Хадзіць на галаве.

**Хадзіць пад богам,** *уст., звыч. іран. Залежаць ад лёсу.* Ты, канешня, ходзіш пад богым, ну большы стыря́ісься чорту ўгадзі́ць і пра свой кырман дайжа ўва сьне ні зубува́іш. *Законч.* **Адхадзіць пад богам.** Атхадзіла Куліна пад богым, нешта рузуверілыся.

**Хадзіць пад стол пяшком,** *жарт. Быць малым.* Ты ж пяшком пац стол хадзіў, а йна дзеўка была хуць замуж аддыва́й, і ты дуріш мне: равесьніца, равесьніца.

**Хадзіць па струнке** (адной масніцы (маснічке). *Празмерна дагаджаць.* Ого як вы́шкыліла, ён у цябе па стру́нкі ходзіць. Я б выўчыла, у мяне б ён пы адной масьні́цы хадзіў. Твой ходзіць пы адной масьнічкі, слухыіць. *Непайн.* **Пахадзіць па струнке** (адной масніцы (маснічке). У Пёклы ён пыхадзіў па стрункі. Як пахо-дзіць месіц ды другей пы адной масьніцы, пызна́іць смак такога хлеба, ні захочыць доўга есьць. Во паходзіш пы адной масьнічкі у іхніх руках, тады пойміш, што к чаму. *Законч.* **Адхадзіць па струнке** (адной масніцы (маснічке). Атхадзіў ім па стрункі большы ні прідумыіш. І вы ня меншы атхадзілі пы адной масьніцы. Ладна атхадзілі пы адной масьнічкі, толька цяперь нешта дуюцца. *Узмацн.* **Нахадзіцца па струнке** (адной масніцы (маснічке). За трі гады ныхадзі́ўся па стрункі, ныўгыжда́ўся. Ішчэ находзіцца пы адной масьніцы, кылі ня кініць ды ня пойдзіць аттуля. Яны ня меншы ныхадзіліся пы адной масьнічкі.

**Хадзіць у пацёмках.** *Дрэнна разумець, слаба разбірацца або зусім не ведаць.* Ходзіця вы ў пацёмкых, ужо ўсе кругом ві́дзюць, длі чаго ета дзелыіцца. *Непайн.* **Пахадзіць у пацёмках.** Зьмітрок пыхадзіў у пацёмкых, ён як нейкій ніізьвесна якей. *Узмацн.* **Нахадзіцца ў пацёмках.** У пацёмкых ныхадзі́ліся нашы дзяды, а мы ўжо і ўчыліся трошку, і ат людзей рызьбіра́ліся, як яно ўсё дзеіцца. *Законч.* **Адхадзіць у пацёмках.** Атхадзіў у пацёмкых, стаў трошку рызьбірацца у іхній крутне. *Працягл.-фінальн.* **Дахадзіць у пацёмках.** Дыхадзіла ў пацёмкых, рызыбра́лыся, толька дужа позна, нада було многа раншы.

**Хадзіць у прыпражке** (прысцяжке). *Быць у залежнасці, быць несамастойным ва ўчынках.* Як табе ні ныдаесьць хадзіць у пріпря́жкі у Стыхвана. Нейкій як ту́рык стаў: раншы быў сымыстыя́цільній, ато апяць у

прісьця́жкі ходзіць. *Непайн.* **Пахадзіць у прыпражке** (прысцяжке). Раз ня йменць свае гылавы ны плічах, то й яшчэ у пріпряжкі паходзіць. Пыхадзіў у прісьцяжкі троху, праўда, пазьней схваціўся зы гылаву, аду́мыўся. *Узмацн.* **Нахадзіцца ў прыпражке** (прысцяжке). Цябе яны зыбрыта́лі, як ім нада було, і ты столька ныхадзіўся ў пріпряжкі, што большы і ні прідумыіш. Есьлі ўжо туды пупаўся, то находзіцца ў прісьцяжкі, яны любюць ну другіх пыіжджа́ць. *Законч.* **Атхадзіць у прыпражке** (прысцяжке). Калі ты ўжо кончыш, калі ты атходзіш у пріпряжкі? Атхадзілі ў прісьцяжкі ў тых ніпутны́х, паезьдзілі на іх уволю. *Працягл.-фінальн.* **Нахадзіць** (дахадзіць) **у прыпражке** (прысцяжке). Находзіш у іх пріпряжкі, што ня толька чужэя будуць ла́іць, а й свае атряку́цца. Знаю, што находзіць у прісьцяжкі, будзіць усім зы пасьмешышча. Дыхадзіў у пріпряжкі, пыняў, што яны за людзі. І ты можыш дыхадзіць у прісьцяжкі, як твой брат.

**Хадзіць у рыбу** (рыбку), *жарт. Мачыцца ў пасцелі ў час сну.* Ты ўжо вілікува́т хадзіць у рыбу. Нада б табе пірістаць хадзіць у рыбку. *Зак.* **Схадзіць у рыбу** (рыбку). Тады-сяды яшчэ сходзіць у рыбу. Ты, знаць, і сяньня схадзіў у рыбку, сіньнічок мокір.

**Хадзіць хадуном.** *Хваляваццa, трэсціся.* Я ні знаю, чаго ён так худуном ходзіць, відна, крепка дыпяклі. *Непайн.* **Пахадзіць хадуном.** Сьпірва пыхадзіў худуном, а посьлі аня́ўся, сеў кывірза́ць нешта ў карзінкі. *Пачын.* **Захадзіць хадуном.** Аткуль мне знаць, чаго яны худуном зыхадзілі. *Законч.* **Адхадзіць хадуном.** Атхадзілі худуном, пріціхлі, рызва́жыла іх неік ста́рыя Адарка.

**Хадзіць ханалём,** *асудж. Моцна злаваць, адкрыта выражаць злосць.* Паспробый на нохыць ні ўладзь, будзіць хадзіць хына́лём цэлыю нядзелю. *Непайн.* **Пахадзіць ханалём.** Дужа я баюся, кылі ён паходзіць хыналём. *Пачын.* **Захадзіць ханалём.** Уві́дзіў, што я зьбіраюся, і зыхадзіў хыналём, зыгрімеў, як сьвёкыр якей. *Узмацн.* **Нахадзіцца ханалём.** Я сыма знаю, што яны ныхадзіліся хыналём, ну ны каленкі ж піряд імі я стынавіцца ня буду. *Законч.* **Адхадзіць ханалём.** Ці атхадзіў хыналём, ці ўсё яшчэ цябе іржэць нячы́стыя?

**Хазяін свайму слову.** *Той, хто выконвае сказанае, свае планы, абяцанні.* Максім — хызяін свайму слову,

есьлі скызаў, то ўжо будзь надзёжын, ні пыдвядзець. Я ўсігда хызяін свайму слову, есьлі пыбішчаў, у доску рызаб'ю́ся, а вы́пыўню.

**Халера** (халерыя) **сядзіць** [у касцях], *цяп., пр. Пра незвычайны спрыт.* Халера сядзіць у дзіця́х, усюдых іх поўна. Во халера сядзела ў чылавеку, нічога ні було, каб ён ня ўмеў. Ну й сядзіць жа ў ім халерія, чаго ён толька ні выдзелывыіць. Якей ён быў на ўсё здольный, усё дно як у ім халерія сядзела. Ай-я-яй, што ён вытвыря́іць, халера сядзіць у кысьця́х у етыга чылавека. Халера сядзела ў яго ў кысьцях, ён жа ўмеў усё чыста. Ій-пра́ва, халерія, знаць, сядзіць у яе ў кысьцях, нійдзе бізь яе ні апходзіцца. Халерія сядзела ў кысьцях у етыга чылавека ці што? *Гл.* Радзімец сядзіць.

**Халера** (халерыя, хвароба) **не бярэць,** *іран.; цяп., пр. Пра нядрэннае становішча, умовы жыцця.* Халера іх ні бярець, ладна жывуць, зы пасьледнія ўремя абжылі́ся. Зы ба́цькывыю сьпіною халера ні брала, а ны сваём хлебі ніхай падумыюць, як жыць. Што ім дзелыіцца ў маткі, халерія ні бярець. Халерія ні бярець тваю Сашку, сыны сныбжа́юць ды гырла́. Нечыга абіжацца ны сьвякрову, зы яе плічамі хвароба ні брала, а што, бувала, пубурчы́ць, дык стоіла. Ніхай ні абіжаіцца ны сваю жызьню, хвароба яе ні брала. *Гл.* Радзімец не бярэць.

**Хамут на шыю** (шыі), *неадабр. Вялікія турботы, клопат.* Ні нада мне яшчэ адзін хаму́т на шыю, у мяне і бязь естыга ёсьць пра што думыць. Як мне ныдаеў хамут на шыі зь яе клопытымі, ікая йна ніпыня́тлівыя! *Гл.* Пятля на шыю; Чапляць хамут на шыю.

**Хапянуцца** (хамянуцца, шчапянуцца, хваціцца, схваціцца, спахваціцца, пахваціцца) **вума.** *Абразуміцца, пачаць думаць, разважаць.* Дужа ён позна хыпяну́ўся вума. Хымянецца вума, ды сыма сябе за локыць ня ўкусіць. Ніхай, ніхай адурюва́іць, шчыпянецца вума калінебудзь. Хва́цісься, хлопіц, вума, яй-богу, хвацісься, і дужа скора. Тады хваціцца вума, як ызад будзіць позна адзьдзелывыць. Чаго ж ён толька цяперь хваціўся вума, айдзе ён быў раншы. Як ужо ня верніш ызад, дык і ён спыхваціўся вума, абрузуміўся. Вун калі пыхвацілыся вума, а раншы айдзе йна была і што думыла.

**Харошае** (харошанькае, ладнае) **дзела.** *Выражэнне абурэння.* Харошыя дзела мне другей раз плесца ў горыд. Харошынькыя дзела, я зьізьні, калей, а ён будзіць выляцца на печы як быба́к. Прішоў: едзь ты зы яго ў лес, ладныя дзела ехыць маімі гыда́мі, сам ня зломык.

**Хвастом накрываацца,** *неадабр. Забываць абяцанні.* У прівычку увайшло чылавеку: бярець і хвастом ныкрыва́іцца. *Зак.* **Хвастом накрыцца.** Ёй лuччы ні дываць: возьміць і хвастом накрыіцца. Прасіў: дай, ціріз два дні аддам, дык аддаець — як узяў, так і хвастом накрыўся.

**Хвасты звязываць** (вязаць), *неадабр. Правакаваць на сварку, лаянку, непрыязнасць.* Хвасты зьвя́зывыюць, каб самім збоку пысьміяцца. Ты і візала хвасты, нягож чорт сюда пріхадзіў сплетні руспуска́ць. *Зак.* **Хвасты звязаць.** Можа яны хвасты зьвізалі, а можа хто другей, ці ты к каму у душу ўлезіш. *Узмацн.* **Хвасты пазвязываць** (пазвязаць, павязаць). А с тою цэльлю хвасты пызьвя́зывылі, што пастройчыныю думылі папользывыцца. Пріедуць і ўзноў хвасты пызьвя́жуць, бязь естыга яны ня могуць. Скызалі, каб пушуціць, а выйшла хвасты пывізалі. *Працягл.-фінальн.* **Хвасты давязаць.** Большы я нічога гываріць ня буду, ну дывяжуць яны хвасты, нарву́цца калі-нібудзь ны сваё.

**Хватацца за галаву.** *Прыходзіць у жах, адчай.* Хвыта́іцца зы гылаву: што я надзелыў. Нада було раншы хвытацца зы гылаву. *Зак.* **Схваціцца** (хваціцца) **за галаву.** Схваці́лыся зы гылаву, як увідзіла ўсё, толька што ж паможыш. Хваціўся зы гылаву: куды я цяперь пріхіну́ся.

**Хватацца за розум** (вум, розуму). *Рабіцца разважлівым, сталым.* Што хвыта́іцца за розум, хырашо, толька нада було трошку раншы. Ня дужа твой зяць хвытаіцца за вум. Позна ён хвытаіцца розуму, чым ён думыў, калі яго дукува́лі, як нада жыць на сьвеці. *Зак.* **Схваціцца** (хваціцца) **за розум** (вум, розуму). Во калі схваці́ліся за розум, калі пріпякло. Каб ён у прошлым гаду схваціўся за вум, дык ён жа слухыць нічога ні хацеў. Прі́дзіць уремя, хва́цюцца за розум. Цяперя і Пітраковы хваціліся за вум. Чаго ж ён летыся ні хваціўся розуму. *Гл.* Брацца за розум.

**Хватацца за саломіну** (саломінку). *У пошуках вый-*

*сця звяртацца да такіх сродкаў, якія не могуць дапамагчы.* Як хырашо, яму моря пы калена, а ў бядзе зы саломіну хвытáіцца. То ўходу ніякыга ні знаў, а тута ўжо зы саломінку хвытаіцца. *Зак.* **Схваціцца** (ухваціцца, хваціцца) **за саломіну** (саломінку). Мáрхвіны яму, канешня, ні падмога, ета ён схваціўся зы саломіну. Схваціліся зы саломінку, ды ні дзяржыць іна. Ета ты, брат, зы саломіну ухваціўся. Сьпірва адурювáюць зь естыю гарелішчыю, твырáць, а туга прíдзіцца — зы саломінку хвáцюцца. Хваціўся зы саломіну у пустэй сьлед. Хваціліся зы саломінку, а йна ні дзяржыць. *Параўн.* Як топісься, зы саломіну хопісься; Калі топісься, зы саломінку ўхопісься.

**Хватацца ў рогі** (рожкі), *жарт. Рабіць наперакор, пярэчыць раптоўна, без злосці.* Сколька яму, ішчэ сімнаццыці німа, а ўжо хвытаіцца ў рогі як бальшэй. Прівык хвытацца ў рожкі, ня дужа ўстýпіць. *Зак.* **Схваціцца** (хваціцца) **ў рогі** (рожкі). Адна ні пыддаецца і другая ні ўступаіць, як схваціліся ў рогі — жывáя указэя. Схваціліся ў рожкі с Тымаркыю ого як, во табе й малінькія. Зрáзу хваціліся ў рогі, а посьлі чуць ныпрáўду ні пысварíліся. Усё стырáіцца хваціцца ў рожкі. *Гл.* Іціць у рогі.

**Хватаць** (браць) **ваўка за рогі,** *неадабр., рэдкаўж. Паказваць адзнакі актыўнай дзейнасці пры поўнай бяздзейнасці.* Ці мы ня відзілі, што яны дзелылі, хвытáлі вуўкá за рогі. Твой Лёвычка бярець вуўка за рогі. *Зак.* **Схваціць** (узяць) **ваўка за рогі.** Ён сытваріў ого сколька, вуўка за рогі схваціў. Дзела будзіць ні мала, возьмуць вуўка за рогі.

**Хватаць ваўка за хвост** (вушы). *Паказваць адзнакі актыўнай дзейнасці.* Ну, ён думыў, тут первый будзіць, хвытаў вуўка за хвост. Ты куды ня кінісься, усюдых хвытáіш вуўка за вушы. *Зак.* **Схваціць ваўка за хвост** (вушы). Дужа многа зьдзелылі, схвацілі вуўка за хвост. Ета работнік на ўсіх сто, усюдых схваціць вуўка за вушы. *Узмацн.-множн.* **Пахватаць ваўкоў за хвост** (вушы). Тваё пляменьнікі пыстырáліся, пыхвытáлі ваўкоў за хвост. Ім толька воля нада ды разгон, зразу пыхвытáюць ваўкоў за вушы. *Працягл.-фінальн.* **Нахватаць ваўка за хвост** (вушы). Разгорніцца і разьверніцца, ныхвытаіць вуўка за хвост, будзіць зьдзелына. Ого, як

ты ныхвытаў вуўка за вушы, пакосы як ліжалі нірысь-кіда́ныя, так і сохнуць.

**Хватаць за бок** (за бак), *асудж., часам мн. Рабіцца, тварыцца.* Чаго іх там хвыта́іць за бок, аж рысьсіда́юцца. Доўга нешта хвытала яго за́ бык. Ні знаю, ці скора пірістаніць іх зы бакі́ хвытаць. *Зак.* **Схваціць** (хваціць) **за бок** (за бак). Нешта ж схваціла яго там за бок. Ня трогый луччы, узноў схваціць за́ бык, места ня будзіць. Хваціла нечыга зы бакі́, рыскріча́ўся як пулуву́мный. Трецьцій раз хваціла за́ бык яго, ні так ступілі пібіт такою асобыю.

**Хватаць за горла** (глотку). *Настойліва, нахабна прыставаць, дамагацца.* Ён тама наўчы́ўся хвытаць за горла, такоя ска́жыць, што і ўва сьне ні сасьні́ш. Ні хвыта́й за глотку, я тожа кой-што знаю. *Зак.* **Схваціць за горла** (глотку). Пасты́лыя людзі яны, схва́цюць за горла, нівінува́тыга вінуватым зьдзелыюць. Пряма быў схваціў за глотку: мы відзілі, а я яму пры стажок, дык зразу асеўся, як язык прыглыці́ў. *Гл.* Б р а ц ь з а г о р л а.

**Хватаць на слове.** *Пацвярджаць сказанае раней.* Я табе ні мальчы́шка, што ты мяне хвыта́іш на слові. *Зак.* **Схваціць на слове.** Схваці́лі на слові, дык яму некуды выкру́чывыцца. *Гл.* Л а в і ц ь н а с л о в е.

**Хватаць цераз край.** *Рабіць недарэчы, не да месца, сцвярджаць відавочную хлусню.* Ціряшчу́р джог, айдзе й ні нада, хвытаіць ціріс край. *Зак.* **Хваціць цераз край.** Хваці́лі ціріс край, пірістыря́ліся с погрібым. Тута ён хваціў ціріс край, такога ніўдзе ў сьвеці ні було.

**Хваціць розуму** (вума) (*каму*), *неадабр.*; *буд., пр. Пра неабдуманасць паступкаў, учынкаў.* У вас хва́ціць розуму і ў дзіцёнка шапку адбіра́ць. Хваці́ла ж розуму ў чылавека твары́ць еткыю дурату́. Што гываріць пра Мішку, кылі ў яго хваціла вума з дрю́кым гыня́цца зы чылавекым. *Незак., рэдкаўж.* **Хватаець розуму** (вума), *цяп., пр.* На што-небудзь дурноя у іх усігда хвыта́ла розуму. У сад зла́зіць, гуркі вы́цірць — на ета хвытаіць вума, і пызыча́ць ні нада.

**Хвост паказываць,** *жарт. Уцякаць.* Ты, храбрец, столька разоў хвост пыказывыў, што ні сышчыта́ць. *Зак.* **Хвост паказаць.** Мы нарошня скызалі, што сюда хлопцы

ідуць, ён зразу хвост пыкызаў. Крічыць: «Дывай руж'ё, улажу!»— а тэй заіц толька хвост пыкызаў.

**Хвост умакываць.** *Умешвацца.* Ён часьценька хвост умакывыў куды ні нада. А нашто вам хвост умакывыць, у іх даўнія шчоты. *Зак.* **Хвост умакнуць.** Хвост умакнуў і сам ні рад: пыняў іх атнашэніі. *Узмацн.-множн.* **Хвасты паўмакываць** (паўмакнуць). Мала було адных, і другея пыд'явіліся, хвасты пыўма́кывылі. Кылі хвасты ні пыўмакнуць, пряма ня жывы. *Працягл.-фінальн.* **Хвост наўмакываць** (даўмакываць). Ныўмакывыў хвост, што адны ныла́ілі і другея ныстрамі́лі. Дыўма́кывыла хвост, маўчыць, як вады у рот ныбрала.

**Хіліць** (прыхіляць) **галаву.** *Знаходзіць прытулак, спагаду, спачуванне.* Канешня, і с Андреівымі ў харошых атнашэнііх, а большы **г** брату хіліць гылаву. Трошку пріхіля́лі гылаву кыла Нінкіных. *Зак.* **Прыхіліць галаву.** Айдзе ж ба я пріхіліла гылаву, каб ні ў сястры. *Гл.* Галаву прытуляць.

**Хісць не хінець,** *цяп., пр., буд. Пра непрыязныя пачуцці.* К такім сваім і хісьць ні хінець. Ніcколька ў яе к Анічонку хісьць ні хінула. Посьлі ўсяго етыга ня будзіць хісьць хінуць к табе. **Хісць хінець.** А цябе б разьві хінула хісьць, каб відзіла такоя кажный дзень.

**Хітрыкі на мудрыкі.** *Няўдалыя, раскрытыя хітраванні.* Думыў, што ён любога можыць прайці́ць, а тута пупа́ліся хі́трікі на му́дрікі. Нічога ні пулучы́лыся ў яго, найшлі́ хітрікі на мудрікі. *Гл.* Мудрыкі на хітрыкі.

**Хлебам не кармі,** *адз., мн. Пра вялікае захапленне, жаданне, імкненне.* Ета такей чылавек, што яго хлебым ні кармі́, а дай сваё дзела зьдзелыць. Яе хлебым ні кармі́, дай нылыскыта́цца уволю. Хлебым іх ні карміця, яны сваімі ба́йкымі сыты будуць.

**Хлеб ды соль.** *Пажаданне добрага апетыту. Гаварыць пры ўваходзе ў хату, калі там абедаюць.* Хлеб ды соль.— Ем, ды свой, а ты так пастой.

**Хлеб есць.** *Мець як сродак для існавання.* З гу́ліў хлеб есьць ня будзіш. Ты, знаць, сы свайго ізыка длінныга сыбіра́ісься хлеб есьць. *Непаўн.* **Хлеб паесць.** Пыясі́ хлеб гуля́ючы, будзіш сыт. *Працягл.-фінальн.* **Хлеб наесць.** Ныясі хлеб прі такой рупыці, будзіць наеджына.

**Хлеб і да хлеба.** *Пойны дастатак.* Кылі жыць умеіць, то будзіць хлеб і да хлеба. Стыра́юцца, дык і ёсьць хлеб і да хлеба. Хлеб і да хлеба самі ні пріходзюць.

**Хлеб-соль.** *Пачастунак, прыём; утрыманне.* Мы блыгыдарі́м вам за хлеб-соль. Вам нільзя ні ў жысьць зубува́ць яе хлеб-соль. Хлеб-соль еж, а праўду реж!

**Хлопаць вачамі.** *Глядзець разгублена, не разумець.* Чаго ты хлопыіш вычáмі, гывbooрі, як там було, ці доўга вазі́ліся. *Непайн.* **Пахлопаць вачамі.** Пыстыяў, пахлопыў вычамі, нічагенічка ён ні пыняў, што к чаму гыварілыся. *Пачын.* **Захлопаць вачамі.** Усе зысьміяліся кругом, а ён захлопыў вычамі. *Працягл.-фінальн.* **Нахлопаць** (дахлопаць) **вачамі.** Ну што, нахлопыў вычамі, айдзе цяперя цілят тых іскаць. Дахлопыіш вычамі, штоішчэ зыработыіш. *Гл.* Вачамі лупаць.

**Хлопаць вушамі.** *Слухаць, не ўлоўліваючы сэнсу.* Што хлопыіш вушамі, табе ж ясна скáзына: ідзі. *Непайн.* **Пахлопаць вушамі.** Толку то будзіць, кылі ён пыстаіць тама, пахлопыіць вушамі. *Законч.* **Прахлопаць вушамі.** Луччы ні пысыла́й, прахлопыіць вушамі і ўся польза будзіць. *Працягл.-фінальн.* **Нахлопаць** (дахлопаць) **вушамі.** Слу́хый, кылі гаворюць, ато нахлопыіш вушамі. Дахлопыіць вушамі рызівон етый.

**Хлюпаць носам,** *іран. Плакаць горка, ціха.* Нечыга хлюпыць носым, ежылі сам ува ўсім вінува́т. *Непайн.* **Пахлюпаць носам.** Троху пахлю́пыла носым, а тады пышла́, знаць, к Пынкратывым. *Пачын.* **Захлюпаць носам.** Луччы ні чыпа́ць склі́мы, узноў захлюпыіць носым. *Законч.* **Адхлюпаць носам.** Зы два дні атхлюпыла носым, хва́ціць зь яе. *Працягл.-фінальн.* **Нахлюпаць носам.** Нахлюпыіш носым, што яшчэ ремінь паходзіць.

**Хлягі падымаць** (паднімаць). *Праяўляць імклівасць, спрыт, стараннасць.* Так ты і к вечыру ні зайдзіш, нада пыдымаць хлягі. Пыдымай-ка хлягі, а ні кыпашыся як куріца. Твой ру́пытнік ладна хлягі пыднімаіць: дзела гаріць, а ён сьпіць. *Зак.* **Хлягі падняць.** Сяньня і яго пунтухлёўка хлягі пыдніла́. Пасьледнія ўремя Сільчанок троху пыдняў хлягі. *Узмацн.* **Хлягі пападнімаць** (пападняць). Відзіш, як пыпыднімáлі хлягі: атавыю зыпáхла. Прі́дзіць урем<br>я, пыпаднímуць і яны хлягі: *Працягл.-*

*фінальн.* **Хлягі нападнімаць.** Ныпыднімáіць ён табе хлягі, урадзіўся гультаём і астáніцца нáвік.

**Хмара хмараю.** *Пахмурны, змрочны.* Нешта Платон сяньня ходзіць хмáра хмарыю. Відзілі яго: хмара хмарыю, на сьвет ні глядзіць. *Гл.* Т у ч а т у ч а ю.

**Хмель выйшаў** (вылецеў, выскачыў, выветрыўся, прапаў) [з галавы], *пр., буд. Пра хуткае ацверазенне.* Як увідзіў, што Прося ідзець сюда, у яго і хмель выйшыў. Ня ўстрэціўся ён нам, у яго быйстра б хмель вы́ліціў. Пыдажджы-ка, я пызаву́ мушчын, тады скорінька хмель вы́скычыць. Во, відзіш, і хмель зы мінуту вы́вітріўся. Січас хмель прыпадзець: бацька сюды едзіць. Як хвачу́ мятлу́, у цябе зразу хмель выйдзіць з гылавы. Ніхай Іван стреніцца, мігым хмель выліціць з гылавы. А я гляджу, чаго так скора хмель з гылавы вы́скычыў. Во й хмель з гылавы вы́вітріўся, за розум схваціўся. *Узмацн.-множн.* **Хмель павыхадзіў** (павылятаў, павыскакываў, павыветрываўся, папрападаў) [з галавы]. Сямён толька пальцым кіўнуў, і хмель у іх пывыхадзі́ў. Як увідзюць пу́гу, і хмель пывылітáіць. Пастой-ка мінутку, січас увідзіш, як хмель пывыскáкывыіць. Стыршына як пад'ехыў, то ў іх зразу хмель пывыветрівыўся. Хочыш пыглядзець, як у іх хмель пыпрыпыдáіць? Скора тут бацька будзіць, хмель у іх з гылавы пывыходзіць, ручáюся. Ну што, пывылітаў хмель з гылавы? Ніхай хмель з гылавы пывыскакыіць, тады пыгаворіш. Хмель з гылавы пывыветрівыўся, можна йціць. Як зыпáхла лупцоўкыю, і хмель з гылавы пыпрыпыдáў, прыцьвірязелі.

**Ходу не даваць.** *Перашкаджаць праяўляць сябе.* Ім Васіль ходу ні даець, ніяк тых бумáжык забыць ня можыць. *Зак.* **Ходу не даць.** Скызаў, ні дам яму ходу і ні дам, ніхай паву́чыцца на сьвеці жыць.

**Хоццю-няхоццю** (хоцькі-няхоцькі). *Без асаблівага жадання.* Вы́прывіла, хоцьцю-няхоцьцю пашоў. Хоцьцюняхоцьцю прівёз воз дроў. Паехылі хоцькі-няхоцькі, айдзе ж яны дзенуцца.

**Хоць ба хны,** *неадабр. Пра поўную абыякавасць.* Я гывáрю: нада біряжкі пыткáшывыць, а ён худзь ба хны, ноль унімáнія. Табе ўсё худзь ба хны, ты самый гіройскій у нас.

**Хоць вазьмі** (вынь) **хоць палож.** *Пра поўную абыякавасць.* Ды яго нічога ні даходзіць, хуць вазьмі хуць палож. Хут ты вынь хуць палож — ня хочуць пынімаць нічога, як палкі дроў.

**Хоць вару ліні.** *Пра выключнае непаслушэнства, гультайства.* Ніпываротліў, яму хуць ва́ру ліні́, ня дужа падні́міцца. І ні клапоцюцца, і ні забоцюцца, і ня думыюць ні пра што, хуць вару на іх ліні. *Параўн.* П а д л і ц ь в а р у; У з л і ц ь в а р у.

**Хоць ваўкоў ганяй.** *Пра вялікі прастор або холад у памяшканні.* Пу́ня бальшэнныя, хуць ваўкоў гыняй, і пуста, адны сьцены. Тая хата хуць ваўкоў гыняй, нашто було еткыю рызвадзі́ць.

**Хоць ваўкоў** (сабак) **марозь.** *Пра няўцеплены, недагледжаны вялікі будынак.* У за́дній хаці яны ні жывуць, зімою там буваіць хуць ваўкоў марозь. Сяні́ца пустая, хуць ваўкоў марозь. Січас можна жыць, а зімою будзіць хуць сыбак марозь, такую хату нада пірігыра́джывыць.

**Хоць вока выкаль** (на ражон нясі). *Пра абсалютную цемень.* Еткыя стала цімныта́ хуць вока вы́кыль. Ня відна нічагенічка, хуць вока ны ражон нясі. Цімныта была хуць вока ны ражон нясі́, айдзе б яны яго пірінялі, яму сто дарог, кіньсся куды хочыш.

**Хоць вушы затыкай.** *Пра гучны, рэзкі бязладны крык.* Чаго яны там крічаць хуць вушы зытыка́й. У кыцманожкі ў тае справілі галдзёж хуць вушы зытыкай.

**Хоць выжмі** (атажмі). *Пра вельмі мокрае.* Стыря́іцца, бярець на ўсю сілу, а тады ўжо ўваб'ецца, руба́шку cькініць, дык іна хуць вы́жмі. Прішоў, усё на ём хуць атажмі́, цякець і плувець зь яго.

**Хоць вый** (кукуй) [хоць вый хоць кукуй]. *Пра безвыходнасць становішча.* У мяне було так скла́лыся пылажэнія хуць вый. Стала ёй хуць кукуй, а што ж ты кукува́ньнім паможыш. Хуць вый хуць кукуй адно й тоя ж будзіць. *Параўн.* Хочыш вый, хочыш кукуй, а з магілы ні падніміш.

**Хоць вяроўкі ві** (круці). *Пра вялікую лагоднасць, рахманасць.* На Лёшку табе абіжа́цца нечыга, ён такей, што хуць вярёўкі зь яго ві. Ета ён раншы быў хуць вярёўкі зь яго ві. Ета ён раншы быў хуць вярёўкі круці,

пасьледнія ўремя саўсім другей стаў. *Параўн.* **В і ц ь в я р о ў к і.**

**Хоць галавою аб** (у) **сцяну** (сценку) **біся** (ударся). *Пра безвыходнасць становішча.* Мне раз було хуць гылавою ап сьцяну́ біся, во як було. Адной астацца дужа цяжола, сядзіш як ту́рык у ха́ці, хуць гылавою ап сьценку біся. Зь імі хуць гылавою ап сьцяну ударься, нічога ні дыпяўнісься. То гывару́ша, дзень і ноч ні змуўка́іць, а то нешта на́йдзіць ны яго, хуць гылавою ап сьценку ударься, слова ня вы́цігніш. Паедуць, аста́нуся адна, будзіць хуць гылавою ў сьцяну біся. Хуць гылавою ў сьценку біся, дык нызад ні пады́міш. Зь естым артамоным хуць гылавою у сьцяну ўдарься, нічога ні ўталку́іш. Чаго с табою стала хуць гылавою у сьценку ўдарься, як шыма́к нейкій.

**Хоць** [галавою] **у пятлю.** *Пра гатоўнасць да безразважных учынкаў.* Вашыму атлёту усё ніпачом, любую мінуту гатоў хуць у пятлю. Яму хуць гылавою ў пятлю, абы толька лезьць куды.

**Хоць гвалту** (гвалтам) **крычы.** *Пра немагчымасць знайсці выхад самастойна.* На нейкыя поля вы́білыся, а куды і што — ні знаю, стаю адна, нійдзе ні гу́ка, хуць гва́лту крічы, ніхто ні пачуіць. Нійдзе нікога, хуць гва́лтым крічы, помышчы ні дажджэсься.

**Хоць да раны прыкладай** (кладзі, прыкладзі, прыкладывай, лажы, прылажы). *Пра выключную лагоднасць, рахманасць.* Сяньня ён настолька добір, хуць ды ра́ны яго пріклыда́й. Ідзець, трепліцца, ізыком меліць — **харош**, хуць ды раны кладзі́. Рыздабреў хуць ды раны яго пріекладзі. Іван зьдзелыўся хуць ды раны пріэкла́дывый. Нейдзі ча́рычку пасьпеў ухваці́ць, мяккій хуць ды раны лажы. Другей раз хуць ды раны прілажы яго, а калі слова пу́тныга ні пачуіш.

**Хоць жару падсып** (сыпні). *Пра бяздзейнасць, няспешлівасць у дзеяннях, ураўнаважанасць.* Што ты яму зьдзелыіш, зь места ня строніш, хуць жа́ру пацсы́п. Хуць жару яму сыпні́ тыкая ўпора, дужа ніпуцёвый. *Параўн.* **П а д с ы п а ц ь ж а р у.**

**Хоць** [жывым] **у гроб лажыся** (ляж, кладзіся, у зямлю лезь). *Пра адчай.* Хуць у гроб лажы́ся, етык ня хочуць слу́хыць дзеці. Саўсім пыніма́ць ні пынімаіць,

хуць у гроб ляж. С такім чылавекым жыць хуць у гроб кладзіся. Аць цябе хуць у зямлю лезь, ты ж нічога паможч ня хочыш, дайжа дзіцёнка ні памы́іш. Хуць жывым у гроб кладзіся з вамі, каб хуць у чым-нібудзь сачу́ствывылі. Так духі ат'елі, што хут ты жывым у гроб ляж ат іх. Што ты дзелыіш, як ты пуступа́іш, хуць у гроб жывым кладзіся ат твайго атнашэнія, ты пры сям'ю і думыць забыў. Ёй було прішлося хуць жывою у зямлю лезь, саўсім вы́хыду ня відна було. *Параўн.* Іціць у магілу.

**Хоць за бок** (за бак) **укусі** (кусай, угрызі, гладані). *Пра немагчымасць уздзейнічаць.* Пысыла́ла — ня йдзець, хуць за бок укусі. Кыча́іцца вун ны саломі, хут ты яго за́ бык укусі. Ну сколька ж над ім ка́нькыць, хуць за бок яго кусай. Хуць за бок угрызі твайго Іваньку, такей ён слухмя́ный. Хуць за́ бык угрызі етыга хлыпца́, ні ка́пількі ня слухыіць. Хуць за бок глыдані́, ня хочыць ехыць. *Гл.* Кусаць за бок.

**Хоць заваліся.** *Пра вялікую колькасць розных рэчаў.* Дроў у іх хуць зываліся, ны два гады абясьпечыны. У яе ўсігда́ і бобу, і гароху, і квасолі хуць зываліся.

**Хоць закачайся.** *Пра выключна добрыя ўмовы жыцця.* Іх жысьць хуць зыкыча́йся, такея вы́гыды німа нійдзе. Твыя жызьня хуць зыкычайся, што табе атходзіць.

**Хуць закупайся.** *Пра поўную забяспечанасць, выгоды.* Усяго ў яе поўна хуць зукупа́йся, ёй пры такія выгыды раншы і ня сьнілыся.

**Хоць за лаб** (за лоб) **цягні** (ухвацi), *жарт. Пра непаслухмянасць.* Нешта сяньня ўпёрся, ня йдзець хуць за́ лыб цягні. Хуць за́ лыб ухваці́ такога неслуха. Еткій бальшэй мальчы́шка, а яго хуць за лоб цягні, ай, як стыдна. Што йта цябе стала хуць за лоб ухваці.

**Хоць здохні** (здыхай, выцягніся, выцягывыйся), *груб. Пра безнадзейнасць заслужыць удзячнасць, дасягнуць завяршэння і г. д.* Дужа нісызна́цільный чылавек, хуць здохні ні ў чом ні паможыць. Хуць здыхай тут, дык ні глянуць і ў тэй бок. Хуць вы́цігніся, ні дыста́ну, па́льцымі трогыю, а ні схвачу́. Ці хырашо табе, ці духі́ вон лезуць, хуць выця́гывыйся ні пыспыгыда́ють.

**Хоць з моста ў воду.** *Пра поўную безвыходнасць.*

Былі дыжыліся хуць з моста ў воду. Ат такога мужука́ як ты хуць з моста ў воду.

**Хоць з пушкі страляй.** *Пра немагчымасць уздзейнічаць.* Хуць с пу́шкі стріляй, ды яго нічога ні даходзіць. Такім хуць с пушкі стріляй — ніякыга толку.

**Хоць зубамі грызі.** *Пра цвёрдае, сухое.* Яно тута засохла ўсё й пірясохла, хуць зубамі грызі — ні дзьдзіра́іцца. Прікарела хуць зубамі грызі, нада ў атмочку дні ны два класьць, тады, можа, атмыіш як-небудзь.

**Хоць зубамі ляскай** (лескачы). *Пра незгаворлівасць; адсутнасць неабходнага.* У такея хызяйкі хуць зуба́мі ля́скый, ня дужа пажы́вісься. Пріжыліся — крошкі хлеба німа, хуць зубамі ліскачы́, нада скарей у ла́ўку бежч. *Параўн.* Ляскаць зубамі.

**Хоць іголкі збірай** (сабірай). *Пра светлую, месячную ноч.* Што ж ты ні замеціў, што цякець, усю хату пытпла́віла, тут жа відна хуць іголкі зьбіра́й. Учора была ноч сьветлыя хуць іголкі сыбірай, а сяньня ня тоя.

**Хоць каравул крычы.** *Пра нясцерпнае, амаль невыноснае становішча.* У яго жызьня хуць кырав́ул крічы́, грызу́ць с усіх бакоў. Тады нам як прішлося хуць кыравул крічы, ніякыга вы́хыду.

**Хоць карціну** (карцінку, партрэт, палтрэт) **пішы.** *Пра выключную прыгажосць.* Прівёз сабе са сьвету жонку, дык хуць карціну пішы зь яе, толька есьць варі́ць ня ўмеіць. У яго красівыя дзяўчонычка пыдрыста́іць, хуць карцінку пішы. З вас хуць партрет пішы, па́ра на ўсіх сто з га́кым. Ён сяньня харош, хуць палтрет пішы.

**Хоць касу закладай** (закладывай). *Пра вялікую колькасць (звыч. грыбоў, ягад, шчавелю).* Ну другу́ю лашчы́нку як нарьвесься, хуць касу зыклыда́й, аж кра́сна ат пыдасі́нывікыў. На ху́тыры пы кына́вых було шчаўлю хуць касу зыкла́дывый.

**Хоць кінь** (выкінь, кідай, выкідай). *Пра рэч, не вартую ўвагі.* Во пашы́ла кохту дык пашыла, хуць кінь. Хуць вы́кінь — тыкая твыя бульба, у рот нільзя́ ўзяць. Зьдзелыў дык зьдзелыў граблі, хуць кіда́й на месьці. Купіла пулусі́тык хуць выкіда́й, мукі насы́пыла, а ён з двух бакоў аџьсеў.

**Хоць кінь хоць клін.** *Пра безвыходнасць.* Дыжыла́ся хуць кінь хуць клін. Хуць кінь хуць клін, вы́хыду мне тады саўсім ні було.

**Хоць кол на галаве цяшы** (чашы). *Пра пойную незгаворлівасць, непаслухмянасць.* Яму хуць кол ны гылаве цяшы́, во настолька ня хочыць слухыць. Што скажы, нічога ні пынімаіць, хуць кол ны гылаве чашы́.

**Хоць круць-верць хоць верць-круць,** *жарт. Пра адсутнасць розніцы, ідэнтычнасць.* Хуць круць-верць хуць верць-круць, а як ні було ў яе нырма́льныя жызьні зь естым мужуком, так і ня будзіць.

**Хоць куды.** 1. *Куды-н., у любое месца.* Сыгла́сін ехыць хуць куды. Хуць куды пойдзіць, толька пызаві. 2. *Вельмі добры.* Хуць куды дзеўка, другую такую найціць пыспрабу́й. Войстрый, лёгінькій, хуць куды тапорік. 3. *Вельмі добра.* Захочыць — зьдзелыіць хуць куды. Шуба пашыта хуць куды, у ёй ніякій мароз ня пройміць.

**Хоць лажыся** (кладзіся) **ды памірай.** *Пра безвыходнасць.* Ён апусьці́ўся, дажы́ўся так, што хуць лажыся ды пымірай. Я ніяк толку ні дыбяру́ся, хуць кладзіся ды пымірай. Хуць кладзіся ды пымірай зь еткімі неслухымі.

**Хоць лапатаю грабі.** *Пра вялікую колькасць, мноства.* Ніхай дужа ні пла́чыць, ні прітвыря́іцца, у яе грошы хуць лупа́тыю грябі. Тама зыпасыў ныкла́джына хуць лупатыю грябі. *Параўн.* Грэсць лапатаю.

**Хоць лопні** (трэсні). 1. *Пра немагчымасць уздзейнічаць.* Хуць лопні, зь ім ні дыгаворісься. Лёньку гываріць біспалезна, хуць тресьні — ні паслу́хыіць. 2. *Пра безумоўнасць, абавязковасць выканання.* Хуць лопні — зьдзелый яму і слова ні гыварі́. Ідзі хуць тресьні і ўсё, ні на што ня хочыць глядзець.

**Хоць ляж** (разбіся). *Пра абавязковасць выканання.* Дыва́й яму грошы ны касьцю́м ету мінуту хуць ляж, — так прістáў. Пішыць: пріiжджа́й хуць разьбі́ся, а ны каго я кыравёнку кіну, ня думыіць.

**Хоць лясніся** (ударся). *Пра непаслухмянства.* Хуць ля́сьніся, нічога зь ім ня зьдзелыіш. Ня слу́хыіць і большы нічога, хуць уда́рься с такім чылавекым.

**Хоць махалам махай** (махайся). *Пра немагчымасць пазбавіцца, адчапіцца.* Як пріста́нуць, як прівя́жуцца,

хуць ма́хылым мыха́й, ні аччэпісься. Хуць махылым мыхайся ат етых курей, як сенцы аччыніў, так яны кучыю грімя́ць. *Парайн.* Махалам махацца.

**Хоць на кій вярні.** *Вельмі многа.* За́ зіму утрёх пылацён нытка́лі хуць на кій вярні.

**Хоць на край свету.** *У любое месца.* У любэй мамент гатоў хуць ны край сьвету, доўга угыварівыць ні нада. Скажы, і пойдзіць тую мінуту хуць ны край сьвету. *Парайн.* На край свету.

**Хоць на нож** (шыла). *Пра гатоўнасць на любую рызыку.* Такей ужо ачча́інный, хуць на нож у любую мінуту гатоў. Ні на што ні глядзі́ць, хуць на шы́ла і лезіць.

**Хоць на сцяну** (сценку) **лезь** (кідайся). *Пра безвыходнасць становішча.* Во за́муж бабі пупа́ўся, хуць лезь ны сьцяну ат такога замужа. Хуць ны сьцяну кіда́йся, нічым яму ні паможыш. Хуць на сьценку лезь ат іхных угаворыў, яны ныўгыва́рівыюць. Яму сьмешкі, а ёй хуць на сьценку кі́дыйся. *Парайн.* Лезць на сцяну.

**Хоць нож у серца.** *Нізашто, ні ў якім разе.* Хуць нож у серца, ні паслу́хыіць, будзіць сваё твары́ць.

**Хоць** [па костачках] **разбяры.** *Пра ціхмянасць, рахманасць.* Етый конь ціхій, хут ты яго рызьбярі, будзіць стыяць. Пацьцёлкым была хуць рызьбярі, а січас носіцца з рыгамі — пыдыйці́ць папробый. Дужа спакойныя цёлычка, хуць яе па костычкых рызьбярі.

**Хоць плач** [хоць скач]. *Пра немагчымасць уздзейнічаць.* Стругаю, стругаю, а яно ўсё шурпа́тыя, ні пулуча́іцца хуць плач. Хуць плач зь естым скатом, ліця́ць на злом гылавы куды пупа́ла. Во пупа́ўся ў піряплёт, хуць плач хуць скач.

**Хоць прасі хоць малі.** *Пра безумоўную адмову.* Хуць прасі хуць малі — і ня ўпросіш, і ня ўмоліш, нічога ды яго ні даходзіць. С адным дыгаворісься пы-чылавечыскі, а другога хуць прасі хуць малі — ні паслухыіць.

**Хоць пруд прудзі.** *Пра вялікую колькасць, мноства.* Ныкря́тыў кучы бульбоўніку хуць пруд прудзі́, куды зь ім дзівацца. Нечыга яму стыгнаць, тамыцька грошы нухува́на хуць пруд прудзі.

**Хоць пулю ў лоб** [пусці (пускай)]. 1. *Пра безвыходнасць.* Ён тады дажы́ўся хуць пулю ў лоб. Бязвы́хыдныя пылажэнія, хуць пулю ў лоб пусьці. Я ні хачу так дыжыва́цца, што хуць пулю ў лоб пускай. 2. *Пра непаслушэнства.* Хут ты яму пулю ў лоб, ні паслу́хыіць, кылі ўвапрецца. Лёг і ляжыць, хуць пулю ў лоб пусьці, ня хочыць слухыць. Хуць пулю ў лоб пускай, ня зьдзьві́ніцца зь места.

**Хоць разарвіся** (парвіся). 1. *Пра перагружанасць працай.* Работы летым хуць рызарьві́ся, каб чатыры рукі було, ні хваці́ла б. Січас ны мяне нывалі́лыся ўсяго хуць парьві́ся. 2. *Пра дарэмнасць намаганняў, няўдзячнасць.* Твайму Антону дзелый хуць рызарьвіся, спасіба ні пачуіш. Хвыта́й хуць парьвіся, ня дужа пацскочыць паможч. Хуць парьвіся, усяго ні пірядзелыіш.

**Хоць расперажыся.** *Пра вялікую колькасць чаго-н. для спажывы.* Столька було ныгатоўліна — і нывáріна, і напечына, і сьцю́дню разьлі́та, і вінігреты ўсякія — еж хуць рысьпіряжы́ся. Во бліны, а вун сьмітана ў ла́ткі, поўныя — еж хуць рысьпіряжыся. Сталы былі зыста́ўліны усім усякім — хуць рысьпіряжыся.

**Хоць ровам раві.** *Пра немагчымасць уздзейнічаць, выклікаць спагаду, выканаць.* Аста́ніськя адна ў хаці, дык хуць рёвым ряві. І ныха́льный, і бяссовісный, хуць рёвым ряві — ніякыга сачу́ствія ат яго. Тама калодзішча як каню дзёрнуць, хуць рёвым над ёю ряві — ні ўскладзеш.

**Хоць рэж** [на часці (кускі)]. *Пра немагчымасць уздзейнічаць.* Упёрся — ні пайду, і ня пойдзіць хуць реж, я яго знаю. Дужа упорлівый, хуць реж ны ча́сьці, нічога ні паслухыіць. Хуць ну ускі́ реж ці боім забі́, а калі сь первыга слова ні паслухыў, то ўжо нічога ня зьдзелыіш,— і ў каго ён такей урадзі́ўся?

**Хоць рэпку** (рэпу) **грызі,** *жарт. Пра безвыходнасць.* Ну, раз дажы́ўся хуць репку грызі́, то дзелыць табе нечыга. Пріжыўся хуць репу грызі, а раншы і аць сьмітанкі атвыра́чывыўся.

**Хоць рэпку** (у рэпку) **пей.** *Пра безвыходнасць.* Да, яго пылажэнія хуць репку пей, і помышчы ні́які ніатку́ля. Івану хуць у репку пей, крепка пупаўся із-зы свае бязду́мнысьці. *Гл.* Пець рэпку; Пець у рэпку.

**Хоць рэпу** (рэпку) **сей.** *Пра вялікі бруд (звыч. на дзецях).* У тваіх вуша́х хуць репу сей, яны ат роду ці мы́тыя. Ны гылаве грязі хуць репку сей, вы́рысьціць біз удабренія.

**Хоць сьвятых вынасі** (вон нясі), *неадабр. Пра страшэнны шум, гвалт, лаянку.* Пыдня́лі ў хаці тырыра́м хуць сьвятых вынасі. Кажный вечыр такоя твыря́ць хуць сьвятых вон нясі.

**Хоць стой хоць падай.** *Пра няпэўнасць становішча.* Ай, тута яе жызьня хуць стой хуць па́дый. Хуць стой хуць падый, тута тру́дна што-небудзь прідумыць.

**Хоць тапор вешай** (падвешывай, чапляй). *Пра накуранасць у памяшканні.* Я зайшоў, а тама хут тапор вешый, з-за дыму ня відна нічога. У вас тута хут тапор падвешывый, дзьверi аччыні́ця. Дыму, што хут тапор чыпля́й, ні прыдыхну́ць.

**Хоць у агонь** [хоць у ваду]. *Пра гатоўнасць на любыя, самыя адчайныя ўчынкі.* Толька нымякні, січас гатоў хуць у агонь. Ну, с табою мы хуць у агонь. Ён у любоя ўремя гатоў хуць у агонь хуць у ваду.

**Хоць у вір галавою.** *Пра безвыходнасць становішча.* Зразу хырашо, хырашо, а тады як прідзіцца хуць у вір гылавою, тады к маткі бягіць.

**Хоць у лоб страляй** (стралі, стральні, стрэльні, стрэль). *Пра непаслушэнства.* Хуць у лоб стріля́й, ня хочыць нічога пыніма́ць. Ну і зыда́ўся неслух, хуць у лоб стрялі, ня слухыіць нічагенічка. Такей ба́лыўнік стаў, сарвігылыва́, хуць у лоб стряльні нікога ў рязон ні бярець. Часта буваіць, што ўвапрецца, хуць у лоб стрельні. Хуць у лоб стрель, ні паслухыіць, калі што ні пы яго.

**Хоць у магілу лезь.** *Пра безвыходнасць становішча.* Хуць у магілу ат яго адурюва́ньня лезь. С такім мужуком дыжывесься, што хуць у магілу лезь.

**Хоць у пятлю лезь** (у пятле захлясніся). *Пра безвыходнасць становішча.* Другей раз, кажыцца, хуць у пятлю лезь, а тады неік абду́мыісься. Калі табе хуць у пятлю лезь, то што тады гываріць пры Аксюту. Мне січас і так хуць у пятле зыхлясьні́ся, а ты ні спыгыда́іш ні ў чом. Ну што ты гаворіш хуць у пятле зыхлясьні́ся, і ціжалей

буваіць, ды жывуць. *Параўн.* Хоць [галавою] у пятлю; Лезць у пятлю.

**Хоць у столь галавою.** *Пра звышмагчымы адчай.* У яе цяперя жы́зінь хуць у столь гылавою. Було ў мяне такоя два разы, пріхадзі́лыся хуць у столь гылавою.

**Хрыста** (бога) **няма,** *цяп., пр. Пра несумленнага, жорсткага.* Хріста ны табе німа, чылавек, якую ты дурату́ выду́мывыіш. Хріста ў іх ні було, у тваіх хва́ліных. Бога ў твайго сьвёкыра німа, ці ета б другей стаў такоя дзелыць.

**Хрыста радзі.** 1. *Жабруючы (прасіць).* Ні пайду ж я табе прасіць хріста́ ра́дзі. Було ўремя, і ў нас хадзілі хріста радзі. Схадзі, можа табе дадуць хріста радзі. 2. *Вельмі (прасіць).* Зьдзелый ты мне хріста радзі етыя вароццы. Ты ўсігда любіш, каб цябе прасілі хріста радзі.

**Хрыстова нявеста,** *зняважл. Векавуха.* Айт, нягеглыя нейкія і няўрёміны сідзяць хрістовы нявесты, каму яны нада, зьесьць пы-чылавечыску ні зва́рюць.

**Хрыстом-богам.** *Вельмі настойліва, пераканальна (прасіць).* Хрістом-богым прасіла, усё дно ні паслу́хыў. Лю́біць, каб яго хрістом-богым малілі.

**Хрэст класць** (лажыць). *Урачыста абяцаць.* Каторый ужо раз ты зырікáісься, хрест кладзеш. Хрест лажыць умеіць, толька яго зырікáньніў хвытáіць ны два дні. *Зак.* **Хрэст пакласць** (палажыць). Аць ся́нішніга дня я хрест пыклаў, дайжа у тэй бок ні гля́ну, айдзе гарелка стыяць будзіць. Сяньня хрест паложыць, а заўтря забыў на ўсё.

**Хто куды.** *У розныя бакі; нязладжана.* Ляцелі хто куды, мы думылі, тама нівісь што. Мы ета так гру́ба: «Сюда, сюда!» — дык яны хто куды ўроссып. Ні разу ў іх ні було гырнізáцыі, усігда хто куды. То адзін біз другога ня могуць, то разым куды хто хвырьк.

**Хто ў лес хто па дровы.** *Нязладжана, уразброд.* Яны ўсігда дужа ні гырнізовыныя, у іх хто ў лес хто па дровы. Во зывялі, хто ў лес хто па дровы.

**Худа-бедна.** *З цяжкасцю, з намаганнямі.* Худа-бедна пыгрябок бульбы ныкыпáлі. Худа-бедна год праклы́пылі, нада думыць, як дальшы жыць.

**Хужы горкай редзькі.** 1. *Невыносна.* Ныдаелі вы мне хужы горькія редзькі. 2. *Невыносны.* Такей ныдыя́длый чылавек, хужы горькія редзькі. Яе жызьня стала хужы горькія редзькі, сва́ркі чуць ні кажный дзень. *Гл.* Як горкая рэдзька.

**Хукаць і стукаць.** *Брыдка лаяцца.* Як пычаў ху́кыць і сту́кыць, а ніхай бог замілыіць і закры́іць слухыць такоя. Абоя хукылі і стукылі і чаго толька ні дытвыря́лі.

# Ц

**Цана капейка** [у базарный дзень]. *Пра нікуды не вартыя рэчы.* Найшоў што прыдыва́ць, етыму твайму тыва́ру цына капейка. Боты найшоў, нашто яны каму такея, ім цына капейка у быза́рный дзень. Тама шубы тае цына капейка ў бызарный дзень. *Гл.* Грош цана.

**Цану-меру нахадзіць.** *Пачынаць паводзіць сябе больш сціпла.* Ні знаю, ці находзюць яны сабе цану-меру айдзенебудзь. *Зак.* **Цану-меру найціць.** Чуць-нячуць найшоў сабе цану-меру, пыспыкайнеў троху.

**Цану-меру шукаць.** *Паводзіць сябе нясціпла, ганарыста.* Усё ніяк ні ўгаму́іцца, цану-меру сабе шукаіць. *Закончн.* **Цану-меру адшукаць.** Ну, кажыцца, ачшука́лі цану-меру, трошычку пыспыкайнелі. *Працягл.-фінальн.* **Цану-меру дашукаць.** Душукаіць цану-меру, найдзіць сабе ряд. *Гл.* Не знаць цаны-меры.

**Цаны няма** *(чаму), цяп., пр., буд. Пра дарагое, высакаякаснае.* Андрей мужык цаны́ німа, ён усю ба́бскыю работу ў дваре падзелыіць. Вясною такім пырыся́ткым цаны ні було б, а січас цэны спалі. Ніхай пыдрасьцець, пацьцёлку ат такея каровы цаны ня будзіць.

**Цар і бог** [і воінскій начальнік]. *Поўны гаспадар, валадар.* Ты думыіш, што ты тута адзін царь і бог. Дужа вісока стаў несьць сябе, усё дно як ён тута царь і бог і воінскій нычáльнік.

**Цераз** (чэраз) **край.** *Звыш меры, патрэбы.* Быгаства ў іх ціріс край, самі ні знаюць, куды дзіва́ць. Яму ціріс край і дывалі, і пымыгалі. Чыріс край ныбралі, ім і так дзіваць некуды. Бярі сколька нада, ня ўчыся хвыта́ць чыріс край.

**Цераз** (чэраз) **ложку.** *Густое (пра страву).* Міску

крупені ціряз ложку умалоў, тады наверьх ладный кусок мяса дыба́віў. У нас чыряз ложку крупені ніхто ня есьць, пыдыва́й жы́дкыю.

**Цераз** (чэраз) **сілу.** *З вялікімі цяжкасцямі, перамагаючы сябе, без жадання.* Узяў цірясь сілу і сырваў нешта ў сярэдзіні. Я ўжо іду цірясь сілу. Ня еж чырясь сілу, ня хочыш, дык пыста́ў.

**Цеч у рукі.** *Даставацца вельмі лёгка.* Раншы ім здорыва цякло ў ру́кі, цяперь троху міну́лыся ла́вычка. Січас ні так, а тэя гады ім цякло ў рукі, зыжылі́ся дай бог. *Пачын.* **Пацеч у рукі.** Яму столька пыцякло ў рукі, што ні знаў, куды дзіваць. Думыў, што яно само пыцякець у рукі, а так ні буваіць. *Узмацн.* **Нацеч** (наплысць) **у рукі.** Ныцякло ў рукі столька, што на ўвесь век хва́ціць і ні спыжыву́ць. Ныўря́д, ці було каму столька, сколька вам нуплуло ў рукі, чаго ж яшчэ хны́кыць. *Гл.* П л ы с ц ь у р у к і.

**Цёмная вада найшла,** *пр., буд. Пра няяснасць у думках.* Ці табе, чылавек, цёмныя выда ныйшла́, ці што с табою тваріцца. Цёмныя выда як найдзіць, ён тады ўсё сытвыря́іць. *Незак., рэдкаўж.* **Цёмная вада находзіць.** Яму парою, знаць, нейкыя цёмныя выда находзіць.

**Цёмный лес.** *Зусім незразумелае.* Што ты мне аб'ісьня́іш, длі мяне матор — цёмный лес, я ў ім нічога ні пынімаю.

**Цёплае** (цёпленькае) **места.** *Выгадная пасада.* Ён усігда ўмеіць цёплыя места найці́ць. У Сярьгея цёплыя места, хырашо ўстроіўся. Прідбаў сабе цёплінькыя места, даволін.

**Цёпленька** (цёпла) **сядзець.** *Жыць у поўным дастатку.* Табе нечыга бідува́ць, твой цесьць цёплінька сядзі́ць. У каго нічога ні було, а яны цёпла сядзелі. *Непаўн.* **Цёпленька** (цёпла) **пасядзець.** Тады яны ў Шумянічых цёплінька пысядзелі. Па-мойму, ніхай ні абіжа́іцца, цёпла пысядзеў. *Працягл.* **Цёпленька** (цёпла) **прасядзець** (праседзець). Каму як ні було, а вы ета ўремя цёплінька прысядзелі. Узноў устроіліся, цёплінька праседзюць. Ён глядзіць, каб сымаму́ цёпла прысядзець, пу другому яго гылыва ні баліць. Каму як було, а яны цёпла праседзілі. Ні нада сьпіра́цца, яны цёпла праседзілі усё ўремя, ета кажный знаіць.

**Цёп-лёп,** *неадабр. Абы-як.* Будзіш дзелыць цёп-лёп, сь цябе сьміяцца кругом будуць. А хто цябе зыстыўляў дзелыць цёп-лёп, хто цябе у сугон гнаў?

**Цёртый калач,** *кніжн. Вопытны, бывалы.* Лявон — цёртый кылач, зь ім нада дзіржаць вуха войстра. Ета быў цёртый кылач, яго правесць трудна було.

**Ці доўга да граха** (бяды). *Пра верагоднасць трапіць у складанае і непрыемнае становішча.* Глядзі, астарожна сякі, дзіцёнык рядым, ці доўга ды гріха. Яны пабеглі, а ты сядзіш ды ташнуіш, ці доўга ды бяды, усякыя можыць случыцца, як с тымі рылыўскімі дзевычкымі. Ува ўсім нада глядзець, ато ці доўга ды гріха, а біряжоныга і бог бірягець. *Гл.* Нядоўга да граха.

**Ці пан ці прапаў.** *Пра гатоўнасць рызыкаваць у пэўных абставінах.* Ці пан ці прыпаў, пайду, прайду як-небудзь, хадзілі ж людзі. Ці пан ці прыпаў, ріскну, далжно выпыліць.

**Ціснуць** (выціскаць, жаць, выжымаць) **сокі,** *радзей адз. Нажывацца на непасільнай працы.* Крепка ціснуць зь яго сокі, ныпрасна ён церьпіць. Што ня ўмеіць, а сокі выціскаць наўчыўся. Жалі сокі, пакуля ныжадыліся, усяго абыбралі. Хваціць-ка табе выжымаць сок! *Зак.* **Выціснуць** (выжаць) **сокі.** Калі будзіць такою рысьцяпыю, зь яго пасьледнія сокі выціснуць. Чаго добрыга, сок выцісьніць, а тады выгыніць. Я ж помню, як с Пынаса паны выжылі сокі і выгнулі пряма на сьнег. *Узмацн.* **Павыціскаць** (павыціснуць, павыжымаць, павыжаць) **сокі.** Яны зьбіраліся сокі з вас пывыціскаць. Толька пупадзіціся, пачуствыіця іх ласку, яны зразу сокі павыціснуць. Пывыжымаіць сок зь іх, што дыхыць нечым будзіць, ён такей. Ці с аднаго яны сокі павыжылі. *Працягл.-фінальн.* **Націснуць** (нажаць, даціснуць, дажаць) **сокі.** Няўжэлі ты ішчэ мала сокі зь яго націснуў. Ныжалі сокі ўволю, пыныжыліся зу чужэй труд. Даціснулі сокі зь людзей, усё асталыся. Дажмець ён сокі сь сірыт, дыбяруся я, дык будзіць харош.

**Ці так ці сяк** (етак). *Тым ці іншым спосабам.* Ніхай ба ўжо ці так ці сяк к канцу ішло, кынчалыся скарей. Ці так ці етык, ну я думыю, на той нядзелі рішыцца. Ці так ці етык, ну атнясуць абізацільна, тут яны нізашта ня ўпусьцюць.

**Ці то ці два.** *Пра няўменне ясна, лагічна выказвацца.* Ну гывары скарей ці то ці два, нам некылі руссусолівыць, вун машына стаіць. Ці то ці два, ніяк ні рызьбяреш, што йна хочыць скызаць. *Гл.* Н і т о н і д в а.

**Ціш ды гладзь** [ды божжая благадаць], *звыч. жарт. Поўны спакой, парадак, нармальныя ўзаемаадносіны.* Ета хто ня быў тама, яму кажыцца, што ў іх ціш ды гладзь. Я знаю, што ў вас ціш ды гладзь ды божжыя блыгыда́ць,— як піряд бурію.

**Цыганскае сонца,** *жарт. Месяц.* Як цыга́нскыя сонца ўзойдзіць, тады ў яго ўся работа. Ці ні жджыцё вы сяньня цыганскыга сонца бульбу кыпаць?

**Цыганскій пот,** *іран. Дрыжыкі.* Вун твой работнік, зы капу схува́ўся, цыганскій пот прыбіра́іць. У гультуя́ ўсігда цыганскій пот, як за што-небудзь брацца.

**Цюцелька ў цюцельку.** *Вельмі дакладна.* Цю́цілька ў цюцільку пыдыйшло, як тут було. Ён усігда глядзіць, каб було цюцілька ў цюцільку, ні туды ні сюды.

**Цягнуцца ў нітку.** *Празмерна старацца, працаваць з надрывам.* Доўга ў нітку цягну́ўся, нубуйтува́ўся на тых чарцей, яны бяссовісныя. У нітку цягнуцца, у дваре ні глідзяць, на поля скарей біга́ць. *Гл.* В ы ц я г ы в а ц ц а ў н і т к у.

**Цягнуцца ў хвасце.** *Адставаць, быць адсталым.* Каму другому ішчэ так-сяк, а табе стыдна цягну́цца ў хвасьце, ты должын у пірідавы́х хадзіць.

**Цягнуць адну песню.** *Паўтараць, сцвярджаць адно і тое ж.* Цяжола зь ім дыгывары́цца, ён усігда цягніць адну песьню. Хва́ціць цягнуць адну песьню, мы ўжо наслу́хыліся.

**Цягнуць бок** (руку). *Падтрымліваць.* Яны ўсігда Іваныў бок ця́гнуць. Ты ўжо ні абіжайся, ён усё ўремя вашу руку́ цягну́ў. Нада падумыць, чаго яны так цягнуць тваю руку.

**Цягнуць валынку** (каніцель), *неадабр. Рабіць, выконваць вельмі павольна, зацягваць справу.* Разьві ж можна столька ўремя цягну́ць валы́нку с адною бума́жкыю. Я знаю, якея яны: доўга будуць цягнуць кыніцель. *Зак.* **Зацягнуць валынку** (каніцель). Так зыцягну́лі ва-

лынку, што й самі канцоў ні дыбярýць. Зразу каб ні зыцягнулі кыніцель, яно б усё хырашо було. *Працягл.-фінальн.* **Нацягнуць** (дацягнуць) **валынку** (каніцель). Ні пупáўся ён мне на вочы, я б яго ныцягнýла валынку. Ныцягнулі кыніцель, што ўсё ўремя прайшло. Дыця́гніця валынку, што будзіць ні то ехыць, ні то не. Я відзіў с самыга нычала, што дыцягнуць кыніцель і аддадуць нізашто.

**Цягнуць** (выцягываць, выматываць) **духі.** *Страшэнна дакучаць просьбамі, прыставаннем.* Пірістáньцяя вы цягнýць зь яго духі́, ён усё вам аддаў, што йmeў. Выця́гываюць ш чылавека пасьледнія духі, ён і так чуць ды́шыць. Так скот вымáтывыіць духі, ня буду я большы столька дзіржаць. *Зак.* **Выцягнуць** (выматаць) **духі.** Пакуля духі ня вы́цігнуць, нізашто ні ацстýпюцца. Ну й вы́мытыла ж мне духі карова: я туды — іна нызад, я нызад — іна туды, так і бегыў дабедзьдзя, пакуля спýтыў. *Узмацн.* **Павыцягываць** (павыцягнуць, павыматываць, павыматаць) **духі.** Упрáшывыць іх дужа ні нада, яны самі пывыця́гывыюць духі. Павы́цігнулі з Мацьвея духі саўсім, уеліся ў косьці. Пывымáтывылі духі, што глядзець на іх ня хочыцца. Пывыматывыць духі яны такея мысьцірá, што пушукáць толька. *Працягл.-фінальн.* **Навыцягываць** (навыматываць) **духі.** Дацерьпіцца ён, нывыця́гывыіш ты яму духі. Дажджэцца, нывымáтывыіць духі, палýчыць сколька нада.

**Цягнуць** (выцягываць) **душу,** *асудж. Празмерна дакучаць; абіраць.* Ну каб зь мяне так цягнýў душу, я б ні цярьпела. Доўга зь яе цягнулі душу, ныжывáліся ладна. А ты куды глядзіш, кылі выця́гывыюць душу? Прівыклі выцягывыць душу с каго-нібудзь. *Зак.* **Выцягнуць душу.** Ён жа такей пасты́лый, што зы капейку душу выцігніць. Як выцігнуць душу, тады ім нечыга будзіць дзелыць. *Узмацн.* **Павыцягываць** (павыцягнуць) **душу.** Яны зы адну нядзелю пывыця́гывылі душу, ні хачу я большы іх ні зы я́кія грошы. Душу пывыцягывыюць сваім ныдыданьнім, усё б аддаў, каб аччапіцца. Такея душу сь цябе павыцігнуць, мала ты іх знаіш.

**Цягнуць** (выцягываць) **жылы** (жылле). *Мучыць непасільнай працай.* Ён маўчыць і маўчыць, а яны цягнуць і цягнуць жылы. Доўга цягнулі жыльля, ета ўсё ны нашых вычах було. Узноў сталі выцягывыць жылы зь яго.

Як папу́сьціцца, то й будуць выцягывыць жыльля. *Зак.* **Выцягнуць жылы** (жылле). Пакуля ня вы́цігнуць жылы, ні ацсту́пюцца. Выцігнулі пасьледнія жыльля, большы нечыга цягнуць. *Узмацн.* **Павыцягываць** (павыцягнуць) **жылы** (жылле). Калі пупа́лі ў свае рукі, то пывыцягывыюць жылы. Зы два гады пывыцягывылі жыльля с Кузьмы, усё пыдыбра́лі. Мы ім гываріліі, што павы́цігнуць жылы, дык ці іх уверіш. Што, глідзіцё, каб яшчэ с каго жыльля павыцігнуць.

**Цягнуць** (выцягываць) **за вушы.** *Аказваць усялякую дапамогу.* Ну ня будзіш жа ты яго ды сырыка́ гадоў цягнуць за вушы, нада ж яму сымаму́ ўчы́цца жыць. Ныдаела выця́гывыць за вушы сы ўсякыга балота. *Зак.* **Выцягнуць за вушы.** Цябе ж нідаўна выцігнулі за вушы, а ты яшчэ лезіш. *Узмацн.* **Павыцягываць** (павыцягнуць) **за вушы.** Ета дзядзька добрый, пывыця́гывыў за вушы, ато б вам далі места. Скажы́ця хуць спасіба, што за вушы павы́цігнулі.

**Цягнуць** (выцягываць) **кляшчамі.** *Дабівацца яснага, зразумелага выказвання з вялікімі і працяглымі намаганнямі.* Гыварі скарей, каб сь цябе ні цягну́лі клішча́мі. Чаго ён ня можыць як людзі скызаць, што зь яго нада выця́гывыць па слову клішчамі. *Зак.* **Выцягнуць кляшчамі.** С Проські толька клішчамі можна па слову выцігнуць, а так нічога дужа ні даб'есься. *Узмацн.* **Павыцягываць** (павыцягнуць) **кляшчамі.** Ай, зь іх пакуля пывыця́гывыіш клішчамі, трудна толку дабіцца. Чуць-чуць павы́цігнулі клішчамі, па слову ў час цэдзюць.

**Цягнуць за душу.** *Дакучаць; прымушаць.* Прідзіць, рысься́дзіцца, цягніць зу душу́ і цягніць. Сядзіш і сядзі моўчынька, цябе ніхто зу душу ні цягніць.

**Цягнуць за хвост,** *жарт. Прапаноўваць нясмеламу, запрашаць яго.* Ну нашто ж яго цягну́ць за хвост, расьсьмеліцца і сам пыд'я́віцца.

**Цягнуць за язык.** *Прымушаць гаварыць, выказвацца.* Усё дно як яго цягніць хто зы язык. Цябе ж ніхто ні цягнуў зы язык, чаго було патторкывыцца. *Зак.* **Пацягнуць за язык.** Яе, знаць, зы язык пыцягнулі тріпану́ць такую лухту.

**Цягнуць лямку.** *Цяжка працаваць.* Ты ні знаіш,

сколька мой бацька цягнуў лямку у зяціцкіх паноў. Ні мае сілы цягнуць ету лямку.

**Цягнуць на аброці** (вожках), *жарт. Настойваць на запрашэнні.* Ця́гнуць яны ны аброці Клімінка, такей-то госьць ва́жный. Чаго яе цягнуць на вожкых, ня хочыць — ніхай ня йдзець. *Зак.* **Зацягнуць на аброці** (вожках). Яны такея, што ны аброці зыця́гнуць, ні ацста́нуць. Анька ні разу па вы́піўкых рысха́джывыцца ні любіла, яе нікуды нільзя було на вожкых зыцягну́ць. *Пачын.* **Пацягнуць на аброці** (вожках, вяроўке). Ну канешня, цябе каб ны аброці пыцягну́лі, тады б ты пашоў. Ждуць, што іх на вожкых пыця́гнуць. Можа цябе ны вярёўкі пыцягнуць нада? *Гл.* На вяроўке цягнуць,

**Цягнуць рызіну,** *неадабр.* 1. *Зацягваць справы.* Большы некуды, як ця́гнуць різі́ну зь естымі бума́жкымі. 2. *Доўга і нудна гаварыць.* Як пычанець різіну цягнуць, слу́хыць нілізя́. *Пачын.* **Пацягнуць рызіну.** 1. Нарошня пыцягнулі різіну, каб яны ні пасьпелі вы́іхыць. 2. Прішоў і пыцягнуў різіну, слухыйця яго, а мне зы травою бежч нада. *Законч.* **Адцягнуць рызіну.** 1. Нумуштрува́лі, ацьцягну́лі різіну, нарошня ўсё дзелылі, каб я ня ехыла. 2. Ацьця́гніць різіну зь яго дыкладым, заснуць усі. *Працягл.-фінальн.* **Нацягнуць** (дацягнуць) **рызіну.** 1. Ныця́гніць різіну, што мы другую карову возьмім. Дыцягну́ў різіну, што й бізь яго абыйшліся. 2. Ныцягнуў різіну: усе плюнулі і рызыйшлíся. *Гл.* Цягнуць валынку.

**Цягнуць сілы.** *Вымотваць цяжкай працяглай працай.* Пастройка, пірястройка дужа ця́гнуць сілы, ета цяжолыя дзела. *Зак.* **Выцягнуць сілы.** Ты зь яго хочыш саўсім вы́цігнуць сілы, ён і так стыря́іцца крепка.

**Цяжалець на нагу.** *Старэць, рабіцца менш рухавым.* К паўсотні ціжалеіш ны нагу, ня тэй становісься, што ў дваццыць. *Непаўн.* **Пацяжалець на нагу.** Рунува́та ты пыціжалеў ны нагу, у твае гады ішчэ нада быць чукавейшым.

**Цяжалець на пад'ём.** *Траціць энергію, рухавасць.* Нешта ж ты ціжалеіш ны пад'ём, ці даўно гогылім насіўся. *Непаўн.* **Пацяжалець на пад'ём.** Зы пасьледнія ўремя пыціжалеў ны пад'ём, ня то што гадоў дзесіць таму нызад.

**Цяжола на серцы** (душэ). *Аб прадчуванні непрыемнасцей, нягод.* Нешта цяжола на серцы, як жду чаго-то. Цяжола неік ну душэ, дзеці нічога ня пішуць даўно, худзь ба чаго ў іх ні було.

**Цяжолая рука.** *Пра жорсткага, бязлітаснага.* У яго цяжолыя рука, мілысьці ня жджы. У твайго старога была цяжолыя рука.

**Цяжолый на нагу.** *Павольны, нерухавы.* Нешта ты рана стаў цяжолый ны нагу́. Яго трудна куды дысла́цца, ён цяжол ны нагу.

**Цяжолый на пад'ём.** *Неэнергічны, нерухавы, лянівы.* Ён быў цяжолый ны пад'ём, нялёхка було у чом-нібудзь рышшывяліць.

**Цяжолый на руку.** *Пра таго, хто жорстка карае.* Іван цяжолый ну руку́, яго доўга будзіш помніць.

**Цяляты язык ат'елі,** *неадабр. Пра недарэчнасць маўчання.* Вам, знаць, ціля́ты язык ат'елі, слова з вас ня вы́цігніш. Ня трогый, яму ціляты язык ат'елі. *Узмацн.-множн.* **Цяляты языкі паат'ядалі** (паат'елі). Верна, ціляты ізыкі пыт'іда́лі, муўча́ць як нямэя. Ці вам ціляты ізыкі пат'елі ці што.

**Цямнець у вачах** (уваччу). *Рабіцца дрэнна ад стомы, хвалявання.* У вычах цямнеіць, гледзічы на ўсё ета. Боль пряма ніпірінасі́мыя, ажно ўваччу́ цямнеіць. *Зак.* **Пацямнець у вачах** (уваччу). Гля́нулі мы — пыла́іць усё чыста, у вычах пыцямнела. Зушумела увушшу́, пыцямнела уваччу, твае речы, мой мілёнык, большы слу́хыць ні хачу.

**Цярацца ў дагадках** (мыслях), *кніжн. Не знаходзіць тлумачэння.* Чаго яны столька ня пішуць, я пряма ў дыга́дкых ціря́юся. Яны ціряюцца ў мы́сьліх, хто мог пытхадзіць. *Зак.* **Пацярацца ў дагадках** (мыслях). Мы саўсім пыціря́ліся ў дыгадкых, айдзе вы маглі дзівацца. Я дык у мысьліх пыціряўся, як увідзіў іх умесьці.

**Цяраць башку,** *груб. Губляцца ў складаным становішчы.* Німа ач чаго ціря́ць башку́, бяды то такея случы́лыся. *Зак.* **Пацяраць башку.** І раншы быў ні такей як усе, а цяперя саўсім пыціряў башку. *Гл.* Цяраць галаву.

**Цярацъ гады.** *Старэць.* Так іна жысьць ідзець, патроху ціряім гады. *Зак.* **Пацярацъ гады.** Мы пыцірялі свае гады, нам к вечыру ідзець, а ваша жызьня толька пычынаіцца.

**Цярацъ галаву.** *Губляцца ў цяжкім становішчы; надзвычай захапляцца.* Ты чуць што і ціря́іш гылаву зра́зу, а нада быць хлыднакроўній. Як яно ня ёсьць, дык ні ціряй гылаву. *Зак.* **Пацярацъ галаву.** Са ўсіх бакоў як ныва́ліліся, ён саўсім пыціряў гылаву. Пыціряў гылаву ат нейкія сапры́ныўскія. *Множн.* **Расцярацъ голавы** (галовы). Мы стыялі, нічога, а яны рысьціря́лі голывы. Што ўжо там за дзеўкі такея, што вы ат іх голывы рысьцірялі. Як рысьціряюць галовы, толку ні палу́чыцца. *Узмацн.-множн.* **Парасцярацъ голавы** (галовы). Адзін адно крічы́ць, другей другоя, усе пырысьціря́лі голывы, ні знаюць, за што хвыта́цца. Што ж вы зразу пырысьцірялі галовы, тут нада крепкыя вы́дзіржка.

**Цярацъ з віду.** *Траціць сувязь; забываць.* Я ні ра́зу ні ціряў іх зь віду, усё ўремя сьлядзіў. *Зак.* **Пацярацъ з віду.** Іх усе пыціря́лі зь віду. Мынта́ч такей усьлядзі́ць, ён зразу пыціря́іць зь віду.

**Цярацъ зямлю пад нагамі** (з-пад ног). *Траціць упэўненасць.* Тута любэй можыць пыня́ць, што яны ціря́юць зямлю пыд ныга́мі. Пачу́ствывыў, што зямлю с-пад ног ціряіць, шашкі́ ў мяшкі́ і ат'етуля. *Зак.* **Пацярацъ зямлю пад нагамі** (з-пад ног). Ён ужо і так пыціряў зямлю пыд ныгамі, а ты ўсё пыдліва́іш масла ў агонь. Як пыціряў зямлю с-пад ног, зылатэй чылавек стаў.

**Цярацъ рассудак** (памяць, розум, розвалку). *Траціць здольнасць разважаць.* Не ўжо, ты саўсі́м ціря́іш рассу́дык, большы пры цябе нічога ні скажыш. Нечыга ціряць паміць, ні схадзі с ума, думый, што дзелыіш. Ні нада було розум ціряць, выхадзі́ць сь сябе. Як пымяну́лі яму шу́льля, ён саўсім розвылку пыціряў. *Зак.* **Пацярацъ рассудак** (памяць, розум, розвалку). Нада ўвесь рассудык пыціряць, каб гываріць такоя. Ці ён паміць пыціряў, ці што, вярзець што пупала. Калі пыціряў розум, мы можым нызад уста́віць. Яны розвылку пыцірялі і ні знаюць, чаго хочуць.

**Цярацъ след.** *Не мець ніякіх вестак.* Ныпра́сна ціряіш Зьмітракоў сьлед, ён ба табе ішчэ ні раз прігадзі́ўся

у жызьні. *Зак.* **Пацярацъ след.** Пыціряў яе сьлед, цяперя жалеіць, другея такея яму ні найціць.

**Цярацъ шчот.** *Збівацца з ліку пры пералічэнні вялікай колькасці.* Столька і курей, і ціпля́т, і ву́тык, што ўжо шчот ціряюць сколька. *Зак.* **Пацярацъ шчот.** Шчыта́ў, шчытаў і шчот пыціряў, ня помню, сколька було. Усё прыдаюць ціплят, пырысят, гусей і склыда́юць грошы, склыдаюць, наверна, шчот грыша́м пыціралі.

**Чаго добрага.** *Верагодна.* Маўчы́ ўжо, ато чаго добрыга з дарогі верніцца. Чаго добрыга яны і пупункі́ могуць сь ціцівою вынісьць.

**Чаго левай наге хочацца** (левая нага хочыць), *неадабр. Пра неабдуманасць учынкаў.* Чаго левый наге хочыцца, то ён і дзелыіць. Ты ўсігда дзелыіш, чаго левыя ныга хочыць, каб сьпірва паду́мыць — дык не, етыга ні бува́іць. *Зак.* **Чаго левай наге захочацца** (левая нага захочыць). Ці ў цябе ні буваіць: чаго левый наге захочыцца, то й сытваріш. У яго так — чаго левыя ныга захочыць, то й дзелыіць, а ты посьлі рысхля́бывыйся.

**Чапляць на вудачку** (вуду, кручок). *Перахітроўваць.* Іх проста чыпля́ць на ву́дычку. Сколька разоў чыплялі вас на ву́ду. Луччы ўсіх чыпляў вас ну крючок Гаўріла. *Зак.* **Падчапіць на вуду.** Што мы гываралі, ён і паверіў, лоўка пыччапілі яго на вуду. Пыччапіў жа ты Колю на вуду дык пыччапіў! *Гл.* Лавіць на вудачку; Падчапіць на вудачку.

**Чапляць хамут на шыю.** *Браць у поўнае падпарадкаванне, усяляк папіхаць.* Як ета ты ня хочыш пынімаць, што табе чыпля́юць хаму́т на шыю. Маўчы, а мне што, ніхай чыпляюць хамут на шыю. *Зак.* **Зачапіць** (пачапіць) **хамут на шыю.** Ніхай пры́гыіць як хочыць, а хамут на шыю зычапілі. Сколька ні стыря́ліся, а ніяк ні ўдалося зычапіць хамут на шыю Асташонку. Доўга цыля́ў пычапіць мне хамут на шыю, а я рускусіў яго яшчэ залетыся. *Гл.* Надзяваць хамут на шыю; Пятлю на шыю чапляць.

**Чапляць ярмо на шыю.** *Браць або траляць у поўнае падпарадкаванне, поўнасцю ганявольваць.* Чыплялі мне ярмо на шыю зь іхнім пацьцёлкым, ну я аткыза́ўся. *Зак.*

**Зачапіць** (пачапіць) **ярмо на шыю.** Глядзі́, ато зачэпюць ярмо на шыю і будзіш цігаць цэлый век. Ты сам зычапіў сабе ярмо на шыю, і нечыга абіжа́цца. Чуць-чуць ні пычапілі ярмо на шыю. *Гл.* Надзяваць ярмо на шыю.

**Чарапашшым шагам.** *Вельмі павольна.* Пляцецца чыріпа́шшым шагым, мне аж ныдаела, я ўзіла і пабегла скарей. Так чыріпашшым шагым да́йдзіш няскора, нада пыдыма́ць хля́гі.

**Чарцей сляпіць,** *іран. Падманваць, імкнуцца скрываць відавочнае, выдаваць хлусню за праўду.* Нечыга сьляпі́ць чарцей, ізьвесна, к чаму ты ўсё верніш. Што вы чарцей сьлепіця, мы вас даўно рускусі́лі. *Непайн.* **Чарцей пасляпіць.** Пысьляпі́ў чарцей і дос, цяперь гывары дзела. *Працягл.-фінальн.* **Чарцей насляпіць** (дасляпіць). Ты глядзі, насьлепіш чарцей, спросюць як з быга́тыга. Адзін ужо дысьляпіў чарцей, пашоў сагнутый, цяперя твыя вочырідзь.

**Чарцям станець тошна,** *іран.; буд., пр. Пра надзвычайныя ўчынкі.* Яны тута разьвернуць дзела, што чырцям станіць тошна, яны хва́цюць. Ат вашыя рызваротлівысьці чырцям станіць тошна. Жалка, што вас ні було, ато чырцям ба стала тошна, каб вы ўзя́ліся. *Незак., адзінк.* **Чарцям становіцца тошна.** Я віджу, так бяруцца за дзела, што чырцям становіцца тошна.

**Час ад часу.** *Рэдка, але неаднаразова.* Час ач часу зыбіга́юць, толька ні часта. Асколык час ач часу даець сябе чу́ствывыць.

**Час ад часу не лягчэй** (не легчы). *Пра пагоршанне абставін.* Ну вот табе на́, купі́ў, час ач часу ні ляхчэй. То адно, то другоя, час ач часу ня лехчы. І ў старшыя жызьня ні зыдыла́ся, цяперя ў меншыя рукі зьвя́зыны, час ач часу ня лехчы.

**Часацца ў затылку** (патыліцы). *Выклікаць клопаты.* Ага, чэшыцца ў заты́лку, пупа́ўся ў піряплёт. Па віду ні пызна́іш, скры́тый дужа, а толька чыса́лыся ў паты́ліцы. *Непайн.* **Пачасацца ў затылку** (патыліцы). Я знаю, аччаго ў іх пычыса́лыся ў затылку. Ну кылі й пычысалыся ў патыліцы, дык ні ў цябе, а ў мяне. *Пачын.* **Зачасацца ў затылку** (патыліцы). Крепка ў абоіх зычыса́лыся ў затылку. Трошку позна ў іх зычысалыся ў патыліцы. *Уз-*

*мацн.* **Начасацца ў затылку** (патыліцы). Большы некуды нычысалыся ў яго ў затылку. Ні тваё дзела, сколька ў мяне нычысалыся ў патыліцы. *Законч.* **Адчасацца ў затылку** (патыліцы). Яму ні пра копы аччысалыся ў затылку, зу другоя быяўся. У цябе ў патыліцы аччысалыся, цяперь ты спакоін.

**Часаць кулакі** (кулачча), *іран. Мець жаданне пабіцца.* Ходзіць, кулакі чэшыць, піряломы нейкія ішчыць. Тэй быў вогірь, усё кула́чча чысаў. *Непаўн.* **Пачасаць кулакі** (кулачча). Ап пря́сла пычашы́ кулакі, калі места ім ні найдзіш. Ці ні зьбіра́ісься і ты пычысаць кулачча? *Шматкр.-няпоўн.* **Пачэсываць кулакі** (кулачча). Ны каго ён там пачэсывыіць кулакі? Хадзілі тут, піха́ліся, кулачча пачэсывылі. *Законч.* **Адчасаць кулакі** (кулачча). Уня́ўся, аччысаў кулакі, стаў і ціх, і спакоін. Аччэшыць кулачча, так аччэшуць, што дзісятыму зыка́жыць. *Працягл.-фінальн.* **Начасаць** (дачасаць) **кулакі** (кулачча). Нычыса́ў кулакі, дайжа нячутна стала. У нас ба ён дычысаў кулакі, у нас ба ён як мыш сядзеў. Дачэшыш кулачча, на́йдзіш пятлю́, пыля́дзіш, што найдзіш. *Гл.* Кулакі чэшуцца.

**Часаць** (прычэсываць) **адным грэбнем** (пад адну грабёнку). *Ураўноўваць.* Тута тру́дна чысаць адным гребнім. Ён саўсім ні рызьбіра́іцца ў жызьні, усіх чэшыць пыд адну грябёнку. Ні прічэсывый адным гребнім нас і іх. Ні нада прічэсывыць пыд адну грябёнку і нас, і дучча́нь. *Зак.* **Прычасаць адным грэбнем** (пад адну грабёнку). Ты ўсіх прічысаў адным гребнім. Пыд адну грябёнку прічысалі і тых, і етых. *Працягл.-фінальн.* **Начасаць адным грэбнем** (пад адну грабёнку). Начэшыць адным гребнім, дасьць толку. Ну што, нычысаў пыд адну грябёнку, увідзіў сам, што пулучылыся. *Гл.* Мераць адным аршынам.

**Часаць** (скрэсць) **затылак** (у затылку, патыліцу, у патыліцы, галаву). *Сур'ёзна задумвацца.* Цяперя ён крепка чэшыць заты́лык, думыіць, як вы́вірнуцца. Чыса́лі, чысалі ў затылку, дый чысаць большы некуды — так іх було пріжа́ла. Чэшуць абоя патыліцу, ні знаюць, як яно паверніцца. Цяперя Зьмітрок чэшыць у патыліцы, знаіць, чым ета дзела па́хніць. Чысалі гылаву усе разым, думылі, саўсім швах дзела. Што, пріходзіцца скресьць затылык, а як ба ж ты думыў на сьвеці жыць.

Пачулі пры лісьнікоў, дык скрябуць у затылку. Ня вы́пыліла Іваныва дзела, скрябець патыліцу, як вы́кру-ціцца ач штраху. Як прі́дзіцца ту́га, будзіш скресьць у патыліцы, нада як-то ула́джывыць. Што ты скрябеш гылаву, коні твае у вы́ку, можыш да́льшы спаць. *Непаўн.* **Пачасаць** (паскрэсць) **затылак** (у затылку, патыліцу, у патыліцы, галаву). Ніхай пыстаіць, пачэшыць затылык і нызад пойдзіць, тута яму нічога ні ныгатоўліна. Пычысаў у затылку, ды ні пулуча́іцца нічога, нада сваімі рыспла́чывыцца. Ішчэ ён ні так пачэшыць патыліцу, пызна́іць, у якую сямейку пупа́ў. Ну што ж, і Косьцік пычысаў у патыліцы, ён ны выласі́нкі вісеў тэй раз. Прішлюць бумагу, дык пачэшыць гылаву, і хра́брысьць спадзець. Трі дні яго за́ ныс вадзілі, ён думыў праўда, што ныпісалі, паскрёб затылык. Пыскрібіцё у затылку, калі прі́дзіцца так, як Аўсяёнку. Паскрёб патыліцу, ды пашоў у сільсавет, а што ён другоя прідумыіць. Пыскря-бу́ць у патыліцы, як упяку́ць рублей па дзьвесьця зы бярёзкі, зы мылыдня́к. Ты яго трошку пупужа́й, ніхай пыскрябець гылаву. *Шматкр.-няпоўн.* **Пачэсываць затылак** (у затылку, патыліцу, у патыліцы, галаву). Так ён дужа храбрі́цца, на словых, ну затылык пачэсывыіць, пыба́івыіцца. І Ільля стаў пачэсывыць у затылку, як скызалі, што старшына́ з раёна яго спрашывыў. Троху пачэсывыюць патыліцу, яны знаюць, што зы такоя дзела ні асобінна пыздаровіцца. Дугуля́ўся Андряёнык, пачэсывыіць у патыліцы. А табе тожа нада пачэсывыць гылаву, ны цябе малі́цца ніхто ні станіць. *Пачын.* **Зачасаць** (заскрэсць) **затылак** (у затылку, патыліцу, у патыліцы, галаву). Во калі ён хвацí́ўся, зычысаў затылык, раншы ні пра што ня думыў. І старэй зычысаў у затылку, путпужа́лі яго ладна. За ета ні пыгла́дзюць, пріпыя́юць сколька ўлезіць, зачэшыць патыліцу крепка. Як нільзя нічога будзіць зьдзелыць, тады яны зачэшуць у патыліцы. Зычысаў гылаву: ай-я-яй, як жа я раншы аб усём ні падумыў. Хва́ціцца розуму, зыскрябець затылык і дужа зыскрябець сьмелый твой. У жызьні яно буваіць усяк, у любоя ўремя можыць вы́пысьць, што зыскрябеш у затылку. Заскрёб патыліцу, стаіць і сам сабе руссужда́іць: ах, як яно пулучы́лыся ні так, як нада. Зразу заскрёб у патыліцы, як скызалі, што Іван едзіць. Як грі́мнуць кучыю ў хату, зыскрябеш гылаву, куды зь імі дзіва́цца. *Узмацн.* **Начасаць** (наскрэсць) **затылак** (у затылку, па-

тыліцу, у патыліцы, галаву). Яны дужа тоя ўремя быя́ліся, нычысалі затылык. Як узнаюць пра ўсе яго прадзелкі, начэшуць у затылку. Нычысаў патыліцу, чым столька гусьцюва́ць і пымясьці́ць дайжа нейдзі. Ну, кылі я і нычысаў у патыліцы, дык я ў сваёй, а ні ў тваёй. Посьлі тых капёшык Максім нычысаў гылаву. Я большы цябе наскрёб затылык, у мяне труднеӣ дзела було. Што ён наскрёб у затылку, ета мяне мала трогыіць. Ня меншы каго яны ныскрябли́ патыліцу, ого, што ім угрыжа́ла. Ні жалей ты яго, што ён наскрёб у патыліцы, ён усё зубува́іць дужа скора. Наскрёб гылаву, як з дуўга́мі прішло ўремя рыспла́чывыцца. *Законч.* **Адчасаць** (адскрэсць) **затылак** (у затылку, патыліцу, у патыліцы, галаву). Куды кі́нуцца і што дзелыць, ні знаў, аччысаў затылык. Большы некуды аччысаў Цімка ў затылку, яму кру́та прішлося тады. Кындрацёнык ужо аччысаў патыліцу, спакоін, — пірівулнува́ўся ён здорыва. Аччысаў у патыліцы, вы́ліз, дык сядзі́ ціха. Аччысала я гылаву, пакуль рызыбра́ліся, што йта, думыю, ны мяне. Хуць затылык яны ацскрябли пыря́дышныга, ну на пользу ім мала што пашло. Няскора ацскрябець у затылку, крепінька пупа́ўся. Ацскрёб патыліцу, наву́ка на ўсю жызінь, спакойна сядзі́ць. У патыліцы то ацскрёб, ну ну душэ кошкі ў яго яшчэ скрябу́цца. Яно там було — толька ношка саломы, а іх пріпужну́лі, дык ацскрябли гылаву.

**Часаць языком,** *неадабр., рэдкаўж. Балбатаць, пустасловіць.* Нечыга чысаць ізыком, ці ты была тама, ці відзіла што. Калі ёй ныдаесьць ізыком чысаць, калі йна хут троху ўні́міцца. *Непаўн.* **Пачасаць языком.** Лю́біць ізыком пычысаць, ета ёй што маслым пу душэ. Думыіш, яны тама што пу́тнія дзелылі? — ізыкамі пычысалі. *Зако́нч.* **Адчасаць языком.** Ні дажджэсься, калі яны аччэшуць ізыка́мі. *Працягл.-фінальн.* **Начасаць** (дачасаць) **языком.** Нычысалі ізыком, муўча́ць, во так праву́чывыць нада. Дачэшыць ізыком, што пірістáніць і другім зыкажыць. *Гл.* Т р а п а ц ь я з ы к о м.

**Час добрый.** *Шчасліва* (*пажаданне ўдачы*). Бярі́цісь-ка, бяріцісь зу хунда́мінт, час добрый. Час добрый ны дарогу. *Гл.* У д о б р ы й ч а с.

**Чорная вада на вочы находзіць** (наступаець) (*каму*). *Пра страту самавалодання.* Яму парою усё дно як чор-

ныя выда на вочы находзіць. Чаго цябе хвытáіць, ці табе чорныя выда нуступáіць на вочы. *Зак.* **Чорная вада на вочы найшла** (наступіла), *пр., буд.* Ну бірягíся, раз чорныя выда на вочы ныйшлá. То ўсё нічога, ато другей раз чорныя выда на вочы як нáйдзіць, тады як сумашэччый. Не, табе чорныя выда на вочы нуступіла, нічога ты ні сыбрыжáіш.

**Чорная кошка дарогу перабегла,** *пр., буд. Пра пагаршэнне ўзаемаадносін.* Нешта надýліся, відна, чорныя кошка дарогу ім пірябегла. Што йта ў вас, ці вам чорныя кошка дарогу пірябегла. То ўсё ладна, а то, буваіць, чорныя кошка дарогу пірібягіць, тады німа міру.

**Чорная кошка прабегла** (праскачыла). *Пра разлад.* Во табе, і паміж вамі чорныя кошка прабегла. Неік жа і паміж імі чорныя кошка прыскачы́ла.

**Чорный дзень.** *Цяжкі час у жыцці.* Дужа ні зырікáйся, прíдзіць чорный дзень, тады і сваіх успомніш. Ці адзін мне чорный дзень піряжыць прішлося.

**Чорный кот дарогу перабег,** *жарт., рэдкаўж. Пра пагаршэнне ўзаемаадносін.* Раз табе чорный кот дарогу пірябег, то што ж я зьдзелыю. Ета калі шýцюць, могуць скызаць: чорный кот дарогу пірябег.

**Чорным па беламу.** *Зусім ясна, відавочна.* Што табе нада яшчэ, і так чорным па белыму напíсына.

**Чортава гібель,** *нездав. Празмерна многа.* Па етых кустах зайцыў калі-то была чортыва гібіль. Тама іх чортыва гібіль сыбрáлыся. *Гл.* Д а ч о р т а в а й г і б е л і.

**Чортава дзюжына.** *Трынаццаць.* Нышчытáў чортыву дзю́жыну і хвáціць сь цябе. Чортыва дзюжына ўсігда ні вязець, нівязýчыя чысло.

**Чорта з два.** *Не, зусім не, ні ў якім разе.* Чорта з два зыстáвіш яго скот пыпáсьвіць. Чорты з два ён паслýхыіць, убоіна ішчэ тая. Чорты з два палýчыш у іх штонебудзь.

**Чорта лысага.** *Зусім нічога; нізашто (не атрымаць, не дабіцца, не мець).* Чорта лы́сыга ат такея шкáріды палýчыш. А ты думыў, так скора і вы́хыдзіш? — не, чорта лысыга. *Параўн.* Н а ч о р т а л ы с а г а.

**Чорта смаленага.** *Зусім нічога; нізашто (не атры-*

*маць, не дабіцца, не мець)*. Чорта сма́ліныга яны вернуць, к ім у рукі пупала — прыпала. Чорта смаліныга сходзіць ён, будзіць кычацца ны баку і ўсё.

**Чорт дагадаў** (*каго*), *пр., буд. Пра амаль поўную ўпэўненасць у немагчымасці дзеяння, здзяйснення.* Чорт дыгыда́ў іх пайціць такою ду́йкыю. Ці чорт яго дыгыдаіць піріва́жывыць мяшкі.

**Чорт дзёрнуў** (*каго*). *Пра незразумелае пабуджэнне.* Чорт дзёрнуў іх вупруўля́цца ў са́мыю поўныч, ці ні маглі пыдыждаць час — два.

**Чорт занёс** (*каго*), *пр., буд., часам мн. Пра нявытлумачанасць з'яўлення ў невядомым месцы.* Як яго чорт занёс у тэя Ка́нчыры. Зынясець чорт ніізьвесна куды, а ты біспакойся, думый. Куды ж Андрея чэрці зынясьлі?

**Чорт за язык цягнець** (смаргаець) (*каго*), *цяп., пр. Пра недарэчнае выказванне.* Ці цябе чорт зы язык ця́гніць, што ты трепліш лухту́. Дырабешка тая была ці ні была, дык яго як чорт зы язык цягнуў. Няўжэлі вас чорт зы язык смырга́іць, сядзелі ціхінька і сядзіця. *Зак.* **Чорт за язык пацягнуў** (смарганўў). Вот пыцягнуў жа чылавека чорт зы язык, ля́пнуў ніізьвесна нашто. Няўжэлі цябе чорт зы язык смырганўў атнесьць Лукеры такую чуш.

**Чорт з балота** (з рагамі, лысый), *неадабр. Зусім неаўтарытэтны; невядома хто, наогул ніхто.* Длі мяне твой зяць — чорт з балота, ці ён скажыць што, ці не. Чорт з балота хадзіў там. Чорт з балота сюда паедзіць. Відзілі яны чорта з рыга́мі, нікога там ні було. Чорт з рыгамі к ім пріхадзіў. Іван твой длі нас чорт лысый, ці абрышча́іць ны яго хто-небудзь уніма́нія. Чорту лысыму вы нада.

**Чорт знаець што** [такое]. *Невядома што, бязглуздзіца.* Чорт знаіць што тварі́цца ў іх, ніхай ба хуць Лісей ту́кнуў. Чорт знаіць што такоя гаворіць, нічога етыга ні було.

**Чорт на дудачку не іграў,** *жарт., часам мн. Вельмі рана.* Чорт на ду́дычку ні йграў, як ён сяньня вы́прывіўся. Іна ні прасьпіць, чэрця на дудычку ні йгралі ўста́ніць.

**Чорт не бярэць** (не хватаець), *цяп., пр. Пра нядрэн-*

*ныя матэрыяльныя ўмовы жыцця.* Ні нада богу гряшы́ць, чорт іх ні бярець. Жылі — чорт ні браў, дай бог так любому-ка́жныму. Польку тваю чорт ні хвытаіць зу мужуковымі плічамі. *Гл.* Радзімец не бярэць.

**Чорт не возьмець** (не схваціць, не ўхваціць), *буд., пр. Пра адсутнасць падстаў для турбот.* Чорт ня возьміць, есьлі і пыработыіш рукамі. Ну відзіш, чорт і ні ўзяў вас, цэлы. Чорт ні схваціць вашыга Пітрычка, ён зь любэя пятлі вы́круціцца. Такую халеру нійдзе чорт ні ўхва́ціць. Чорт ні ўхваціў ба, каб і пяшком дайшоў.

**Чорт носіць,** *нездав.; цяп., пр., часам мн. Пра бадзянне невядома дзе, не ў час.* Нейдзі ж чорт носіць, а тута сядзі́, жджы іх. Нада скарей быразёнкі дыка́пывыць, а яго чорт носіць айдзе-то. Увесь дзень чорт насіў ніізьвесна айдзе. Айдзе вас чэрці насілі ды пацёмкыў? *Законч.* **Чорт атнасіў,** *пр., буд.* Ці атнасі́лі вас чэрці пу гулю́шкых? Няскора яго чорт атносіць, няскора ўніміцца.

**Чорт нясець,** *неадабр.; цяп., пр., часам мн. Пра з'яўленне непажаданай асобы, наогул пра яе рух.* І етыга яшчэ сюда чорт нясець. Куды яго чорт нясець? Некуды ж чорт нёс пыц са́мыю гразу́. Чаго іх чэрця нясуць на тэй бызар, там жывэя душы ня будзіць. *Зак.* **Чорт прынёс,** *пр., буд.* Чорт прінёс і сядзіць, калі дыхну́ць некылі. Прінясьлі чэрці, дужа ён тут нада. Хочыш, і етых чэрці прінясуць. *Рапт.* **Чорт паднёс,** *пр., буд.* Вот нада ж яшчэ і яго сюда чорт паднёс. Чорт пыднясець іх ікраз тады, як ні нада. Нада ў лес бежч, а тута яго чэрця пыднясьлі́.

**Чорт паласатый.** *Гарэза.* Ох, чорт пылыса́тый етый мальчонка, айдзе яго толька ні пабу́дзіць.

**Чорт папутаў,** *пр., буд. Пра незразумеласць учынкаў.* Вот неік жа чорт папу́тыў, нада ім былі тэя снапкі́. Калі гылавою думыіш, ніякій чорт ні папутыіць.

**Чорт пацягнуў** (падтаўхнуў, таўхнуў), *неадабр. Пра недарэчнасць учынкаў, выказвання.* Чорт пыцягну́ў лезьць у іх сямейныя дзела. Чорт вас пыттаўхну́ў брацць пяньку́, што вы зь яе зьдзелыіця. Чорт пыттаўхнуў гывaріць пра Домніных. Чорт таўхнуў міры́ць іх, нашто яны мне былі.

**Чорт раду** (ладу) **не дасць** (не дабярэць), *буд., пр. Пра немагчымасць разабрацца, навесці парадак.* Чорт ря́ду ні дасьць, як ты пыхызя́йнічыў у сенцых. Што там тварі́лыся, чорт ряду ні даў ба. Чорт ладу ні дасьць у тваіх пырядкых. Раз Сенька пыхадзіў, то ўжо чорт ряду ні дыбярець. Чорт ладу ні дыбярець у вашых кучых.

**Чорт сядзіць** (*у кім*), *цяп., пр., буд. Пра незвычайнага штукара.* Ета чорт даўно ў ім сядзіць, некыму толька вы́гныць. У тваім Андрею зь дзецтва чорт сядзеў. Дакуліцька ў табе чорт будзіць сядзець?

**Чорт у бубен не біў,** *жарт., часам мн. Вельмі рана.* Чорт у бу́бін ня біў, а ён ужо дзяржы́ць карову ны мяжэ. Сяньня пытхваці́ліся ішчэ чэрці у бубін ня білі. *Гл.* Чорт на дудачку не іграў.

**Чорту душу аддаць,** *асудж. Прадацца.* Як мы яго знаім, ён любому чорту душу аддасьць. Чорту душу аддаць гатоў, а ня то што пыжалеіць каго.

**Чорт у заслонку звоніць,** *іран.; цяп., пр., часам мн. Пра частае ўспамінанне.* Чорт у заслонку звоніць — ні назвоніцца, айдзе вы дзіва́ліся. Як жа, вас пымі́на́лі, чорт у заслонку званіў. Усе вас дужа ждалі, дайжа чэрці у заслонку званілі. *Зак.* **Чорт у заслонку пазваніў,** *пр., буд.* Чорт у заслонку пызвані́ў, каб вы скарей іўля́ліся. Ждж́ыця, січас чэрця ў заслонку пазвонюць. *Пачын.* **Чорт у заслонку зазваніў,** *пр., буд.* Вас німа, усе глідзя́ць, айдзе вы, аж чорт у заслонку зызваніў. Біз вас канешня чорт у заслонку зазвоніць. *Узмацн.* **Чорт у заслонку названіўся,** *пр., буд.* За ета ўремя чорт у заслонку нызвані́ўся. Калі твой зяць ня прідзіць, чэрця ў заслонку назвонюцца. *Гл.* Званіць у разбітый лапаць.

**Чорт у лапцях,** *адзінк. Зусім неаўтарытэтны; невядома хто, наогул ніхто.* Чорт у ла́пціх мне ваш Мыксімёнык, мала я такіх пра́зныю і пынімáю. Чорт у лыпця́х пат тымі йгру́шкымі хадзіў, нікога там ні було. *Гл.* Чорт з балота.

**Чорт яго** (іх) **бацьку знаець,** *жарт.; цяп., пр. Пра немагчымасць прадказаць паводзіны чалавека.* Чорт яго ба́цьку знаіць, што ён наду́мыўся сытварі́ць. Чорт іх бацьку знаіць, як яны там ачыну́ліся. Чорт жа іх бацьку знаў, што тыкая буза́ падні́міцца.

**Чорт яму** (ёй, ім) **даў.** *Пра малую верагоднасць падзеі, учынкаў чалавека.* Чорт яму даў прідумыць што другоя. Чорт ёй даў так скора зайціць, мы раншы там будзім. Чорт ім даў пайціць у такую цемінь.

**Чуда** (чудзяса) **ў рэшаце.** *Штосьці дзіўнае, нябачанае, надзвычайнае.* Зьбегыйця, січас вы увідзіця тама чу́да ў решыці. Ну, нагледзіліся ну чудзіса́ ў решыці? Чудзіса ў решыці ды і толька.

**Чужымі рукамі.** *Не самастойна, выкарыстоўваючы іншых.* Чужы́мі рукамі ён ба горы пірівярну́ў. Чужымі рукамі ўсё гатоў зьдзелыць.

**Чухаць патыліцу,** *рэдкаўж. Сур'ёзна задумвацца.* Яму січас ні да сьмеху, крепка чу́хыіць паты́ліцу. *Непайн.* **Пачухаць патыліцу.** Ніхай пачухыіць патыліцу, яму падумыць на пользу пойдзіць. *Узмацн.* **Начухаць патыліцу.** Здорыва начухылі патыліцу, думылі, ня вы́вірнуцца. *Гл.* Часаць затылак.

**Чуць дыхаць** (ліпець). *Аслабець, састарыцца; прыйсці амаль у непрыгодны стан.* Змыга́ ці не змыга, я трошку вылачу́ся, а мой чуць дышыць. Што тут гываріць, такея гады, чуць ды́хыіць. Ціхінька бярі ша́ічку, іна чуць дышыць. Саўсім слаба Аксюта, чуць ліпіць. Етый гаршчонычык даўно чуць ліпеў.

**Чуць зара.** *На світанку, вельмі рана.* Нечыга йціць чуць зыря́, тама ўсё зачы́ніна будзіць. Чуць зыря пабеглі ў ягыды, саўсім пріцімна. Будзі яго чуць зыря, расою пыкасіць мякчу́г луччы.

**Чуць зямлю пад нагамі** (сабою). *Рабіцца ўпэўненым.* Цяперя і Сьціпыняты насы пызыдзіра́лі, чу́юць зямлю пыд ныгамі. Што ж яму скажыш, раз зямлю пыц сабою чуіць. *Зак.* **Пачуць зямлю пад нагамі** (сабою). Ён толька пасьледнія ўремя пачуў зямлю пыд ныгамі. Як Мітрыхван пріехыў, тады яны пачулі зямлю пыц сабою. *Парайн.* Не чуць зямлі пад сабою.

**Чуць-нячуць.** *Са значнымі намаганнямі, з цяжкасцю.* Чуць-нячу́ць ныпрыва́дзіла іх ны быльшак, ніхай ідуць, ато дуріся столька ўремя с п'яныме. Чуць-нячуць і я гады за трі вы́брылыся ў горыд.

**Чуць што.** *Пры малейшым праяўленні.* Чуць што

і зыгарелыся ўся: дужа стыдлі́выя. Чуць што, ён біцца гатоў, уся чысьцінька бацькіна ўхватка, тэй тожа быў як сьпічка: адно слова ні па ём — жых і зыгареўся.

**Чучала гарохавае** (балотнае), *зняважл.; м.* і *ж. Няўдаліца, недарэка.* Ці чу́чыла гарохывыя што пойміць. Нейкыя чучыла гарохывыя зыдалося. Хацеў ты ш чучылым балотным толку найціць.

**Чым чорт не шуціць.** *Пра магчымасць удачы.* Чым чорт ня шу́ціць, і Зьмітрок можыць ажаніцца. Чым чорт ня шуціць, калі бог сьпіць.

**Чым** (што) **бог паслаў,** *уст.; пр., буд. Тым, што ёсць* (*частавацъ*). Прісма́кыў бальшы́х німа, во ўгашчу́, чым бог пыслаў. Во ежця, што бог пыслаў. А нягож, кума, не, дам, што бог пашлець.

**Чын чынам** (па чыну). *Так, як трэба, як належыць.* Усё паччы́сьцілі, пудруўнува́лі чын чы́ным, дайжа шчэпычкі пыдмялі́. У нас будзіць зьдзелына чын па чыну, мы як-небудзь ня кінім.

**Чысціць** (часаць) **шкуру** (бакі). *Адчувальна лупцаваць.* І шкуру чы́сьцюць яму ладна, і дуры тварі́ць тожа нічога. Большы табе нада чысьціць бакі, толк можа большый будзіць. Мала яму шкуру чэшуць. Андрей чысаў за нешта бакі свайму бульшуну́. *Зак.* **Пачысціць** (пачасаць, адчысціць, адчасаць) **шкуру** (бакі). Учора яму крепка пачысьцілі шкуру. Ім пачысьціць бакі ні ў чужоя места було б. Я свайму пычысаў шкуру, атвы́кніць ад дуроў. Сам ныпра́шыісься, каб табе бакі пычысалі. Яму даўно нада було шкуру аччы́сьціць. Ці ты даволін цяперя, як бакі аччы́сьцілі, ты ж дужа етыга хацеў. Ты сам просісься, каб табе шкуру аччысалі, ты бязь етыга ня можыш. Аччэшуць табе бакі нескылька разоў, дык, можа, трошку пачу́хыісься. *Узмацн.* **Начысціць** (начасаць) **шкуру** (бакі). Відна, мулува́та начы́сьцілі табе шкуру, яшчэ ремня шукаіш. Адзін раз вы́круціўся — другей раз пупадзесься, начысьцюць бакі. Як начэшыш ладна шкуру, тады спыкайнеіць. Даўно б табе пыра бакі нычыса́ць, толька ніхто брацца за ета ня хочыць.

**Чытаць мальбоны,** *іран. Лаяць, бэсціць.* Чу́іш, як мыладу́ха чытаіць мальбоны, хто б мог такоя пріставіць. *Зак.* **Прачытаць мальбоны.** Прычыта́ла мальбоны

таму абрагою, дык ці ды яго што да́йдзіць. *Непаўн.* **Пачытаць мальбоны.** Як жа, пакуль ні пычытаіш мальбоны, ня пойдзіць. *Узмацн.* **Начытаць мальбоны.** Доўга і цярьпела, і ўвыжала яму, а сяньня ўжо ня вы́цірьпіла, так нычыта́ла мальбоны, што ні прідумыць як. *Законч.* **Адчытаць мальбоны.** Аччыта́ла мальбоны і пышла, наця вам, пулучы́ця на руб ны дваццыць. *Працягл.-фінальн.* **Дачытаць мальбоны.** Дычытаі́ць мальбоны свае як-небудзь, апсяку́ць ёй язык.

**Чэраз** (у) **час па чайнай ложке.** *Рэдка, пакрысе і павольна.* Што ты ільлеш чыріш час пы ча́йный ложкі, хырашо ліні́. Чыріш час пы чайный ложкі дывать — ета ня дзела. У час пы чайный ложкі пыдаець, так да поўнычы будзіш кыпа́цца.

**Чэснае слова.** *Праўда, далібог.* Чэсныя слова, мы іх ня відзім, нашто нам хува́ць. Чэсныя слова, ні магу большы, і ні пыднасі́, і ні прідлыга́й.

**Чэсць чэсцю** (па чэсці). *Так, як трэба, як належыць.* Чэсьць чэсьцю пріня́лі нас, угашчэнія було ныва́лым. Калі за што бярецца, ён дзелыіць чэсьць па чэсьці. *Гл.* Чын чынам.

**Шаваліцца** (шавяліцца) **ў душэ** (серцы). *Кранаць, турбаваць, непакоіць.* Чу́ства нейкыя у яго ў душэ шаволіцца, толька нызад сыйці́цца яны ня сойдуцца. Калі-то, можа, што і шывалілыся ў серцы, а ўжо столька ўремя прайшло, яно ўсё забы́лыся. Ты што ні гывары, а Прося ў цябе ў душэ шавеліцца. Што там у яго ў серцы будзіць шывяліцца, у яго тога серца ці асталыся хуць сколька. *Пачын.* **Зашаваліцца** (зашавяліцца) **ў душэ** (серцы). Трошку і ў яго ў душэ зышывалілыся, як Анька пріехыла. Дык што тама ў яго ў серцы зышывалілыся. Ня думыю, каб у Лыўрінёнка што ў душэ зышывялілыся. Нешта зышывялілыся ў серцы, пашоў у Мазылыва. *Непаўн.* **Пашаваліцца** (пашавяліцца) **ў душэ** (серцы). Што-то ў цябе ў душэ, знаць, пышывалілыся? Знаю, што ў серцы пышывалілыся, толька ён віду ні пыда́ў. Есьлі ў яго ў душэ пышавеліцца, ты па віду пызнаіш. Ня тэй ета чылавек, каб у яго што-небудзь у серцы пышывялілыся. *Аднакр.* **Шавальнуцца** (шавяльнуцца) **ў душэ** (серцы). Пыдажджы-ка, можа і ў Сямё-

на што-небудзь шывальнецца ў душэ. У такога ня дужа што шывальнецца ў серцы. Вот відзіш, ні дырма було сказына, нешта і ў Валодзькі ў душэ шывяльнулыся. Ні знаю, калі тоя будзіць, што ў серцы у яго шывяльнецца што-небудзь.

**Шаваліць** (шавяліць, варушыць, дзвігаць) **мазкамі** (галавою), *іран. Думаць, разважаць.* Ня хочыць разу ні ў чом шываліць мызкáмі. Нада ж троху шываліць гылавою. Ён тады шавеліць мызкамі, як яму вы́гыдна. Ці ты ня відзіш, як пулучáіцца, шывялі гылавою. Ня дужа яны хочуць вурушы́ць мызкамі, ты думый за іх. Гылавою большы вурушы, ні малютка. Дужа яны многа дзьві́гыюць мызкамі. Ні разу ён ня дзьвігыў гылавою, іна яму для мебілі. *Зак.* **Пашаваліць** (пашавяліць, паварушыць) **мазкамі** (галавою). Каб мызкамі пышываліў, дык ба можна було што-небудзь прідумыць. Тута ён ні пышываліў гылавою. Ня дужа хочыць пышывяліць мызкамі. Во ў етым дзелі ты ні пышывяліў гылавою. Ні ў чом ні рáзычку ні пувурушыў мызкамі. Сам пувурушы́ гылавою, ёю думыць нада. *Шматкр.-няпоўн.* **Пашавеліваць мазкамі** (галавою). Уремя ат уремя пышавелівый мызкамі. Калі ён пышавелівыў гылавою, неўдыль ета. *Аднакр.* **Шавальнуць** (шавяльнуць, варухнуць) **мазкамі** (галавою). Худзь ба ж чуць-чуць шывальнуў мызкамі. Тут було трошку шывальні гылавою, падумый, дык ён шывальнець. Чаго ты ні ў чом ня хочыш шывяльнуць мызкамі? Яму каб на ўсём гатовым, сымамý шывяльнуць гылавою — не. Ну што ж, ня хочыш вурухнуць мызкамі — ні нада. Адзін хырашо вурухнуў гылавою, а другей яшчэ луччы. *Працягл.-фінальн.* **Нашаваліць** (нашавяліць, наварушыць) **мазкамі** (галавою). Нышаволіць гультай мызкáмі і чым хочыш. Многа нышываліў гылавою твой зяць. Нышывялілі мызкамі і адзін, і другей. І ты столька нышывяліў гылавою, сколька Зыхарёнык. Нывару́шыць такей апока мызкамі, будзіць і абду́мына і зьдзелына. Ладна нувурушыў гылавою, ш чым пыслáла, с тым і прішоў.

**Шагу нейдзе ступіць.** *Пра немагчымасць прайсці.* Зямлю рызьвязло, грязі́шча, шагу нейдзі ступі́ць. Найшло людзей, што шагу нейдзі ступіць.

**Шаг у шаг.** *Неадступна, не адстаючы.* Куды мы

ідзём, туды і ён зы намі шаг у шаг. Ні глядзі, што ма́лый, шаг у шаг спруўля́іцца.

**Шаль-валь,** *неадабр. Абы-як.* Зву́чыцца ат малку шаль-валь дзелыць, і вы́рысьціць няўрёмыю на ўсю жысьць. У мяне шаль-валь ня будзіць, у мяне кылі работыць, дык работыць, а ня хочыцца — дык на ўсе чатыры кыта́й.

**Шапкамі закідаць,** *іран. Лёгка перамагчы.* Мы б такіх гіроіў шапкымі зыкіда́лі, мы відзілі і ня еткіх. *Узмацн.* **Шапкамі пазакідаць** (пазакідываць). Вас тама шапкымі пызыкіда́юць, толька пыкажы́ціся туды. Іх ба шапкымі пызакі́дывылі, хрыбряцоў етых, ім нада сядзець і ня ріпыцца.

**Шапку скланяць,** *рэдкаўж. Прыніжацца, прыслужвацца.* Дужа б табе було пріятна шапку склыня́ць усякыму чорту. *Зак.* **Шапку скланіць.** Каб так прішлося, як мне, і ты б шапку скланіў.

**Шараваць з пяском** (пясочкам), *іран. Прабіраць, лаяць.* Ты яго большы шуру́й сь пяском, у рукі бярі. Крепка шуру́іць свайго сь пясочкым. *Непаўн.* **Пашараваць з пяском** (пясочкам). Хужы ня зьдзелыюць, кылі пушуруюць сь пяском троху. Нада пушуруваць сь пясочкым, тады ён уймецца зы хвыста́мі бегыць. *Узмацн.* **Нашараваць з пяском** (пясочкам). Яны як возьмуцца, дык нушуру́юць сь пяском, будзіць нядзелю пріхадзіць у сябе. Доўга сыбіра́лыся, ну сыбралыся, нушурувала сь пясочкым. *Гл.* Драіць з пяском.

**Шарашкіна кантора,** *іран. Малапаважаная ўстанова, у якой няма парадку.* Ету шыра́шкіну кантору даўно пыра́ пріекры́ць. У цябе ўсё як у шырашкіный канторі.

**Шарыкі за ролікі заходзяць** (заскакываюць), *неадабр.; цяп., пр. Пра дзіўныя, нелагічныя выказванні, разважанні.* У яго ўсігда шарікі за ролікі заходзюць. Лівынка́ помніш: у таго часта шарікі за ролікі зыхадзілі. У такіх, як ты, пымі́нутна шарікі за ролікі зыска́кывыюць. *Зак.* **Шарыкі за ролікі зайшлі** (заскачылі), *пр., буд.* У цябе, відна, ўзноў шарікі за ролікі зайшлі. Як шарікі за ролікі за́йдуць, тады яго ня дужа ўгаворіш. Есьлі ўжо шарікі за ролікі зыскачылі, то ня жджы ніякыга толку. Зь ім такоя няредка: то як чылавек, то шарікі за ролікі заскочуць. *Узмацн.* **Шарыкі за ролікі**

**пазахадзілі** (пазайшлі, пазаскакывалі, пазаскачылі), *пр., буд.* Што ж я табе гываріць буду, калі ў цябе шарікі за ролікі пызыхадзілі. Шарікі за ролікі як пызаходзюць, тады трудна зь ім. Дужа скора ў іх шарікі за ролікі пызайшлі́. Калі шарікі за ролікі пызыскакывылі, то вады халодныя схадзі выпі. Ідзі дабіся толку, есьлі шарікі за ролікі пызыскачылі. Як шарікі за ролікі пызаскочуць, то ўжо тады сам ідзі рызьбіра́цца.

**Шах-мах.** *Рэзка, груба* (*выконваць, паступаць*). Шах-ма́х і гатова, рыспырядзі́лыся і ўпыря́ччыла. Шахмах іна кіда́іць куртку, ні пы насу́ ёй нешта.

**Шашкі ў мяшкі.** *Хуткія зборы.* Доўга ня греў зубы, шашкі́ ў мяшкі́ ды двору. Пыра вам скла́дывыць шашкі ў мяшкі.

**Шкура барабанная,** *груб. Здраднік; распусная жанчына.* Прі немцых ета шку́ра бырыба́нныя пыкызаў сябе. Нічога ў тае шкуры бырыбанный ні аста́лыся чылавечыскыга.

**Шкура** (кожа) **іграець** (*на кім*), *неадабр.; цяп., пр. Пра празмерную рухавасць.* Мы зразу замецілі, што ны вас лі́шніга шкура іграіць. Доўга ны табе, хлопіц, шкура ігрperiod. Каторыя ўремя ны вас кожа іграіць, ці найдзіцца вас уняць хто-небудзь. *Пачын.* **Шкура** (кожа) **заіграла,** *пр., буд.* Ежылі шкура зыігра́ла, вярёвычка нада, іна успыка́івыіць. Ны вас ні сяньня кожа зыіграла, іна даўно лу́пкі хочыць. Як зыйграіць кожа, мы найдзім унім. *Непаўн.* **Шкура** (кожа) **паіграла,** *пр., буд.* Ны вас ла́дна шкура пыйгра́ла. Ніхай шкура троху пыйграіць, ён скора ася́дзіцца. Не, маліц, па-мойму, шкура ны табе пыйграла пыря́дышна. *Узмацн.* **Шкура** (кожа) **ўзыйграла** (ўзыйгралася, разыйгралася), *пр., буд.* Узноў у твайго шкура узыйграла. Шкура як узыйграіць, уго што зь іх вытвыря́іцца. Я знаю, чаго ны табе кожа узыйграла: вожкі пы табе даўно хадзілі. Ні г дабру шкура ны вас узыйгралыся. Кожа узыйгралыся ціряшчу́р, нада скорінька уніма́ць. Дужа вожкі атпусьціў, саўсім асла́біў, кожа ўзыйграіцца, што ня ўні́міш нічым. Шкура на ём так рызыйгралыся, што чы́шчы некуды йграць. Цяперя ты нісколька ні глядзі́ш, а як шкура рызыйгра́іцца, тады позна будзіць пычынаць. Пыстыя́нныга вока за ім ні було, ну, кожа й рызый-

гралыся. *Працягл.-фінальн.* **Шкура** (кожа) **даіграла,** *пр. буд.* Дыйграла шкура, пулучыў сваё сколька ўлезла. І ў цябе дыйграла шкура, найдзіцца вяроўка. Хут трошку й позна, ну пулучыў, чаго хацеў, дыйграла кожа.

**Шкура трэскаець** (трэскаецца), *цяп., пр. Пра празмерную тлустасць; пра свавольства ад бесклапотнага жыцця.* Разьеліся, шкура трескыіць, у такой вы́гыдзі жывуць. Не, мальцы, ны вас ужо шкура трескыіць, нійдзе вам уталоньня німа. Пілі́ і жра́лі што хацелі, на іх шкура трескыла. Прііжджаіць усігда, на ём шкура трескыіцца, тама ня жысьць, а рай ныстыя́шчый. Раншы і ны Пітраку шкура трескылыся, а січас аблез троху. На етых ціхінькіх біз бацькі шкура трескылыся, унімаць некыму було, ны гылыва́х хадзілі.

**Шлынды** (брынды) **біць,** *асудж., рэдкаўж. Бяздзельнічаць, гультаяваць.* До шлы́нды біць, гультуя́ мне карміць нечыга. Брынды біць ён умеіць, тута ўчыць ніскольки ні нада. *Абмеж.* **Шлынды** (брынды) **пабіць.** Ізьвесна, чаго яны туды паедуць, шлынды пабіць. Во, мы німа́ла помышчы тае відзілі, пабіў брынды і паехыў. *Гл.* Б і ц ь б а к л у ш ы.

**Што душэ ўгодна** (заўгодна). *Тое, што падабаецца; вельмі многа.* Ны свадзьбі було ўсяго, што душэ ўгодна. Еж, пі, што душэ ўгодна. Купляй, што душэ заўгодна, каб толька грошы.

**Што ёсць духу** (жызні, жысці, змагі, сілы), *цяп., пр. Надзвычай* (*шпарка, напружана, гучна і г. д.*). Ляцелі аттуля што ёсьць духу. Што було духу крічалі. Што ёсьць жы́зьні бярецца зы работу. Што було жызьні ўцікалі с кустоў. Іду, чую, крічаць што ёсьць жысьці, чаго б, думыю. Стыря́ліся, што ёсьць змагі́. Што було змагі сьпяшылі. Туріла свайго кывалера піріц сабою што ёсьць сілы. Гналі іх што було сілы. *Гл.* С к о л ь к а ж ы з н і.

**Што і гаварыць** (талкаваць), *звыч. гумар., іран.* 1. *Вельмі добры.* Што й гываріць хлопіц, другога толька пыіскаць такога. Калёсы што і тулкува́ць, вярсту ці праедзіш, ці не. 2. *Вельмі добра.* Жывуць яны што і гываріць, як сыр у масьлі кыча́юцца. Пад'еў што й тулкувыць, ці тут жа ня ўмеюць гатовіць. 3. *Безумоўна.* Што й гываріць, я пыдбягу́. Што й тулкуваць, падой-

дуць, — іх палкыю ні падні́міш, такея цяжолыя ны пад'ём. *Гл.* І г а в а р ы ц ь н е ч а г а.

**Што нада** (называецца). 1. *Вельмі добры.* Нечыга, нечыга выду́мывыць лі́шніга, Верка дзеўка што нада. Баня што нада, хуць ны вярьху парься. Што нызываіцца чылавек, ні вітрагон, як ты. 2. *Вельмі добра.* Жыву́ць што нада, ні так, як вы. Пыглядзі, зьдзелына што нызыва́іцца, кымар носа ні патточыць нійдзе.

**Што на рат лезець,** *цяп., пр. Усё ўсякае* (*гаварыць*). Прець ны яго што на́ рыт лезіць. Гна́ла, ніслá, вірзлá, што на́ рыт лезла. *Зак.* **Што на́ рат палезець.** Зьвя́жысься, дык пачуіш, будзіць гнаць усё, што на рыт палезіць.

**Што ні гавары** (ні кажы, ні талкуй), *адз., мн. Нягледзячы ні на што.* Што ні гывары, а зь імі сам чорт ні ўжывець. Што ні гываріця, ну ён етыга ня дзелыў. Што ні гываріця, ён чылавек спрывядловый. Што ні кажы, мы табе ні паверілі і ні паверім. Капёшка яго рук ні міну́ла, што ты ні талку́й. Што ні талкуйця, прі́дзіцца йціць.

**Што ні шаг.** *Усюды і заўсёды.* Што ні шаг, у яго якія-нібудзь ду́рысьці. Што ні шаг носым верціць.

**Што ты гаворыш,** *адз., мн. Няўжо, хіба.* Што ты гаворіш, я ж ба нізашто ні падумыў, што Рыманёнык пойдзіць ны такоя. Што вы гаворіця, яны ж с такея харошыя сям'і хлопцы.

**Што** (чаго, нашто, нечага) **граха таіць.** *Пра неабходнасць раскрыць таямніцу, падман.* Што гріха́ таі́ць, і твой у молыдысьці німала пудурюва́ў. Вы тожа там рукі прілажылі, што гріха таіць. Што там гріха таіць, пару бутылычык рыздаві́лі. Чаго гріха таіць, вы тожа ні адзін мяшочык антонывык прінясьлі с саду. Нашто гріха таіць, тварі́лі яны дык тварілі. Нечыга ўжо гріха таіць, Анька твайго сынка ня́нчыць, ты ўвесь чыста вы́літый.

**Шукаць** (іскаць) **белага дня,** *неадабр. Займацца бяссэнсавай справай.* Дакуль ты будзіш шукаць белыга дня. У пуні нейдзі твой Васіль, белыга дня і́шчыць. *Непайн.* **Пашукаць** (паіскаць) **белага дня.** Схадзі́, пушука́й сабе белыга дня, кылі зыня́ція сабе ні найдзіш. Ён там хва́ціць, паішчыць белыга дня. *Узмацн.* **Нашукацца** (на-

іскацца) **белага дня.** Сь цябе ўжо дос, нушука́ўся белыга дня. Наі́шчыцца белыга дня, думыць жа як нада ня ўмеіць. *Працягл.-фінальн.* **Дашукаць** (даіскаць) **белага дня.** Душукаіця белыга дня, што бульбу ў пацёмкых кыпаць будзіця. Ён дыіскаў белыга дня, найшоў сабе блыгыславеньня.

**Шукаць** (іскаць) **дзірку,** *неадабр. Займацца небяспечнай, антыграмадскай справай.* Кылі шукаіць дзірьку, дык палу́чыць, найдзіць айдзе-небудзь. Ай, ён даўно іскаў дзірьку, думыў, гылавы ні разу ня зносіць.

**Шукаць** (іскаць) **дугу на плячах** (цераз плячо), *жарт. Паводзіць сябе недарэчна.* Ну як жа, мы знаім, ты зыня́т быў, шукаў дугу́ ны плічах. Вун ён твой Паўлюк, шукаіць дугу ціріс плячо. Ну чаго ты, а можа ён дугу ны плічах ішчыць. Знаю, знаю, пашоў дугу ціріс плячо іскаць.

**Шукаць** (іскаць) **дурака** (дурачка, дурных), *іран. Імкнуцца перахітраваць няўмела, прымітыўна.* Ні тама дурука́ шукаіш, ны сябе луччы зірні. Думыў, тута яму зылатэя горы пыднясу́ць, дуручка́ шукаў. Дуракоў ішчы у другом месьці, тута ні пылыта́ісься. Што ты, прішоў сюда дуручка іскаць? Ні туды ты пупаў іскаць дурных.

**Шукаць** (іскаць) **загваздку ў лапці,** *іран. Займацца пустой, нікчэмнай справай.* Як устаець, у яго і пычына́іцца работа — шукаіць за́гвыздку ў ла́пці. Можа табе хваціць загвыздку ў лапці іскаць. *Непаўн.* **Пашукаць** (паіскаць) **загваздку ў лапці.** Пакуль ні пушукаіць загвыздку ў лапці, пряма сам ня свой. Загвыздку ў лапці пыіскаў, а цяперь нада дзела дзелыць.

**Шукаць** (іскаць) **іголку ў сене** (у стагу сена). *Займацца заведама безнадзейнай справай.* Што цяперя шукаць іголку ў сені, нада було за ім пільнува́ць раншы. Шукаць іголку ў стагу сена позна, была гылыва ны плічах учора падумыць. Ета табе іскаць іголку ў сені, толку ніякыга. Чаго ён ішчыць іголку ў стагу сена, куды ён усё лета глядзеў. *Непаўн.* **Пашукаць** (паіскаць) **іголку ў сене** (у стагу сена). Ну ікая польза, што ён пушукаў іголку ў сені. Цяперя пушука́йця іголку ў стагу сена, айдзе вы раншы былі. Схадзіў, пыіскаў іголку ў сені, вярнуўся ні ш чым. Паі́шчыця іголку ў стагу сена, на́йдзіця толку.

**Шукаць** (іскаць) **канцы** (канцоў). *Высвятляць першапрычыны.* Трудна шукаць канцы́, столька ўремя упусьціўшы. Так апстря́пыюць дзела, што й канцоў шукаць нейдзі будзіць. Позна вы хваціліся канцы йскаць. Ня тута ён ішчыць канцоў.

**Шукаць** (іскаць) **толк** (толку). *Імкнуцца дасягнуць узаемаразумення.* У каго ты наду́мыўся толк шукаць. Нечыга ў яго шукаць толку, зь ім што ш чортым. Цяжола ў Рябца толк іскаць. Ну й нудуріўся зь імі, толку ўсё іскаў. *Парайн.* Н а х а д з і ц ь т о л к.

**Шумець** (кружыцца) **у галаве.** *Быць у разгубленасці.* Столька ўсякіх дзялоў зразу нывалі́лыся, што ў гылаве шуміць. Хвыта́ісься за ўсё зразу, нійдзе ні ўсьпіва́іш, ажно ў гылаве кру́жыцца. *Пачын.* **Зашумець** (закружыцца) **у галаве.** Я ўжо ні знаю, за што первыя хвыта́цца, у гылаве зушумела. У цябе б яшчэ скарей зукружы́лыся ў гылаве, каб столька нывалі́лыся с усіх бакоў.

**Шуры-буры.** *Беспарадак; навальніца.* У яе ўсігда шу́ры-бу́ры ў хаці. Шуры-буры ўшчына́юцца, каб дажджу ні ныгна́ла. Пыдня́ліся шуры-буры, кыма́ріка з дуба зду́лі.

**Шутава** (шутавая) **каша,** *неадабр. Беспарадак.* Айдзе там за́йдзіш, тама шу́тыва ка́ша. У шутыву кашу і пыказывыцца ня хочыцца. Сыбяру́цца, дык узноў зьдзелыюць шутывыю кашу.

**Шут гарохавый.** *Пусты чалавек, смешна апрануты.* Быў шут гарохывый і астаўся, пусьцей каго і ці найдзіш. Нечыга строіць сь сябе шута́ гарохывыга. Пыглядзі́ця вы ны яго, вы́рідзіўся шут гарохывый і думыіць, дужа красіва.

**Шутка сказаць,** *адз., мн. Не проста.* Шу́тка скыза́ць аднаму ў такую дарогу вы́прывіцца. Шуткі скызаць жжаць адной столька, етыя жыта густля́вые.

**Шутка шуткай,** *часта мн. Што б ні гаварыць, але ж.* Шу́тка шуткыю, толька тут дзела ідзець к свадзьбі. Шуткі шуткымі, ну ён табе дзела гаворіць. *Жарт.* Шуткі шуткымі, а будуць і авечкі.

**Шуткі дрэнныя** (дрэнь, плахея, плохія, плахія, плохі). *Пра сур'ёзнасць падстаў для трывогі.* С такімі дзі-

ла́мі шуткі дренныя, луччы у баку́ дзіржа́цца. Шуткі дрень, яму нада выбірацца. З балезьнію шуткі плахея, як запу́сьціш, тады трудна лячыць. Глядзі, тута шуткі плохія, луччы ні ў́лізай. Ты сам знаіш, што ш чужым шуткі плахія. Табе ўсігда тулкувалі, што з марозым шуткі плохі, куды цяперь ету бульбу.

**Шуткі ў бок** (сторану). *Пра неабходнасць размовы ўсур'ёз.* Шуткі ў бок, дзела гыварі́, нам некылі маліцца ны цябе. А цяперь шуткі ў сторыну, возьмімся пы-нысты-я́шчыму, дык рыска́зывый, сь кім хадзіў у Зяціцу.

**Шуткі** (шутачкі) **шуціць.** *Рабіць дзеля жарту, забавы.* Што ж тут шуткі шуці́ць, прімаў, дык жыві. А ты думыў, яны будуць шуткі шуціць. Пірісталі шу́тычкі шуціць, узяліся як нада. *Працягл.-фінальн.* **Шуткі** (шутачкі) **нашуціць** (дашуціць). Глядзі́, нашу́ціш шуткі, ка́іцца каб ні прішлося. Нушуцілі шутычкі, што кусаюць сабе локці. Ці помніш, як душуціў шуткі Сірьгяёнык. Дашуціця вы шутычкі, што ныпра́ўду выйдзіць.

**Шчаміць нос,** *неадабр. Лезці, куды не трэба.* Чаго яму вы ўсякыю дзірьку шчамі́ць нос. Куды нада, куды ні нада — усюдых шчэміць свой нос. *Гл.* У ш ч а м і ц ь н о с.

**Шчанка з'есць,** *жарт. Набыць пэўны вопыт.* Ты ў ры́бі даўно шчынка́ зьеў. Сыбаку як сыбаку, а шчынка яны зьелі на етых дзіла́х. *Гл.* С а б а к у з ' е с ц ь.

**Шчанят не ксціць,** *іран. Не ўступаць ні ў якія ўзаемаадносіны.* Мне зь імі шчыня́т ня ксьціць і ніхай яны сюда ні чыпля́юцца. **Шчанят ксціць.** А ці мне зь імі шчынят ксьціць? Я зь ёю шчынят ксьціць ні сыбіра́юся.

**Шчаўком** (шчаўчком) **забіць,** *жарт. Вельмі лёгка справіцца з прычыны бяссілля.* Худзенічкій, малінькій, такога жыніха шчаўком заб'еш. У цябе сілы што ў кымыра, цябе можна шчаўком забіць. Шчаўчком заб'еш етыга быгытыря́ вашыга.

**Шчоўкаць зубамі,** *груб. Цярпець розныя нягоды.* Чаго вам тут шчоўкыць зубамі пуд вуглом, ідзіця грецца. Глядзі, рыспрыдасі́ся, дык і будзіш зубамі шчоўкыць к вясьне. Доўга шчоўкылі зубамі паць сьценкыю, усё ждалі асобыга пріглашэнія. *Непаўн.* **Пашчоўкаць зубамі.** Пашчоўкылі голыя зубамі, нпзы́зьліся. Пашчоўкыіць

зубамі, рад будзіць сухой скарі́нкі. Ніхай пашчоўкыюць зубамі, можа пурузумнеюць. *Пачын.* **Зашчоўкаць зубамі.** Ня хочыць слухыць, ніхай ня слухыіць, зашчоўкыіць зубамі, тады за розум хва́ціцца. Дужа шурока ехылі, дык зашчоўкылі зубамі. *Узмацн.* **Нашчоўкацца зубамі.** Нашчоўкыліся зубамі ў сваіх сьвістых. Мыгазін быў зачы́нін, мы нашчоўкыліся зубамі лі дзьвярей. *Працягл.-фінальн.* **Дашчоўкаць зубамі.** Дашчоўкыў зубамі, ляжыць с успаленііім, ды, знаць, з двухстароньнім. Дашчоўкыіця зубамі, як костычкі вашы пірікалеюць ды адной.

**Шыварат-навыварат.** *Наперакор разумнаму сэнсу.* Зь летышніга года у іх пычалося шывырыт-навывырыт. Ты ўсігда дзелыіш шывырыт-навывырыт. У іх часта пулучаіцца шывырыт-навывырыт.

**Шырокае** (бальшое) **горла** (глотка), *груб. Крыкун.* Рыспасьцёрлыся шурокыя горла, пыспрабуй пірікрічы. Ужо тыкая шурокыя глотка, што куды там. Крічыць бальшоя горла, аж дзяреўня рызьлігаіцца. Быльшая глотка гам справіла.

**Шырока ехаць.** *Жыць не па сродках.* Шурока едзіця, нада патрошку ўпярёд глядзець, ато бісь сяніны ў пыўзімы астаніціся. *Пачын.* **Шырока паехаць.** Зразу шурока паехылі, рысхадовыя дужа. Быў паехыў ого як шурока, а во ён, пяшочыць у патрёпыных штонікых.

**Шырокая натура.** *Адкрыты, шчыры чалавек.* Сярёжка — шурокыя натура, у яго дужа нічога ні задзержыцца. У яе шурокыя натура. Ета шурокыя натура, што ёсьць, усё наця.

**Шыта белымі ніткамі.** *Няўмела прыкрыта, схавана.* Тама ўсё шыта белымі ніткымі, любэй у мінуту рызьбярецца. Тут і глядзець нечыга, тут шыта белымі ніткымі.

**Шыта-крыта.** *Схавана, прыкрыта.* Ён знаіць, хто ета сытваріў, і маўчыць, і ўсё шыта-крыта. Ніхто ня відзіў і ўсё шыта-крыта.

**Шышка на роўным месце,** *іран. Важны, надзьмуты чалавек.* Ня трогый, надмецца, ета ж шышка на роўным месьці. Ня будзь шышкыю на роўным месьці, каб людзі сьміяліся.

**Язык абсякаць.** *Рашуча спыняць балбатню, плявузганне.* Аўхім троху апсікаў язык, а цяперь саўсім уходу ні знаіць. *Зак.* **Язык абсеч.** Ня дужа такой зьвягі апсякеш язык, іна ны цябе зразу бочку рыштантыў згоніць. *Узмацн.-множн.* **Языкі паабсякаць** (паабсеч). Ну хто ж калі найдзіцца ізыкі ім пыпсікáць. Можа й вам хто-небудзь пыпсякець ізыкі. *Гл.* Прысякаць язык.

**Язык адкусіць,** *рэдкаўж. Адчуць выключны смак.* Ты вазьмі толька ў рот, зразу язык аткýсіш, цябе будзіць за вуха ні ацьцягнýць ат міскі. Так елі — ізыкí чуць ні аткусілі, а тама і прісмáкі ня бог знаіць якея. *Гл.* Праглаціць язык.

**Язык атняло.** *Пра раптоўнае змаўканне.* Ну чаго ты, ці табе язык атняло, гывары дальшы, мы ні кусáімся. *Гл.* Язык прысох.

**Язык ат языка,** *неадабр. З вуснаў аднаго ў вусны другога.* Адзін хто брязьніць, а яно язык ат ізыкá пашло па ўсёй акругі. Язык ат ізыка растреплюць, нічога ні схувáіцца. *Гл.* Ат языка к языку.

**Язык без касцей,** *неадабр. Пра магчымасць балбатні, хлусні.* Гывырыць усё можна, язык біс касьцей. Язык біс касьцей, тряплíся дальшы.

**Язык высалапіць** (высунуць). *Стаміцца да апошняга.* Язык вы́сылыпіў, пакуля столька дыцягнýў. Нешта ён дужа скора язык высылыпіў. Насíў, насіў дый язык высунуў. *Узмацн.-множн.* **Языкі павысалапіць** (павысунуць). Пакуля мы дыпляліся з вузлáмі, ізыкі павы́сылыпілі. Жарíшча, нада хвытáцца, уремя пыдгыняіць, ізыкі павы́сунуць.

**Язык гладка ходзіць** *(у каго), цяп., пр. Пра ўменне ясна, лагічна выказвацца.* Язык у яго дужа глáдка ходзіць, толька вушы рысстыўляй. Помніш Мікіту, як у таго язык глáдка хадзіў. *Пачын.* **Язык гладка захадзіў,** *пр., буд.* Нешта ў цябе посьлі Хрісьцінкі язык гладка зыхадзіў. Як выпіць, тады ў яго язык гладка заходзіць.

**Язык дрэнна падвешан** *(у каго). Пра няўменне ясна, зразумела выказвацца.* Натура ў яго ого ікая, толька вот язык дренна падвешын, пык-мык і ні знаіць, што скызаць.

**Язык забарсываць,** рэдкаўж. *Змаўкаць.* Сколька яе помню, ні разычку язык ні зыбарсывыла, усігда як пымяло лыпытала. *Зак.* **Язык забарсаць.** Мы стаім і гаворім самі сабе, чаго йна сяньня язык зыбырсала, стала як саўсім ні тая Проська. *Узмацн.-множн.* **Языкі пазабарсываць** (пазабарсаць). Пыдажджыця, дыскачыціся, пызыбарсывыіця ізыкі, цішэй ціхыга лета станіця. На іх нада Цімоха, зь ім ба уміг ізыкі пызыбырсалі.

**Язык за зубы чапляецца,** *цяп., пр.; гумар. Пра немагчымасць лагічна выказвацца ад узрушэння, хвалявання.* Ні знаю, чаго ў іх язык зы язык чыпляіцца, нехта ныгнаў на іх страху. А ў цябе ж у сымаго язык зы язык чыпляўся, як прішлі кудрічані. *Зак.* **Язык за язык зачапіўся.** Нашто вам ішчэ Аньку пымінаць, у яе й так язык зы язык зычапіўся.

**Язык за плечы завязываецца,** *цяп., пр. Пра няспынную балбатню, лаянку.* Ат пріроды тыкая ўдылася, што ўсюдых язык за плечы зывязываіцца. У твае ўсігда язык за плечы зывязывыўся, пумуўчаць іна ня ўмела. *Зак.* **Язык за плечы завязаўся,** *пр., буд.* Раз язык за плечы зывізаўся, ні дажджэсься толку, ідзі. Ня жджы, пакуль язык за плечы зывяжыцца.

**Язык заплятаецца,** *цяп., пр. Пра гаворку п'янага.* Чую, чую, што язык зыплітаіцца. Сяньня ішчэ нічога, во ўчора ныпраўду язык зыплітаўся, двух слоў зьвізаць ня мог. Пыд ныгамі драя — ні ступіць і цісныта — яблыку нейдзі ўпасьць, мы тама зыпялёхыліся, а ён як вогірь рысхаджыіцца, і язык зыплітаіцца. *Зак.* **Язык заплёўся.** Посьлі первыга стыкана язык заплёўся, чуць варочыўся. *Узмацн.-множн.* **Языкі пазапляталіся** (пазаплялся). Ішлі сы свадзьбы, чуць ны ныгах стыялі, ізыкі пызыплііталіся, усё песьні зывадзілі. Куды ім яшчэ пыднасіць, і так ізыкі пызыпляліся.

**Язык за пляцень** (прасла) **чапляецца,** *цяп., пр.; іран. Пра празмерную балбатлівасць.* Я пра етыга чорта і тулкуваць ні хачу, у яго ўсігда язык зы пляцень чыпляіцца. Ці быў тэй дзень, скажы, калі ў цябе язык зы пляцень ні чыпляўся. Што ж ты будзіш дзелыць з бабыю, есьлі ў яе язык зы прясла чыпляіцца, канешня, нада було б усеч. Што там гываріць, у цябе ня меншы язык зы прясла чыпляўся.

**Язык за язык.** *Пра размову, лаянку, сварку.* I ў саміх пычалося язык зы язык, а тута яшчэ збоку ладна пытпіва́юць. Даўно ў іх нешта язык зы язык цягніцца.

**Язык з бразкоткамі** (са званкамі, званочкамі, з балабончыкам) (*у каго*), *іран. Пра балбатуна.* У яго ац са́мыга ма́лку язык з брязкоткымі. Раншы ты ні такей быў, а цяперь у цябе язык сы звынка́мі. У Марьі язык сы званочкымі, умеіць нызваніць зы пяцёх. Ці ты купіў язык з былабончыкым, ці ён у цябе ўсігда такей быў?

**Язык зламаеш** (зломіш, паламаеш, паломіш), *адз., мн. Пра немагчымасць вымавіць правільна.* Язык злума́іш, пакуля такоя імя вы́гывыріш, нызваў ба Анькыю ці Машкыю. Ізыкі зломіця так гыварёмшы. Што йта за словы пашлі, ні запомніш дайжа, а скызаць — язык пулума́іш. Язык паломіш, пакуля скажыш, і нада ж нысісаць такоя. Пірістаньця з вашым крыўляньнім, ізыкі паломіця, ета ж праціўна з боку слухыць.

**Языкі вязаць** (звязываць). *Даводзіць да сваркі.* Ніхай яны жывуць як жывуць, ахота табе і тут ізыкі віза́ць. Сьпец ізыкі зьвя́зывыць, а посьлі будзіць хыхыта́ць збоку. *Зак.* **Языкі звязаць.** Ты думыіш, чаго так ушчапуліўся, ні нарошня ён ізыкі зьвізаў? — нарошня, яй-богу, нарошня, натура тыкая. Лі яго асьцірігайся слова прыгывары́ць, січас ізыкі зьвяжыць. *Парайн.* В я з а ц ь я з ы к.

**Язык к зубам прырос** (прыстаў, прыкіпеў), *пр., буд. Пра раптоўнае змаўканне.* Як зыйшла Хадоріна, у Пітрыка зразу язык **г** зубам прірос. У такога язык **г** зубам ні пріста́ніць, ня бойся ты. Ну чаго ж у цябе язык **г** зубам прікіпеў, рысказывый, раз ета праўда. *Гл.* Я з ы к п р ы с о х; Я з ы к а т н я л о.

**Язык на барадзе,** *іран. Пра балбатуна.* У етых шкарендыў усігда язык ны быpадзе. Як рыспыліцца, язык ны быpадзе: я пріку́тыў дзьвері і тады пашоў.

**Язык на зубах павіснець,** *буд., пр. Пра пагрозу пакараць.* Ніхай большы пыласкочыць, дыласкочыцца, што язык ну зубах павісьніць. Даў ба, каб язык ну зубах павіс, тады знаў ба, як тріпаць чаго ні нада.

**Язык не варочаецца** (не паварачываецца), *цяп., пр. Пра немагчымасць гаварыць з прычыны ап'янення або*

*па маральных меркаваннях.* Ні чыпай, у яго ж, ві́дзіш, язык ні варочыіцца. Пріехылі ўчора з горыда, што ізыкі ні варочыліся. У мяне язык ні варочыіцца скызаць такоя. *Зак.* **Язык не павярнуўся,** *пр., буд.* У мяне язык ні пывярнуўся гываріць пры Аўхімёнка. Ні пускáй, ныбяру́цца, што ізыкі ні павернуцца.

**Язык незабарсаваный.** *Балбатун, пустамеля.* У таго нягегліка ўсігда язык быў нізыбáрсывыный. Во яшчэ ў каго язык нізыбарсывыный!

**Языком не варочаць,** *асудж. Быць вельмі п'яным.* Сяньня ўзноў ізыком ні варочыіць. Цягну́ліся, ныга зы нагу чыпля́лыся, ізыкамі ні варочылі, што йта зь іх дзеіць.

**Язык падвязываць.** *Змаўкаць.* Ёй ба даўно пырá наўчы́цца язык пыдвя́зывыць, каб ні буўтаўся лішня. *Зак.* **Язык падвязаць.** Тваё такоя дзела: язык пыдвяжы і сядзі ціхінька. І язык пыдвізаў, і пріюцішча найшоў, усё цяперя на месьці.

**Язык па плячах ходзіць** (ездзіць), *цяп., пр., буд. Пра несціханую балбатню.* Усё ўремя язык пы плічáх ходзіць, ні разу ні становіцца. Дакуля ў цябе язык будзіць хадзіць пы плічах? Во яшчэ ў каго язык пы плічах езьдзіць, — у Мархвы ў твае. Прікажы, каб меншы язык пы плічах езьдзіў, ато дыскачыцца. *Непаўн.* **Язык па плячах пахадзіў** (паездзіў). У Хадоскі ня меншы язык пы плічах пыхадзіў. Ізыкі пы плічах паезьдзілі ў абеіх, тріпатні іхнія наслу́хыліся. *Узмацн.* **Язык па плячах нахадзіўся** (наездзіўся), *пр., буд.* За трі гады язык пы плічах у яе ныхадзіўся. Пыдажджы, трошку пабольшыіць, то і ў яе язык пы плічах находзіцца, як у мамы. Можа ў цябе ўжо язык пы плічах наезьдзіўся, пріціхніш? *Законч.* **Язык па плячах адхадзіў** (ат'ездзіў), *пр., буд.* Кажыцца, ны ся́ньня атхадзіў язык пы плічах, маўчыць. Ці дажджомся мы таго ўремя, што ў вас язык пы плічах атходзіць. Кынца ў яе ня відна, язык у яе пы плічах ні разу ні ат'езьдзііць. *Працягл.-фінальн.* **Язык па плячах дахадзіў** (даездзіў, даездзіўся), *пр., буд.* Язык пы плічах дыхадзіў, маўчыць як вады ў рот ныбрала. Пулучыла, чаго хацела, язык пы плічах даезьдзіў, ня чутна стала. Я чуствыю, што ў цябе скора язык пы плічах даезьдзіць, унімісься. Слава богу, язык пы плічах у Просі даезьдзіўся, ажно ў дзяреўні пыцішэла.

**Язык прысох** (прыліп, атняўся). *Пра раптоўнае змаўканне.* Учора було ні ўняць, а тута і язык прісох. Нешта ў цябе скора дужа язык пріліп. Іван толька глянуў, дык у яго язык атняўся.

**Язык развязаўся,** *пр., буд. Пра актыўнасць у размове.* К канцу і ў Мішкі язык рызьвізаўся. Сьпірва маўчыць, а як язык рызьвяжыцца, ні ўняць будзіць. *Незак., рэдкаўж.* **Язык развязываецца.** Дужа медлінна ў яго язык рызьвязывыіцца. *Узмацн.-множн.* **Языкі паразвязаліся** (паразвязываліся). Посьлі чарычкі і ізыкі пырызьвізаліся, ато сядзелі мумрюкамі. Дужа скора ізыкі пырызьвязывыліся, мы дайжа ні ждалі.

**Язык свярбіць** (чэшацца), *неадабр.; цяп., пр. Пра неадольнае жаданне выказвацца.* У цябе узноў дужа язык сьвярьбіць. Ці ў яе язык сьвярьбеў, нашто було ету лухту у вушы ўклыдаць. Калі язык дужа чэшыцца, прікусі яго. *Пачын.* **Язык засвярбеў** (зачасаўся), *пр., буд.* Кытанула ў тэй канец, язык зысьвярьбеў, тама ёсьць сь кім пычысаць. Як зысьвярьбіць язык, ты яго патпілкым нушуруй. Пачула нешта, язык зычысаўся, нада лухту пірідаць.

**Язык** [харашо (ладна)] **падвешан.** *Пра ўменне добра, гладка гаварыць.* Язык у іх падвешын, вушы толька разьвешывый. Язык хырашо падвешын, каб рукі так работылі. Чаго хочыш нылапочыць, язык ладна падвешын. *Параўн.* Язык дрэнна падвешан.

**Язык цярацъ.** *Траціць магчымасць гаварыць у хваляванні.* Нешта ты ўсігда язык ціряіш, як тая крысавіца пыіўляіцца. *Зак.* **Язык пацярацъ.** Вот табе на, абоя язык пыцірялі піріц свытамі. То ўбрэгу ні було, а тут язык пыціряў.

**Яйцо з-пад кошкі** (сучкі) **даставаць.** *Рабіць неверагоднае, немагчымае.* Тэй быў атлёт, што яйцо с-пат кошкі дыстываў. У той кынпаніі яйцо с-пац сучкі дыстываць наўчыцца. *Зак.* **Яйцо з-пад кошкі** (сучкі) **дастаць.** У ім с самыга малку двынаццыць сядзіць, ён табе яйцо с-пат кошкі дыстаніць. Такей ужо сьпец, што яйцо с-пац сучкі можыць дыстаць. Яны б яйцо с-пац сучкі дысталі, а ня то што сад ні апчысьцюць.

**Яйцо з-пад курыцы дастаць** (украсць). *Быць спецыялістам вышэйшага класа.* Тута давучывыць нечыга, ён

і біз даву́чываньня яйцо с-пат куріцы дыста́ніць. Ты ўжо стаў дык стаў, і яйцо с-пат куріцы укра́дзіш. Ну й прыспалі́тый жа урадзіўся, ён табе што хочыш атпаліць, яйцо с-пат куріцы укра́дзіць.

**Як адна капейка.** *Пра абсалютна дакладны падлік.* Вы́лыжыў чатырі сотні як адна капейка. Дзьвесьця рублей як адну капейку аддаў зы пацьсьві́нка.

**Як адна мінута.** *Пра хуткае, непрыкметнае працяканне часу.* Столька прайшло ўремя як адна мінута. Як адна мінута етый месіц прыляцеў.

**Як аршын праглыціў** (праглыціўшы). *Ненатуральна прама (трымацца).* Ну што ты стаў як аршын прыглыціў, ідзі ў хату скарей. Стаіць піряд імі як аршын прыглыціўшы, а яны што зря нясу́ць.

**Як арэхі шчоўкаць.** *Хутка рашаць (пра задачы).* Ён рішаіць любэя зыдачы як арехі шчоўкыіць. Такея зыдачы нам як арехі шчоўкыць, мы куды труднейшыя рішалі.

**Як атліць.** *Зрабіць па-майстэрску.* Быў дужа харошый ма́сьцір, зьдзелыіць ря́мы — як атальлець. Дзвері так сыглі́чыў, як атліў.

**Як атрэзала.** *Пра знікненне ахвоты, жадання, імкнення.* Усігда хадзіў як свой, а тут як атрезыла, чаго б ета, думыю, ажно во чаго. Посьлі ксьцін у Мархвы як атрезыла, ні разу ні пыкыза́ўся.

**Якая муха ўкусіла** *(каго). Пра незразумеласць паводзін.* Я й сам ні знаю, ікая муха яго ўкусі́ла. Што ты пріду́мывыіш ня ві́дзіўшы, ні знаўшы, ікая муха цябе ўкусіла.

**Як багатага.** *Моцна.* Ета ні хацелі, цябе б наўчы́лі як быга́тыга: перш ба зыявілі ў міліцыю, што ты грозіш, а тады б у суд.

**Як багатый.** *Бясспрэчна.* Доктыр асьледывыў ба, і зыплаці́ў ба як быгатый.

**Як біржа.** *Вельмі шпарка, імкліва (насіцца).* Носіцца як бі́ржа туды і нызад. Твыя нявестка ўсігда як біржа лётыла.

**Як бліны печ.** *Рабіць вельмі спрытна, хутка.* Ён етыя

шáічкі як бліны пякець. Пынас дзелыў граблі як бліны пёк.

**Як бог,** *адз., мн. Прывольна, вельмі багата (жыць).* Цяперя ён як бог жывець, усё ў руках. Як багí сідзяць, дзеці іх сныбжáюць са ўсіх бакоў.

**Як бог дасць.** *Пра абыякавасць да таго, што будзе.* Пыдажджом, пыглядзíм, як бог дасьць зь естыю пастройчыныю. Ніхай яно ў іх будзіць як бог дасьць, ні ўлізай. *Параўн.* Б о г д а с ц ь; Н е д а й б о г.

**Як бог на душу паложыць.** *Так, як некаму выгадна або як пажадаецца.* Я знаю, яны рішаць, як бог ну душý паложыць. Тута нічога ня зьменіш, жджы ўжо, зьдзелыюць, як ім бог ну душу паложыць.

**Як бог свят.** *Абавязкова.* Ня ўцерьпіць, прíдзіць, як бог сьвят прідзіць. Як бог сьвят заўтря пыд'явюцца, у Пустынкі ня пойдуць.

**Як божжый дзень.** *Абсалютна (ясна, зразумела).* Як божжый дзень ясна, чаго яны дыбіваюцца. Тута ўсё пынятна як божжый дзень, сьпіцыяльна шула пахіліна.

**Як вадою змыла** (знясло). *Пра імклівае знікненне.* Чаго ж яго як вадою змыла, нешта ня хочыць устрічáцца с Клімянком. Толька вы пыкызáліся, іх як вадою зьнясло.

**Як ветрам здуло** (змяло, знясло). *Пра імклівае знікненне.* Мы падыйшлі, дык іх як ветрым здуло. Як ветрым зьмяло ат аднаго майго слова. Учора яго ат'етуля як ветрым зьнясло, і сяньня ні пыкáзывыіцца.

**Як вока.** 1. *Пойны.* Дажджы ладна атлілí, пыд гародымі сáжылкі як вока, і выда чыстыя-чыстыя. Астарожнінька бярі гырлач: паўнютычкій як вока. 2. *Пільна (берагчы).* Нукупляла нейкыга дужа дырагога посыду — тарелык, чашык і бірягець як вока.

**Як вокам змаргнуць** (маргнуць). *Вельмі хутка, імгненна.* Як вокым змаргнýць цап вузялок с калёс — і толька быў. Прыг у кусты як вокым маргнуць — і німа. *Параўн.* В о к а м н е з м а р г н у ц ь.

**Як вокам скінуць.** *Пра вялікую прастору, разлеглась.* У сьціпях мы былí, ай-я-яй, якоя там раздольля, кругом як вокым ськівуць, ні бугуркá, ні лашчынкі, роўна і роўна як стол. Столька ў іх затýріна пышаніцыю по-

ля — як вокым ськінуць, а колыс у паліц, зірняты як боб,— грібану́ць хлебушка.

**Як вол да карэты,** *адзінк. Пра нікуды нявартага.* Етый і ў трыктарісты, і ў мышыністы патходзіць як вол ды кареты.

**Як гагой,** *адзінк. Важка і імкліва (ісці).* Нясецца як гагой, зімля пад ёю ўгіна́іцца.

**Як галавою аб сценку.** *Без усякіх вынікаў.* Сколька хадзіла, сколька гыварілa — як гылавою ап сьценку. І я гыварілa, і Арцём гыварiў, і сыма Арцёміха хадзіла тулкува́ць, дык длі яго як гылавою ап сьценку.

**Як грыбы после дажджу.** *Хутка, шпарка (расці).* На етый зямле усё расьцець як грібы посьлі дажджу́.

**Як дважды два.** *Ясна, бясспрэчна, проста.* Ну, ны такой зямле як дважды два проса пріродзіць. Як дважды два яны тута ціріш час будуць.

**Як дзень пацяраўшы.** *Бязмэтна, няўцямна (хадзіць).* Што ты ходзіш як дзень пыціря́ўшы, ніхай ба сеў ды вожкі зьвіў. То туды дзьві́ніцца, то сюды торкніцца, нешта як дзень пыціряўшы.

**Як добрый дурань,** *жарт. Легкадумна.* Яны хадзі́, хадзі, я й сыгласі́ўся як добрый ду́рінь, пашоў, а чаго мне туды було йціць. Як добрый дурінь усё дывадзі́ў ім да цу́гу.

**Як друя.** *Тоўсты, тлусты.* Русплула́ся як друя, ідзець, чуць спы́шыцца. Ёй можа підзьдзісят міну́ла, гады ішчэ нібальшэя, а стала нейкыя як друя, ну праўда, іхнія ўся пріродa тыкая.

**Як завязаць.** *Пра вельмі поўныя мяхі.* Мітрыхван сёліта узяў хлеба: стыялі пыць сьцяною чатырі мяшкі як зывіза́ць, пудоў па шэсць. Няпоўна ня любіць, усігда нысыпа́іць як зывізаць.

**Як за сябе.** *Хутка (есці).* Міску крупені нывярну́ў як зы сябе і ша́рнуў с тыпаром у ку́сьця. Ні пірібіра́юць дужа, што ні пыдасі́, як зы сябе йдзець.

**Як за язык прывязаный** (пачэпленый, зачэпленый, падчэпленый), *неадабр. Пра бесперапынную надакучлівую гаворку.* Усё адно вярзець і вярзець, ні сьціха́ючы, як зы язык прівя́зыный. Вот ужо як зы язык прівязын,

худзь ба ны мінуту змоўк. Дýріць гылаву сваімі трілю́дымі як зы язык пачэпліный. Будзіць цягнуць і цягнуць сваю лухту як зы язык пачэплін. Трілю́дзіць нешта і трілюдзіць Аўхіму як зы язык зачэпліный. Прець мыхалею як зы язык паччэпліный, ні даець слова скызаць. Сяньня ты як зы язык паччэплін.

**Як з-пад** (з) **зямлі вырас.** *Пра нечаканае з'яўленне.* Аткуль ета ты ўзяўся, як с-пыдзь зямлі вы́рыс? Нешта ж вы як зь зямлі вырысьлі, важ жа ня відна було нійдзе. Ну й рыскабойнік, як зь зямлі вырыс.

**Як з разца.** *Неспадзявана, рэзка, рашуча (сказаць).* Адбры́ла яму, адбрыла як з різцá і пышла сабе. Сіканýла пы вычáх як з різца: а што, ты думыіш, муўчаць табе да веку будзім? — не, забýдзь.

**Як зрэзаныя,** *толькі мн., адзінк. Добрыя і падобныя.* Дужа харошыя пáра была, як стáнуць як зрезыныя, вы́шы сяредніга росту.

**Як з хрыста знятый,** *уст. Надзвычай худы.* Чаго б ета Іван такей як с хрістá зьня́тый, ці ні баліць у яго што ў сярёдку. Пріехыў, дык быў як с хріста зьнятый, а тут ат'еўся.

**Як з яйца вылупіўся.** *Пра поўнае неразуменне.* Што ты нічога ні пынімáіш, як зь ійцá сяньня вы́лупіўся. Лы́пыіць вычамі, як зь ійца тока што вылупіўся.

**Як зямля носіць** (церпіць, цярпіць). *Пра нягодніка, здрадніка.* Як цябе зімля носіць, ты ж хужы хвашы́ста на сьвеці, тэй ураг, а ты ж свой, а етык твáріў. Як яго зімля церьпіць зь яго уредствым. Як іх зімля цярьпíць гадыў еткіх, каб ныц сваім зьдзівацца.

**Як зяніцу вока.** *Пільна* (*берагчы*). Дужа харошый сьвярдзёлычык пупáўся, я яго бірягý як зяніцу вока. На, вазьмі разводку, ну штоб глядзеў як зяніцу вока, чым я тады пілу рызвядý.

**Як іголка ў сене** (стагу сена). *Пра бясследнае знікненне.* Прыпаў ножычык як іголка ў сені. Тута во ліжалі шпількі і прыпалі як іголка ў сені. Усё пірійскáў і німа нійдзе, пыціряўся брусок як іголка ў стагý сена. *Гл.* Шукаць іголку ў сене.

**Якім ветрам занясло** (прынясло)? *Як трапіў?* Якім цябе ветрым зынясло сюды, я думыў, ты ўжо ні разу ні

пыка́жысься тута. Якім ветрым вас прінясло ў нашы краі?

**Як карова ў шчыблетах.** *Нязграбна* (*выглядаць*). Твыя крыса́віца йдзець як карова ў шчыблетых. Ступа́іць як карова ў шчыблетых, з боку на бок кавы́ль, кавыль.

**Як карова языком злізнула.** *Пра бясследнае знікненне.* Толька што былі тута, а цірізь мінуту гляджу́ — німа, айдзе дзеліся, як карова ізыком зьлізнула. Тыкая была пастройка і у́сё як карова ізыком зьлізну́ла.

**Як кату ў мяху** (мяшку). *Зусім дрэнна.* Ні хацеў людзей слу́хыць, ніхай у зіця́х пыжывець, яму там будзіць як кату́ ў мяху́. Ім було як кату ў мяшку, хваліцца толька стыдзя́цца.

**Як кот з хвастом.** *Перашкаджаючы.* Ні насіся як кот с хвастом, ні мішай пуд рукамі. Як кот с хвастом усюдых су́ніцца, а тады пішчыць, як пріці́сьніш.

**Як** (куды) **ні круці** (ні вярці, ні павярні). *У любым выпадку.* Як ні круці́, а штрах заплоціш. Як ні вярці, дзела тваё саўсім плахоя, Машка зы цябе ня пойдзіць. Як ні круці, ні вярці, а пр́ідзіцца пымярці́. Як ні пывярні, дык ехыць нада, а ці з маім здароўім у такую дарогу вупруўля́цца. Куды ні круці, а біс каровы астыва́цца нільзя. Куды ні вярці, ну схадзіць табе нада. Куды ні пывярні, дык плоха дзела, здароўя саўсім пудупа́ла.

**Як леташній** (прашлагодній) **снег.** 1. *Без патрэбы, цікавасці.* Ён мне тут нада як летышній сьнег, я бізь яго ні быйду́ся. І ў Мушыні, і ў Сутокых нада ён як прышлагодній сьнег. 2. *Нікольки* (*не страшны*). Мікілай мне так стра́шын як летышній сьнег. Ты каго-небудзь спужа́іш як летышній сьнег. Яго нехта баіцца як прышлагодніга сьнегу.

**Як лёду.** *Зусім мала.* Прінёс палу́чку, дзьве дзісяткі як лёду, будзіць і сыт, і ныпря́нут. Зьезьдзіў, заробіў паўсотню як лёду, харошыя зыработкі: і сям'ю пракорміць, і сам пад'есьць.

**Як лісіца пад барану** (бараною, бервяно, бервяном). *Ненадзейна* (*хавацца*). Ты дужа далёка схува́ўся, як лісіца пыд быра́ну́. Ён хуваіцца як лісіца пыд быраною, тая хувалыся і гываріла: усё ні кажныя ка́пка капніць, і

то каторыя сьпірва ны бырану капніць, а тады ны мяне сьцякець. Ну што, дождж ны цябе ні ка́пыіць, ты ж схуваўся як лісіца пыд бірьвяно. Хуваліся як лісіца пыд бірьвяном, каб ні кажныя капка пупала.

**Як лунь.** *Зусім* (*сівы, ссівелы*). Раншы быў крыса́віц, чу́бым як узмахнець, дзеўкі сохлі, а січас як лунь стаў. Максім як лунь сі́вый, ні пызнаць дайжа, што Максім.

**Як Марка з пекла.** *Без разумення.* Нешта ты ідзеш як Марка сь пекла. Ішоў як Марка сь пекла, аткуля ён ішоў, ідзе быў — ні знаю.

**Як Марка па пеклу.** *Без разумення* (*хадзіць*). Туўка́іцца як Марка па пеклу, вун дарога і йдзі пряма. Доўга хадзіў лі вазоў як Марка па пеклу.

**Як Марка с Арла.** *Надзвычай доўга.* ○ Селянін Марк, разумова абмежаваны, у пачатку першай сусветнай вайны быў прызваны ў царскую армію. З-за поўнай непрыгоднасці да вайсковай службы ён быў адпушчаны дадому з г. Арла. Дрэнна ведаючы свой адрас, дарогу, ён дабіраўся дадому некалькі месяцаў. З таго часу і ўзнік гэты жартоўны выраз. *Глядзі, паедзіш, туды заедзіш, а нызад будзіш варочыцца як Марка с Арла.*

**Як маць радзіла.** *Голы.* Вы́скычым з бані як маць рыдзіла́ і хува́цца ў жыта. Во бясстыднік: як маць рыдзіла ходзіць пы бірягу́, а тут жа кругом людзі, ні стыда́ німа ні сырыма́. *Гл.* У ч о м м а ц ь р а д з і л а.

**Як мёду напіцца.** *Уволю* (*нажыцца*). У зіця́х нажы́ўся як мёду напі́ўся і адзьдзялі́ўся — ня дужа ўскреснуў. Ніхай сходзіць, ныжывецца як мёду нап'ецца, пыспыта́іць новыя жызьні.

**Як муха ўкусіла** (камар укусіў), *іран.* *Нечакана, раптоўна.* Пыцскачы́ў як муха яго ўкусі́ла, рыскрі́ча́ўся ні́вісь чаго. Ён часта так: пацскочыць як яго кымар укусіў, а тады патроху уні́міцца.

**Як на грэх** (бяду). *Нібы знарок.* Ён другую нядзелю пластом ляжы́ць, а тута я як на грех сыма прасты́ла, у грудзях сіпі́ць-хріпі́ць, кашыль душыць. І раншы йна ня дужа была памошніца, і на́ табе, як ны бяду руку прабіла, пу́хніць.

**Як на духу.** *Адкрыта, чыстасардэчна.* Пыча́лі хыра-

шэнька спра́шывыць, дык рыскызаў усё як на духу́. Мне таіцца нечыга, я рыскажу як на духу.

**Як на карове** (свінне) **сядло.** *Нязграбна* (*сядзець*). Хто табе шыў етый тулу́п, ён ны табе як ны карові сядло. Нічога ўборы, толька яны на ём як ны карові сядло. Як ны сьвіньне сядло ны вас ны абеіх курткі сідзяць. *Гл.* Як карове сядло.

**Як на крыллях** (крыллі). *Шпарка, з вялікай ахвотай.* Як на кры́льліх ляцеў, знаў, што жджэць ніныгля́дныя. Пікні толька, што вічарінка, як на крыльлі будуць ляцець.

**Як на леташній снег.** *Безуважна* (*адносіцца*). Ны цябе глідзяць як на летышній снег, і на ўсе твае зздываньні. Ны яго абрышча́юць уніманія як на летышній снег. *Гл.* Як леташній снег.

**Як нанава** (нанова) **на свет радзіўся** (нарадзіўся). *Пра карэнныя змены ў выніку ўсведамлення мінулых паводзін, учынкаў.* Посьлі таго слу́чыя ён як на́нывa на сьвет радзіўся, саўсім ня тэй чылавек стаў. Пыглядзіка, ён жа як нанывa на сьвет нырадзіўся, у горыдзі яго апціса́лі. Пуўлючонык як нанова на сьвет нырадзіўся, і культурный стаў, і ўва́жыстый.

**Як на смех.** *Дрэнна* (*рабіць, атрымліваццa*). Нашто ж дзелыць як на сьмех, калі ўзяўся, дзелый як нада. Уродзі і стыря́іцца, а ў яго ўсё выходзіць як на сьмех.

**Як на тое.** *Адно да аднаго.* Яно ж як ні пывязець, дык адно зу другоя і чыпля́іцца: сыма зьлігла і ён як на тоя руку злумаў.

**Як не было.** *Пра бясследнае знікненне.* Нешта ж і етых як ні було, айдзе яны дзеліся.

**Як ні круціся** (ні вярціся). *Нягледзячы ні на што.* Як ні круці́ся, прідзіцца ехыць табе, некыга другога пыслаць. Як ні вярціся, ні атверцісься, рыска́жыш, што тварілі. *Гл.* Як ні круці.

**Як ні ў чом не бывала.** *Звычайна.* Збоку яго порь і сядзі́ць як ні ў чом ні бува́ла, як нічога ні знаіць. Я ж ішла як ні ў чом ні бувала, ці я знала што-небудзь пра іхнію сварку.

**Як нялъзя луччы.** *Вельмі добра.* Вокны давёў як нільзя́ луччы, дыма́сьліў усё як яечка.

**Якога чорта.** *Выражэнне нязгоды.* Якога чорта я туды пайду, там і бізь мяне поўна будзіць. Якога чорта аднаму кыла йстру́ба дзелыць. Якога чорта ехыць за сьвет с такім. *Гл.* На якога чорта.

**Як па струнке.** *Строга, дакладна* (*выконваць*). Вы́вухріла свайго, ходзіць піряд ёю як па стру́нкі, што ні скажыць, усё спыўня́іць. Не, я ўжо так ні хадзіў бы як па стрункі ні пірят кім.

**Як па часах.** *У дакладна ўстаноўлены, вызначаны час.* Ты свайго пріўчы́ла, як пы чысах іўля́іцца. Лю́біць, каб яму ўсё було як пы чысах, а тута гадзіць некылі. *Гл.* Па часах.

**Як пашаніцу** (пашанічку) **прадаўшы.** *Вельмі моцна* (*спаць*). Вун яны у сяніцы ны саломі сьпяць як пышані́цу прыдаўшы. Увесь дзень прыспаў як пышані́чку прыдаўшы.

**Як перад богам.** *Чыстасардэчна* (*гаварыць, прызнавацца*). Як піряд богым гыварю́, што я там адну мінутку пыстыяла і нічога ні гываріла. Як піряд богым клянўся, што яны тут і нагою ні былі́.

**Як перад замужам,** *жарт. Хораша, старанна* (*прыбірацца*). Чыка́ніцца як пірідз за́мужым, нада ж на людзі сябе пыкызаць. Як пірідз замужым прібіра́юцца.

**Як перад свадзьбаю,** *жарт. Турботна.* У вас тута зборы як піріц свадзьбыю, ці ні жджыцё каго. Старэй нешта скрябець гылаву як піріц свадзьбыю.

**Як плець** (пляцёнка), *рэдкаўж. Вельмі многа.* Яблык було як плець, а во два гады саўсім німа, а раншы я гываріла, каб і меншы б. Гуркоў як пляцёнка, выбіра́ць ні спруўля́ісься.

**Як прагаварыў.** *Пра магчымасць сурокаў.* Як хто прыгываріў етыга дзіцёнка, учора быў мальчык як мальчык, сяньня кыбызі́цца, крівэй нейкій. Як прыгыварілі вы зь етым дажджом, ён ба саўсім ні нада быў.

**Як праскуры.** *Надта, прагна* (*чакаць, хацець*). Вы ня помніця, вас тады ні було і на сьвеці, а мы, бувала, кусочыка са́хыра жджом, жджом як пруску́ры. Каб пыгылыдаў, то й скарінку хлеба ждаў ба як прускуры.

**Як птушка.** *Бесклапотна* (*жыць*). Жывець як птуш-

ка, ні забот, ні клапот ні знаіць. Як птушка прыгыіць, у яго ўсё гатовыя, айдзе пашоў, там пыхадзіў, айдзе лёг, там пірісп́аў.

**Як рукою зняло,** *пр., буд. Адразу, поўнасцю.* Б́анкі пыставіла Сьціпаніда, і ўсё як рукою зьняло, іна сьпецна банкі ст́авіць. Нада, каб Зьмітрачонык с табою пыгываріў, тады ўсю тваю хваробу як рукою зьн́іміць.

**Як рэпу** (рэпку) **грызець.** *Пра таго, хто хутка рашае задачы, наогул добра вучыцца.* Самыя тр́удныя зыд́ачкі рішаіць як репу грызець. Хырашо пашоў ны навуку, усе прідметы вучыць як репку грызець. *Парайн.* Хоць рэпку грызі.

**Як** [свае] **пяць пальцаў.** *Дасканала (ведаць).* Я Восьлінку знаю як пяць пальцыў, я, шчыт́ай, там узгудув́аўся. Дуброву мы знаді як свае пяць пальцыў, мы ж столька аттуля арехыў бралі.

**Як сваіх вушэй.** *Ніяк (не бачыць).* Ня ўв́ідзіш ты большы пацьс́ітка як сваіх вушэй. Ня відзіць табе ножычка як сваіх вушэй.

**Як свет без ума** (свет пацяраўшы). *У непаразуменні, у бяздзейнасці.* Па Лысый гаре хадзіў нечыга як сьвет біз ума. Ціѓаіцца як сьвет біз ума, зын́яція ніяк ні н́айдзіць. Я ня буду шукаць вас як сьвет пыцір́яўшы, самі ́явіціся. Каб ты ні хадзіў як сьвет пыціряўшы, а луччы б ныкыпаў бульбы. *Гл.* Як дзень пацяраўшы.

**Як свет стаіць.** *Заўсёды.* Як сьвет ста́іць вас ніхто ня вёў зу людзей і весць ня будзіць. Як сьвет стаіць ты быў трошку з дур́інкыю.

**Як скрозь** (праз) **сон** (ува сне). *Няясна, смутна (памятаць, уяўляць).* Нешта я чула як скрозь сон: пымін́алі Піліпыва гумно. Як прас сон помню: пріііжджа́ў у матроскый хормі, вісокій. Як ува сьне помніцца: ехылі сы звынќамі і д́угі ў лентых.

**Як** [старай] **бабе сесць.** *Пра надзвычай малую плошчу.* Тама аст́алыся лускуц́інка як бабі сесьць, нада було ускып́аць ды кустоў сколька бульбы пысадзіць. Тута ў цябе нім́алыя плошчыдзь засеіна: як ст́арый бабі сесьць.

**Як туз** (тузік), *жарт. Уволю (пад'есці, напіцца).* На-

пёрся як туз: дзьве міскі крупені умылаціў і мяса хунты два дыбáвіў. Пад'еў як тузік, толька пыхціць. Выпілі як тузікі, крáсьнінькія ішлі.

**Як тут было.** *Вельмі дакладна* (*падыходзіць*). Бірьвяно ўжо гатова, ляжыць як тут було. Шула стаіць як тут було.

**Як у бубен** (звон) **біць.** *Шырока абгаворваць.* Па ўсёй дзяреўні як у бýбін б'юць, што відзелі іх умесьці. Усе пры яе як у звон б'юць, толька ты адзін слухыць ня хочыш. *Аднакр.* **Як у бубен** (звон) **ударыць.** Тады былі як у бубін ударілі пы дзяреўні пры Сямёна с Хрісьцінаю. Пра іх зразу як у звон ударілі, ого, сколька було рызгаворыў. *Парайн.* Біць у звон.

**Як улітый** (уліт). *Якраз па росту, фігуры* (*пра адзенне*). Касцюм як улíтый, дужа хырашо сядзіць, ні склáдычкі, ні маршчы́нычкі нійдзе. Ны табе ета пальто як уліта, і пашыць так ні ўсігда пашыіш. Пінжак як уліт, а штаны мяшком сідзяць.

**Як у птушкі.** *Бесклапотнае* (*жыццё*). Яго жызьня як у птушкі: сяньня ны адном сучкý пірiспáла, а нызáўтрiга ну другой веткі пысядзела і шы́пухым зукусíла.

**Як** [у сябе] **дома.** *Свабодна, раскавана* (*адчуваць сябе*). Ты сябе дужа чýствыіш як дома, нада трошку скрамней быць. Яны прівыклі усюдых быць як у сябе дома. Будзь як дома, ні зубувáй, што ў гысьцях.

**Як халоднаю вадою аблітый.** *Збянтэжана.* Выйшыў адз Зыхарёнка як халодныю вадою аблíтый.

**Як халоднаю вадою абліло.** *Збянтэжыла.* Скызалі вы пра Домну, дык Сімінка як халодныю вадою абліло. Яго зразу як халодныю вадою абліло, як пымянýлі пра копы.

**Як** (што) **аблупленага.** *Вельмі добра* (*ведаць*). Такей то хвон-барон твой Дзім'ян, яго тут усе знаюць як аблýпліныга. Кажныга чылавека знаў як аблупліныга. Мы знылі твайго прысьвятніка што аблупліныга.

**Як** (што) **аб** (у) **сцяну** (сценку) **гарох** (гарохам). *Аніяк.* Ці ты яму гывары, ці ні гывары — ета як ап сьцяну гарох. Як ап сьцяну гарохым тулкувáньня тваё. Ды вас любэя словы даходзюць як ап сьценку гарох. Сколька гыварілі, сколька дукувáлі, дык ім як ап сьценку

гарохым. Длі яго твае словы як у сьцяну гарох. Гаворіш, гаворіш, усё як у сьцяну гарохым. Толк бальшэй, што ты скызаў, усё ацскачы́ла, як у сьценку гарохым. Усе твае словы што ап сьцяну гарох. Сколька ні гываріла, дык што ап сьценку гарох, як і ня чуіць. Сколька ні ўталковывый, усё што ап сьцяну гарохым. Брындаву́сіў ба і брындавусіў, а скажы — што ап сьценку гарохым. Кылі ты й скажыш, ета ім што ў сьценку гарох. Маё гывареньня што ў сьцяну гарохым, яму нада скызаць ды прісту́кнуць. Дуку́й ці ні дукуй, усё дно што ў сьценку гарохым.

**Як** (што) **абух,** *зняважл. Тупы, абмежаваны.* Ён як абу́х, яму нічога ні ўкладзеш, ні ўталку́іш. Саўсім атурма́чыўся, стаў што абух.

**Як** (што) **абухам** (абухом) **па галаве.** *Нечакана, знянацку* (*ашаламіць*). Яму тыкая новысьць будзіць як абу́хым пы гылаве. Ты рыскызаў пры Кацю — як абухом пы гылаве ўдаріў. Такоя скажы, дык усякыму будзіць што абухым пы гылаве. Пры Мірянковыга ўсім було што абухом пы гылаве.

**Як** (што) **авеччый хвост.** *Вельмі, надзвычай* (*трэсціся, дрыжаць*). Прібег мокрый, трясецца увесь як авеччый хвост. Кылаціўся як авеччый хвост, страху яму хваціла. Ні трясіся што авеччый хвост, каціся ат'етуль.

**Як** (што) **агня.** *Надзвычай* (*баяцца*). Цябе ён ні прізнывáў дайжа, а Высіля быяўся як ыгня. Цяперя ты Сідарёнка баісься як ыгня. Стаў быяцца яго што агня.

**Як** (што) **агонь.** 1. *Вельмі* (*рыжы*). Ну й зяця ж іна сабе нейдзі вы́пырыла, гылыва рыжыя як агонь. Мальчонка ў яе рыжый-рыжый, што агонь. 2. *Вельмі (шпаркі, спрытны*). У любом дзелі як агонь. Што агонь дзеўка, усюдых первыя. 3. *Вельмі* (*вострı*). З нажом астарожна, ён восьцір як агонь. Найстріў цяслу́, стала што агонь.

**Як** (што) **агурчык,** *іран. Гладкі, спраўны, дагледжаны.* Разьеўся, як агурчык стаў. Як агурчык ідзець, на ём усё сіяіць. Сядзіць што агурчык, гла́дзінькій, кру́глінькій.

**Як** (што) **ад** (з) **казла малака.** *Пра абсалютную бескарыснасць.* Зь яго пользы як ат кызла́ мылыка. Дажджэсься адзь зяця помышчы як с кызла мылыка. Ці ён

прідзіць, ці не, адна будзіць польза: што ат кызла мылыка. Ат Мікіты палучыш помышчы што с кызла мылыка.

**Як** (што) **ад сцяны** (сценкі) **гарох.** *Безвынікова.* Што ні скажы, ат яго ўсё ацска́кывыіць як аць сьцяны гарох. Што, кылі я скызаў, я скызаў, а ат яго ацскачыла як аць сьценкі гарох. Як ста́хыўся зь Лівынятымі, цяперя ат яго ўсе словы ацскакыюць што аць сьцяны гарох. Што аць сьценкі гарох усё атлітаіць, паспробый нудуку́й. *Гл.* Я к а б с ц я н у г а р о х.

**Як** (што) **асінавый ліст.** *Моцна, надзвычай* (*дрыжаць*). Што там будзіць грець, пінжачы́шка етый пляхотычка ці ёсьць ці німа, ён дрыжы́ць як асі́нывый ліст. Мы абея трясьлісь як асінывый ліст, што ты, еткыга страху нагледзіліся. Што асінывый ліст дрыжыць, ат усяго атмыя́кывыіцца. *Гл.* Я к а в е ч ч ы й х в о с т.

**Як** (што) **бабак.** *Прывольна, у бяздзеянні* (*жыць*). А што яму, пад'есьць і кычаіцца як быба́к. Як быбак лета прывыля́ўся, паліц ап паліц ні ўдаріў. Яго брындаву́с ціга́іцца нейдзі пасьці ўсю ноч, а тады кычаіцца пыўдня што быбак.

**Як** (што) **банный ліст,** *неадабр. Назойліва, надакучліва* (*прыставаць, дагаджаць*). Усё ўремя ён як ба́нный ліст чыпля́іцца. Як банный ліст лі́пніць к Хвёдырывым. К кажныму ліпніць што банный ліст. *Гл.* Б а н н ы м л і с т о м л і п н у ц ь; Б а н н ы м л і с т о м с л а ц ц а.

**Як** (што) **баран на новыя вароты.** *Разгублена, з непаразуменнем* (*глядзець*). Чаго ты глядзі́ш як быра́н на новыя вароты, бярі, несьць нада. Углідаўся як быран на новыя вароты. Атурма́чылі яго саўсім, стаіць і глядзіць на іх што быран на новыя вароты.

**Як** (што) **без вачэй.** *Абы-як, не гледзячы* (*рабіць*). Зышыва́ла як біз вачэй, трі дзіркі ў мяшку аста́лыся. Там було збрэзь с судоў, а ён ішчэ дывай бухторіць што біз вачэй.

**Як** (што) **без галавы.** *Не думаючы, без развагі* (*рабіць*). Ну што ты дзелыіш як біз гылавы, нашто сюды посыд ляпі́ць. Шпульга́іць снапы што біз гылавы, ячмень сыпіцца.

**Як** (што) **без ног.** *Павольна, неахвотна* (*ісці*). Нешта сяньня ты ідзеш к сваёй як бяз ног. Ця́гніцца як бяз ног к новый сям'е. Ныпрікле́нныя дзяўчонка, скызала ёй, нада скарей, дык нарошня йдзець што бяз ног.

**Як** (што) **без рук.** *Павольна, неахвотна* (*рабіць*). Бяру́цца як бяз рук, ета ні работа. Як бяз рук грябу́ць, прі такой греблі і зыначу́юць ну лугу́. Етый пыджжывотнік пыдняць сіла нада ні абы ікая, а ён бярецца што бяз рук.

**Як** (што) **белка ў калясе.** *Без перадыху* (*працаваць, рухацца*). Вярцеўся во цэлый дзень як белка ў кылясе, прыдыхну́ць некылі було. Кручу́ся як белка ў кылясе, айдзе мне пра тэй кірмаш ду́мыць. Верціцца што белка ў кылясе, аж гылыва гудзі́ць.

**Як** (што) **бізун.** *Вельмі, зусім* (*голы, худы*). Прікаціў як бізу́н, толька што на ём і ўсё. Вы́сых як бізун, носіцца цэлый дзень, у хату ні загоніш. Вы́пітріў што бізун. *Параўн.* Г о л я к с а к о л.

**Як** (што) **бога.** *Вельмі, надзычай* (*прасіць, чакаць*). Прасілі як бога, каб ён хуць ны адзін дзень пыдыйшоў памог. Як бога жджэць свайго, вот-вот должын пад'ехыць. Што бога прасілі, каб ныпрыва́дзілі яго лугым, ні пускалі ціріс кусты.

**Як** (што) **борахава кіла.** *Вельмі незадаволена* (*бурчаць*). Бубні́ць і бубніць як борыхава кіла, спраці́віў бубненьнім сваім большы некуды. Усё раньня бурчэла што борыхава кіла, ныдаела хужы горькія редзькі.

**Як** (што) **борах па дворах.** *Без сэнсу, без разумення* (*хадзіць, блукаць*). Чаго ты ціга́ісься як борых па дворых, што ты айдзе забыў. Вылачыўся ўвесь дзень што борых па дворых.

**Як** (што) **бот,** *зняважл. Тупы, абмежаваны.* Нешта стаў як бот, нічога ні ўталку́іш. Дурнэй як бот, ды яго ніякыя слова ні даходзіць. Твой сівалезый што бот, сьсівеў, а ўма ня вы́ніс. *Гл.* Я к а б у х.

**Як** (што) **брытва.** 1. *Вельмі востры.* Абоя ножыкі як бры́тва, дужа войстра навёў. Кырначык, а што брытва, паліц рызвалі́ў. 2. *Дасціпны, знаходлівы.* Іна як брытва, за словым у кырман ня лезіць. Ізычок у яго як брытва. Каця што брытва, ні даець слова скызаць, усё нусупрекі.

**Як** (што) **бубен.** 1. *Голы, выбіты* (*пра поле, луг*). Ви́гын вы́біт як бу́бін, німа ні травінкі. Лі Мшары што бубін, нечыга скубануць. 2. *Надакучліва* (*бурчаць*). Цэлый дзень як бубін бурчыць і бурчыць. К ста́рысьці што бубін стаў, усё ні пы яго.

**Як** (што) **бычок на вяроўке** (вяровачке), *жарт. Вольна, свабодна* (*жыць, гуляць*). Ска́чыць як бычок на вярёўкі, яго клопыты малыя. Адгудува́ўся за лета як бычок ны вярёвычкі. Сёліта яму што бычку ны вярёвычкі.

**Як** (што) **бяльмо** [на воку]. *Пра прыкрую перашкоду.* Табе ўсё іхныя було як бяльмо. Чаго вам етыя вербы як бяльмо на воку, яны ж вам ні мішаюць і ня трогыюць вас. Ім усё наша што бяльмо. Што бяльмо на воку яму нашы яблынкі. *Гл.* Б ы ц ь б я л ь м о м н а в о к у.

**Як** (што) **вады ў рот набраў** (набраўшы). *Зацята* (*маўчаць*). Ну што ты як вады ў рот ныбра́ў, гывbooі. Сядзелі ўвесь вечыр моўчынька, як вады ў рот ныбраўшы. Стыяла што вады ў рот ныбрала, ні слова ні прыраніла. У вугалку́ прысьвя́тніца прітулілыся што вады ў рот ныбраўшы. *Гл.* В а д ы ў р о т н а б р а ц ь; Н а б і р а ц ь в а д ы ў р о т.

**Як** (што) **варам абдало.** *Пра стан вялікага сораму.* Машычка толька ны парог, дык яго як ва́рым абдало. Яны нарошня скызалі пры пырысят, а Стыхванёнка што варым абдало.

**Як** (што) **варам аблітый.** *Шпарка, імкліва* (*выскачыць, выбегчы*). Ла́дныю праборку пулучыў, вы́скычыў як ва́рым аблі́тый. Ішоў — дужа хра́бір быў: мне ўсё ніпачом, зайшоў — а тама Хвядон, дык выскычыў як варым аблітый. Такей быў зыда́шлівый, а тут вы́ліціў што варым аблітый, і зыда́чы ўсе мігым зьляцелі.

**Як** (што) **вецер у полі.** *Непастаянны, легкадумны.* Нешта ты як веціp у полі: сяньня адно, ныза́ўтріга саўсім другоя. Тая лаху́дра што веціp у полі, зь ёю ні найціць ні пыціря́ць.

**Як** (што) **войстрый нож.** *Пра вельмі непрыемнае.* Яму Сямёнывы словы як войстрый нож. Ні тваё дзела, есьлі мне ета як войстрый нож. Пымяні́ Хвеньку, іна яму што войстрый нож. *Гл.* В о й с т р ы й н о ж.

**Як** (што) **вока ў ілбе** (зяніцу вока). *Пільна* (*берагчы*). Такую мулюпа́хтычку бірягі як вока ў ілбе, куды хочыш зыпаўзець. Як зяніцу вока бярёг ву́рывінь, а ён брязь і разьбіўся. Біряглі яго што вока ў ілбе. Прікáзываў, каб біряглі сьвердзіл што зяніцу вока, дык ныбіряглі́: згы́ркылі нейдзі. *Гл.* Я к в о к а.

**Як** (што) **воран над кроўю.** *З прагнасцю.* Чаго ты стаіш тут як ворын нат кроўю, пыжывíцца табе ня прідзіцца. Доўга вісеў над імі як ворын на́т кроўю. Круціцца кругом што ворын нат кроўю.

**Як** (што) **воўк трусіка.** *Проста, лёгка, звычайна.* Лап яго як воўк тру́сіка: куды нупруўля́ісься? Нічога ні гывыря што воўк трусіка цап і дзяржы́ць.

**Як** (што) **вярста.** *Празмерна* (*высокі*). Нейкій хадзіў зь ёю длінный-длінный як вірста. Што вісокій хырашо, ну ўжо калі як вірста, ня дужа красіва. Помніш, нейкій Паўлюк хадзіў што вірста.

**Як** (што) **галавешка** (галаўня). 1. *У стане, небяспечным для жыцця* (*ляжаць*). Каторыя ўремя ляжыць як гылавешка, ня йдзець ны пыпра́ўку. Як гылыўня́ кычаіцца, на ногі пасьці ні становіцца і рукою толька адною чуць дзьві́гыіць. Усю зіму ліжала што гылавешка. Зьлёг што гылыўня, ныўряд ці падыміцца. 2. *Дарэшты* (*змарнавацца, схуднець*). Ад горя шчарнела як гылавешка, як пулучыла ізьвяшчэньня ны днаго сына, а ўсьлед ну другога. Стаў чорный, страшный як гылыўня, во што хвароба дзелыіць ш чылавекым. І вы́сых на шчэпку, і стусьмеў што гылавешка. Дужа па ём гаръ́іць, зьдзелылыся што гылыўня.

**Як** (што) **гарох пры дароге.** 1. *Ненадзейна, безабаронна* (*жыць*). У цябе і біда́ — ні біда, а мыя жызьня — як гарох прі дарогі. Жывець што гарох прі дарогі: хто ня йдзець, тэй скубанець.

**Як** (што) **горкая рэдзька.** 1. *Невыносна* (*дакучаць*). Ныдаела мне твыя быгыўня́ як горькыя редзька, зь яе ўсё нешта сы́пліцца і сыпліцца. Яго рызгаворы што горькыя редзька. 2. *Зусім* (*без патрэбы*). Нада табе етыя достычкі як горькыя редзька. Мне ён нада што горькыя редзька, бізь яго ёсьцьь каму гылаву дурíць.

**Як** (што) **граблі.** *Без руху, без дзеяння.* Рукі як

гра́блі, узяць нічога ня можыць. Сядзіць, зыкалеў, пальцы што граблі сталі.

**Як** (што) **гранкі,** *толькі мн. Бездапаможна.* Мыльгва́, што яны ішчэ пыніма́юць, сідзяць ны палу як гранкі і глідзяць. Вочы вы́лупілі што гранкі, нічога ні пынімаюць.

**Як** (што) **гром з яснага неба.** *Нечакана, неспадзявана.* Яму твой пріезд будзіць як гром зь ясныга неба. Яго ніхто ні ждаў і ня думыў, што ён сюды зьбіра́іцца, а ён коціць што гром зь ясныга неба, во Анька надзі́віцца.

**Як** (што) [гусіный] **пуп.** *Моцна* (*пасінець*). Пысінеў як пуп, стаіць і калоціцца. Чаго ты ні пытпря́нісься цяплей, пысінеў як гусі́ный пуп. Стаіць сіній што пуп ну буі́шчы у адной рубацёнкі і штанёнкых. Сьсінеіць што гусіный пуп, чуць губамі шавеліць, а ў хату ні загоніш.

**Як** (што) **дуда.** *Высокі, няўклюдны.* Вы́рыс як дуда́ і ні за што ўзяцца ня ўмеіць. Што дуда ходзіць, нійдзе пріту́льля ні найдзіць.

**Як** (што) **дурань з пісанаю торбаю.** *Бяссэнсава, удзяляючы ўвагу неістотнаму.* Чаго ты носісься зь естым тряп'ём як дурінь сь пі́сыныю торбыю, кінь дый ніхай ляжыць. Носюцца зь ім як ду́рінь сь пісыныю торбыю, дужа ўжо зяць пу душэ. Пупадзець якую-небудзь мелыч і носіцца што дурінь сь пісыныю торбыю.

**Як** (што) **дурань на памінках** (вяселлі), *неадабр. Звыш меры, патрэбы (есці).* Ныбра́ўся як дурінь ны памі́нкых, хуць ремінь рысьпіря́зывый. Нійдзе ні прапусьціць, напхнецца як дурінь ны вясельлі. Ныжраўся што дурінь ны памінкых. Прець што дурінь ны вясельлі і ніяк ня сыт.

**Як** (што) [дурное] **заткала,** *груб. Не да месца, без патрэбы.* Усюдых пыдаткнецца сы сваім ізыком як за́ткыла, нійдзе бізь яго ні абойдзіцца. Улезла як дурноя заткыла, нехта яе дужа прасіў. Торьк што заткыла свой язык, нада ён. Пыра б ужо як прісесца, дык лезіць што дурноя заткыла.

**Як** (што) **заваднэй** (завадный, заведзеный). *У беспералынным руху, размовах.* Носіцца як зываднэй увесь дзень, мінуты ні пірі́дыхнець. Адзін аста́ніцца, дык як

зывадны́й муштру́іцца, свабодныя сікунды німа. Ляскочыць і ляскочыць ізыком як зывыдна́я. Нешта лётыіць у Віхряны, зь Віхрян як заведзіный. Вун відзіш, якей у іх зынятык: дзень пры дні тряскочуць ізыкамі што зываднэя. Носіцца што зывадный зь естым сеным. Сяньня яны што заведзіныя, ні́йдзе спакою ні найдуць.

**Як** (што) **за каменнаю сцяною** (гарою). *Бесклапотна* (*жыць*). Ні пры якую кармлёту ці паёту іна век ня думыла, сядзела за Колію як зы камінныю сьцяною. Прыжыла́ век як зы камінныю гарою, ны яе веціp дайжа ні разу ні паду́ў. Праседзілі усю жызьню што зы камінныю сьцяною, што ім атхадзіла. Што зы камінныю гарою жывець, чуць ну руках яе ня носіць.

**Як** (што) **запраданый** (запрададзеный, запрададжаный). *У цяжкіх умовах* (*жыць, працаваць*). А што ён, будзіць як зыпрыда́ный ны вас на ўсіх дзелыць? Іна вам слу́жыць як зыпрыда́дзіныя, вы ж ба бізь яе прыпалі. Не, я ні стаў ба як зыпрыдаджыный угыжда́ць ім, ніхай рыстрясу́ць троху свой жыр. Піклу́іцца ў іх што зыпрыданый. Што зыпрыдадзіный біўся на ўсё іх кодла, і ўсё пы нішчы́мніцы, дайжа мылыка, бывала, пыда́сьць, як яно прамгнець ужо. Я што зыпрыдаджыный услуговывыць ім ні стану.

**Як** (што) **з вядра.** *Пра вельмі вялікі дождж.* Дождж як зь відра пріпусьціў, а нам дзівацца некуды. Як зь відра льлець трецьція судкі, што йта ён сам сабе думыіць, етый дождж. Ка́пыў, капыў, а тады пріўда́ріў што зь відра, і дзівацца некуды.

**Як** (што) **згон** [якей], *часта неадабр. Пра бойкае месца.* Лі нашыя ўса́дзьбы як згон стаў, усігда тута таўку́цца. Паследнія ўремя кылы вас як згон. Як згон якей — і дзень і ноч на тых бярвеньніх, ні зла́зюць і ма́лыя і бальшэя. Тама ўсігда што згон, усігда народ тыўпясі́цца. Лі іх усігда быў што згон якей.

**Як** (што) **з гуся вада.** 1. *Абыякава.* Ці ты талку́й, ці ні талкуй, яму як з гу́ся выда. Тваё гывареньня ім што з гуся́ выда. 2. *Беспакарана.* Каму б можа і ўляцела, а Лёніку як з гу́ся выда. Што ні тваріліі, і ўсё ім удыва́лыся, усё ім прыхадзіла як з гуся́ выда. Ня бойся, каму ўляціць — ні ўляціць, а ім што з гу́ся выда.

**Як** (што) **з дупля.** *Недарэчы.* Ну што ён выскычыў

як з дупля́ зь естымі каноплімі, ня тута пра іх нада гывaріць. Ляпніць як з дупля, што ні к сялу ні **г** горыду паслухыць. Зыбыразьніў нешта, зыбыразьніў што з дупля, дайжа слу́хыць було няўдобна.

**Як** (што) **з меха** (мяшка, торбы). *Пра вельмі вялікую завіруху, завею.* Прець сяньня як зь меха, носа ня вы́суніш. Дмець, нясець як зь мішка, цяпер вупруўля́цца дайжа ня думый. Сыпліць як с торбы каторый дзень, усё ўсюдых пызавеіла, няскора дарогі пырызатру́ць. Папёрла што зь меха, ня выйціць і ня вы́пыўзьць. Тры дні што зь мішка сыпыла. Прець, нясець што с торбы.

**Як** (што) **з печы.** *Вельмі крута, круты.* Тама спуска́цца як сь печы, ажно глядзець страшна. Глядзі, тая гыра як сь печы, ні надзейся, што ўдзержыш, луччы каток пыдвяжы́. У Рылыўшчыні так було спускацца, што сь печы, дужа крута.

**Як** (што) **з пісанаю торбаю,** *неадабр. Беражна, мітусліва (насіцца).* Носюцца зь етыю дзяўчонкыю як сь пісыныю торбыю, пысадзілі б і ніхай сядзела б. Дужа ўжо **г** душэ прішоўся швагорь, носюцца зь ім што сь пісыныю торбыю, ні знаюць, як угадзі́ць. *Параўн.* Як дурань з пісанаю торбаю.

**Як** (што) **з пулі.** *Раптоўна, неспадзявана (зрабіць, сказаць).* Як с пу́лі уліта́іць сюда: айдзе яны? Сыма мя́лыся, муўчала, а ма́лый як с пулі: мамка другей раз ня пойдзіць. Што с пулі брязь: мы ўжо схадзілі.

**Як** (што) **з пулямёта.** *Пра шпаркую гаворку.* Зытряшчэла як с пулямёта, ні рызыбраць, што йна скызаць хочыць. Зывядзець як с пулямёта: та-та-та, аж у вушах тряшчы́ць. Сякець што с пулямёта, паспробый спраўся зь яе ізыком.

**Як** (што) **з пушкі.** *Неспадзявана, просталінейна (сказаць).* Як с пу́шкі яму бух: чаго ты к маёй пляменьніцы ходзіш, ты ёй няровін. Што с пушкі яму: пірібірайся **г** Домні ў зяці́.

**Як** (што) **з цэпа** (цапі, цэпі, прывязі) **сарваўся.** *Пра імклівы рух, страту вытрымкі, самавалодання.* Ляцеў некуды, як с цэпа сырва́ўся. Нешта рузбушува́ўся дужа, як с цэпа сырваўся. Носіцца туды і ныгзад, як с цапі сырваўся. Адурюваіць, як с цэпі сырваўся, уніму сабе

ні найдзіць. Пынясьліся пыц Стахоўшчыну, як с прівізі сырва́ліся, якей іх двынаццыць гыня́іць. Зяць яе як рызыйшоўся, як с прівізі сырваўся, чуць біцца ня кідыўся. Узноў рызыря́іцца што с цэпа сырваўся. Абоя што с цапі́ сырваліся, ня могуць уняцца. Ляціць што с цэпі сырваўся. Ні далі піріпла́ўлівыць цёткіна тряхольля за Сож, дык рызыйшоўся што с прівізі сырваўся.

**Як** (што) **зямля.** 1. *Празмерна* (*п'яны*). Абоя былі п'яныя як зімля, ізыкамі ні варочылі. Нап'ецца што зімля, тады што хочыш утваріць. 2. *Празмерна* (*схудненелы, змарнелы*). Шчарнела як зімля, у яе серца ны махны́тку ўзялося ат яе жызьні. Што зімля чорін стаў, ён дужа хворый.

**Як** (што) **іскарка.** *Шпаркі, спрытны.* Дзяўчонка як і́скырка, так і міта́іцца. Носіцца што іскырка, і зыстыўля́ць ні нада.

**Як** (што) **камара** (муху) **забіць.** *Вельмі проста, без роздуму зрабіць.* Етыму атлёту што хочыш зьдзелыць як кымыра́ забіць. Ганьнін ішчэ тэй ма́хырь, яму аччубу́чыць любую штуку як муху забіць. Яму і ні такоя зьдзелыць што кымыра забіць. Тым га́ўрікым пульну́ць воз што муху забіць.

**Як** (што) **камар за печкаю.** *Ціха, бясшумна.* Сядзі́ як кымар за печкыю і каб ду́ху твайго чутна ні було. Як кымар за печкыю сядзеў і ня піснуў. У мяне будзіць сядзець што кымар за печкыю.

**Як** (што) **карове** (свінне) **сядло** (сядзёлка). *Зусім* (*не падыходзіць*). Ёй етыя украшэньні патходзюць як карові сядло. Канешня, табе куртка ідзець, іна табе як карові сядзёлка. Як сьвіньне сядло, так і ёй ета шуба, іна ж стуўбуном стаіць і сьперіду і ззаду. І па меркі, і бязь меркі патходзіць як сьвіньне сядзёлка. Табе плацьця што карові сядло, вун андра́к ныдзівай. Ёй ідуць уборы што карові сядзёлка. Андрею шляпа што сьвіньне сядло. Што сьвіньне сядзёлка, то й табе вышыва́ньня.

**Як** (што) **карове шчыблеты.** *Недарэчна.* Ёй пыдыйшлі́ тваe ныря́ды як карові шчыблеты. Вам у грязь ныдзівац боцікі як карові шчыблеты. Вісокія кублукі́ ёй што карові шчыблеты.

**Як** (што) **кароста.** *Надакучліва, назойліва* (*прыставаць, чапляцца*). Як кароста пріста́ніць, ніяк ні ткыра́с-

кыіськя. Вот будзіць прістываць і прістываць што кароста, пакуля ня вы́відзіць сь сябе.

**Як** (што) **карцінка** (кукла, кукалка). *Пра вельмі прыгожага.* Ну й атхваціў жа ты сабе жонку, пыглядзець — як карцінка. Ны ліцо як карцінка, а ны работу — як нізграя. І праўда, ты сяньня вы́рідзілыся як кукла. Зь нейкыю твой учора атвечыра хадзіў пу бульва́ру, крыса́віца як кукылка. Што карцінка дзевычка, лю́ба глядзець. Нейдзі пупа́ў сабе — што кукла, толька есьць ці зва́ріць. Айдзе там што кукылка, кылапэза нейкыя. *Гл.* Хоць карцінку пішы.

**Як** (што) **кацёл.** *Хворая* (*пра галаву*). Гылыва ў мяне сяньня як кацёл, ажно ґудзі́ць. Многа я там ныработыю, гылыва што кацёл, усе косьці ломюць і неік трясець усяго.

**Як** (што) **клоп у шчэліне.** *Ціха, бясшумна.* Кылі хлебым троху кормюць, дык сядзі як клоп у шчэліні і ні мыркачы́. Раншы дужа быў быявэй, а цяперя сядзіць што клоп у шчэліні і ня пікніць.

**Як** (што) **костка ў горле.** *Пра непрыемную перашкоду.* Табе ўсё наша як костка ў горлі, ты нас каб прімеў, паеў ба. Чаго я яму што костка ў горлі, вума ні прілажу́.

**Як** (што) **кот здохлый,** *абраж. Надакучліва* (*бурчэць*). Бурчы́ць як кот здохлый, калі ўжо што-небудзь па ём будзіць. Чаго ты тама мармочыш як кот здохлый, січас пыда́м вады. Зубурчэў што кот здохлый, мы ня слухылі, пашлі.

**Як** (што) **кот** (кошка) **з мышшу.** *Мітуслівa, хаваючыся.* Пупадзець што ў рукі і носіцца як кот з мышшу. Як кошка з мышшу зь етымі грыбля́мі носіцца, пашоў вун на двор дый дывадзі́ сколька хочыш. Ні вазі́ся што кот з мышшу, ці бяріi, ці пылажы́. Што кошка з мышшу гуляіць зь імі.

**Як** (што) **кот** (кошка) **з сабакаю** (сабака з кошкаю (катом). *Варагуючы.* Яны ўсё ўремя жывуць як кот с сыбакыю. Сколька мы помнім, яны ўсігда былі як кошка с сыбакыю. Ікая ета жызінь, кылі жывуць як сыбака с кошкыю, нада рысхадзі́цца скарей. Даўно ў іх ця́гніцца так — як сыбака с катом. Етыя ўсігда былі што кот с сыбакыю. У іх каторый год ні ла́дзіцца, што кошка с сыбакыю жывуць. Як жа яны жылі, што сыбака с кош-

кыю гры́зьліся. Адзін ну другога гы́ркыюць што сыбака с катом.

**Як** (што) **кот** (кошка) **на сала** (кілбасы). *З прагнасцю.* Любу́іцца як кот ны сала, дужа яму пу душэ ба́нька прішла́ся. Даўно ён цэліцца на ету цёлычку як кот ны кілбасы. Як кошка ны сала цэліліся ны Сярьгеіў прідзелык. Ну што глядзіш як кошка ны кілбасы, купляй, грошы ж ёсць. Нешта пыглідаіць на Томку што кот ны сала. Што кот ны кілбасы жму́ріцца. Глядзіць што кошка ны сала, аж аблі́зыіцца. Ні глядзі што кошка ны кілбасы, ні длі цябе паложына.

**Як** (што) **кошка з помазам.** *Мітуслiва, хаваючыся.* Усё раньня носіцца с пацьсіткым як кошка с помызым. Пыстаў ны скамеічку свае чугункі ды ніхай стыяць, ато будзіш насіцца зь імі што кошка с помызым.

**Як** (што) **курыца лапаю.** *Неразборліва* (*пісаць*). Нехта пісаў як куріца лапыю, ні днаго слова ні рызьбяреш. Чаго ты пішыш што куріца лапыю, табе ж зразу два пыставюць і з групы прагонюць.

**Як** (што) [ліхой] **скуле.** *Празмерна (дагаджаць).* Як ску́лі гадзі́ кажный дзень і ні ўгадзі́ш. Гадзілі як скулі якой і ўсё було дренна. Як ліхой скулі ўгыждалі, дык айдзе ты нагодзісься столька ўремя. Ныўгыждаліся што скулі якой. Пушукай, каб табе нехта другей гадзіў што ліхой скулі. *Параўн.* Л і х а я  с к у л а.

**Як** (што) **магніт.** 1. *Хуткі, спрытны.* Высілёнык мыха́іцца як магніт, усюдых пысьпіва́іць. Усюдых спруўляіцца што магніт. 2. *Неадольна* (*вабіць*). Нешта цябе як магніт цягніць у тэя Дуччычы, што ты там забыў. Што магніт яго цягніць у Восьлінку.

**Як** (што) **магнітам.** *Неадольна* (*вабіць*). Як магнітым цягніць у горыд, знаіць, што ча́рычка можыць быць. Раншы іх як магнітым цягнула ў Бірязуйкі. Сьветка цябе што магнітым пріця́гывыіць.

**Як** (што) **макаў цвет.** *Прыгожы.* Тама дзеўкі як ма́кыў цьвет, ат хлопцыў адбою німа. Вы́ткыла прігожыя пасьці́лкі, як макыў цьвет, ажно гыря́ць. Кра́сьнінькыя, румя́нінькыя, што макыў цьвет.

**Як** (што) **маладня.** *Надзвычай шпарка, імкліва.* Туды і нызад як мылыдня знасі́ўся. Ні мінуты спакойна

ні пысядзі́ць, з раньня да цёмныга што мылыдня лётыіць.

**Як** (што) **малаток,** *гумар. Моцны, трывалы.* Ого, мальчонка як мылаток, ні пірябі́ра, есць усё пыдряд, крепінькій мальчык. Што мылаток хлопіц, ён ны ўсякыю работу спасобін.

**Як** (што) **маслам па серцу** (душэ). *Вельмі прыемна.* Ты хваліш Аньку, а ім ета як ма́слым па серцу. Як маслым пу душэ, што ты рысказыіш пры Мікіцёнычка. Рыскӑзывый, рысказывый пра Нюшку, яму ета што маслым па серцу. Калі іх хто-небудзь ла́іць, Івану тады што маслым пу душэ. *Гл.* Як мёдам па губах.

**Як** (што) **масленый блін,** *іран. Лагодны.* Ліпніць к ёй як ма́сьліный блін. Пачуў, што Андрей у нычальстві будзіць, стаў зь ім як масьліный блін. Сколька ён там будзіць зыба́рсывыцца, што масьліный блін кылы Вульляніныя ходзіць.

**Як** (што) **машына.** *Шпарка, рухава.* Етыя дзеці як машына, яны табе за́ дзінь усюдых пірябу́дуць. Ніхай сабе, што ста́рыя, а йна што машына, нійдзе ні зысядзі́цца.

**Як** (што) **медный самавар,** *жарт. Моцна* (*шумець, злавацца*). Я чуў: шумеў старэй ны мыладых як медный сумува́р. Ні кіпі́ што медный сумувар, ніхто твайго гражэньня дужа ні баіцца.

**Як** (што) **мёдам** (маслам) **па губах.** *Вельмі прыемна.* Калі пымяну́ць Хрузычкіну дзеўку, Арцямёнку як мёдым пу губах. Яму як маслым пу губах, калі ў якоя-небудзь арцельныя дзела заву́ць. Пыхвалі́ граблі, яму будзіць што мёдым пу губах. Калі пра Мішку гаворюць, ёй што маслым пу губах. *Гл.* Мазаць маслам па губах.

**Як** (што) **мёртваму прыпарка** (кадзіла). *Нікольki* (*не дапамагчы*). Ты кылі й сходзіш, дык паможыш ім як мёртвыму пріпа́рка. Паможыць тваё шыпта́ньня як мёртвыму кадзіла. Тваё шыптаньня пымыгаіць што мёртвыму пріпарка. Хуць рыззылатоя лікарства купляй і дыстывай, а кылі німа лу́ччыньня, то й яно пымыгаіць што мёртвыму кадзіла.

**Як** (што) **міленькій** (мілый). *Без пярэчанняў* (*зра-*

*біць, выканаць*). Міхей калі прікажыць, як мі́лінькій пойдзіш, тэй доўга ня любіць гыварі́ць. Мяне як мілый паслухыіць, ета цябе вы ўнімáнія ні бярець. Дам ныгыня́й, дык другей раз паслухыіць што мілінькій. Я каб скызаў, пашоў ба што мілый.

**Як** (што) **мітульга.** *Шпарка, імклі́ва.* Дужа прыцыўна́я баба, міта́іцца дзень як мітульга́, і печ вы́тыпіць, і дзяцей упыря́ччыць, і скот дагледзіць, і ў калхоз раншы ўсіх пысьпіва́іць. Ні насіся што мітульга, аддыхні троху.

**Як** (што) **мокрая курыца.** *Нязграбна.* Што ты рукі развесіў як мокрыя куріца, пірідзіва́йся скарей. Стаіць што мокрыя куріца, вычамі лу́пыіць—ня пойміць, ш чаго сьмяюцца.

**Як** (што) **мокрая мыш.** *Недарэчна* (*выглядаць*). Пріцягну́ўся пат поўныч, як мокрыя мыш быў, яны там зыпялёхыліся у тых кустах. Неік стаў бязьлю́дзьдзя што мокрыя мыш, саўсім ні знаю, куды с табою.

**Як** (што) **муха на сцякле,** *іран. Празмерна (капрызіць, вычвараць)*. Выла́мывыіцца як муха ны сьцякле, на чорта пахожа. Зыдыва́лыся ўсігда што муха ны сьцякле, пряма ні знала, куды дзівацць зыда́ч.

**Як** (што) **мухі на мёд,** *іран. Ахвотна* (*ляцець*). Дужа ахочыя ну чужбі́нку, тут яны льнуць як мухі на мёд. Ніхай толька пачуюць, айдзе зыпа́хла ча́ркыю, ня ўпу́сьцюць, што мухі на мёд цэлюцца туды.

**Як** (што) **мухі на падлу,** *груб. Ахвотна* (*ляцець*). Чаго вы ны сіроччыя нывалі́ліся як мухі ны падлу, хуць што пры вас гыварі́ць, кылі совісьць у вас і ні нучува́ла. Пызьліця́цца што мухі ны падлу, толька ўзна́юць, яны такея.

**Як** (што) **муху праглыціў** (праглыціўшы). *Пра кіслы выгляд.* Чаго ты глядзі́ш як муху прыглыці́ў, пышла — ніхай ідзець, другую найдзіш. Мішка ходзіць як муху прыглыці́ўшы: нехта нешта пра Вульку тріпану́ў. Устаў і пашоў што муху прыглыціўшы.

**Як** (што) **мыла з'еўшы.** *Разгублена.* Нечыга стыяў як мыла зьеўшы, пыглідаў пыд Аніськіных. Сьпірва пычына́іць ух я, самый первый гірой, а як асодзюць, тады глядзіць як мыла зьеўшы. Другей раз пашоў што мыла зьеўшы, мы ўмеім атвучаць ад ду́рікыў.

**Як** (што) **мыльный пузыр.** *З поўным выкрыццём сутнасці* (*лопнуць*). Доўга зыдываўся, цаны-меры сабе ні знаў, а тут лопнуў як мыльный пузырь. Доўга ён ні пынычальствыіць, лопніць што мыльный пузырь сы сваім зыдываньнім. *Парайн.* Мыльный пузыр.

**Як** (што) **мыш на крупы.** 1. *З прагнасцю.* Пыглідаіць як мыш на крупы, ласый дужа ны прісмакі. Пыглядзеў іх пріхвосьнік ну булухан як мыш на крупы. Што мыш на крупы глянула ета быкса на лентычкі. 2. *Капрызна.* Нешта ён сяньня надуўся як мыш на крупы. Чаго ты дмесься што мыш на крупы?

**Як** (што) **мыш пад венікам.** *Ціха, спалохана* (*сядзець*). Мінуліся прістывы, сядзіць як мыш і ні шылахнецца. Зашыўся і сядзеў увесь дзень як мыш пад венікым, запомніў вывылычку. Я толька гляну, дык сядзіць ета накрутка што мыш. Сколька Пятрок быў тут, яны сядзелі што мыш пад венікым, помнілі яго загрозы.

**Як** (што) **мыш праглыціўшы** (з'еўшы). *З адчуваннем агіды.* Чаго ты стаіш як мыш прыглыціўшы, табе ж праўду скызалі. Пашоў як мыш зьеўшы, думыў, нянчыцца усігда зь ім будуць. Скрівіўся што мыш прыглыціўшы, спрывідлова ж гаворюць: чорт праўды ня любіць. Глядзіць што мыш зьеўшы, ніпріятна слухыць такоя, тваріць лехчы було. *Парайн.* Як муху праглыціў.

**Як** (што) **мыш у норке** (нарэ, норы, норыне). *Ціха, затоена* (*сядзець*). Сідзяць як мышы ў норкі, дайжа ня дышуць. Штоб сядзеў мне як мыш у наре, каб я дайжа твайго духу ня чуў. Сядзь як мыш у норі і сядзі. Зытаіўся як мыш у норіні, ныгнаў ты ны яго страху. С учырашніга дня сядзіць што мыш у норкі. Цяперя ён у мяне будзіць што мыш у наре. Будзіш ты сядзець што мыш у норіні.

**Як** (што) **мяліца,** *неадабр. Непаваротлівы.* Увы ўсякім дзелі як мяліца, хуць варочый яго. Саўсім стаў што мяліца.

**Як** (што) **мялле,** *неадабр. Нерашучы, няўмелы.* Усігда як мяльля: ні рыспытаіць, ні ўвызнаіць, ні даб'ецца. Ён жа што мяльля, куды яго пашлеш.

**Як** (што) **мятла** (мяцёлка). *Энергічны, імклівы.*

Дзяўчонка як мітла́, і ў хаці прібярець, і ны грідá́х пасобіць, ёй жа дзьвінáццытый гадок. У любом дзелі як мяцёлка, усігда скарей, сядзець ды руссусолівыць ня любіць. Шустрыя дзеўка, што мітла ў любой рабоці. Я ў тваіх гыдах была што мяцёлка.

**Як** (што) **на беднага Макара.** *Моцна* (*наваліцца*). Нешта ўсе ныва́ліліся ны яго як на бедныга Мыкара. Што на бедныга Мыкара тýркыюць ны яго са ўсіх бакоў.

**Як** (што) **на вінтах.** *Неспакойна, непаседліва.* Дужа яго ніспакой браў, усё ўремя сядзеў як ны вінтá́х. Спакойна яму ні сядзíцца ніййдзе, усігда што ны вінтах крýціцца.

**Як** (што) **на вуголлі** (вугаллі). *Хвалюючыся, турбуючыся.* У дваре астáліся адны мáлыя, дык іна сядзела як ну вугольлі. І ты была б як ну вугáльлі, каб знала, што ў дваре нічога ня будзіць зьдзелына. Ны мінутку забегла, ну й то сядзела што ну вугольлі. Айдзе б табе хацелыся там быць, і ты сядзеў ба што ну вугальлі, каб зыявíўся хто-небудзь зь яе раднí.

**Як** (што) **на дражджах.** *Хутка* (*расці*). Дужа цяплы́нь посьлі дажджоў дзяржы́цца, усе пасевы пашлí як ны дрыжджá́х. Сёліта ны гародзі усё расьцець як ны дрыжджах. Жыта, пышаніца пашлі што ны дрыжджах, вісна харошыя, пріяíць росту.

**Як** (што) **на згоне.** *Пра бойкае месца.* У нас тута як на згоні, людзі і ўранні, і ўвечырі. Кылы Пынасывых усігда було што на згоні. *Гл.* Я к з г о н.

**Як** (што) **на іголках** (шпільках, гваздзях). *Хвалюючыся, турбуючыся.* Я сяджý як ны іголкых, сыма тут, а душа мыя там, каб мáлыя ні ўтварíлі чаго-небудзь. Большы мне некылі расьседжывыцца, я і так сяджу як на шпíлькых. Што я пайду, я буду сядзець як ны гвызьдзя́х, усё будзіць душа тресца. Я віджу, сядзіць і ні сядзіцца ёй, што ны іголкых сядзіць. Круціцца што на шпíлькых, відна, помніць летышнія грібы. Ёрзыў што ны гвызьдзях, чуствывыў, што можыць быць. *Гл.* Я к н а в у г о л л і.

**Як** (што) **на каларнеце.** *Пра надзвычайны рух, спрыт.* Усё на ім ходзіць як ны кыларнеці. Чаго ён рызыйшоўся што ны кыларнеці, калі ён ухадор сабе найдзіць.

**Як** (што) **на калу,** *груб. Нязручна* (*сядзець*). Сядзіш як ны калу́, ні пувурхну́цца, ні пышывяльну́цца. На етым тваім машчэньні як ны калу. Узмасьціўся што ны калу, ківа́іцца, глядзі, зьляці́ць, ну, некыму ду́біць мальца.

**Як** (што) **на каменную гару.** *Поўнасцю* (*спадзявацца*). Ны Лаўріна можна надзеіцца як ны ка́мінныю гару, ён ні пыдвядзець пыд мынастырь. Я што ны камінныю гару надзеіўся, а ён так мяне падвёў.

**Як** (што) **на карцінке.** *Прыгожа, прыгожы.* У цябе ўсё тута зьдзелына як ны карцінкі. Ух, ікая ж прігожыя дзевычка, што ны карцінкі. *Гл.* Я к к а р ц і н к а.

**Як** (што) **на кол.** *Нязручна* (*лезці*). Тута лезьць як на кол, глядзі, нызад паедзіш. Лез што на кол, каб трошку, нызад ба зыгрімеў. *Гл.* Я к н а к а л у.

**Як** (што) **на ладоні.** 1. *Ясна, выразна* (*відаць*). Во ўзьні́міся на ўзгорычык, і наша дзяреўня як ны ладоні. Наверьх узьбяресься, дык увесь горыд што ны ладоні. 2. *Просты, адкрыты* (*пра чалавека*). Стыхван увесь як ны ладоні, калі сярдзіт, яго пызна́іш зразу. Ён ні хуваіцца як другея, усігда што ны ладоні.

**Як** (што) **на мокрага цялёнка.** *Моцна* (*наваліцца*). Кругом ні вязець Сямёну, було трошку стала пупруўля́цца — апяць назы́нулі нізашто як на мокрыга цялёнка; праўду гаворюць: ны каго бог, ны таго й людзі. Кругом ны яго ва́люць што на мокрыга цялёнка.

**Як** (што) **на моры без вясла.** *У стане бездапаможнасці.* Аста́лыся адна з трімя дзяўчонычкымі як на морі бізь вісла́, нукукува́лыся. Што ж, кылі прішлося аднаму як на морі бізь вісла, хырашо, дзірявенцы пасобілі. Аднаму ўсюдых што на морі бізь вісла, ні ўцеч ні пабежч.

**Як** (што) **на мыту.** *Пра бойкае, адусюль бачнае месца.* Тамыцька як ны мыту́, кажный відзін. Мы жывём што ны мыту, с абоіх бакоў дарогі пад вокнымі, машыны гріма́ць, калёсы грю́кыюць.

**Як** (што) **на нітачке бажок.** *Пра ненадзейнасць становішча.* У яго пылажэнія дужа нінадзёжныя, ён вісі́ць як на нітычкі бажок. Я сам ліплю тут што на нітычкі

бажок, чым я табе пасоблю. Другей месіц ны сваёй должнысьці што на нітычкі бажок ліпіць.

**Як** (што) **на падбор.** *З найлепшымі якасцямі.* У ва- шый дзяреўні усе хлопцы як ны падбор. Сыйшлáся мо- лыдзіж што ны падбор, пулюбувáцца толька.

**Як** (што) **на** (пад) **заказ** (па заказу). *Найлепшым чынам* (*зрабіць*). Зьдзелына як ны зыкáз, кымар носа ні патточыць. Я знаю етыга зысыжáнскыга бондыря, ён усігда дзелыіць як пыдз зыказ, можыш брать шайку сьмела, ні пыцякець. Антон дзелыіць як пы зыкáзу. Харошый бондырь, усё дзелыіць што ны зыказ. Што пыдз зыказ пашыт касьцюм, як улíтый сядзіць. Усё пы- дыгнáна што пы зыказу, луччы й ні нада.

**Як** (што) **на пажар.** *У вялікай спешцы.* Чаго вы ліціцё як ны пыжар, пыглядзíця, сонца ішчэ вун айдзе. Ні ляці як ны пыжар, пасьпеіш ныскыкáцца. Беглі не- куды што ны пыжар, толька рукою махнулі.

**Як** (што) **на парах.** *Шпарка* (*расці, звыч. пра раслі- ны*). Сёліта ўсё расьцець як ны пырáх. Траву гоніць што ны пырах, сена будзіць многа.

**Як** (што) **на пары.** *Шпарка* (*расці, звыч. пра жывёл*). Пырысяткі йдуць як ны пáрі. Цялёнык пыт каровыю прібувáіць што ны парі.

**Як** (што) **на печ.** *Вельмі крута.* Кладзí ды помні: ны каробчынскую гару узбірáцца як на печ. Там дужа крýта, што на печ, чуць узьлезіш. *Парайн.* Я к з п е ч ы.

**Як** (што) **на пружынах.** *У пастаянным руху; неспа- койна.* Усё ўремя крýціцца як ну пружы́них, німа, каб спакойна пысядзець. Мне каб сесьць і ні пувурухнýцца, а мáлый сядзіць што ну пружы́них.

**Як** (што) **на свінне хамут** (дуга). *Нязграбна.* Ета тыкая швейка, што плацьця будзіць сядзець як ны сьвіньне хамут. На ём ірьмяк як ны сьвіньне дуга. На- дзеў нейкыю хыламíду, буўтáіцца што ны сьвіньне ха- мут. Што ны сьвіньне дуга ета шуба на ём. *Гл.* Я к к а- р о в е с я д л о.

**Як** (што) **на часах.** *У стане гатоўнасці.* С сáмыга рáньня як ны чысах, аж прягніць ехыць у горыд. Я толь- ка ўстала, і яны ўжо што ны чысах, гатовы.

**Як** (што) **неба ад зямлі.** *Вельмі рэзка* (*адрознівацца*). Яны атліча́юцца адзін ад другога як неба адзь зямлі. Іван ат яго атлічаўся што неба адзь зямлі.

**Як** (што) **неба і зямля.** *Поўная супрацьлегласць.* Ня ду́мыю, каб етыя разым жжылі́, яны як неба і зімля, ён рыбыця́шчый, а Томка ў вы́гыдзі жыла, самой хызяйнічыць ёй трудна пыча́ць. Антон с Кацію што неба і зімля, далёка яму ды яе.

**Як** (што) **нежывэй** (нежывый), *неадабр. Надзвычай павольна.* Ён там вару́шыцца як ніжывэй, узяў ба ды пыдыгна́ў троху. Як ніжыві́й кулупа́ўся, с такою работыю зызіму́іш бяс пу́ні. Варочыіцца што ніжывэй, рыстаропній нада быць. Тута работа кіпіць, а яны што ніжывыя, чуць шаволюцца.

**Як** (што) **не сваімі зубамі.** *Павольна, неахвотна* (*есці*). Ядуць як ні сваімі зуба́мі, скарей зьбіра́йціся. Ён усігда есьць як ні сваімі зубамі, сьпяшы́ць ня любіць. Сяньня ты ясі што ні сваімі зубамі.

**Як** (што) **не сваімі нагамі.** *Павольна, неахвотна* (*ісці*). Нешта ж вы к куме, а йдзіцё як ні сваімі ныгамі. Цягніцца што ні сваімі ныгамі, ажно глядзець праціўна. *Гл.* Як без ног.

**Як** (што) **не сваімі рукамі.** *Павольна, неахвотна* (*рабіць*). Ні разу ні періхва́ціцца, дзелыіць як ні сваімі рукамі. Што ні сваімі рукамі касіць — ета ні работа, ня хочыш касіць, дык к чорту з лугу. *Гл.* Як без рук.

**Як** (што) **не сваім языком.** *Неахвотна* (*гаварыць*). Ну гывары скарей, што там було, ато мармы́чыш як ні сваім ізыком. То быў хра́бір, храбрысьці ні знаў куды дзіваць, крічаў, а тут гаворіць што ні сваім ізыком.

**Як** (што) **нож у серца.** *Вельмі балюча.* Хто, бува́іць, пымянець Юрку, дык Веркі як нож у серца. Усе знаюць, што Кірей ім як нож у серца, ета віду толька ні пыда́юць. Куму твайму гываріць пры Лаўріна што нож у серца. *Параўн.* *Нож у* серца; Хоць нож у серца.

**Як** (што) **палка** [дроў] (палена [дубовае]), *абраж. Дурань, тупіца.* За што ня возьміцца, дык як па́лка, нічога ні пыніма́іць. Усюдых як палка дроў, што зьдзелыіць, а тады хадзі ўсьлед, пірядзелывый. Нешта як

палена ты, і тапор ня можыш у руках удзержыць. Такей жа тупіца, як палена дубовыя, што ні талкуй, усё па-свойму піряверніць. Нейкій стаў што палка, ніяк толку ні дыбяресься зь ім. Ён усігда быў што палка дроў. Ні ў чым ні рызьбіраіцца што палена, зьмёткі горніць у чы́стыю ку́чу. Як зь ім пыгаворіш, кылі ён што палена дубовыя.

**Як** (што) **па маслу.** *Проста, лёгка.* Усё ў цябе пулуча́іцца як пы ма́слу, во каб у мяне так. Толька ўзяўся зы тапор, і ўсё ў яго пашло што пы ма́слу.

**Як** (што) **па нотах.** *Дакладна, так, як трэба.* Высіля толька паслу́хый, ён табе рызьвядзець як па нотых. У вас як па нотых пулуча́іцца. Ён такей, любіць, штоб у любом дзелі у яго було што па нотых.

**Як** (што) **па пісанаму.** 1. *Без перашкод.* Ты дужа ладна ўмеіш, што ў цябе ўсігда і ува ўсём пулуча́іцца як па пісыныму. 2. *Бойка, выразна* (*гаварыць*). Як ста́ніць рысказывыць, у яго пулучаіцца як па пісыныму. Рыскызаў што па пісыныму, нійдзе ня зьбіўся.

**Як** (што) **папяросу скурыць.** *Проста, хутка* (*зрабіць*). Ны лісапеці у горыд атвярну́цца як пыпіросу скуріць. Іхімёнку етый аборык скасіць што пыпіросу скуріць.

**Як** (што) **пацераный** (пацяраный). *У поўнай разгубленасці.* Другей месіц хаджу як пацеріныя, дужа баюся збува́ць пастройку. Нешта і Хвядосінка ходзіць як пыціря́ный, што йта с табою, спрасіў я, — ай, махнуў рукою. Посьлі Сярьгея стаў што пацеріный, канешня ж, такога хлыпца́ зары́ць — горя. Хадзіў што пыцірянай, ні знаў, за што ўзяцца.

**Як** (што) **пень,** *груб.* 1. *Нерухома* (*стаяць*). Прашоў пыд быльша́к, тады пывярнуў к аборкым, а лі Пархвеныввых кустоў доўга як пень стыяў. Стаў што пень, зь места ня зьдзьві́ніцца. 2. *Моўчкі, у неразуменні.* Ні маўчы́ як пень, гыварі людзям, раз спра́шывыюць. Глядзіць як пень, што йта пыказывыюць. Што пень сядзеў рот рызя́віўшы.

**Як** (што) **перад пагібеллю** (гібеллю). *Незвычайна* (*паводзіць сябе*). Рызыйгра́ліся вы, хлопцы, як піряд гібільлю, чу́іця вы цірісьсядзельнік, яй-богу, чуіця. Ірза́лі ж як пііт пагібільлю, як душа чу́ствывыла, што

**Раскабойнік** (рыскабойнік) *м.* Балаўнік, гарэза. *Іна пойдзіць у Каўшова тургуваць, а ён такей рыскабойнік, як кытанець па вуліцы.*

**Распыліцца** (рыспыліцца), -юся, -ісься; *зак.* Разбушавацца. *Як рыспыліцца, думыіць, ён дужа грозін, а яго ніхто і прізнываць ня хочыць.*

**Расчапаный** (рышчапыный) *прым.* Расхістаны (у аправе, у гняздзе). *Лупатка саўсім рышчапыныя, нада б хуць зыклінуваць.*

**Расчысляць** (рышчысьляць), -ю, -іш; *незак.* Меркаваць, разлічваць. *Ён рышчысьляіць іньічы, круцель етый.*

**Ручанцы** *мн.* Дванаццаць дзён пасля з'яўлення на свет (пра маладняк свойскай жывёлы). *Пакуля ручанцы ні атойдуць, цялёнка ня режуць.*

**Рэхва** (рехва) *ж.* Металічная скрэпка ў вобадзе кола. *Бяз рехвы вобыд дзіржацца ня будзіць.*

**Рэчы** (речы) *мн.* Мова, здольнасць гаварыць. *Як толька зывязьлі ў баню сь ціхым, і к вечыру рячэй ні стала.*

**Самарушный** (сымарушный) *прым.* Самаробны, саматканы. *Ета сымарушныя пасьцілка, тканыя ў чатыр ніты.*

**Сапасацель** (сыпысаціль) *м.* Прытворшчык, выдумшчык. *Чаго толька ні тварілыся с сыпысаціля вашыга.*

**Сівалезый** *прым., іран.* Сівы. *Нейкыя сівалезыя валосься руспускаіць, такіх ба кароў даіць.*

**Сільма** *прысл.* Сілаю. *Сільма цябе цягнуць ніхто ні станіць, ня хочыш — ня йдзі.*

**Сперцца** (сьперцца), сапруся, сапресься; *зак.* Дамовіцца, згаварыцца. *З вамі ні сапресься, ета я даўно знаю.*

**Спірацца** (сьпірацца), -юся, -ісься; *незак.* Дамаўляцца, згаворвацца. *Што ты зь імі сьпіраісься, ні паслухылі яны і ні паслухыюць.*

**Стакацца** (стакыцца), -ы-юся, -ы-ісься; *зак.* Дамовіцца. *Яны зы мінуту рыззнакоміліся, знакомых найшлі, стакыліся і бырышы п'юць.*

**Статуй** *м.* і *ж., абраж.* Дурань, тупіца. *Стаіць статуй, ні звурухнецца.*

**Стаўбень** *м., груб.* Лоб, галава; наогул чалавек. *Стаўбень ёсьць, каб думыць. Нейкій стаўбень, ні туды зь ім ні сюды.*

**Стахацца** (стахыцца), -юся, -ісься; *зак.* Дамовіцца (звыч. на дрэнныя ўчынкі). *Скора стáхыюцца, атлёты як адзін. Вы б, можа, зь етым пáрнім стахыліся.*

**Субожыцца,** -уся, -ысься; *зак.* Сабрацца з цяжкасцю, пры адсутнасці сіл. *Ніяк ні субожуся вы́брыцца к сваім, даўно, даўно ні была.*

**Сухоцце** (сухоцьця) *н., абраж.* Худы. *Чаго ты склíміш, сухоцьця маё?*

**Сушчэп'е** (сушчэп'я) *н.* Скляпенне (звыч. у печы). *Қайшоўскій пячкур лоўка сушчэп'я кладзець.*

**Счахаць** (шчыхаць), -ю, -іш; *незак.* 1. Худнець, марнець. *Пыліцэйскія зь немцым пріехылі, усё вы́грíблі, дужа тады шчыхáлі ня еўшы, пы стáрцых хадзілі.* 2. Астываць. *Ня дужа шчыхаіць крупеня, яе хвацíць нільзя. Нешта ні шчыхаіць выда, руку нільзя усунуць — гыряча, а тута ждаць некылі.*

**Счахнуць** (шчахнуць), -у, -іш; *зак.* 1. Схуднець, змарнець паступова. *Усяго хвытаіць ды гырлá, а ён так шчах.* 2. Астыць. *Баня шчáхла, можна рызьдзівáцца. Бульбу січас ні станоў, шчахніць трошку печ і пыставіш, іна ўвапреіць.*

**Сыглічыць,** -у ,-ыш; *зак.* Змацаваць ігліцамі (*гл.*). *Сыглíчыў дзьвері, а тады пы пальцых абухым.*

**Сыпка** *ж., адзінк.* Шчопаць. *Було пасоліна, а ты яшчэ сы́пку дыбавіла.*

**Сэндзіць** (сэньдзіць), -дж-у, -іш; *незак.* Плявузгаць. *Пра што вы сэньдзіця цэлый дзень?*

**Сяўніца** *ж.* Сеяльшчыца. *Сяўніц у мяне хвытаіць, во пахырь ня дужа лоўкій.*

**Тарабеніць** (тырабеніць), -ю, -іш; *незак.* Балбатаць. *Ці ныдаесьць табе хуць калі тырабеніць? — пёрла б і пёрла лухту ніпыцьсівáныю.*

**Тарадэй** (тырадэй) *м.* Той, хто шпарка і невыразна гаворыць. *Пріехыў тырадэй і сёліта будзіць турлы́чыцца с Кузьмою.*

**Тарадэйка** (тырадэйка) *ж.* Жанчына, якая шпарка і невыразна гаворыць. *Зывілася тырадэйка, паспробуй рызьбярі яе гывареньня.*

**Тархануць** (тырхануць), -ý, -еш; *зак.* Штурхануць. *Пычаў чыпляцца, дык яго тырханýлі, што атляцеў. Што ты хвастыісься і зыдаесься, сілач еткій, Аніс каб тырхануў адзін раз, ты б і русплутухаўся.*

**Таўмора** (таўморя) *м.* і *ж.* Нязграбны чалавек, няўмека. *Таўморя ні пырядык нывядзець, а сыма грязьзю зуплувець.*

**Таўморыцца** (таўморіцца), -юся, -ісься; *незак.* Таўчыся, рабіць нязграбна. *Удзьвюх таўморіліся і дзела ня відна.*

**Таўпорыцца** (таўпоріцца), -юся, -ісься; *незак.* Таўчыся, мясіцца, жыць у цеснаце. *У яе на дну хатка, а мы ўмесьці таўпорімся.*

**Тумкаць** (тумкыць), -ю, -іш; *незак.* Разумець, разбірацца. *Каб ты троху тумкыў, то ні пызычаў ба ім грошы. На што харошыя ня дужа тумкыюць, во дурату сытваріць — якую хочыш утворюць.*

**Турман** (турмын) *м.* і *ж., абраж.* Дурань, неразвіты чалавек. *Тýрмын ты турмын, мы ж табе ясна скызалі: каровы зы Пірагоўскім логым.*

**Уважыстый** *прым.* Тактоўны, сціплы. *Абоя хлапцы былі дужа уважыстыя.*

**Угарыстый** (угарістый) *прым.* Разухабісты. *Угáрістыя баба, іна табе і ныпяець, і ныскáчыць, і любую кынпанію падзьдзержыць.*

**Уедный** *прым.* Настойлівы. *Баб, баб, як села бáбкыць,— во ўжо настырныя, во ўжо уедныя дзяўчонка.*

**Узварот** *м.* Вяртанне. *Ніхай яму узвароту ня будзіць і мужукý такому.*

**Унацкацца** (уныцкыцца), -юся, -ісься; *зак.* Панадзіцца. *Як унáцкыўся хадзіць у Пірагова, днювáў там і нучуваў.*

**Ухлынуць,** адз. л. цяп. ч. не адзначан. Нечакана зайсці, увайсці натоўпам. *Яны ка мне ухлынулі як гром зь ясныга неба.*

**Учынуць,** -у́, еш; *зак.* Нечакана зайсці, увайсці. *Пастой, січас учынець у хату, трілю́дзься зь ёю.*

**Ушчалепіцца,** -пл-юся, -ісься; *зак.* Моцна ўчапіцца. *Як я ны парог, ма́лыя ўшчалепіцца, ступі́ць ні даець. Як толька Сьціпаніда ны парог, яны к ёй кумільгым, ушчалепюцца кругом, шагу ні даюць ступіць.*

**Ушчапеніцца,** -юся, -ісься; *зак.* Моцна ўчапіцца, абняць. *Ушчапенілыся зы свайго дырагога, ніяк ні атарьвецца.*

**Ушчапуліцца,** -юся, -ісься; *зак., жарт.* Моцна ўчапіцца, абняць. *Ушчапу́лілыся зы Пітрыка́, дужа дорыг. Са ўсіх бакоў за цётку ушчапуліліся, атырвацца ні маглі, іна ж адна іх, шчытай, узгудувала.*

**Хліпцець,** -ч-у́, -і́ш; *незак.* Прагнуць. *Замеціў у яе ў кашолкі яблыкі, хліпціць лі яе. З бацькыю ўсігда хліпціць пабежч: ён то тоя купіць, то другоя дасьць, а зы маткыю ня дужа гоніцца.*

**Цяцюха** *ж.* Ліхаманка. *Чаго вас цяцю́ха калоціць, што тама случылыся?*

**Чаплянуць** (чыплянуць), -у́, -еш; *зак., перан.* Моцна, без жалю ўдарыць. *Каб чыпляну́лі раз, ну другей ба раз перша падумыў, ці лезьць.*

**Чыканіцца,** -юся, -ісься; *незак.* Кешкацца, вазіцца. *Кірей доўга ні чыка́нійся: хочыш ехыць — вот табе ны дарогу, сыбірайся і кыта́й.*

**Шалахвост** (шылахвост) *м., іран.* Хвалько, задавака. *У твайго шылахвоста зыпасы нямерныя: ці ёсьць хуць рубашка зьмяніцца.*

**Шарнуць,** -у, -іш; *зак.* Шпарка, імкліва пайсці. *Ці ні ў Сялец ша́рнулі, яны туды даўно лыжы тачылі.*

**Шкарэнда** (шкаренда) *м.* і *ж.* Задзіра; упарты чалавек. *Такей самый шкаренда, як бацька быў.*

**Шмакадзяўка** (шмыкыдзяўка) *ж., неадабр.* Жанчына, якая не заслугоўвае ніякай павагі. *Як жа ты шмыкыдзя́ўкі такой паверіла, ці було ў яе праўды калі хуць на волыс.*

**Шмыгля** *ж., рэдка м.* Бестурботны, непаважаны, марны з выгляду чалавек, які многа, без патрэбы бегае

(звыч. жанчына). *Каб ета шмы́гля бегла, я б дзьверi зычынiла. Чылавек зь яго, — шмыгля.*

**Шмыгыкнуць,** -у, -iш; *зак.* Прамiльгнуць, прашмыгнуць. *Лiтаюць птушычкi, як шмыгы́кнiць каторыя пряма туды, ны хату. Мыльгва, дрыбiза етыя пырысятычкi шмыгыкнуць пы быразёнкых у бульбу, дзень будзiш лазiць i нi пынаходзiш, калi нi пачуiш айдзе.*

**Шпульгаць,** -ю, -iш; *незак.* Шпурляць. *Ну кылi ты хочыш, пыдыйдзi, ачшчыпнi яблыка, нашто табе паленьнiм, ражэньнiм шпульга́ць.*

**Шыпух** *м.* Пупышка. *Вясною нада нускуба́ць шы́пухый, зь бярёзы, яны дужа пальзiцiльны.*

**Шыпушкi** *мн.* Пупышкi. *На верьбi шы́пушкi ужо руспускацца пычынаюць. Столька многа сёлiта шыпушык ны яблыных, ужо розывiнькiя становюцца, каб толька мароз нi цiскануў, нi патпорцiў.*

**Юкнуць,** -у, -iш; *зак.* Прагаварыць, падаць голас. *Аччыталi яго крепка, сядзiць, дайжа ня ю́кнiць.*

# ЗМЕСТ

*ГЕОРГИЙ ФЕДОРОВИЧ ЮРЧЕНКО*

**СЛОВО ЗА СЛОВО**

**Устойчивые словосочетания в говоре Мстиславщины**

На белорусском языке

Рэдактар М. М. Дубоўская
Мастак В. Ф. Грынкевіч
Мастацкі рэдактар Ю. С. Сергачоў
Тэхнічны рэдактар Б. І. Кручонак
Карэктар М. А. Вячорка

ІБ № 243

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. АТ 17051. Здадзена ў набор 01.02.77. Падпісана да друку 25.04.77. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Друк. арк. 8,5. Ум. друк. арк. 14,28. Уч.-выд. арк. 14,3. Тыраж 1000 экз. Выд. № 21. Зак. № 119.
Цана 1 р. 03 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.